Г. М. Валочка, С. А. Язерская

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Вучэбны дапаможнік для 7 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, перапрацаванае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2015

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
В15

А ў т а р ы:

**Г. М. Валочка** («Валоданне літаратурнай мовай — асноўны паказчык культуры чалавека», «Паўтарэнне вывучанага ў V—VI класах», «Дзеепрыметнік», «Дзеепрыслоўе», «Часціца», «Выклічнік», «Пераход слоў з адной часціны мовы ў іншую»);

**С. А. Язерская** («Прыслоўе», «Службовыя часціны мовы», «Прыназоўнік», «Злучнік», «Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага за год»)

Р э ц э н з е н т

кафедра сучаснай беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (дац. кафедры, канд. пед. навук, дац. *С. М. Якуба*)

---

**Умоўныя абазначэнні:**

§ — для назірання;
♦ — тэарэтычны матэрыял;
◊ — для азнаямлення;
! — звярніце ўвагу;
● — дадатковыя пытанні на паўтарэнне;
⊙ — заданні павышанай цяжкасці;
* — лексічнае значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку;
ф — правесці фанетычны разбор слова;
л — выканаць лексічны разбор слова;
с — разабраць слова па саставе;
сл — зрабіць словаўтваральны разбор слова;
м — зрабіць марфалагічны разбор слова;
сн — выканаць сінтаксічны разбор сказа

---

ISBN 978-985-559-430-8

# ВАЛОДАННЕ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВАЙ — АСНОЎНЫ ПАКАЗЧЫК КУЛЬТУРЫ ЧАЛАВЕКА

## § 1. Нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Маўленчы этыкет

**Моўная норма** — гэта агульнапрынятае ўжыванне моўных сродкаў. Нормы бываюць арфаэпічныя, акцэнталагічныя, словаўтваральныя, лексічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя, стылістычныя, арфаграфічныя і пунктуацыйныя.

**1.** Прачытайце. Якія нормы мае беларуская мова і для чаго яны існуюць? Прывядзіце прыклады.

Кожная мова ўнармаваная, гэта значыць яна падпарадкоўваецца агульнапрынятым, замацаваным у маўленчай практыцы правілам вымаўлення, словаўжывання, пабудовы сказаў і тэкстаў.

**Арфаэпічныя нормы** патрабуюць адзінага вымаўлення гукаў і іх спалучэнняў у словах.

**Акцэнталагічныя нормы** рэгулююць месца націску ў словах.

**Словаўтваральныя нормы** замацоўваюць правілы ўтварэння слоў і іх ужывання.

**Граматычныя (марфалагічныя і сінтаксічныя) нормы** замацоўваюць правільнае ўжыванне формы слова і спалучэнняў слоў у словазлучэннях і сказах.

**Лексічныя нормы** патрабуюць ужываць словы ў адпаведнасці з іх значэннямі.

**Стылістычныя нормы** рэгулююць правілы ўжывання моўных сродкаў у адпаведнасці са зместам і мэтай выказвання.

**Арфаграфічныя і пунктуацыйныя нормы** — гэта правілы напісання слоў і пастаноўкі знакаў прыпынку.

Моўныя нормы абавязковыя для ўсіх, хто карыстаецца мовай. Дзякуючы ім людзі могуць разумець адзін аднаго. Каб вас правільна разумелі, трэба ўмець правільна вымаўляць і пісаць словы, выбіраць моўныя сродкі, патрэбныя па сэнсе і стылістычнай афарбоўцы, правільна ўжываць граматычныя формы, ствараць словазлучэнні, сказы, тэксты.

**2.** Прачытайце выразна, захоўваючы арфаэпічныя нормы. Вызначце асноўную думку тэксту. Як аўтар абгрунтоўвае яе?

Каб належным чынам весці гутарку, трэба перш за ўсё ўмець слухаць: «Меней гавары, болей ведаць будзеш. Слухай многа, а гавары мала».

Народ перасцерагае: да мовы трэба ставіцца ўважліва. Перш чым сказаць, трэба добра падумаць, узважыць кожнае слова. Настойліва гучыць папярэджванне: «Выказанага слова да губы не вернеш. Слова не верабей: выпусціш — не зловіш. Са свайго языка спусціш — на чужым не зловіш».

«Запас бяды не чыніць». Гэтая «нямоўная» прыказка справядлівая. Добра, калі чалавек шмат ведае. Толькі ўмей выбраць, што падыходзіць для гутаркі, умей абмежаваць прадмет размовы, каб весці яе ў патрэбным кірунку. Зважай на ўмовы гутаркі, ведай, што сказаць: «Усё знай, ды не ўсё бай. Многа ведай, ды мала гавары. Трэба знаць, што сказаць. У добрую часіну сказаць, а ў ліхую памаўчаць» *(Паводле А. Каўруса).*

● Раскажыце аб правілах вымаўлення галосных і зычных гукаў у беларускай мове. Прывядзіце прыклады з тэксту.

● Назавіце словы, у якіх вымаўленне і напісанне не супадаюць. Выпішыце прыказкі. Абгрунтуйце, што кожная з іх мае самастойны змест і закончаную думку.

**Вымаўляй правільна: [н′а] ве́рнеш, [н′э] верабе́й, [н′а] зло́віш, [н′а] чы́ніць, [н′а] ўсё.**

**Пішы:** ***не вернеш, не верабей, не зловіш, не чыніць, не ўсё.***

**3.** Прачытайце. Выпраўце памылкі ў сказах і запішыце іх у адпаведнасці з лексічнымі, граматычнымі і стылістычнымі нормамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

1. Ён валодаў добрымі адносінамі з калегамі па працы. 2. Гэта кніга вучыць нас добрасумленнасці, бескарыслівасці і паважаць людзей працы. 3. З-за вугла хаты паказалася спачатку цень, а потым выйшаў і сам гаспадар. 4. Вясной, калі разлілася наша рэчка, дарога да вёскі становіцца сапраўдным балотам. 5. Важна разгульвае па мястэчку ўраднік. 6. Мой брат малодшы на пяць гадоў за мяне.

**4.** Прачытайце словы, словазлучэнні, захоўваючы правілы вымаўлення, запішыце ў адпаведнасці з арфаграфічнымі нормамі.

[шшытак], [п′эрайс′ц′і раку па кладаццы], [п′эравошчык], [п′эрап′ішчык], [б′аз′ м′эры], [н′а мох], [на дз′ац′кавых харчах], [каз′ба ў разгары], [нох н′а чуц′ пат сабой], [вучыс′с′а], [гарацк′і транспарт].

Веданне нормаў літаратурнай мовы, уменне правільна гаварыць і пісаць складаюць аснову культуры маўлення, а таксама сведчаць пра агульную культуру чалавека. Але, акрамя моўных нормаў, неабходна валодаць яшчэ і этычнымі нормамі, гэта значыць правіламі маўленчых паводзін. Трэба вучыцца выказвацца спакойна і тактоўна, не абражаючы таго, з кім гаворыш.

**5.** Прачытайце тэкст. Раскажыце аб правілах маўленчых паводзін.

Правілы маўленчых паводзін з’яўляюцца нацыянальна спецыфічнымі, у іх увасоблена псіхалогія і культура народа. Яны адлюстраваны ў сістэме прынятых грамадствам устойлівых формул і выразаў.

Маўленчы этыкет, напрыклад, патрабуе:

1. Уважліва слухайце тых, з кім гаворыце. Не перабівайце. Перш чым пярэчыць, даслухайце выказванне да канца. Калі ў размове вас перабілі, не старайцеся перакрычаць, даслухайце пярэчанне, а потым ужо гаварыце.

2. Пры размове глядзіце на таго, з кім гаворыце. Не хапайце яго за рукі, не круціце гузікі, не ляпайце па плячы. Старайцеся не жэстыкуляваць у час размовы. Не крычыце, не смейцеся занадта доўга ці вельмі моцна.

3. Не зневажайце прысутных. Калі вы хочаце пажартаваць, рабіце гэта так, каб не закрануць самалюбства тых, з кім вы гаворыце. Зусім недарэчныя жарты са знешнасці людзей ці іх іменаў. Чалавек не вінаваты ў тым, што ён занадта тоўсты ці худы, дрэнна бачыць ці дрэнна чуе, ці ў тым, што бацькі далі яму нейкае незвычайнае імя.

4. Захоўвайце спакойны тон размовы, не спяшайцеся, не крычыце. Старайцеся выказвацца тактоўна, не абражаючы таго, з кім гаворыце.

5. Ветлівы і тактоўны чалавек не забудзецца:

- першым сказаць «добры дзень»;
- любую просьбу выказаць са словамі «калі ласка», «будзьце ласкавы»;
- за ўсякую ўвагу ці аказаную паслугу падзякаваць і адказаць тым самым;
- калі сам выпадкова патрывожыць каго-небудзь, то абавязкова скажа «прабачце, калі ласка», «выбачайце».

**6.** Падбярыце словы і выразы, якія спатрэбяцца ў наступных сітуацыях. Звярніце ўвагу на тое, да каго вы звяртаецеся з просьбай, пажаданнем, прывітаннем.

Пры неабходнасці карыстайцеся матэрыялам для даведкі.

1. Якімі словамі вітаюцца пры сустрэчы са знаёмымі раніцай? А ўдзень? Увечары?

2. Якімі ветлівымі словамі выказваюць просьбу выканаць што-небудзь, аказаць якую-небудзь паслугу?

3. Як выказваецца падзяка каму-небудзь за паслугу? Выкарыстайце больш ветлівую форму.

4. Як вы развітваецеся пры адыходзе з дому сяброў?

5. Якія развітальныя пажаданні гаспадара таму, хто адыходзіць, вы ведаеце?

6. Як вы развітваецеся пры адыходзе з дому знаёмых вечарам?

7. Што скажаце знаёмаму, сустрэўшы яго ў буфеце ці сталоўцы за абедам? А дома?
8. Як вы просіце прабачэння?
9. Якімі словамі адказваюць на падзяку?

Д л я  д а в е д к і: *Заставайцеся здаровы! Будзьце здаровы! Хлеб-соль! Хлеб ды соль! Дзякую вам. Добрай ночы! Дабранач. Смачна есці! Вельмі ўдзячны вам! Дзякую вам! Добрай раніцы! Даруйце, калі ласка. Прабачце. Выбачайце. Няма за што! Добры дзень! Добры вечар! Калі ласка. Зрабіце ласку. Будзьце ласкавы.*

**7.** Творчая праца «Хто самы ветлівы?». Складзіце дыялогі з выкарыстаннем слоў і зваротаў маўленчага этыкету.

**8.** Прачытайце выказванні. Раскажыце на іх аснове пра ролю маўленчага этыкету ў жыцці чалавека.

Пацвердзіце сваё выказванне канкрэтнымі прыкладамі.

Маўленчы этыкет адыгрывае найважнейшую ролю ў паспяховай дзейнасці чалавека ў грамадстве, яго асобасным і прафесійным росце, наладжванні моцных сямейных і сяброўскіх адносін.

Маўленчы этыкет цесна звязаны з практыкай зносін, яго элементы прысутнічаюць у кожнай размове. Выкананне правіл маўленчага этыкету дапаможа пісьменна данесці свае думкі да суразмоўцы, хутчэй дасягнуць з ім узаемаразумення.

Чалавека высокай культуры, адукаванага і інтэлігентнага адрознівае ўменне правільна ацаніць сітуацыю, пачаць і падтрымаць размову з незнаёмым чалавекам, правільна выказаць свае думкі.

Вывучэнне нормаў маўленчага этыкету ў сучасным свеце ператвараецца ў практычную мэту, арыентаваную на дасягненне поспеху ў канкрэтным акце камунікацыі: пры неабходнасці звярнуць на сябе ўвагу, прадэманстраваць павагу, выклікаць давер у адрасата, яго сімпатыю, стварыць спрыяльную атмасферу для зносін. Пры гэтым роля нацыянальнага маўленчага этыкету застаецца важнай: веданне асаблівасцей іншай маўленчай культуры з’яўляецца абавязковай прыкметай свабоднага валодання іншай мовай *(Паводле інтэрнэт-рэсурсаў)*.

## § 2. Тэкст, стылі і тыпы маўлення

Тэкст — гэта выказаная ў вуснай або пісьмовай форме сукупнасць сказаў, аб’яднаных у адно цэлае тэмай і асноўнай думкай. Сказы ў тэксце звязаны адзін з адным па сэнсе і з дапамогай моўных сродкаў паслядоўнай або паралельнай сувяззю. У кожным наступным сказе ёсць новыя звесткі, якія развіваюць думку. Кожны тэкст мае пэўныя межы: пачатак і канец. Асноўная структурная адзінка тэксту — абзац.

!

| **Асноўныя прыметы тэксту** | **Характарыстыка прымет тэксту** |
|---|---|
| Тэматычнае адзінства | Наяўнасць тэмы (прадмет маўлення) і асноўнай думкі (тое, што аўтар хацеў сказаць, растлумачыць ці ў чым пераканаць) |
| Звязнасць | 1. Пры паслядоўнай сувязі думка развіваецца паслядоўна ад аднаго сказа да другога. Сродкі сувязі: лексічныя паўторы, сінонімы, злучнікі, асабовыя і ўказальныя займеннікі, прыслоўі.<br>2. Пры паралельнай сувязі ўсе сказы тэксту раскрываюць, дапаўняюць першы сказ. Сродкі сувязі: аднолькавы парадак слоў, аднатыпныя граматычныя формы, займеннікі, злучнікі |
| Паслядоўнасць | У кожным наступным сказе паведамляюцца новыя звесткі, якія дапаўняюць папярэднія |
| Разгорнутасць | Асноўная думка тэксту разгортваецца паступова з дапамогай паслядоўнай і паралельнай сувязі |



| Асноўныя прыметы тэксту | Характарыстыка прымет тэксту |
|---|---|
| Сэнсавая цэласнасць | Усе сказы, часткі тэксту раскрываюць абраную тэму |
| Завершанасць | Асноўная думка тэксту раскрыта ў трох частках: уступе (зачыне), сярэдняй частцы і канцоўцы |

**9.** Прачытайце. Выкарыстаўшы звесткі з табліцы, дакажыце, што перад вамі тэкст.

ПРЫРОДА — НАШ ДОМ

На Каўказе мы часта сустракалі сляды, пакінутыя падарожнікамі на ўлонні прыро́ды. Гэта незлічоныя[с] маладыя дрэўцы, ссечаныя на калкі́ для палатак і рагаткі для вогнішчаў, захламленыя пляцоўкі, горы ржавых бляшанак.

Яшчэ больш прыкра бачыць, калі свядома нявечацца ўнікальныя помнікі прыроды. Квадратныя метры сцен, скал, аўтобусных прыпынкаў усыпаны **безліччу** імён, назваў гарадоў. Яны выглядаюць, як стэнды, дзе дэманструецца **чалавечая** пыхлівасць*.

Я чуў, што ў некаторых кантонах* Швейцарыі каля помнікаў прыроды спецыяльна для аматараў такой формы самасцвярджэння ставяць вялікую пліту. Калі паверхня яе будзе поўнасцю зрэзана і спісана, пліту прыбіраюць і **замяняюць** новай.

Аднак думаецца, што не ініцыялаадводы, а мэтанакіраваная растлумачальная работа павінна дапамагчы **нам** захаваць аб'екты прыроды *(Паводле С. Лукашэвіча)*.

Назавіце складаныя словы, ужытыя ў тэксце, растлумачце спосаб іх утварэння.

Запішыце выдзеленыя словы, вызначце і запішыце іх граматычныя прыметы.

**10.** Размясціце сказы так, каб атрымаўся тэкст. Запішыце яго. Вызначце асноўную думку.

Легенды расказваюць, што яны былі вернымі і надзейнымі абаронцамі цудоўных дам. У далёкія часы жылі на

свеце мужныя, высакародныя мужчыны — рыцары. Памяць пра рыцараў жыве і цяпер. За сваіх дам рыцары ўступалі ў бой, выступалі на спаборніцтвах — рыцарскіх турнірах. Тых, хто сумленны і смелы, хто заўсёды прыйдзе на дапамогу, і сёння называюць рыцарамі *(«Сусвет»)*.

Знайдзіце ў тэксце словы, у якіх колькасць гукаў і літар не супадае. Падкрэсліце іх.

Сказы ў тэксце могуць звязвацца паміж сабой паслядоўным або паралельным спосабам.

Пры **паслядоўнай сувязі** думка ў тэксце развіваецца ад аднаго сказа да другога, кожны новы сказ дапаўняе, раскрывае папярэдні: *Я іду лясной* ***сцяжынай****. Паабапал* ***яе*** *цвітуць* ***верасы****. Месцамі* ***верас*** *расце так густа, што ружовенькія кветачкі нагадваюць суцэльны каляровы дыван.*

Сродкамі сувязі сказаў у тэксце з'яўляюцца: лексічныя паўторы, словы-сінонімы, займеннікі, злучнікі, часціцы, аднатыпныя граматычныя формы (напрыклад, дзеясловы ў адной і той самай форме часу і трывання).

Пры **паралельнай сувязі** ўсе наступныя сказы звязаны з першым, дапаўняюць і разгортваюць яго: *Быў цёплы чэрвеньскі дзень. Вецер калыхаў высокія жоўтыя сосны. А дарожкай, што была ўсыпана баравым пяском і вяла ад заставы да помніка воіну-вызваліцелю, паволі ішла старая жанчына* (М. Плотнікаў).

**11.** Прачытайце. Ахарактарызуйце спосаб і сродкі сувязі сказаў у тэкстах.

I. Пад вечар таго ж дня, ужо на змярканні, стаў пашумліваць вецер. Пасыпаў дробненькі, гусценькі сняжок. Белыя зімовыя хмары нізка навіслі над зямлёю. Вецер крапчэў. І неба, і зямля зліліся ў суцэльным віхры снежнага

пылу і цемрадзі. Разгулялася завіруха. На ўсе галасы гула за вокнамі бязладная музыка. Аголеныя дрэвы гудзелі глуха, надрыўна. Шалёна біліся аб сцены аканіцы, сумотна скуголілі завескі, на якіх яны трымаліся *(Я. Колас)*.

II. Зубраня падрасло, падужэла. Малыш змяніў мышастую поўсць на гладка-бурую, на спіне з'явілася гарбінка, на лбе прарэзаліся рожкі — надзейная і грозная зброя зуброў.

Яно было вельмі вясёлым, жвавым і любіла забаўляцца з Пумам. Стары зубр стаіць, як бурая скала, прыгнуўшы магутную шырокую шыю, а малы ўпіраецца ў яго шырокі лоб сваім вузенькім лобікам. Доўга яны дужаюцца. Калі малы заўзята пачынае наступаць, Пум адыходзіць, нібы паддаецца, і нарэшце кідаецца наўцёкі. Тады зубраня радасна бяжыць за ім, каб дагнаць *(Я. Зазека)*.

Знайдзіце ў тэкстах сказы з аднароднымі членамі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

**12.** Падрыхтуйце паведамленне, абапіраючыся на прыведзеную схему.




**!** Для тэксту кожнага стылю ўласцівы свае прыметы: каму адрасаваны, з якой мэтай, дзе выкарыстоўваецца (сфера ўжывання), характэрныя моўныя сродкі. Па гэтых асноўных прыметах і вызначаецца стыль пэўнага тэксту.

**13.** Прачытайце тэксты. Вызначце іх стыль і абгрунтуйце сваё меркаванне, абапіраючыся на прыметы кожнага стылю.

I. І вось зноў родныя мясціны сустрэлі мяне. Пад ялінамі — застаялы пах папараці. Я крочу сцежкай, на твар

ліпне нябачнае павуцінне. Загуў у хвойках гуллівы ветрык, і дрэвы адгукнуліся шэптам, а мне здаецца, што ў іх кронах уздыхае вялізны асілак-тугадум. Здаецца, што я чую, як расце на палянах трава, адчуваю кожную былінку. На хаду скідаю боты і босы выбягаю на жоўты пясчаны бераг... *(Паводле В. Бялова).*

II. «І НА СТОЛ ЗЬБЯРУ»

Жанчына прадае каштэлі, салодкія смачныя яблыкі, расказвае:

— У нас гэдакіх каштэляў — мы стаўпецкія, недалёка ад Стоўпцаў, — мо тоны дзве будзя. Прыедзяця — я й на стол зьбяру. І яблыкаў танней прадамо: дома ж, цягаць не трэба будзя.

— Як гэта «зьбераце на стол»?

— Ці сваяк, ці так чалавек трапіцца, то трэба сабраць на стол: каб чыста заслаць, каб наставіць на стол чаго толькі ёсць. І каб на здароўячка *(Ф. Янкоўскі).*

III. ВЫТРЫМКІ З ПРАВІЛАЎ БІБЛІЯТЭКІ

1. Білет абавязкова паказваць кожны раз пры ўваходзе ў бібліятэку і чытальную залу.
2. Перадача білета іншым асобам забараняецца.
3. Выносіць кнігі з чытальні ў іншыя пакоі забараняецца.
4. Чытачы бібліятэкі нясуць матэрыяльную адказнасць за атрыманыя кнігі.

IV. Аглушэнне звонкіх зычных на канцы слоў і перад глухімі, азванчэнне глухіх перад звонкімі, прыпадабненне шыпячых да свісцячых і свісцячых да шыпячых на пісьме не перадаецца. Для праверкі напісання зычнай трэба падабраць роднаснае слова або змяніць слова так, каб пасля зычнага стаў галосны: *про**с**ьба — прасіць, ка**з**ка — казаць, гры**б** — грыбы, у лы**ж**цы — лыжачка («Практыкум па беларускай мове»).*

**14.** Разгледзьце схемы. Якім тыпам маўлення яны адпавядаюць? Дапоўніўшы схемы, раскажыце пра гэтыя тыпы.




**15.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Выдзеліце часткі, якія адпавядаюць яго тыповай схеме, запішыце гэту схему.

ЗЯЗЮЛЬЧЫНЫ СЛЁЗЫ

Жыла ў лесе Зязюлька. Яна была лянівая і бесклапотная. Цэлымі днямі лятала па лесе і ела калматых вусеняў. А іншы раз прыляціць да ляснога ручая, сядзе на галінку і глядзіцца ў ваду, як у люстэрка. Сабою любуецца. І нават яйка яна падкінула ў чужое гняздо. Таму што сваё ленавалася звіць.

Прайшло шмат часу. Састарылася Зязюлька. Цяжка ёй стала адной на вусеняў паляваць. І паляцела яна да чужога гнязда, у якое некалі яйка падкінула. А ў тым гняздзе Малінаўка сядзела. Зязюлька ў яе пытае:

— Ці не ведаеш ты, дзе маё птушанятка? Я ўжо састарылася, і цяпер мне стала цяжка адной вусеняў паляваць.

І расказала ёй Малінаўка, як яна выгадавала яе птушаня. А калі яно стала дарослым, паляцела ад яе назаўсёды. А куды — ніхто не ведае.

Паляцела Зязюлька шукаць сваё птушаня і да гэтай пары шукае.

— Ку-ку! Ку-ку! — гукае яна і плача. І слёзы яе капаюць на зямлю. А на тым месцы, дзе яны капаюць, вырастае траўка. І называюць гэтую траўку — зязюльчыны слёзы *(Паводле А. Кобец-Філімонавай)*.

**16.** Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце ў ім сродкі сувязі сказаў.

ЛАСТАЎКІ І ВЕРАБЕЙ

Ластаўкі гэтай вясной крыху затрымаліся ў даро..е, і таму ім не было калі а..пачываць. Адразу ж яны пачалі рамантаваць сваё старое гняздо. Насілі ў дзю..ках камячкі мокрай зямлі, саломінкі і валасінкі[с], высцілалі пер’ем гн..здзечка.

Аднойчы раніцою ластаўкі неяк трывожна зашчабяталі над страхой, пад якой было іхняе гняздо. Аказваецца, жытло ластавак заняў верабей. Не пакінуў чужой хаціны ш..ры хітрун і на другі, і на трэ..і дзень. І тады ластаўкі вырашылі а..помсціць нахабніку — «замуравалі» яго ў гн..здзе...

Верабейку таго я ўратаваў. Але гэта, напэўна, будзе для яго на..укай на ўсё жы..ё *(Я. Галубовіч)*.

## § 3. Назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў як часціны мовы, іх граматычныя прыметы

### Успомнім

1. Што вывучае марфалогія?
2. Назавіце часціны мовы, якія вывучаліся ў V, VI класах.
3. Па якіх тыповых прыметах вызначаюць часціну мовы?

**17.** Прачытайце табліцу. Падрыхтуйце паведамленні аб вывучаных часцінах мовы, дапоўніўшы сваё выказванне прыкладамі.

| Часціна мовы | Агульнае значэнне | Марфалагічныя прыметы | Сінтаксічная роля |
|---|---|---|---|
| Назоўнік | Абазначае прадмет | П. ф.: *Н. скл., адз. л.* Нязм. прыметы: *уласны* ці *агульны, адуш.* ці *неадуш., канкр.* ці | (недапасаванае) |

| Часціна мовы | Агульнае значэнне | Марфалагічныя прыметы | Сінтаксічная роля |
|---|---|---|---|
| | | *абстр., рэчыўны, зборны; род, скланенне.*<br>Зм. прыметы: *лік, склон* | — — — — —<br>— · — · — · —<br>Зваротак |
| Прыметнік | Абазначае прымету прадмета | П. ф.: *Н. скл., адз. л., м. р.*<br>Нязм. прыметы: *якасны, адносны* ці *прыналежны*.<br>Зм. прыметы: *выш.* ці *найвыш. ступень, поўны* ці *кароткі (у якасных), род (у адз. л.), лік, склон* | ～～～～～<br>═════<br>(іменная частка выказніка, кароткія прыметнікі) |
| Лічэбнік | Абазначае колькасць ці парадак прадметаў пры іх лічэнні | П. ф.: *Н. скл.*<br>Нязм. прыметы: *колькасны* ці *парадкавы; просты, складаны* ці *састаўны*.<br>Зм. прыметы: *род (калі ёсць), лік (калі ёсць), склон* | Колькасныя — любы член сказа.<br>Парадкавыя —<br>～～～～～<br>═════ |
| Займеннік | Указвае на прадмет, прымету ці колькасць, але не называе іх | П. ф.: *Н. скл., адз. л.*<br>Нязм. прыметы: *разрад паводле значэння, асоба (у асабовых)*.<br>Зм. прыметы: *род (калі ёсць), лік (калі ёсць), склон* | ─────<br>═════<br>～～～～～<br>— — — — —<br>радзей —<br>— · — · — · — |
| Дзеяслоў | Абазначае дзеянне ці стан прадмета | П. ф.: *неазн. форма (інфінітыў)*.<br>Нязм. прыметы: *зв.* ці *незв., зак.* ці *незак. трыванне; перах.* ці *неперах., спражэнне.*<br>Зм. прыметы: *лад, час (калі ёсць), асоба (калі ёсць), род (калі ёсць), лік* | Неазначальная форма дзеяслова — любы член сказа.<br>Асабовыя формы —<br>═════<br>～～～～～<br>— · — · — · — |

**18.** Прачытайце верш, вызначце яго асноўную думку.

Запішыце выдзеленыя словы ў пачатковай форме і скажыце, якімі часцінамі мовы яны з'яўляюцца.

ДОЖДЖ ІДЗЕ

Дождж **ідзе** праменісты і дробны,
Пахнуць **мятай** мокрыя лугі.
Вось ён, свет, як сэрца, непадробны,
Да дажджынкі кожнай не глухі.

Росная зялёная Айчына!
На **цябе, паўнюткую** святла,
Пазіраюць круглымі вачыма
Птушаняты з **цёплага** дупла.

З гнёздаў мы даўно павылятали,
Ды не **развучыліся** глядзець,
Як па спелым **полі**, па атаве
Дождж грыбны на дыбачках ідзе.

Самы раз цяпер з лазовым кошыкам
Па сцяжынках рысяў і ваўкоў
**Выправіцца** з раніцы на **пошукі**
Маладых, тугіх баравікоў...

Я **стаю**, гады свае гартаю,
І сціскае сэрца нейкі боль,
Быццам я на Месяц адлятаю,
Быццам я лугоў не ўбачу больш.

Не, не развітаюся ніколі
З родным **краем**, дзе так светла **нам.**
Проста я люблю яго да болю
І з любоўю дзецям **перадам.**

*П. Панчанка.*

**19.** Запішыце назоўнікі ў адзін слупок, прыметнікі — у другі, лічэбнікі — у трэці.

Зеляніна, сямёрка, сёмы, касьба, зялёны, сінька, бег, пяцёрка, пяць, сіні, світальны, гарачы, хуткі, гарачыня, дзесяць, хуткасць, двое, двойка, пяцёра.

**20.** Запішыце словазлучэнні, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс назоўнікаў.

Дасягненні *(навука)*, стаяць на адной *(нага)*, атрымаць па адной *(зорачка)*, гасцяваць у *(цётка)*, цвісці на *(луг)*, ляжаць на *(сонейка)*, іграць на *(дудачка)*, трымаць у *(рука)*, узяць у *(рука)*, дзякуючы *(навука)*, стаяць на *(снег)*.

**21.** Спішыце, дапісваючыканчаткі ў словах. Вызначце, якой часцінай мовы з'яўляюцца выдзеленыя словы і зрабіце іх марфалагічны разбор.

Яшчэ і цяпер у мног.. сялянск.. хатах жыве даўняя завядзёнка: фотакарткі бацьк.. і дзяд.. трымаюць пад **шклом** у рамках на сцян.. . Продкі нашы нібы не пайшлі ад нас, не памерлі, быццам сочаць за галоўным: як мы? Ці **апраўдалі** надзеі, спадзяванні **іхнія**? У тых позірк.. яшчэ і нейкая магічн.. сіла. Іншы падшыванец мо і хацеў бы калі зрабіць якую псоту*, але з фотакартак глядз.. на яго строг.. і адначасна добр.. вочы дзядулі, бабулі. Ён бачыць гэтыя вочы і ў сне, а стаўшы, як кажуць, на ногі, нават далёка ад **роднай** хат.. будзе захоўваць у душ.. сваёй усведамленне: ён ідз.. па зямл.. не адзін, побач — ягоныя блізкія... *(Я. Пархута)*.

Утварыце ўсе магчымыя формы ступеней параўнання ад прыметнікаў *добры, родны*.

**22.** Прачытайце. Дакажыце, што гэты тэкст належыць да навуковага стылю.

НАСЕЛЬНІКІ ВАДАЁМАЎ

Вадаёмы насяляе мноства відаў жывых арганізмаў. Рыбы, лічынкі некаторых насякомых (шыціка), малюскі (бяззубкі, смаўжы) жывуць у вадзе. Дыхаюць водныя жывёлы пры дапамозе[м] жабраў растворaным у вадзе кіслародам. Насякомыя, малюскі і водарасці з'яўляюцца ежай для рыб, ракаў. Птушкі, што жывуць на балотах, жывяцца рыбамі, жабамі, насякомымі, водарасцямі. Буслы, качкі, кулікі прыстасаваны да жыцця ў водным асяроддзі. Вадаплаўныя птушкі маюць перапонкі паміж пальцамі ног. Іх пер'е[ф] не

намакае ў вадзе, таму што змазана тлушчам. Яны добра ныраюць і могуць здабываць сабе корм у вадзе *(«Сусвет»)*.

Абгрунтуйце мэтазгоднасць ужывання ў тэксце назоўнікаў (у тым ліку ў форме множнага ліку), а таксама дзеясловаў у форме 3-й асобы множнага ліку цяперашняга часу.

● Запішыце назвы вадаплаўных птушак, якіх вы ведаеце.

**23.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта тэкст. Выпішыце з тэксту выдзеленыя словы, запішыце іх граматычныя формы роду, ліку, склону.

Існуе легенда пра тое, што калісьці паміж **Марсам** і Юпітэрам **знаходзілася** цудоўная планета Фаэтон. На ёй жылі людзі. Яны валодалі шматлікімі **таямніцамі** прыроды, ператварылі **сваю** планету ў квітнеючы сад. Але яны таксама стварылі і зброю вялікай **разбуральнай** сілы. **Запасы** гэтай зброі захоўваліся глыбока ў нетрах планеты. Аднойчы адбыўся выбух, і планета Фаэтон разарвалася на кавалкі. Так утварыўся пояс астэроідаў*.

Спрэчкі пра **тое**, ці была планета на месцы **астэроідаў**[л], не спыніліся да **гэтага** часу. Аднак большасць вучоных **лічыць**, што планеты там ніколі не было. Магутнае гравітацыйнае поле Юпітэра не дазволіла б астэроідам сабрацца ў планету *(«Сусвет»)*.

Знайдзіце ў тэксце складаныя сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

**24.** Прачытайце прыказкі і вызначце іх тэматыку. Растлумачце напісанне галосных у асабовых канчатках дзеясловаў.

1. Адзін і пры месяцы роб..ць, а другі і пры сонцы сп..ць. 2. Глыбей узар..ш, болей збяр..ш. 3. Калі старанна кос..ць, то сена зімою не прос..ць. 4. Не святыя гаршкі леп..ць. 5. Работа і корм..ць, і по..ць, і жыць вуч..ць. 6. Хоць ціха ходз..ць, але шчыра роб..ць. 7. Зямлю не ўгно..ш — хлеба не намалоц..ш.

Утварыце і запішыце ад кожнага з дзеясловаў форму 1-й асобы адзіночнага ліку. Абазначце карані (з улікам чаргавання зычных ці галосных).

**25.** Спішыце, выбіраючы з дужак дзеясловы патрэбнага трывання. Вызначце іх ролю ў тэксце. Пастаўце неабходныя знакі прыпынку, абгрунтуйце іх пастаноўку.

Алімпійскія гульні *(адбываліся, адбыліся)* з 776 г. да н. э. у горадзе Алімпіі што ў Старажытнай Грэцыі, у дні свята ў гонар бога Зеўса праз чатыры гады.

У час Алімпійскіх гульняў усім грэчаскім дзяржавам *(забаранілі, забаранялася)* ваяваць. Да ўдзелу ў гульнях *(не дапускаліся, не дапусціліся)* рабы чужаземцы і жанчыны. Пераможцу *(узнагародзілі, узнагароджвалі)* вянком з галінак свяшчэннага аліўкавага дрэва *(наладзілі, наладжвалі)* на радзіме ўрачыстую сустрэчу і *(уславілі, услаўлялі)* як нацыянальнага героя *(БелСЭ)*.

**26.** Спішыце тэкст, замяніце лікі словамі.

У чэрвені ў зуброў Белавежскай пушчы павялічваецца сям'я. Маса нованароджаных бывае ад 18 да 26 кілаграмаў. Першыя 2—3 дні яны кормяцца толькі малаком маці, потым у «меню» ўваходзяць трава і маладыя лісточкі дрэў і хмызнякоў. **Зубры — вегетарыянцы***. У іх рацыён[л] у цёплую пару года ўваходзяць трава, лісце, маладыя парасткі дрэў і кустоў, якіх зубр за суткі з'ядае да 30—45 кілаграмаў *(А. Курскоў)*.

Праскланяйце (вусна) лічэбнік *сорак пяць (кілаграмаў)*.
Растлумачце пастаноўку працяжніка ў выдзеленым сказе.

**27.** Прачытайце тэкст. Выпішыце займеннікі, вызначце іх пачатковую форму (там, дзе гэта трэба), разрад.

У з о р: *табе — ты, асабовы; я — асабовы.*

Паклон табе, мой беларускі краю!
Ты — мой, я — твой: ад роду і навек.
Я зноў і зноў да сэрца прыкладаю
Твой ліст дубовы — як чароўны лек.

За хлеб, што ем, за песні, што спяваю,
За шчасце звацца іменем тваім —

Паклон, паклон табе, мой родны краю!
Ты — мой, я — твой: усюды і ва ўсім!
*Н. Гілевіч.*

**28.** Прачытайце тэкст, ужываючы займеннікі, што ў дужках, у патрэбнай склонавай форме.

Купала гаварыў мала і не любіў без патрэбы гаварыць. Тыя, хто Купалу ведаў, да *(ён)* з просьбамі выступіць не звярталіся. І ён быў на сходах звычайна пачэсным госцем.

Але калі Купала не ўмеў гаварыць, дык затое ўмеў слухаць. А да гэтага трэба таксама мець талент. *(Такі)* уважлівага і адданага слухача, як Купала, я не сустракаў. Хацелася адкрыць *(ён) (уся)* душу, усе патаемныя думкі. *(Ён)* твар сведчыў, што твая таямніца будзе *(ён)* захаваная надзейней, чым у *(ты)* самога *(М. Шчаглоў)*.

Выпішыце з тэксту 5 слоў, у якіх гукаў больш, чым літар.

**29.** Запішыце тэкст, уставіўшы з матэрыялу для даведкі прапушчаныя займеннікі. Растлумачце, якім спосабам звязаны сказы ў тэксце. Якую ролю пры гэтым выконваюць займеннікі?

ПРЫПЯЦЬ

Спакойна і павольна, як у зачараваным сне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру ... багатую даніну. Не спяшаецца ... выносіць дабро палескіх балот. А ... так многа, што ўсё роўна, спяшайся не спяшайся, а ... работы ... хопіць на доўгія гады. Можа, і надзею страціла ... вынесці хоць калі-небудзь ... мора цёмна-ружовай вады з неабсяжных балот Палесся, і з ... прычыны ... такая павольная і спакойная *(Паводле Я. Коласа)*.

Д л я  д а в е д к і: *яна, гэтае, гэтай, ёй, сваю, яго.*

⊙ **30.** Прачытайце выказванне Юрася Свіркі: *У нас сваіх хапае слоў, / Крамяных, росных, васільковых, / Ад мурагоў і ад лясоў, / Ад светлых высяў жаўруковых.* Выкарыстоўваючы канкрэтныя моўныя факты (словы розных часцін мовы), дакажыце яго правільнасць.

## § 4. Будова слова. Словаўтварэнне вывучаных часцін мовы

### Успомнім

1. Якія значымыя часткі могуць быць выдзелены ў слове, аснове?

2. Як вызначыць у слове канчатак? Якую ролю ён выконвае?

3. Чым прыстаўка і суфікс падобныя паміж сабой і чым яны адрозніваюцца?

4. Якая аснова называецца вытворнай, а якая невытворнай?

5. Што такое нулявы канчатак? Прывядзіце прыклады.

6. Раскажыце пра словаўтваральны ланцужок.

7. Як называюцца спосабы ўтварэння слоў, калі гэтыя словы ўтвораны з дапамогай: 1) суфікса; 2) прыстаўкі; 3) прыстаўкі і суфікса?

8. Якія словы называюцца складанымі? Назавіце спосабы ўтварэння складаных слоў і прывядзіце прыклады.

9. Якія словы называюцца складанаскарочанымі? Прывядзіце прыклады.

**!**

**Пры змяненні слова (напрыклад, скланенні назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў ці спражэнні дзеясловаў) утвараюцца формы аднаго і таго слова: *стол, стала, сталом; іду, ідзеш, ідзяце* і г. д. Яны маюць адно і тое лексічнае значэнне, змяняецца толькі іх граматычнае значэнне (склон або асоба і лік).**

**Пры словаўтварэнні ўзнікаюць словы з розным лексічным значэннем: *стол — сталовая, настольнік; ісці — прыйсці, адысці, перайсці* і г. д.**

**31.** Прачытайце. Вызначце асноўную думку тэксту.

Шчырасць! У Беларусі гэта слова ў асаблівай пашане. Шчырымі называюць добрых і працавітых людзей. Шчыры — значыць і высакародны[сл], без хлусні і падману, увесь без астатку. Шчыры — хто не здрадзіць сябру, заўжды адгукнецца на чужы боль, хто шануе матчына слова, бацько-

коўскія запаветы. Кажуць яшчэ: шчыраваць. Гэта значыць — старацца *(«Звязда»)*.

Як вы разумееце сэнс слоў *высакародны, запавет, шанаваць*?

Выпішыце аднакаранёвыя словы, вызначце, да якіх часцін мовы яны адносяцца і якім спосабам утвораны. Знайдзіце ў тэксце формы аднаго і таго слова.

**32.** Прачытайце тэкст. Паразважайце, чаму ў народзе гавораць, што вясну да нас прыносяць птушкі.

Знайдзіце ў тэксце і выпішыце аднакаранёвыя словы, зрабіце іх марфемны разбор. Растлумачце значэнні марфем.

Вось людзі гавораць, што вясну да нас прыносяць ластаўкі.[сн] Пэўна, так яно і ёсць у мясцінах, дзе не ведаюць антонаў. На Палессе ж, у палескую[с] вёску, нясе вясну на сваіх магутных крылах бусел. Прыляцеў ён у родную вёску ды сеў адразу ў буслянку[с] на высачэзнай вясковай грушы, што расце за гумном, — гэта яшчэ не вясна. Марна чакаць пакуль цяпла і сонца — яшчэ і мяцеліца завіхурыцца[сл], і марозік прыцісне: антон лепш за чалавека ведае пра надвор'е *(В. Казько)*.

Знайдзіце ў тэксце сінонім да слова *бусел*. Назавіце і запішыце іншыя сінонімы да гэтага слова.

**33.** Прачытайце. Абгрунтуйце падзел тэксту на чатыры абзацы. Вызначце спосаб утварэння выдзеленых слоў.

Кастусь Каліноўскі — беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат і мысліцель, кіраўнік паўстання 1863—1864 гадоў на Беларусі і ў Літве. Разам з В. Урублеўскім і Ф. Ражанскім **выдаваў** нелегальную беларускую рэвалюцыйна-дэмакратычную газету «Мужыцкая праўда». **Выйшла** сем нумароў, аўтарам і рэдактарам[*] большасці з іх быў Каліноўскі. «**Мужыцкая** праўда» ўпершыню на **беларускай** мове несла рэвалюцыйна-дэмакратычныя ідэі ў **асяроддзе** сялянства, заклікала[с] яго да паўстання.

Царызм задушыў паўстанне. Каліноўскі быў арыштаваны... і загінуў на царскай[с] шыбеніцы ў Вільні.

Каліноўскі — палымяны абаронца свабоды, адукацыі і народнага **самакіравання**. Радаваўся росту **самасвядомасці** народа, таму, што людзі з сялян самі могуць пісаць і вучыць народ праўдзе і свабодзе. Шкадаваў, што ў школах не даюць асноўных ведаў навукі, не вучаць дзяцей на роднай мове.

Каліноўскі быў і застаўся барацьбітом за справу працоўных *(БелСЭ)*.

**34.** Прачытайце тэкст, каратка перакажыце яго змест. Выканайце разбор выдзеленых слоў па саставе.

Доўгі час лічылася, што Марс у сваім развіцці **прайшоў** той самы шлях, што і Зямля, але з-за меншых памераў і большай адлегласці ад Сонца **астываў** хутчэй, таму ён уяўляе сабой мадэль Зямлі ў будучым.

Аднак **неаднаразовыя** палёты **касмічных** лабараторый паказалі, што Марс не падобны ні да Месяца, ні да Зямлі, ні да Венеры, хоць і мае з імі некаторыя агульныя рысы.

Інфармацыя, атрыманая з дапамогай касмічных апаратаў, ужо дастаткова поўна **раскрыла** прыроду Марса. Больш складана адшукаць сляды жыцця на планеце. Хоць і ясна, што слядоў цывілізацыі[л] і расліннасці на Марсе цяпер ці ў мінулым выключыць нельга. Калі жыццё існуе цяпер, то, хутчэй за ўсё, яно сканцэнтравана ў асобных раёнах з найбольш спрыяльнымі ўмовамі і, магчыма, нават пад **паверхневым** слоем *(Паводле У. Аўдуеўскага)*.

Растлумачце, чаму словы *Зямля, Сонца, Месяц* напісаны з вялікай літары. Складзіце і запішыце сказы, каб гэтыя словы пісаліся з малой літары.

**35.** Запішыце некалькі слоў: а) з суфіксамі ***-ыст-, -чык-*** са значэннем асобы; б) з суфіксам ***-нік-*** са значэннем сукупнасці прадметаў.

Складзіце і запішыце з гэтымі словамі сказы.

**36.** Запішыце словы, каб у іх былі наступныя значымыя часткі: ***ад-, пад-, -кос- (-кас-), -ок-***.

# МАРФАЛОГІЯ І АРФАГРАФІЯ

## ДЗЕЕПРЫМЕТНІК

### § 5. Дзеепрыметнік як асобая форма дзеяслова

**37.** Прачытайце. Вызначце, як утвораны словы ў правым слупку. Параўнайце лексічнае значэнне слоў правага і левага слупкоў, пастаўце да іх пытанні.

падрыхтава-ць — падрыхтаваны
зразуме-ць — зразумелы
зрабі-ць — зроблены
зжа-ць — зжаты
пажаўце-ць — пажаўцелы

Што агульнага ў словах другога слупка з дзеясловамі? Што яны маюць агульнага з прыметнікамі?

**Дзеепрыметнік** — форма дзеяслова, якая абазначае прымету прадмета паводле дзеяння і адказвае на пытанні я к і? я к а я? я к о е? я к і я?

Дзеепрыметнікі, як і дзеясловы, маюць трыванне (закончанае і незакончанае), час (часцей прошлы), стан (залежны і незалежны): ***пажаўцелае*** *лісце* — дзеепрыметнік закончанага трывання прошлага часу незалежнага стану; ***нечапаныя*** *рэчы* — дзеепрыметнік незакончанага трывання прошлага часу залежнага стану. Як і прыметнікі, яны змяняюцца па родах, ліках і склонах: *пабу-*

*даван**ы** дом, пабудаван**ае** жыллё, пабудаван**ыя** гарады; пабудаван**аму** дому, пабудаван**ымі** дамамі* і г. д.

У сказе дзеепрыметнік выконвае ролю азначэння або выказніка: 1. *Цудоўны бор — сасна ў сасну — абступіў невялікую* ***абжытую*** *паляну* (І. Шамякін). 2. *Поле снегам сыпучым* ***пакрыта*** (К. Буйло).

**38.** Выпішыце дзеепрыметнікі з прапанаваных слоў. Абгрунтуйце свой выбар.

Круглы, акружаны; пазелянець, пазелянелы; чырвань, пачырванелы; расквеціць, расквечаны; шырыня, пашыраны; жаўтаваты, зжаўцелы; пісьмо, напісаны; выраб, выраблены; прывозіць, прывезены; пасівець, пасівелы; погляд, глядзець, разгледжаны; зачараванне, зачараваны, зачараваць; пачарнелы, чорны, пачарнець; закінуты, закінутасць.

**39.** Прачытайце тэкст. Вызначце, якія з выдзеленых азначэнняў паказваюць на сталую прымету прадмета (г. зн. з'яўляюцца прыметнікамі), а якія характарызуюць прадмет праз дзеянне, што адбылося з ім (г. зн. з'яўляюцца дзеепрыметнікамі). Запішыце ў адзін слупок прыметнікі, у другі — дзеепрыметнікі.

Узор разважання. *Шырокія (гасцінцы).* Слова *шырокія* абазначае сталую прымету прадмета, характарызуе яго па велічыні; значыць, гэта прыметнік. *Дагледжаныя (гасцінцы).* Слова *дагледжаныя* абазначае прымету прадмета паводле дзеяння, яго можна замяніць дзеясловам (*дагледжаныя* — 'такія (гасцінцы), якія дагледзелі'); значыць, гэта дзеепрыметнік.

1. Успомніліся **шырокія, роўныя, дагледжаныя** і **абсаджаныя** гасцінцы, што бягуць па беларускай зямлі. Па іх добра ездзіцца. Куды ні прыеду — добра гасцюецца. 2. Вось і ён, сад, **бачаны** ўжо і навек **запомнены. Прыгожы, казачны**, хоць і **парадзелы:** не хапае ў ім яблынь, груш, вішань... Сад не такі, які ён быў некалі *(Ф. Янкоўскі).*

Якую часціну мовы паясняюць прыметнікі, дзеепрыметнікі?

**40.** Прачытайце. Вызначце сродкі сувязі сказаў у тэксце.

Выпішыце з тэксту дзеепрыметнікі, назавіце дзеясловы, ад якіх яны ўтвораны. Вызначце трыванне і час дзеепрыметнікаў.

У з о р   р а з в а ж а н н я. *Прачытаныя (кнігі)* — ‘кнігі, якія прачыталі’ (прошлы час), дзеепрыметнік утвораны ад дзеяслова *прачытаць* (ш т о   з р а б і ц ь?); значыць, *прачытаныя* — дзеепрыметнік закончанага трывання, прошлага часу.

У з о р   з а п і с у: *прачытаныя — дзеепрыметнік зак. трыв., пр. ч.*

Вечар. Цішыня. Кнігі за шклом на паліцах. Што пачытаць?

Адны даўно прачытаныя, другія — нават нечапаныя. Дзіва: і чытаць іх не хочацца. Спрабую каторы раз — не ідуць яны. Нікуды цябе не завуць.

І тады зноў бярэшся за тыя самыя, па многа разоў чытаныя, перачытаныя, кожны раз кратаныя, варочаныя, — і зноў чуеш у іх нешта вечна патрэбнае тваёй душы.

Мабыць, таму, што пісаліся яны даверліва, як споведзь перад табою. Як жа мала трэба мець вялікаму пісьменніку, каб да яго ўсе гарнуліся, — толькі самога сябе. І як многа — каб у ім кожны бачыў таксама самога сябе *(Я. Скрыган)*.

● Назавіце шэсць слоў з тэксту, якія ўжыты ў пачатковай форме.

Выкажыце сваю думку пра кнігі, якія вы чытаеце і перачытваеце.

Па сваіх выяўленчых асаблівасцях дзеепрыметнікі вельмі блізкія да прыметнікаў і ўжываюцца ў розных стылях маўлення для характарыстыкі асоб, прадметаў, з’яў. Таму дзеепрыметнікі і дзеепрыметнікавыя словазлучэнні часта спалучаюцца з прыметнікамі ў якасці аднародных членаў сказа з мэтай больш поўнага і яркага апісання *(Паводле М. Цікоцкага)*.

**41.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту і ролю дзеепрыметнікаў у ім.

Выпішыце сказы з дзеепрыметнікамі, запішыце ў дужках пасля дзеепрыметнікаў іх род, лік і склон. Назавіце дзеясловы, ад якіх утвораны дзеепрыметнікі.

### РОДНЫ КРАЙ

У кожнага чалавека абавязкова ёсць свой гожы, ласкавы і шчымліва-непаўторны край. Такі край — заўсёды твой цэлы свет.

Ёсць такі край і ў мяне.

Там намнога даўжэй спеюць прывязаныя да пруткоў, абвіслыя на рагулькі зеленкаватыя памідоры. Ляжаць у агародах аж да самых замаразкаў перавернутыя белымі, незагарэлымі бакамі да сцішанага, пахаладалага ўжо восеньскага сонца круглабокія гарбузы. Там аж згінаюць да зямлі зялёнае пер’е атавы буйныя і чыстыя жнівеньскія[м] росы. У іх ужо добра даспяваюць сагрэтыя белымі туманамі рупліва пасланыя льны — гонар і слава маіх землякоў...

Гэты край — узгоркавая, азёрная, ільняная Віцебшчына *(Паводле Я. Сіпакова)*.

**42.** Падрыхтуйце паведамленне пра дзеепрыметнік як форму дзеяслова. Састаўце складаны план выказвання. Якому стылю і тыпу адпавядае ваша выказванне?

**43.** У адно з аддзяленняў міліцыі вялікага горада прыбег хлопчык гадоў трынаццаці. У яго згубіўся малодшы брат. Дзяжурны міліцыянер папрасіў апісаць брата. Вось што расказаў хлопчык:

«Мой брат маленькі. У яго светлыя кароткія валасы, гарэзлівыя вочы. Апрануты ў шорты і новую кашулю. Ён есць марожанае».

Як вы думаеце, ці задаволіла міліцыянера такое апісанне? Калі не, то чаму? Падумайце, якія звесткі з тых, што паведаміў хлопчык, павінны ўвайсці ў апісанне, а якія трэба дапоўніць.

Уявіце сітуацыю і дапамажыце хлопчыку апісаць брата. Выкарыстайце неабходную вам лексіку з наступнага практыкавання.

З якой мэтай і калі выкарыстоўваецца дзелавое апісанне знешнасці чалавека? Якім павінна быць такое апісанне?

**44.** Прачытайце партрэтную лексіку, з дапамогай якой апісваюцца галава чалавека, розныя яе часткі. Абгрунтуйце, што гэта лексіка афіцыйнага стылю. Выпішыце дзеепрыметнікі.

Т в а р: круглы, авальны, трохвугольны, квадратны, трапецападобны.

Б р о в ы: кароткія, вузкія, доўгія, шырокія, прамыя, гарызантальныя, дугападобныя, скошаныя наверх, ломаныя, скошаныя ў сярэдзіну, нізкія, рассунутыя, высокія, ссунутыя, асіметрычныя.

Н о с: вузкі, тонкі, высокі, прамы, шырокі, нізкі, тоўсты, скрыўлены, на канцы закруглены, тупы, востры, круглы.

В о ч ы: круглыя, авальныя, вузкія, чорныя, зялёныя, карыя.

Г у б ы (в у с н ы): тонкія, уцягнутыя (падціснутыя), тоўстыя, выпуклыя.

Р о т: малы, куткі гарызантальныя; вялікі, куткі прыпаднятыя; шырокі, куткі апушчаныя.

П а д б а р о д а к: нізкі, шырокі, квадратны, выпуклы, высокі, закруглены, скошаны, авальны, вузкі.

**45.** Размяркуйце выдзеленыя словы: у адзін слупок выпішыце прыметнікі, у другі — дзеепрыметнікі. Абгрунтуйце свой выбар.

Ні адно дрэва не шуміць так трывожна і глуха, як елка. Асабліва тады, калі задзьме раптам пасля лютых маразоў **адліжны паўднёвы** вецер і пухкі лёгкі снег на **яловых** лапах стане **цяжкі** і **пластаваты. Злосная, раз’ятраная*** яліна пачне тады з усяе сілы махаць **шырокімі абцяжаранымі** лапамі, спрабуючы яго скінуць, адкінуць ад сябе, і ўрэшце скіне, абтрасе і як быццам памаладзее. І заблішчыць ад вільгаці на ствале яе **засохлая, скамянелая** за зіму жывіца*, і загудзе абуджана магутны камель. І будзе трывожна і глуха шумець яна праз усю ноч, а на золку супакоіцца, заціхне, палагаднее і сустрэне першую адлігу пасля зацяжных, **доўгіх** маразоў *(Х. Лялько)*.

Выпішыце шэсць слоў з тэксту, у якіх вымаўленне і напісанне не супадаюць.

## § 6. Скланенне дзеепрыметнікаў

**46.** Прачытайце, параўнайце канчаткі прыметнікаў і дзеепрыметнікаў, зрабіце вывад.

| Склон | Мужчынскі род | Жаночы род | Ніякі род |
|---|---|---|---|
| Н. | *напісан-**ы***<br>*нов-**ы** верш* | *напісан-**ая***<br>*нов-**ая** кніга* | *напісан-**ае***<br>*нов-**ае** слова* |
| Р. | *напісан-**ага***<br>*нов-**ага** верша* | *напісан-**ай***<br>*нов-**ай** кнігі* | *напісан-**ага***<br>*нов-**ага** слова* |
| Д. | *напісан-**аму***<br>*нов-**аму** вершу* | *напісан-**ай***<br>*нов-**ай** кнізе* | *напісан-**аму***<br>*нов-**аму** слову* |
| В. | *напісан-**ы***<br>*нов-**ы** верш* | *напісан-**ую***<br>*нов-**ую** кнігу* | *напісан-**ае***<br>*нов-**ае** слова* |
| Т. | *напісан-**ым***<br>*нов-**ым** вершам* | *напісан-**ай***<br>*нов-**ай** кнігай* | *напісан-**ым***<br>*нов-**ым** словам* |
| М. | *(у) напісан-**ым***<br>*нов-**ым** вершы* | *(у) напісан-**ай***<br>*нов-**ай** кнізе* | *(у) напісан-**ым***<br>*нов-**ым** слове* |

**47.** Пісьмова праскланяйце словазлучэнне ў множным ліку.

Пабудаваныя шматпавярховыя дамы.

Дзеепрыметнікі змяняюцца так, як і прыметнікі, па родах, ліках і склонах, маюць такія самыя канчаткі, як і прыметнікі з асновай на цвёрды *(новы)* і зацвярдзелы *(свежы)* зычныя.

**48.** Прачытайце дыялог. Растлумачце сэнс выразаў *адрэзаная луста, адрэзанай лусты назад не прылепіш.*

— Адрэзанаю лустаю жыла.
— Чаму адрэзаная луста?
— У бацькоў не была сіратой. Гаспадара, ці мужа, мела. А ўсю жытку адна, быццам увесь век толькі сама сабою была.
— А чаму так: «адрэзанаю лустаю»?

— Бо што з адрэзанае лусты? Як не ссохне, то з’ядуць... *(Паводле Ф. Янкоўскага).*

Выпішыце дзеепрыметнікі разам са словамі, якія яны паясняюць. Вызначце склон дзеепрыметнікаў, растлумачце правапіс склонавых канчаткаў.

**Вымаўляй правільна:** **[н′а] ссóхне.**

**Пішы:** ***не ссохне.***

**49.** Падрыхтуйцеся пісаць пад дыктоўку.

Свая[ф] родная мова. Гэта мова маіх маці і бацькі, якую я разумею ад першага пачут.. мною слова, гэта мова маіх бабулі і дзядулі, маіх прадзедаў і прапрадзедаў.

А вось чужая, вывучан.. мова — гэта толькі мая. Пад ёй няма ніякага падмурку, яна стаіць на голым месцы, не мае ні шырыні, ні глыбіні. Пісаць мастацкія творы на вывучан.. мове цяжка, бо ў аўтара няма патрэбнага моўнага запасу і няма дзе шукаць глыбіннага, незацяган.. слова. У вывучан.. мове няма самага галоўнага — гістарычнай памяці, таго жыццятворнага карэння, якое дае магчымасць развівацца і пладаносіць... *(Я. Сіпакоў).*

Падкрэсліце дзеепрыметнікі, зверху пазначце іх склон.

**50.** З апорай на табліцу раскажыце пра мастацкі стыль. Назавіце характэрныя моўныя сродкі, уласцівыя гэтаму стылю.

**Мастацкі стыль**

| Сфера ўжывання | Задачы маўлення (мэта) | Асноўныя стылёвыя рысы | Характэрныя моўныя сродкі |
|---|---|---|---|
| літаратурныя мастацкія творы | намаляваць словамі карціну; перадаць пэўныя думкі і пачуцці | маляўнічасць, выразнасць і вобразнасць; ёсць адносіны аўтара | |

**51.** Спішыце, растлумачце напісанне канчаткаў дзеепрыметнікаў. Дайце тэксту характарыстыку, абапіраючыся на табліцу (практ. 50).

Дарога павярнула[c] ўлева, пайшла грудамі, шчыльней тулячыся да Нёмана, дзе ён апісваў вельмі зграбную луку*. Уся гэта лука выглядала пышным садам, дзе замест пладовых дрэў раслі разложыстыя, дуплястыя дубы, убран.. чорнымі шапкамі бусліных гнёздаў. Часамі гэтыя высока ўзнят.. над зялёнаю кронаю дуба гнёзды здаваліся нейкімі дзіўнымі падвескамі. За дубамі пачыналіся маладыя сакавітыя баравіны, перамешан.. са старым лесам. А над усім гэтым ляжала цішыня і спакой раніцы.

— Стой, брат Алесь, — спыніўся захоплен.. Лабановіч. — Ты паглядзі, што за слаўнота! *(Паводле Я. Коласа)*.

Назавіце азначэнні, выражаныя: а) прыметнікамі; б) дзеепрыметнікамі. Якую ролю адыгрываюць азначэнні ў тэксце? Якая роля ў ім дзеепрыметнікаў?

Перакажыце змест блізка да тэксту, выкарыстоўваючы дзеепрыметнікі.

**52.** Прачытайце прыказкі, ставячы дзеепрыметнікі, што ў дужках, у патрэбным родзе, ліку і склоне. Спішыце, выдзеліце канчаткі дзеепрыметнікаў.

1. З *(нагрэты)* кутком шкада расставацца. 2. *(Згублены)* золата можна знайсці, *(згублены)* час — ніколі. 3. *(Пахілы)* дрэва вецер не ломіць. 4. *(Назбіраны)* на дарозе каласкамі не пракормішся. 5. *(Выказаны)* слова да губы не вернеш. 6. Дзявоцкая краса — *(заплецены)* каса.

Падрыхтуйце вуснае выказванне, якое раскрывала б змест прыказкі (на выбар).

**Вымаўляй правільна:** **не прако́рмі[с′]ся, [н′а] ло́міць, [н′а] ве́рнеш.**

**53.** Запішыце тэкст, ставячы дзеепрыметнікі, што ў дужках, у патрэбным родзе, ліку і склоне.

НА ПАЛЯВАННІ

У самым канцы лета настаў вольны ад палявой работы час, і мужчыны вырашылі ісці на паляванне.

Ішлі доўга. І вось на *(выпалены)* сонцам прагалінах пачала трапляцца *(змяты)* і *(аб'едзены)* трава. Тут пасвілася, нагульвала мяса даўно *(непалоханы)* дзічына. Загон паляўнічых праз дубняк выйшаў на нізоўе, дзе цёк ручай з *(вышмарганы)* мядзведзямі малiннікам на берагах. І каля самага ручая нечакана наткнуліся на статак. Здрыганулася зямля, калі статак усхапіўся на ногі, і адразу ж важак рынуўся на *(няпрошаны)* гасцей.

На паляўнічых імчала такая *(раз'юшаны)* аграмадзіна, што нават мужчыны не вытрымалі і з усіх ног кінуліся да выратавальнага лесу *(Паводле М. Чарняўскага)*.

Выпішыце з тэксту па тры назоўнікі 1, 2 і 3-га скланення.

## § 7. Дзеепрыметнікавы зварот, знакі прыпынку

**54.** Запішыце словазлучэнні. У якіх з іх дзеепрыметнік з'яўляецца залежным словам, а ў якіх — галоўным? Абазначце ў словазлучэннях галоўнае слова, пастаўце пытанні.

Затрыманы парушальнік, затрыманы пагранічнікамі; скошаныя лугі, скошаныя імі; прывезеная шафа, прывезеная даўно.

Якімі часцінамі мовы з'яўляюцца залежныя словы ў словазлучэннях з галоўным словам дзеепрыметнікам?

**55.** Прачытайце сказы.

Скошаная трава ўжо добра падвяла на сонцы.

|Скошаная раніцай| трава ўжо добра падвяла на сонцы.

Трава, |скошаная раніцай|, ужо добра падвяла на сонцы.

Ужо добра падвяла на сонцы трава, |скошаная раніцай|.

Назавіце дзеепрыметнікі. Якія назоўнікі яны паясняюць?

У якіх сказах дзеепрыметнік мае пры сабе залежнае слова?

Якое месца ў адносінах да паяснёнага ім назоўніка займае дзеепрыметнік з залежным словам? Калі ён выдзяляецца коскамі?

Дзеепрыметнік разам з залежнымі ад яго словамі называецца **дзеепрыметнікавым зваротам.** Ён з'яўляецца адным членам сказа — развітым азначэннем: *Радасна зямлю прабіла рунь, веснавым абуджаная громам* (Р. Барадулін).

**56.** Разгледзьце схему. Звярніце ўвагу на месца дзеепрыметнікавага звароту ў адносінах да паяснёнага ім назоўніка, на пастаноўку знакаў прыпынку.

**Дзеепрыметнікавы зварот**




Калі дзеепрыметнікавы зварот стаіць перад назоўнікам, які ён паясняе, то ў вусным маўленні ён не выдзяляецца паўзамі і на пісьме не адасабляецца: | *Парослая высокай травой* | *сцяжына* *вяла да самай леснічоўкі.*

Дзеепрыметнікавы зварот выдзяляецца ў маўленні паўзамі, калі стаіць пасля назоўніка, які ён паясняе. Пры гэтым слова, якое паясняецца дзеепрыметнікавым зваротам, звычайна вымаўляецца з павышэннем тону. На пісьме дзеепрыметнікавы зварот выдзяляецца коскай: *З ваколіцы была добра відаць наша* *школа*, | *размешчаная на ўскрайку мястэчка* | (І. Навуменка).

Калі дзеепрыметнікавы зварот стаіць пасля назоўніка, які ён паясняе, і знаходзіцца ў сярэдзіне сказа, то ён выдзяляецца з двух бакоў коскамі: *Сонца*, | *ахутанае шэраю смугою* |, *нясмела ўставала з-за лесу* (П. Броўка).

Калі дзеепрыметнік ці дзеепрыметнікавы зварот адносіцца да асабовага займенніка, то яны выдзяляюцца коскамі незалежна ад месца ў сказе: *Узрушаны, я адразу пачаў збірацца дадому. Мы, сагрэтыя ласкавым сонцам, марылі як хутчэй апынуцца каля мора.*

**57.** Спішыце, дапісваючы канчаткі дзеепрыметнікаў. Абазначце межы дзеепрыметнікавых зваротаў, выдзеліце паяснёныя імі назоўнікі. Пастаўце неабходныя знакі прыпынку пры дзеепрыметнікавых зваротах.

ПАРАДЫ ДАЎНІЯ І СУЧАСНЫЯ

1. Бялізна ў марозны дзень не прымерзне да вяроўкі, якую папярэдне працёрлі анучай змочан.. у растворы солі. 2. Калі пакласці ў яблыкі пакінут.. на доўгае захаванне высушан.. кветкі бузіны, то ніколі не з'явіцца дрэнны пах і зберажэцца добры смак. 3. Калі тварог загарнуць у чыстую марлю змочан.. у салёнай вадзе, то ён захаваецца свежым не адзін дзень. 4. Замерзл.. акно добра пратрэцца змочан.. у салёнай вадзе анучай. 5. Лепшы сродак ад мышэй — раскладзен.. ці паразвешан.. у пучках дзікая мята *(«Беларускі каляндар»)*.

**Вымаўляй правільна:** **прыме́р[з′]не, [с′]ве́жым, пакла́[с′]ці.**

**58.** Прачытайце тэкст, захоўваючы правільную інтанацыю пры чытанні сказаў з дзеепрыметнікавымі зваротамі. Абгрунтуйце пастаноўку знакаў прыпынку ў гэтых сказах.

Паветра, прасякнутае пахамі зямлі, крыштальна чыстае. Далягляд вырысоўваецца выразна, акрэслена.

— Эх! — вырываецца з грудзей майго субяседніка. — Шырыня якая! Воля! Аж дух зацінае.

Ён стаіць, шырока і моцна расставіўшы ногі, нібы ўросшы ў зямлю, прыземісты, шыракаплечы. На ім — ссунутая на патыліцу салдацкая вушанка і старыя боты, запэцканыя суглінкам. Водбліск сонечнага заходу асвятляе яго скулас-

ты твар з адрослай бародкай і вузкімі шэрымі вачыма *(Паводле Т. Хадкевіча)*.

Назавіце словы і словазлучэнні, якімі апісваецца знешнасць чалавека.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказе з простай мовай, складзіце яго схему.

**59.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ставячы неабходныя знакі прыпынку. Абазначце межы дзеепрыметнікавых зваротаў, падкрэсліце іх як члены сказа.

Ад грушы вяла да хаты вузкая сце*(ж/ш)*ка. Па абодва бакі ляжала нядаўна ўзараная зямля. Ад яе надта белымі і танюткімі здаваліся дрэвы пабеленыя вапнай. Бязва*(ж/ш)*кі салатавы пух ахутваў дрэвы, і асабліва шэрай выглядала ў гэтай зялёнай хмары старая хата Кагутоў з надворнымі пабудовамі размешчанымі літарай «П». Сцены хаты амаль напалову закрывала насунутая[сл] грыбам страха з тоўстым пластом вільготнага моху.

Каля хаты сядзеў дзе*(д/т)*, бязвольна склаўшы рукі. Непадалёку ад яго ляжаў на ўскапанай курамі зямлі сабака *(Паводле У. Караткевіча)*.

**60.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары. Абгрунтуйце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з дзеепрыметнікавымі зваротамі. Падкрэсліце іх як члены сказа.

1. Змарн..лы за апошнія дні, ён пад..шоў да штаба, які размяшчаўся на той самай палянц.., што і ўчора *(І. Мележ)*. 2. Заняты сва..й справай, я зусім не звяртаў увагі на размову *(В. Быкаў)*. 3. Насц..рожаны, узруш..ны, нацяты ўвесь, ён усё ішоў насустрач н..бяспецы, насустрач н..вядомасці *(І. Мележ)*.

**61.** Спішыце, падбіраючы да выдзеленых дзеепрыметнікаў залежныя словы з матэрыялу для даведкі. Сачыце за парадкам слоў у сказах.

Спачатку паабапал дарогі цягнуліся палеткі з **раскіданымі** дзічкамі. Глядзелі з-падігліцы і верасу чырвоныя

або **счарнелыя** брылі сімпатычных тлустых баравікоў. Часам траплялiся вялізныя купы як быццам **нагрувашчанага** камення. **Зарослая** алея*, паабапал якой стаяў змрочны, як лес, парк, давяла да агароджы *(Паводле У. Караткевіча).*

● Выпішыце з тэксту словы, у якіх ёсць прыстаўкі, абазначце іх.

Д л я д а в е д к і: *ад старасці, там-сям, густой травой, нечай невядомай рукой.*



У дзеепрыметнікавы зварот не ўваходзіць паяснёнае ім слова. Яно можа стаяць перад зваротам ці пасля яго, але не можа знаходзіцца ў межах самога звароту.

⊙ **62.** Растлумачце і выпраўце памылкі ва ўжыванні дзеепрыметнікавых зваротаў. Запішыце выпраўленыя сказы.

1. Нясцерпна пякло нахіленае сонца на захад. 2. Паабапал дарогі стаялі парыжэлыя снапы ад дажджу і ветру. 3. Пасярод поля стаяў спынены грузавік шафёрам. 4. Жанчыны няспешна кідалі ў кузаў высахлыя снапы даўно ўжо.

Зрабіце вывад пра парадак слоў у дзеепрыметнікавым звароце.

**63.** Удакладніце значэнне выдзеленых назоўнікаў, дапоўніўшы іх дзеепрыметнікамі ці дзеепрыметнікавымі зваротамі. Пастаўце, дзе трэба, коскі.

***элева́тар***
***але́я***
***шлейф***

Набліжалася навальніца. Неба зацягнулі свінцовыя **хмары. Сонца** не відаць. **Вецер** хіліць да самай зямлі кветкі, траву і жыта. З-за павароткі паказалася **машына.** Шафёр спяшаецца паспець да навальніцы на элеватар*. Машына імчыць па **дарозе**, і пыл цягнецца за ёй доўгім густым шлейфам.

**64.** Перабудуйце сказы, каб дзеепрыметнікавыя звароты выдзяляліся коскамі.

1. Асветленая сонцам верхавіна дрэва пералівалася ўсімі колерамі вясёлкі. 2. Прыхопленыя раннім марозам квет-

кі неяк адразу схіліліся да самай зямлі. 3. Прачытаная ў раннім дзяцінстве кніга застаецца ў памяці на ўсё жыццё. 4. Чыста вымытая падлога прыемна пахла. 5. Апалае з дрэў лісце рознакаляровым дываном ляжала пад нагамі. 6. У памяці паўсталі яшчэ з вечара перапісаныя шматпакутныя старонкі.

● Выпішыце складаныя словы, растлумачце спосаб іх утварэння.

**65.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы неабходныя знакі прыпынку.

### СТАРАЖЫТНАЕ ПІСЬМО

Пісьмы раней пісаліс.. на бяросце, бо паперы яшчэ не было, а пергамент каштаваў зана..та дорага. Пісалі таксама і на дошчачках тонка пакрытых воскам. Літары выцісказаліс.. на бяросц.. ці на воску вострымі металічнымі палачкамі зробленымі з жалеза ці бронзы. Такія палачкі называліс.. піса́ламі. Ніжнім завостраным канцом выцісказаліс.. літары. Верхні канец меў форму лапатачкі. Ім загладжвалас.. н..правільна напісанае слова ці літара. Піса́лы знойдзеныя пры арх..алагічных раскопках Мінскага замчы..а з'яўляюцца све..камі міну..шчыны *(В. Вольскі)*.

Абазначце межы дзеепрыметнікавых зваротаў, выдзеліце паяснёныя імі назоўнікі.

● Знайдзіце ў тэксце складаны сказ, падкрэсліце граматычныя асновы ў ім.

**66.** Прачытайце тэкст. Выпішыце з яго дзеепрыметнікавыя звароты разам з паяснёнымі імі назоўнікамі. Межы дзеепрыметнікавых зваротаў абазначце, назоўнікі вазьміце ў рамачку.

### НАЙКАШТОЎНЕЙШЫЯ РЭЧЫ ФАРАОНА

У 1922 годзе археолагі знайшлі ў Егіпце грабніцу фараона Тутанхамона. Ён правіў краінай каля 3400 гадоў назад. Грабніца фараона была вельмі багатая. Адзін толькі саркафаг* з чыстага золата, у якім ляжаў фараон, важыў 450 кілаграмаў. Мноства выробленых з золата рэчаў знайшлі тут. Побач з фараонам у саркафагу знаходзіліся тры

самыя каштоўныя рэчы, зробленыя з жалеза. Пад галавой ляжаў талісман* — выкаваная з жалеза змяя. Каля пояса фараона быў жалезны кінжал. На руцэ — залаты бранзалет, упрыгожаны вокам, зробленым з жалеза. Вось як цанілі тады гэты метал *(Паводле Г. Штыхава).*

## § 8. Дзеепрыметнікі незалежнага і залежнага стану, іх утварэнне і ўжыванне

Дзеепрыметнікі бываюць незалежнага і залежнага стану.

Дзеепрыметнікі **незалежнага стану** абазначаюць прымету такога прадмета, які сам утварыў дзеянне: ***пажаўцелая*** *трава* — 'трава, якая сама пажаўцела'.

Дзеепрыметнікі **залежнага стану** абазначаюць прымету такога прадмета, на які накіравана дзеянне з боку іншага прадмета: ***прыбраны*** *пакой* — 'пакой, які нехта прыбраў'; ***вымытая*** *падлога* — 'падлога, якую вымылі'; ***падрыхтаваны*** *вучнем даклад* — 'даклад, які падрыхтаваў вучань'.

!

У беларускай мове часцей ужываюцца дзеепрыметнікі залежнага стану: *Якіх толькі рэчаў не паказвалі полацкія кавалі і ювеліры —* ***каваных, чаканеных, вылітых, цiснёных, штампаваных...*** (А. Клышка).

**67.** Адкажыце на пытанні, адказы запішыце. Звярніце ўвагу на тое, сам прадмет выконвае дзеянне ці на гэты прадмет накіравана дзеянне з боку іншага прадмета.

Як сказаць пра кнігу, якую прачыталі; поле, якое засеялі; зерне, якое рассыпалі; урок, які вывучылі; сшытак, які абгарнулі; хлеб, які счарсцвеў; посуд, які вымылі; сад, які зарос; воск, які расплавілі; валасы, якія пасівелі; дом, які купілі; сачыненне, якое напісалі; кавалак, які адламалі; стагі, якія парыжэлі; грошы, якія пазычылі?

***напíсаны***
***засéяны***
***зарóслы***
***пазы́чаны***
***пасівéлы***
***адламáны***
***парыжэ́лы***
***абгóрнуты***

**68.** Уважліва прачытайце матэрыял табліцы. Раскажыце, якія формы дзеепрыметнікаў ужываюцца ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

## Утварэнне і ўжыванне дзеепрыметнікаў

| Час | Спосаб утварэння | Прыклады | Ужыванне |
|---|---|---|---|
| | | **Незалежны стан** | |
| **Цяперашні** | аснова дзеяслова цяперашняга часу + суфіксы **-*уч*-, -*юч*-, -*ач*-, -*яч*-** | *кіру**юч**ая роля*<br>*гавор**ач**ая асоба*<br>*віс**яч**ы замок* | ужываюцца абмежавана; выкарыстоўваюцца ва ўстойлівых зваротах тыпу *рухаючая сіла, кіруючая роля* і інш. |
| **Прошлы** | аснова дзеяслова неазначальнай формы + суфікс **-*л*-**, суфіксы **-*ш*-, -*ўш*-** | *даспе**л**ыя вішні*<br>*узнік**ш**ае пытанне*<br>*расквіт-не**ўш**ы луг* | пашыраны ў літаратурнай мове; ужываюцца абмежавана; часта замяняюцца дзеепрыметнікамі з суфіксам **-*л*-**: *расквітнелы луг* |
| | | **Залежны стан** | |
| **Цяперашні** | аснова дзеяслова цяперашняга часу + суфіксы **-*ем*-, -*ім*-** | *буду**ем**ы дом*<br>*вывуча**ем**ы твор* | не характэрны для літаратурнай мовы |
| **Прошлы** | аснова дзеяслова неазначальнай формы + суфіксы **-*н*-, -*ен*-, -*ан*-, -*т*-** | *вывуч**ан**ы верш*<br>*прывез**ен**ая мэбля*<br>*зжа**т**ая ніва*<br>*прачыта**н**ая кніга* | шырока выкарыстоўваюцца |

**69.** Размяркуйце дзеепрыметнікі паводле іх прыналежнасці да пэўнага стану (у адзін слупок запішыце дзеепрыметнікі незалежнага стану, а ў другі — залежнага).

Пасівелыя валасы, пафарбаваны ганак, пабудаваны дом, зрудзелыя старонкі, пасінелыя рукі, прывезеная шафа, зжатае поле, палінялая суканка, счарнелы зруб, выбітая шыба, дасланае пісьмо, апалае лісце, расчырванелы твар, разгледжанае пытанне.

Паказчыкам якога стану з'яўляецца суфікс *-**л**-*; суфіксы *-**н**-*, *-**ен**-*, *-**ан**-*, *-**т**-*?

**70.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і патрэбныя знакі прыпынку. Абазначце над дзеепрыметнікамі іх стан літарамі **н** (незалежны) ці **з** (залежны).

Яшчэ не бачаныя краявіды Пінскага Палес..я затул..ныя святлом вераснёўскага сонца атул..ныя тонкаю павалокаю* сінечы захаплялі Лабановіча сваімі чарамі. Праносіліся палескія вёскі, дзе над будынкамі высока ўзнімаюцца вязы, ліпы і клёны абсыпаныя з..л..там восені. **Срэбрам вывіваліся р..чкі ў ні..кіх берагах, раскрываліся ш..рокія разлогі* балотных нізін зарослых дзікаю травою, аерам і чаротам.** Малюнкі ў акн.. борзда* знікалі, зм..няліся новымі, і не было калі на іх спыніцца: поезд імчаўся вельмі шпарка *(Паводле Я. Коласа)*.

- Падбярыце сінонімы да слоў *борзда, разлогі.*
- Выдзелены сказ разбярыце па членах сказа.

Дзеепрыметнікі **незалежнага стану прошлага часу** ўтвараюцца ад асновы неазначальнай формы дзеяслова закончанага трывання з дапамогай суфікса -***л***-: *пажаўце-ць* — *пажаўце**л**ы, збяле-ць* — *збяле**л**ы, ацале-ць* — *ацале**л**ы* і г. д.



Дзеепрыметнікі з суфіксам -***л***- шырока ўжываюцца ў беларускай мове.

Зрэдку, звычайна калі немагчыма ўтварэнне з дапамогай суфікса *-л-*, дзеепрыметнікі могуць утварацца пры дапамозе суфіксаў *-ўш-* (пасля галосных) і *-ш-* (пасля зычных): *загіну-ць — загінуўшыя, падрас-ці — падросшы* (і *падрослы*). Але ўжываць іх немэтазгодна, бо часта яны робяць думку невыразнай, неакрэсленай. Напрыклад: *Салдат, загінуўшы за Радзіму, навечна застанецца ў памяці народа.* Незразумела, маецца на ўвазе салдат які? — які загінуў *(загінуўшы салдат)* ці застанецца ў памяці чаму? — бо загінуў за Радзіму.

**71.** Прачытайце тэкст. Якія рысы характару жанчыны выдзяляе аўтар? Паназірайце, на аснове чаго ён робіць свой вывад: як будуе тэкст, якімі моўнымі сродкамі карыстаецца. Растлумачце ўтварэнне дзеепрыметнікаў.

Сярод двара стаяла запрэжаная па́ра. Дымелі спіны замораных коней, а за імі ледзь вымалёўваўся цёмны сілуэт лёгкай брычкі* з падузнятым верхам.

Фіранка брычкі адшмаргнулася[м], з-за яе ступіла на прыступку невялічкая нага. Жанчына, высокая і зграбная, у цёмным плашчы, стала проста ў ваду і азірнулася.

Здзіўлены Леановіч глядзеў на жанчыну вялізнымі вачыма.

Глядзець было на што. Ніколі яшчэ Гораў не бачыў такога аблічча.

Густыя цёмныя бровы, якія здаваліся б амаль мужчынскімі, каб не агромністыя, як чорныя азёры, вочы, і прыпухлы маленькі рот. Прамы невялічкі нос, мяккі авал трохі асіметрычнага аблічча, якому сама гэта асіметрычнасць надавала дзіўны выраз мяккай жаночай пакорлівасці і адначасова ўладнасці, нават прывычкі ўладарыць *(Паводле У. Караткевіча)*.

Выберыце і выпішыце з тэксту азначэнні (прыметнікі і дзеепрыметнікі), якія маюць дачыненне да апісання знешнасці жанчыны, разам з назоўнікамі. Узнавіце па апорных словазлучэннях апісанне знешнасці (вусна).

**72.** Утварыце ад дзеясловаў дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу з суфіксам -*л*-, падбярыце да іх назоўнікі, словазлучэнні запішыце.

Апасці, апусцець, заінець, уцалець, зарасці, асірацець, парыжэць, загарэць, пажаўцець, пачырванець, пасівець, прарасці, пацямнець, пасінець, засохнуць, прамокнуць.

**73.** Дапоўніце дзеепрыметнікі залежнымі словамі. Складзіце з утворанымі зваротамі сказы.

Зацягнутае неба. Навіслыя хмары. Пажоўклая трава. Апалае лісце. Скошаныя лугі. Парыжэлыя стагі. Аголеныя палеткі. Прыціхлая зямля.

## § 9. Правапіс суфіксаў дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу *-н-, -ен-, -ан-, -т-*

**74.** Прааналізуйце спосаб утварэння дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу.

напіса-ць + -*н*- — напісаны
згуля-ць + -*н*- — згуляны

завез-ці + -*ен*- — завезены
пабялі-ць + -*ен*- — пабелены

разгледзе-ць + -*ан*- — разгледжаны
ствары-ць + -*ан*- — створаны

змы-ць + -*т*- — змыты
апрану-ць + -*т*- — апрануты

Назавіце словы, у якіх адбываецца чаргаванне гукаў у аснове. Што адбываецца з галоснымі ***і, ы, е*** асновы дзеяслова пры ўтварэнні дзеепрыметнікаў?

Дзеепрыметнікі з суфіксам -*н*- утвараюцца ад асновы неазначальнай формы дзеяслова на ***а***, ***я*** і захоўваюць гэтыя галосныя ва ўсіх формах: *паказа-ць* — *паказа**н**ы* *(фільм)*, *засея-ць* — *засея**н**ае (поле)*.

Суфіксы ***-ен-, -ан-*** маюць дзеепрыметнікі, утвораныя ад асновы неазначальнай формы дзеяслова на зычны: *з'ес-ці — з'едзены, прынес-ці — прынесены* або на галосныя ***і, ы, е***: *забялі-ць — забелены, упрыгожы-ць — упрыгожаны, разгледзе-ць — разгледжаны.* Пры гэтым галосныя ***і, ы, е*** выпадаюць, а канцавыя зычныя асновы могуць чаргавацца.

Суфікс ***-т-*** далучаецца да асновы неазначальнай формы дзеясловаў з аднаскладовым коранем: *з-жа-ць — зжаты, раз-мы-ць — размыты* або да асновы дзеясловаў на ***о, у, ну***: *раскало-ць — раскалолаты, апрану-ць — апрануты* і г. д.

**75.** Карыстаючыся прыведзенай схемай, раскажыце пра ўтварэнне і правапіс дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Аснова неазначальнай формы дзеяслова | + | ***-н-*** | ад асновы дзеяслова на ***а, я*** |
| | | ***-ен-*** / ***-ан-*** | ад асновы дзеяслова на зычны або галосныя ***і, ы, е*** |
| | | ***-т-*** | ад асновы дзеяслова з аднаскладовым коранем або ад асновы дзеяслова на ***о, у, ну*** |

**76.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта тэкст. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя суфіксы. Растлумачце іх правапіс, абапіраючыся на прыведзеную вышэй схему.

У печы палалі дровы. Полымя — чыстае і зыркае.

Чатыры гады, як няма бацькі, а мама паліць у печы і сёння «не сваімі, а Яго дрывамі». Улетку, вясной і ўвосень паліць прыкупл..ымі, а зімой — Яго. На селішчы* нашым — пад павеццю, у падстрэшшах, паўз сцяну аж пад самы вільчык* — заўсёды ляжалі нарыхтава..ыя не на адну зіму, напілава..ыя як пад мерку дровы. Складз..ыя ў сціpты*. Гаспадарны бацька ніколі не забываў народнага: запас бяды не чыніць! *(Ф. Янкоўскі).*



У суфіксах дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу пішацца адна літара ***н***: *прачыта**н**ы, прынесе**н**ы, зробле**н**ы, з’едзе**н**ы.*

**77.** Запішыце словы пад дыктоўку, абазначце ў іх суфіксы.

Заробленыя, прычасаны, змалочаныя, абагрэтая, перакапаны, спісанае, зачараваныя, абвіты, вымыты, занесеныя, пасеяны, зжаты, спынены, убачанае, разгледжаная, прааналізаваныя, утвораны, забелены.

**78.** Разгледзьце малюнкі. Запішыце паводле іх словазлучэнні «дзеепрыметнік зал. ст. пр. ч. + назоўнік». Растлумачце ўтварэнне дзеепрыметнікаў.



**79.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце і зачытайце апісанне знешнасці. Вызначце, ці ёсць у ім ацэнка чалавека.

Выпішыце дзеепрыметнікі, запішыце побач дзеясловы, ад якіх яны ўтвораны. Абазначце суфіксы ў дзеепрыметніках.

У з о р: *засеяны ← засея-ць, зарослы ← зарас-ці.*

Зайшоў адзін раз у рэдакцыю, угледзеў там сярэдняга росту маладога чалавека, якога дагэтуль не бачыў. Худатвары, з доўгім носам, з глыбока запалымі вачыма, у пенснэ, апрануты ў гарнітур шэра-бурачнага невыразнага колеру, з-пад якога выглядала чырвоная кашуля. На галаве ў яго

быў шыракаполы капялюш. Выгляд незнаёмага паказаўся мне сур'ёзным, а твар сімпатычным.

— Пазнаёмцеся, Сяргей Палуян! — праказаў Сцяпан. Я быў рады новаму знаёмству, бо ўжо паспеў прачытаць Палуянавы допісы з Кіева. Палуян, як мне паказалася, быў таксама задаволены сустрэчаю са мною *(Ц. Гартны)*.



Мастацкае апісанне знешнасці чалавека можа ўключаць і яго ацэнку.

**80.** Спішыце, утварыўшы ад дзеясловаў, што ў дужках, патрэбныя дзеепрыметнікі. Суфіксы абазначце.

Спыняўся паглядзець на рунь. Спыняўся паглядзець на толькі што *(пасеяць)* жыта. На толькі што *(зжаць)* і *(змалаціць)* пшаніцу. Глядзеў, любаваўся. Бачыў людскую любоў да **зямлі,** да **зямелькі,** да **зямліцы.** *(Дагледзець)*, *(перабраць)* у пальцах, *(ачысціць)*, *(сагрэць)* не толькі сонцам, урадлівая. Я ніводнага разу не бачыў у тым краі *(зарасці)* на полі збажыны, не бачыў *(прыпляскаць)* дажджом і *(пабялець)* або *(пачарнець)* пракосаў ні на полі, ні на лузе *(Паводле Ф. Янкоўскага)*.

● Выканайце разбор выдзеленых слоў па саставе.

**81.** Прачытайце табліцу і падрыхтуйце паведамленне на тэму «Навуковы стыль». Дапоўніце табліцу характарыстыкай моўных сродкаў, уласцівых гэтаму стылю.

## Навуковы стыль

| Сфера ўжывання | Задачы маўлення (мэта) | Асноўныя стылёвыя рысы | Характэрныя моўныя сродкі |
|---|---|---|---|
| навуковыя працы, падручнікі, даведнікі | паведаміць дакладныя звесткі, факты і растлумачыць іх | дакладнасць, доказнасць выкладу | |

**82.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і дайце разгорнутае абгрунтаванне свайго адказу.

Вымераць якую-небудзь велічыню — гэта значыць параўнаць яе з аднароднай велічынёй, прынятай за адзінку гэтай велічыні. Так, напрыклад, вымераць даўжыню стала — значыць параўнаць яе з іншай даўжынёй, прынятай за адзінку даўжыні, напрыклад з метрам. У выніку вымярэння велічыні атрымліваем яе лікавае значэнне, выражанае ў прынятых адзінках.

У большасці вымяральных прылад ёсць шкала з нанесенымі пры дапамозе штрыхоў дзяленнямі і напісанымі значэннямі велічынь, якія адпавядаюць дзяленням. Адлегласці паміж двума штрыхамі могуць быць дадаткова падзелены на некалькі дзяленняў, не абазначаных лікамі *(«Фізіка»)*.

Прааналізуйце спачатку першы, а потым другі абзацы. Якія словы і з якой мэтай у іх паўтараюцца? Вызначце спосаб сувязі сказаў у тэксце.



У навуковым стылі сказы часта злучаюцца паслядоўнай сувяззю з паўторам.

**83.** Вусна перакладзіце тэкст на беларускую мову. Прааналізуйце спосабы перакладу з рускай мовы дзеепрыметнікаў залежнага і незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу.

Запішыце па-руску і па-беларуску дзеепрыметнікавыя звароты разам з назоўнікамі, якія яны паясняюць. Абазначце суфіксы ў дзеепрыметніках беларускай мовы.

У з о р: *издания, посвященные вопросам общей, частной и прикладной русистики — выданні, прысвечаныя пытанням агульнай, прыватнай і прыкладной русістыкі.*

Лингвистические журналы по русскому языку — периодические издания, посвященные вопросам общей, частной и прикладной русистики. Первые лингвистические журналы, печатавшиеся в России (2-я половина XIX века — начало XX века), в основном освещали вопросы русского и славянского языкознания, филологического изучения памятников письменности.

Издаются журналы, посвященные различным теоретическим аспектам русского языкознания, в том числе научно-популярный журнал «Русская речь», печатающий статьи по культуре устной и письменной русской речи, о языке художественной литературы, о русской стилистике, об истории отечественного языкознания. В научно-методическом журнале «Русский язык», созданном в помощь учителям русского языка средней школы, печатаются статьи по русскому и общему языкознанию, по методике преподавания русского языка в школе, а также о языке художественной литературы. В 1957—1992 годах выходил научно-методический журнал «Русский язык в национальной школе», печатавший материалы по методике преподавания русского языка в средней национальной школе *(«Русский язык: энциклопедия»)*.

**Слоўнік:**
*освещать* — ***асвятляць;***
*письменность* — ***пісьменнасць;***
*теоретический* — ***тэарэтычны;***
*научно-популярный* — ***навукова-папулярны;***
*отечественный* — ***айчынны.***

## § 10. Поўная і кароткая формы дзеепрыметніка



**84.** Параўнайце дзеепрыметнікі ў левым слупку (поўная форма) з дзеепрыметнікамі ў правым слупку (кароткая форма). Якія дзеепрыметнікі не маюць кароткай формы?

| | |
|---|---|
| Я без цяжкасцей адказаў **вывучан\|ы\|** верш. | Верш **вывучан\|ы\|** за паўгадзіны. |
| Мне спадабалася **прачытан\|ая\|** кніга. | Новая кніга **прачытан\|а\|** мною за вечар. |
| Я не змог здаць **напісан\|ае\|** ўчора сачыненне. | Сачыненне **напісан\|а\|** на актуальную тэму. |

| | |
|---|---|
| **Выканан[ыя]** звечара заданні ляжалі на стале. | Заданні **выканан[ы]** мною паспяхова. |

Пастаўце пытанні да выдзеленых слоў. У ролі якога члена сказа выступаюць поўныя дзеепрыметнікі, кароткія дзеепрыметнікі? Якія канчаткі яны маюць?

Дзеепрыметнікі мужчынскага роду маюць толькі поўную форму з канчаткам **-ы**: *урок вывучаны, дом пабудаваны*. Кароткая форма тыпу *ўрок вывучан, дом пабудаван* хаця і сустракаецца часам у мастацкай і навуковай літаратуры і публіцыстыцы, не ўласціва сучаснай беларускай літаратурнай мове.

Кароткія дзеепрыметнікі не скланяюцца. Яны змяняюцца па ліках, а ў адзіночным ліку — па родах.

Кароткія дзеепрыметнікі ў сказе выступаюць звычайна ў ролі выказніка: *Урокі вывучаны. Ніва зжата.*

У ролі выказніка могуць выступаць і поўныя дзеепрыметнікі, калі яны стаяць пасля назоўніка: *Урокі вывучаныя. Ніва зжатая.*

**85.** Прачытайце тэкст. Вызначце, каму ён адрасаваны і з якой мэтай напісаны. Назавіце дзеепрыметнікі. Якія з іх маюць поўную форму, а якія кароткую? На якія пытанні яны адказваюць?

Энцыклапедычны даведнік «Фатаграфія» расказвае пра гісторыю сусветнай і беларускай фатаграфіі, яе жанры. На старонках даведніка выкладзены асновы тэорыі фатаграфіі, паказана айчынная і замежная фотаапаратура, абсталяванне і прылады для здымкі.[сн] Падрабязна разгледжаны пытанні тэхнікі разнастайных відаў здымкі, апісана абсталяванне лабараторый. У спецыяльным тэрміналагічным слоўніку-даведніку раскрываецца змест каля 1000 асноўных фатаграфічных паняццяў. Гэта багата ілюстраванае выданне. Яно змяшчае каляровыя і чорна-белыя здымкі, падрыхтаваныя[сл] вядомымі фотамайстрамі.

Энцыклапедычны даведнік «Фатаграфія» ў аднолькавай меры будзе карысны фотааматарам і прафесіяналам *(«Беларускі каляндар»)*.

Перабудуйце два апошнія сказы першага абзаца, ужыўшы замест поўнай формы дзеепрыметнікаў кароткую. Сказы запішыце, падкрэсліце дзеепрыметнікі як члены сказа.

**86.** Прачытайце верш. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Якую ролю выконваюць кароткія дзеепрыметнікі ў вершаваным тэксце? Звярніце ўвагу, як пішацца ***не*** з кароткімі дзеепрыметнікамі.

РОДНАЕ СЛОВА

Суджана, стаўлена пад перакладзіны,
Сечана, палена, а не аддадзена,
Не парастрачвана і не раскрадзена,
Рупна ў падмуркі на золку* пакладзена
Роднае слова.
Хоць яго з поля, як зелле, высмыквалі*,
Не забывалася ў песні музыкавай,
Не забывалася ў долі нясытае, —
Намі навечна ў насевак* усыпана
Роднае слова.

*М. Лужанін.*

● Падбярыце сінонімы і антонім да слова *золак.*
Выпішыце з тэксту дзеепрыметнікі, ужытыя ў кароткай форме, і запішыце іх поўныя формы.

**87.** Прачытайце і адгадайце загадкі. Вызначце форму дзеепрыметнікаў. Выпішыце загадкі, у якіх дзеепрыметнікі маюць кароткую форму, назавіце іх лік і род, устаўце прапушчаныя літары.

ЗАГАДКІ З РОДНАЙ ХАТКІ

1. Ходзіць пані па камор.., лычкам падвязаная. 2. У лес.. выразана, гла..ка вычасана, ажно заліваецца, як называецца? 3. Не куст, а з лісточкамі, не кашуля, а сш..та. 4. Разаслана пасцілка, на пасцілцы ра..сыпаны сярэбраны пясочак, а пасярэ..іне залаты кружочак. 5. Вісіць сіта не рукамі звіта.

А д г а д к і: *кніга; дудка; венік; неба, зоркі, месяц; павуціна.*

**88.** Замяніце поўныя формы дзеепрыметнікаў кароткімі, запішыце іх, вызначыўшы граматычнае значэнне кароткіх форм.

Узор: *чыста вымытая падлога — падлога чыста вымыта* (адз. л., ж. р.).

Абсаджаная ліпамі дарога, выпадкова знойдзеныя малюнкі, асветленая сонцам алея, абгорнуты сшытак, адчыненае акно, густа засеяныя палеткі, перарабленае заданне, хутка прададзенае адзенне, закончаны раман.

Якія дзеепрыметнікі не маюць кароткай формы?

**89.** Запішыце прыказкі, замяняючы дзеясловы, што ў дужках, кароткімі дзеепрыметнікамі. Падкрэсліце іх як члены сказа.

1. Шчыра *(сказаць)*, як *(звязаць)*. 2. Да чыстай крыніцы сцежка *(утаптаць)*. 3. Што *(напісаць)* пяром, тое не вырубіш тапаром. 4. Лёгка *(нажыць)*, лёгка *(пражыць)*. 5. Чужая старана тугою *(араць)*, слёзкамі *(засяваць)*.

**90.** Прачытайце тэкст. Выпішыце сказы з дзеепрыметнікамі (поўнымі і кароткімі), дзеепрыметнікі падкрэсліце як члены сказа.

### СТУДЗЕНЬ

Надышоў самы халодны месяц у годзе. Нездарма называюць яго «студзень».

Трашчыць мароз. Рэкі і азёры скаваны лёдам. Наваколле засыпана снегам.

Спяць у лесе, нібы зачараваныя, дубы. Згінаюцца пад цяжарам снегу стройныя, тонкія бярозы.

Цішыня і спакой стаіць у заснежаным лесе. Толькі стук дзятла парушае цішыню і спакой марознага дня *(В. Вольскі)*.

**91.** Запішыце словы пад дыктоўку, абазначце суфіксы.

Ужыты, парушаны, выпісаны, прачытана, закладзена, утворана, заменена, прыдумана, звіта, забыты, разведзена, прасклаляна, абазначана, накручаны, прыдуманы.

**92.** Замяніце дзеясловы кароткімі дзеепрыметнікамі. Перабудуйце сказы так, каб дапаўненне стала дзейнікам.

У з о р: *Вучань напісаў сачыненне. — Сачыненне напісана вучнем.*

1. Настаўнік праверыў сшыткі. 2. Хлебаробы засеялі поле. 3. Бацькі падрыхтавалі падарункі да дня нараджэння дзяцей. 4. Мастак напісаў новую карціну. 5. Снег замёў усё наваколле. 6. Вучні ўпрыгожылі ёлку да Новага года. 7. Сусед вярнуў грошы.

## § 11. Асаблівасці ўжывання дзеепрыметнікаў цяперашняга часу

**93.** Прачытайце. Перакажыце змест блізка да тэксту.

У беларускай мове амаль не ўжываюцца дзеепрыметнікі цяперашняга часу. Мы звычайна гаворым (і пішам): *сады, якія пышна цвітуць* (а не *пышна цвітучыя сады*); *краіны, што сталі на шлях развіцця* (а не *развіваючыяся краіны*); *кнігі, якія чытаюць з задавальненнем* (а не *чытаемыя з задавальненнем кнігі*) і г. д.

Дзеепрыметнікі цяперашняга часу выкарыстоўваюцца ў беларускай мове звычайна як залежныя словы ва ўстойлівых словазлучэннях тэрміналагічнага характару: *рухаючая сіла, кіруючая роля, вісячы замок* і некаторыя іншыя.

У беларускай літаратурнай мове не ўжываюцца формы зваротных дзеепрыметнікаў.

Беларуская мова мае сістэму сродкаў, якія ўжываюцца для замены не ўласцівых ёй дзеепрыметнікаў пры перакладзе з іншых моў, у прыватнасці з рускай.

**94.** Прачытайце тэкст. Параўнайце сказы ў арыгінале і перакладзе. Прааналізуйце спосабы перакладу дзеепрыметнікаў на беларускую мову, параўнайце іх сэнсавую і стылістычную адпаведнасць.

Найбольш пашыранымі спосабамі перадачы не ўласцівых беларускай мове формаў дзеепрыметнікаў пры перакладзе з рускай мовы на беларускую з'яўляюцца:

**даданыя часткі складаных сказаў:** *Судебным следователем Иван Ильич был таким же […] приличным, **умеющим** отделять служебные обязанности от частной жизни* (Л. Толстой). — *Іван Ільіч быў гэтакім жа прыстойным судовым следчым, **які ўмеў** аддзяляць службовыя абавязкі ад прыватнага жыцця* (Пер. Л. Салаўя);

**прыметнікі:** *[…] и глядела в окна слепая тёмная ночь, готовая посинеть от **приближающегося** рассвета* (Н. Гоголь). — *[…] У вокны глядзела сляпая цёмная ноч, гатовая пасінець ад **блізкага** світанку* (Пер. П. Місько);

**дзеясловы:** *Поутру из дверей выпорхнула дама, **сопровождаемая** лакеем* (Н. Гоголь). — *Раніцаю з дзвярэй выпырхнула дама, яе **суправаджаў** лакей.* (Пер. П. Місько);

**дзеепрыслоўі:** — *Стучит кто-то? — сказал **остановившийся** Чуб* (Н. Гоголь). — *Стукае нехта? — сказаў Чуб, **спыніўшыся*** (Пер. М. Лужаніна).

**95.** Параўнайце тэкст на рускай мове і яго пераклад на беларускую мову. Звярніце ўвагу на выдзеленыя словы і спалучэнні слоў і зрабіце вывад, чаму ў беларускім тэксце асобныя словы (дзеепрыметнікі) передаюцца рознымі спосабамі.

Звуковой язык возник как спутник и союзник трудовой деятельности человека. Вместе с трудом он стал **движущей** силой, **развивавшей** человеческое мышление. Закрепление и накопление общественного опыта, передача его **последующим** поколениям стали возможны лишь с помощью языка.

Чем сложнее становилось человеческое общество, тем сложнее и богаче становился его язык. В первобытном обществе люди могли обходиться немногими сло-

Гукавая мова ўзнікла як спадарожнік і саюзнік працоўнай дзейнасці чалавека. Разам з працай яна стала **рухаючай** сілай, **якая развівала** чалавечае мысленне. Замацаванне і назапашванне грамадскага вопыту, перадача яго **наступным** пакаленням сталі магчымымі толькі з дапамогай мовы.

Чым больш складаным станавілася чалавечае грамадства, тым больш складанай і багацейшай станавілася яго мова. У першабытным грамадстве людзі маглі абыхо-

вами, **выражавшими** основные понятия, **относившиеся** к их пока еще примитивной деятельности. Человек гомеровских времен должен был обладать весьма богатым словарем, чтобы объясниться со своими соплеменниками в необычайно **усложнившихся** условиях развитого родового общества *(С. Наровчатов)*.

дзіцца нешматлікімі словамі, **якія перадавалі** асноўныя паняцці, **што мелі адносіны** да іх пакуль яшчэ прымітыўнай дзейнасці. Чалавек гамераўскага часу павінен быў валодаць даволі багатым слоўнікам, каб паразумецца са сваімі аднапляменнікамі ў незвычайна **ўскладненых** абставінах развітога родавага грамадства.

**96.** Перакладзіце сказы на беларускую мову. Выдзеленыя дзеепрыметнікі замяніце іншымі моўнымі сродкамі (паспрабуйце зрабіць гэта некалькімі спосабамі).

1. Живут они... на чердаке пятиэтажного дома, **пахнущего** каменным углем. 2. — Продай лучше собаку! — весело и громко крикнул молодой капитан парохода, без дела **стоявший** на своей вышке. 3. Сквозь шум метели послышался из сеней топот **обиваемых** от снега ног, хлопанье дверей. 4. Вот с одного из косогоров ещё раз показалась далеко на горизонте низким **синеющим** силуэтом станция. 5. **Разбежавшийся** пароход с мягким стуком ударился в тускло **освещённую** пристань *(И. Бунин)*.

**97.** Прачытайце тэкст. Звярніце ўвагу на ўжытыя ў ім формы дзеепрыметніка, падбярыце да іх адпаведнікі ў беларускай мове, прааналізуйце спосаб перакладу.

СЕНБЕРНАРЫ-СПАСАТЕЛИ

За два последних столетия сенбернары спасли в Альпах от гибели около двух тысяч человек. Эти большие собаки сами отыскивали потерявших дорогу путников. Они сразу же возвращались к дому, лаяли у дверей, пока люди не выходили откапывать пострадавших.

Сенбернары чуют человека за километр, даже если он завален двух-, трёхметровой толщей снега. По их следам

смело может идти путник: на тропе, проложенной сенбернаром, он не собъётся с пути. Человека, найденного под снегом, сенбернар согреет теплом своего тела, будет тормошить, пока тот не очнётся.

Особенную известность получила собака Барри, спасшая около сорока человек. Как только начиналась метель, её уже нельзя было удержать на месте. С громким лаем она бегала по самым опасным местам, разыскивая заблудившихся, нуждающихся в её помощи *(По Д. Тиндалю)*.

Запішыце словазлучэнні з дзеепрыметнікамі з тэксту і іх адпаведнікі ў беларускай мове.

Перакажыце тэкст (вусна) па-беларуску.

**98.** Прачытайце. Вызначце стыль і тып тэксту, адзначце характэрныя для гэтага стылю моўныя сродкі. Зрабіце пісьмовы пераклад тэксту на беларускую мову. Падкрэсліце дзеепрыметнікі і дзеепрыметнікавыя звароты як члены сказа.

Учитель Иваницкий, человек молодой, но необыкновенно серьёзный, идёт, чтобы ещё раз повидаться с Таганком.

Древен он, как говорят в Козельщине: ему сто восемь, он знаменитость.

Учителя волнуют странные мысли: подумать только — при Таганке прошёл один из самых замечательных веков! Сколько было за этот век переворотов, открытий, войн, сколько жило, славилось и умерло великих людей! А он никогда понятия не имел обо всём этом. Целых сто лет видел он только эти коноплянники! И сидит он так смиренно, так неподвижно. Опустил плечи, сложил на худых коленях чёрные, высушенные за столетие руки, перекрестил искривлённые работой пальцы. Из-под надвинутой шапки видны концы редких бровей, устало приподнятых. Выцветшие глаза ничего не выражают. Он, этот столетний человек, ещё слышит, видит, помнит всё, что нужно сделать по дому, знает, где что лежит... И всё же он в забытьи, в мире своих далёких воспоминаний *(И. Бунин)*.

**Слоўнік:**

*замечательный* — ***надзвычайны, цудоўны, выдатны, слаўны;***
*сделать по дому* — ***зрабіць па гаспадарцы;***

*славиться* — ***славіцца;***
*смиренно* — ***пакорна, пакорліва; ціха, ціхмяна;***
*странный* — ***дзіўны.***

З якой мэтай аўтар звяртаецца да апісання знешнасці свайго героя? На якіх дэталях ён засяроджвае нашу ўвагу? З якой мэтай? Якія моўныя сродкі выкарыстоўвае аўтар у мастацкім апісанні знешнасці старога?

Якую ролю ў апісанні выконваюць дзеепрыметнікі?

## § 12. Правапіс *не (ня)* з дзеепрыметнікамі

***Не (ня)*** з поўнымі дзеепрыметнікамі пішацца:

**разам,** калі дзеепрыметнікі не маюць пры сабе залежных слоў: *незакончанае сачыненне; нявы́кананае заданне; недабудава́ны дом, нязжа́тае поле*;

**асобна,** калі дзеепрыметнікі маюць залежныя словы або супрацьпастаўленне са злучнікам ***а***: *не закончанае* (к і м?) ***вучнем*** *сачыненне; не закончанае,* ***а*** *толькі пачатае сачыненне; не зжатая* (ч ы м?) *камбайнам.*

З кароткімі дзеепрыметнікамі ***не*** пішацца **асобна:** *сачыненне не напісана; дом не пабудаваны; трава не скошана.*

**99.** Прачытайце трапныя выслоўі і загадкі. Прааналізуйце напісанне ***не (ня)*** з дзеепрыметнікамі.

1. Недачытаная кніга ўсё роўна што незакончаны шлях.
2. Рыпіць, як кола нямазанае.
3. З незабітага ліса футра не пашыеш.
4. На лбе ні ў кога не напісана, які ён.

ЗАГАДКІ З РОДНАЙ ХАТКІ

1. Не шыта, не кроена, а ўся ў рубцах.

2. Шапачка маленькая, камізэлька* нятканая, кафтанік рабенькі, ды ходзіць босенькі.

3. На нязмераным полі жывёла незлічоная, а пастух рагаты.

**Вымаўляй правільна:** **[н′а] шы́та, [н′а] кро́ена.**

**Пішы:** ***не шыта, не кроена.***

**100.** Прачытайце тэкст. Растлумачце напісанне дзеепрыметнікаў з ***не (ня)***.

Надта ж мяккі быў. Не можа ён нічога чалавеку насуперак сказаць... Гатоў кінуць **някошаную** сенажаць, **нязгрэбенае** сена, кінуць **нязвезенае** жыта, а ўкруціць цымбалы ў абрус, сесці чалавеку на воз, калі той па яго здалёк прыехаў, дый махнуць з Баркаўцоў *(Л. Калюга)*.

Дапоўніце дзеепрыметнікі залежнымі словамі, а потым утварыце кароткую форму.

У з о р: *ненапісанае сачыненне — не напісанае вучнем сачыненне, сачыненне не напісана.*

**101.** Спішыце, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары і знакі прыпынку. Растлумачце напісанне ***не (ня)*** са словамі.

Кусты шыпшыны трапляюцца на схілах яроў ды на ўзгорках ніколі *(н..)* араных. У калюч..м сярэбраным голлі яшчэ ўсё трымаюцца **заінелыя, зморшчаныя** ягады.

...Успамінаюцца радкі:

«О Беларусь, мая шыпшына!..»

Воўчы след. Ш..ры прайшоў над абрывам і спусціўся ў яр*, грузнучы на *(н..)* заскарыненым снезе.

На дне яра з..л..навата-сінімі плямамі пракідаецца яшчэ *(н..)* пераможаны снегам л..док *(н..)* утаймаванай крыніцы.

Высока на поўдні — пакуль што *(н..)* спелы, бледны акраец месяца *(Я. Брыль)*.

● Падбярыце аднакаранёвыя словы да слова *снег.*

З дапамогай прыстаўкі ***не*** зрабіце прымету паводле дзеяння ў выдзеленых дзеепрыметніках супрацьлеглай. Запішыце выразы, каб ***не*** з гэтымі дзеепрыметнікамі пісалася разам і асобна.

**102.** Перакладзіце сказы на беларускую мову. Растлумачце напісанне ***не (ня)*** з дзеепрыметнікамі. Параўнайце правапіс ***не*** з дзеепрыметнікамі ў беларускай і рускай мовах.

Не выходи на улицу в нечищенной обуви. Не носи мятый костюм, невыглаженные рубашку, галстук. Не играй на улице дотемна, если уроки не подготовлены. Не позволяй себе лениться, не откладывай невыученное стихотворение на потом.

**103.** Прачытайце тэкст. Задайце ўдакладняльныя пытанні па змесце і адкажыце на іх. Растлумачце напісанне ***не*** са словамі.

АХІЛЕСАВА ПЯТА

Паводле міфа, марская багіня Фетыда, каб зрабіць свайго сына Ахілеса *(не)* смяротным, акунула малога ў свяшчэнную ваду падземнай[сл] ракі Стыкс. Цела Ахілеса стала пасля гэтага *(не)* паражальным. Толькі пятка, за якую, апускаючы ў ваду, трымала маці сына, засталася адзіным *(не)* абароненым месцам. Ахілес быў забіты стралой, якая трапіла менавіта ў пяту. Вось таму выраз «ахілесава пята» азначае ‘найбольш слабае, паражальнае месца’ *(«Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў»)*.

**104.** Прачытайце табліцу. Падрыхтуйце на яе аснове паведамленне на лінгвістычную тэму «Правапіс ***не (ня)*** з дзеепрыметнікамі». Падмацуйце сваімі прыкладамі кожнае сцвярджэнне табліцы.

**Правапіс *не (ня)***
**з дзеепрыметнікамі**

| Разам | Асобна |
|---|---|
| • з поўнымі дзеепрыметнікамі, калі няма залежных слоў і супрацьпастаўлення | • з кароткімі дзеепрыметнікамі; • з поўнымі дзеепрыметнікамі, якія маюць пры сабе залежныя словы або супрацьпастаўленне |

**105.** Спішыце, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце напісанне ***не (ня)*** з дзеепрыметнікамі.

1. Гэта была звычайная вясковая хата. Вялізны, даўно *(н..)* габляваны* стол, шырокія лавы, цемнаваты Спас на покуці* *(У. Караткевіч)*. 2. Раскашавала мокрая лаза, дымелі цяжкія *(н..)* кошаныя травы *(У. Караткевіч)*. 3. Была вясна, было пуставата на градах, яшчэ ні разу *(н..)* полатых, падзеленых роўнымі, яшчэ *(н..)* вытаптанымі баразнамі *(М. Стральцоў)*.

● Падбярыце аднакаранёвыя словы да слова *покуць*.

**106.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Пастаўце неабходныя знакі прыпынку ў сказах з дзеепрыметнікавымі зваротамі. Растлумачце правапіс ***не (ня)*** з дзеепрыметнікамі.

Хлопец з намаганнем расплюшч..ў вочы, і першае, што ўбачыў, была ярка-чырвоная кветка нахіленая ў бок св..тла. Міл..ёны іх *(не)* таптаных нагой чалавека ўзгадаваных вялікай шчодра..цю прыроды імкнуліся на прастор гэтага затуленага гарамі лугу. Далёка за далінай сн..гавымі разводамі сінеў усё той жа высач..зны Мядзведжы хрыбет *(не)* заслонены цяпер нічым. Мусіць, ён быў куды выш..йшы за пройдзены *(Паводле В. Быкава)*.

## § 13. Мастацкае апісанне знешнасці чалавека



Апісанне знешнасці чалавека, як і іншыя віды апісання, можа быць афіцыйным, навуковым і мастацкім.

**107.** Прачытайце ўрыўкі. Пра што ў іх гаворыцца? Да якога тыпу маўлення яны належаць? Калі выкарыстоўваюцца? Вызначце стыль гэтых урыўкаў.

I. На тэрыторыі Беларусі выдзелены два тыпы людзей. Беларусы паўночна-заходняга, паўночнага і паўночна-ўсход-

няга раёнаў рэспублікі маюць сярэдні рост, светлы колер скуры, вачэй і валасоў, сярэднешырокі нізкалобы твар з прамой або ўвагнутай спінкай носа і сярэднегустой барадой і належаць да беламорска-балтыйскай ра́сы еўрапеоіднай вялікай ра́сы. Беларусы Палесся маюць больш цёмны колер вачэй і валасоў, больш прамую спінку носа і належаць да сярэднееўрапейскай ра́сы еўрапеоіднай вялікай ра́сы *(БелСЭ)*.

II. Дзед расказвае глухім і суровым голасам. Ён сядзіць, апіраючыся жылістымі рукамі і барадой на сукаваты кій, згорблены, худы, з рэдкімі белымі валасамі. Побач з дзедам русая дзяўчына, год сямнаццаці, з ямачкамі на шчоках, з вачыма незвычайнай сінявы — яго праўнучка *(В. Каваль)*.

III. Згубілася двухгадовая дзяўчынка. Завуць Валя. Апранута ў белую сукенку з сінімі палоскамі. На галаве белая панама. На правай шчацэ бліжэй да вуха невялікая радзімая пляма. Хто ведае, дзе знаходзіцца дзяўчынка, просім паведаміць...

**Мастацкае апісанне знешнасці** — гэта адлюстраванне выгляду чалавека: рыс яго твару, фігуры, мімікі, паставы, адзення. Выкарыстоўваецца пісьменнікамі звычайна як адзін са сродкаў характарыстыкі героя. Мова такога апісання вобразная, эмацыянальная, насычаная эпітэтамі, параўнаннямі, метафарамі; пераважаюць поўныя формы прыметнікаў і дзеепрыметнікаў у пазіцыі перад назоўнікам: *ясныя шэрыя вочы, коратка падстрыжаныя валасы* і г. д.

**108.** Прачытайце азначэнні са «Слоўніка эпітэтаў беларускай мовы» Н. В. Гаўрош. Выберыце з іх тыя, якія абазначаюць аб’ектыўныя прыметы і могуць быць выкарыстаны ў любым стылі маўлення.

В о ч ы: блакітныя, вільготна-цёмныя, вільготныя, вішнёва-чорныя, залатыя, калючыя, карыя, незвычайна ясныя,

светлыя, сінія, чорныя, чысцютка-сінія, шэра-сінія, шэрыя, шэрыя з зелянінкай, яркія, ясныя, амаль бясколерныя, выцвілыя, пабляклыя, празрыстыя.

Т в а р: белы, румяны, светлы, смуглы, без адзінай крывінкі, бледнаваты, бледны, жоўты ад загару і рабаціння, спалатнелы, шэры, круглявы, прадаўгаваты, тонкі, шырокі, востры, сухі, зашчацінелы, маленькі, схуднелы, хмуры.

П о з і р к: глыбокі, светлы, адкрыты, мужны, дзікі, злы, ледзяны, насцярожаны, нервовы, нерухомы, неспакойны, пануры, халодны, цяжкі, поўны яснай, мудрай глыбіні.

Назавіце словы, з дапамогай якіх можна апісаць знешнасць: а) чалавека вясёлага, з пачуццём гумару; б) чалавека суровага.

**109**. Прачытайце. Абгрунтуйце, што тэкст адпавядае тыповай схеме апісання.

Найпрыгажэйшы чалавек бывае тады, калі ён не ведае пра гэта, калі ён не бачыць самога сябе. На жаль, нават часцей за ўсё тады, калі яго ніхто не бачыць.

А дзед быў прыгожы.

Без шапкі, у шэрай, расхрыстанай на сухіх, загарэлых грудзях кашулі. Упёршыся худымі і пругкімі нагамі ў рабрыну вялікай лодкі, ён паволі пагойдваўся ўперад-назад, рытмічна ўзмахваў цяжкімі вёсламі. Белы маршчыністы лоб над загарэлымі скуламі шчодра акроплены потам. Сівыя валасы, прычасаныя перад ад’ездам у людзі, зноў растрэсліся, прынялі свой звычайны беспарадак.

Прыгожы быў позірк светла-блакітных вачэй пад густымі сівымі брывамі, вачэй адкрытых і чыстых, як само бясхмарнае неба. Прыгожы быў і ўвесь гэты малюнак: вялікая чорная лодка на вадзяной пустыні, а ў лодцы — дзед... *(Паводле Я. Брыля)*.

Якая асноўная думка тэксту?

Што вылучае аўтар у знешнасці героя?

Якім бачыцца вам гэты чалавек? Як апісанне знешнасці дапамагае аўтару раскрыць характар героя?

Якімі мастацкімі сродкамі карыстаецца аўтар пры апісанні знешнасці?

**110.** Напішыце сачыненне з элементамі апісання знешнасці чалавека. Дайце загаловак свайму тэксту, каб перадаць яго асноўную думку.

**Схема апісання знешнасці чалавека**

1. Уступ, які перадае асноўную думку апісання.
2. Галоўная частка, у якой раскрываецца асноўная думка. Састаўныя часткі апісання знешнасці:
   а) фігура, пастава, выгляд, валасы, вочы, нос, рот і г. д.;
   б) дзеянні (рухі), звязаныя з характарыстыкай састаўных частак апісання;
   в) характарыстыка чалавека, знешнасць якога апісваецца.
3. Канцоўка — вывад пра таго, хто апісваецца.

## ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА

### Кантрольныя пытанні і заданні

1. Што называецца дзеепрыметнікам?
2. Якія граматычныя прыметы дзеяслова і прыметніка мае дзеепрыметнік?
3. Што такое дзеепрыметнікавы зварот? Як ён выдзяляецца ў вусным маўленні і на пісьме?
4. Што маюць агульнага і чым адрозніваюцца поўныя і кароткія дзеепрыметнікі?
5. Раскажыце пра ўтварэнне і ўжыванне дзеепрыметнікаў незалежнага і залежнага стану ў беларускай мове.
6. Якія дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу ўтвараюцца з дапамогай суфікса ***-н-***, а якія — з дапамогай суфіксаў ***-ан-*** і ***-ен-***. Прывядзіце прыклады.
7. Як пішацца ***не (ня)*** з дзеепрыметнікамі?
8. Раскажыце пра сэнсава-стылістычную ролю дзеепрыметнікаў.
9. Запішыце тры пары прыкладаў, у якіх ***не (ня)*** з дзеепрыметнікамі пішацца разам і асобна.
10. Утварыце ад прыведзеных дзеясловаў адпаведныя дзеепрыметнікі, запішыце іх: *адаслаць, зламаць, разбудзіць, счарнець*. Абазначце суфіксы ў дзеепрыметніках.

**111.** Выкарыстоўваючы адказы на кантрольныя пытанні, падрыхтуйце лінгвістычнае паведамленне на тэму «Дзеепрыметнік у беларускай мове». Састаўце складаны план свайго выказвання і раскажыце паводле плана.

## Марфалагічны разбор дзеепрыметніка

П а р а д а к  р а з б о р у

1. Часціна мовы (дзеяслоўная форма). Агульнае значэнне.

2. Марфалагічныя прыметы: пачатковая форма (назоўны склон адзіночнага ліку мужчынскага роду); стан, трыванне, час; поўная або кароткая форма, лік, род, склон (для поўных дзеепрыметнікаў).

3. Сінтаксічная роля.

У з о р  р а з б о р у

*Заснуў пасёлак анямелы, даўно патушаны агні* (Я. Колас).

### ***Вусны разбор***

*Анямелы (пасёлак)* — дзеяслоўная форма — дзеепрыметнік, абазначае прымету паводле дзеяння; пачатковая форма — *анямелы*; незалежнага стану, закончанага трывання; прошлага часу, поўны; ужыты ў форме адзіночнага ліку, мужчынскага роду, назоўнага склону; у сказе з'яўляецца азначэннем.

*Патушаны (агні)* — дзеяслоўная форма — дзеепрыметнік, абазначае прымету паводле дзеяння; пачатковая форма — *патушаны*; залежнага стану, закончанага трывання; прошлага часу, кароткі; ужыты ў множным ліку; у сказе з'яўляецца выказнікам.

### ***Пісьмовы разбор***

*Анямелы (пасёлак)* — дзеяслоўная форма — дзеепрыметнік, абазначае прымету паводле дзеяння; *анямелы*; незал. ст., зак. трыв., пр. ч.; поўны; у адз. л., м. р., Н. скл.; азначэнне.

*Патушаны (агні)* — дзеяслоўная форма — дзеепрыметнік, абазначае прымету паводле дзеяння; *патушаны*; зал. ст., зак. трыв., пр. ч.; кароткі; у мн. л.; выказнік.

**112.** Прачытайце тэкст, вызначце яго асноўную думку. Зрабіце марфалагічны разбор дзеепрыметнікаў з тэксту (двух — пісьмова, астатніх — вусна).

АБЕЛІСК



Гэта быў прысадзісты бетонны абеліск* за штыкетнаю абгародкаю, проста і без лішняй выдумкі змайстраваны рукамі нейкіх мясцовых умельцаў. Выглядаў ён болей чым сціпла, калі не сказаць бедна, цяпер нават у вёсках ставяць куды прыгажэйшыя помнікі. Праўда, пры ўсёй яго несамавітасці* не было ў ім і знаку закінутасці, хутчэй наадварот. Колькі я яго памятаў, заўжды ён выглядаў старанна прыбраным і дагледжаным: у доле было чыста падмецена, пасыпана свежым пясочкам, а на невялічкай, абкладзенай цаглянымі ражкамі клумбачцы сціпла і прыгожа стракацела штосьці з запозненай кветкавай драбнаты. Гэты трохі вышэйшы за чалавечы рост абеліск за якіх дзесяць гадоў ужо некалькі разоў мяняў свой колер: быў то беласнежны, белены перад святамі вапнаю, то зялёны, пад колер салдацкіх прыладаў і зброі... Цяпер жа ён быў проста шэры, і, мусіць, з усіх іншых колераў гэты найболей ішоў да яго[ф] аздобы. Абеліск мяняў сваё аблічча, нязменнай заставалася толькі чорная металічная шыльдачка на баку з пяццю імёнамі на ёй *(В. Быкаў).*

Дзе і каму пастаўлены помнік? Чаму гэты сціплы помнік называецца абеліскам?

Выпішыце з тэксту дзеепрыметнікі і дзеепрыметнікавыя звароты разам са словамі, якія яны паясняюць.

Апішыце (вусна) помнік, выкарыстаўшы дзеепрыметнікі і дзеепрыметнікавыя звароты з тэксту.

**113.** Прачытайце. Знайдзіце сказ, у якім выражана асноўная думка тэксту. Падрыхтуйцеся пісаць пад дыктоўку.

Недзе там, за пустыняй, за морам, была другая зямля. І ён не мог без яе. Яе не было тут, але яна была.

З атлусцелымі панамі, з бяздушнымі ўладарамі душ, са спаласаванымі мужыкамі, з апляванай і забароненай мовай.

Але яшчэ і з паплавамі, і з сінімі вербалозамі на берагах рэк. Няхай няшчасная, няхай забітая і абылганая, але свая, найлепшая ў свеце, сіняя, чыстая, як першае каханне... *(У. Караткевіч).*

Абазначце суфіксы ў дзеепрыметніках.

Зрабіце марфалагічны разбор двух дзеепрыметнікаў з тэксту (на выбар).

**114.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову (вусна), звяртаючы ўвагу на дзеепрыметнікі залежнага стану.

Выпішыце з тэксту дзеепрыметнікі разам з паяснёнымі назоўнікамі (пры неабходнасці пастаўце іх у назоўным склоне), запішыце побач з імі беларускія адпаведнікі, суфіксы абазначце.

ГИАЦИНТЫ

Это случилось в Голландии в 1734 году. Однажды дети играли на берегу моря. Вдруг кто-то заметил почти у самого берега никогда не виданный цветок. У него были такие же листья, как у тюльпана, и весь усеянный множеством красных цветочков стебель. Цветы чудесно пахли и были похожи на маленькие лилии.

Дальше на берегу нашли ещё несколько проросших луковиц этого растения. Как они сюда попали? Вспомнили, что в прошлом месяце во время бури разбился генуэзский корабль, прибитые к берегу обломки которого видели многие. Видимо, ящики с луковицами разбились о прибрежные скалы, а несколько луковиц, выброшенных на берег, пустили корни и зацвели.

Жители выкопали эти растения и стали разводить их в своих садах. Случайно занесённые морем растения назывались гиацинтами *(По Н. Верзилину).*

**Слоўнік:**

*видимо* — ***відаць, мабыць, мусіць, пэўна, напэўна;***

*гиацинты* — ***гіяцынты;***

*заметить* — ***заўважыць, прыкмеціць, убачыць;***
*луковица* — ***цыбуліна;***
*множество* — ***мноства, безліч;***
*обломки* — ***абломкі;***
*такие же* — ***такія самыя;***
*усеянный* — ***усеяны, усыпаны;***
*чудесно* — ***цудоўна; дзівосна; чарадзейна.***

## Тэматычная праверачная работа

Прачытайце тэкст.

Ноч. Зіма. У хаце ўсе спяць. Я чытаю... Зашмальцаван.. томік Жуля Верна, дадатак да старой «Нівы», мне адпушчаны толькі на адну ноч. Заўтра кніжку будзе чытаць іншы. Ахвотнікаў многа, а кніга рэдкая, у бібліятэцы яе не возьмеш.

У коміне вые і стогне вецер, і гэта найлепшы акампанемент для чытання. У кнізе таксама шалее акіян, раз'юшан.. хвалі вось-вось перакінуць звязан.. з паламан.. мачтаў плыт, на якім бясстрашныя падарожнікі. Але людзі плывуць. Іх вядзе ў *(не)* бачаны свет нейкая *(не)* стрымная прага да новага, *(не)* зведанага, нікім *(не)* апісанага жыцця. Вось ужо мрояцца ў сінім тумане няпэўныя абрысы далёкага берага. Што гэта? Востраў, мацярык ці, можа, проста міраж знясілен.. ад голаду і смагі людзей? Страшна перагарнуць наступную старонку. А што, калі зноў расчараванне, калі новыя сотні міль па салёных, разбушаван.. хвалях, без пітва, без яды?

За адну ноч пражыта некалькі жыццяў. І яны западуць у сэрца водгуллем сваіх радасцей і гора, сваіх узлётаў і падзенняў.

Сіняваты зімовы ранак просіцца ў акно, і я развітваюся з героямі Жуля Верна. Я люблю іх, люблю іх дапытлівы розум і добрае сэрца. Яны адкрылі новы востраў, і іх радасці мне хопіць на тое, каб, паспаўшы якую-небудзь гадзіну, ускочыць бадзёрым і вясёлым *(І. Навуменка)*.

## Дадатковыя заданні

*I варыянт*

1. Вызначце і запішыце стыль тэксту. Дайце тэксту загаловак, які перадаваў бы яго тэму.

2. Выпішыце з тэксту дзеепрыметнікі, дапішыце канчаткі, абазначце суфіксы. Запішыце побач з дзеепрыметнікамі дзеясловы, ад якіх яны ўтвораны.

3. Знайдзіце ў тэксце і выпішыце сказ, у якім дзеепрыметнікавы зварот стаіць перад назоўнікам, які ён паясняе. Перабудуйце сказ так, каб дзеепрыметнікавы зварот стаяў пасля назоўніка. Падкрэсліце дзеепрыметнікі і дзеепрыметнікавыя звароты як члены сказа.

4. Зрабіце марфалагічны разбор дзеепрыметніка з першага абзаца (на выбар).

*II варыянт*

1. Вызначце і запішыце стыль тэксту. Дайце тэксту загаловак, які перадаваў бы яго асноўную думку.

2. Выпішыце з тэксту словазлучэнні «дзеепрыметнік + назоўнік», дапісваючы канчаткі дзеепрыметнікаў і раскрываючы дужкі з ***не***.

3. Знайдзіце ў тэксце і выпішыце сказ, у якім дзеепрыметнікавы зварот стаіць перад назоўнікам, які ён паясняе. Перабудуйце сказ так, каб дзеепрыметнікавы зварот стаяў пасля назоўніка. Падкрэсліце дзеепрыметнікі і дзеепрыметнікавыя звароты як члены сказа.

4. Зрабіце марфалагічны разбор дзеепрыметніка з другога абзаца (на выбар).

# ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ

## § 14. Дзеепрыслоўе як асобая форма дзеяслова

**115.** Прачытайце і параўнайце сказы.

1. **Прыгорбіўся,** ціха і асцярожна **патэпаў** жораў. Калі **адышоўся** трохі, **узляцеў, паплыў** над кустамі.

2. **Прыгорбіўшыся,** ціха і асцярожна **патэпаў** жораў. Трохі **адышоўшыся,** ён **узляцеў, паплыў** над кустамі *(А. Бялевіч)*.

Назавіце граматычныя асновы сказаў. У якіх сказах выдзеленыя словы абазначаюць аднародныя дзеянні, а ў якіх неаднародныя: адно — асноўнае, а другое — дадатковае?



Дадатковае дзеянне выражана словамі *прыгорбіўшыся, адышоўшыся.* Гэта дзеепрыслоўі.

**Дзеепрыслоўе** — дзеяслоўная форма. Дзеепрыслоўе мае прыметы дзеяслова і прыслоўя.

Як і дзеяслоў, дзеепрыслоўе бывае закончанага ці незакончанага трывання *(напісаўшы сачыненне — пішучы сачыненне)*, можа быць незваротным і зваротным *(збіраўшы — збіраўшыся)*.

Залежнае слова — назоўнік ці займеннік — ставіцца пры дзеепрыслоўі ў тым самым склоне, што і пры дзеяслове, ад якога гэта дзеепрыслоўе ўтворана, напрыклад: *прачытаць* (п р а ш т о?) *пра поспехі* (В. скл.) — *прачытаўшы* (п р а ш т о?) *пра поспехі* (В. скл.).

Як і прыслоўе, дзеепрыслоўе не змяняецца — не скланяецца і не спрагаецца.

У сказе дзеепрыслоўе звычайна бывае акалічнасцю і адказвае на пытанні я к? я к і м ч ы н а м? к а л і? ч а м у? і інш.

Што маюць агульнага і чым адрозніваюцца дзеепрыслоўі і дзеясловы, дзеепрыслоўі і прыслоўі?

**Дзеепрыслоўе** — нязменная дзеяслоўная форма, якая абазначае дадатковае дзеянне і паясняе дзеяслоў-выказнік.

Дзеепрыслоўі бываюць закончанага і незакончанага трывання, могуць быць зваротныя і незваротныя. Дзеепрыслоўе не змяняецца.

У сказе дзеепрыслоўе з'яўляецца акалічнасцю.

!

Дзеепрыслоўе — вельмі распаўсюджаная, сціслая, выразная форма, уласцівая пераважна пісьмовай літаратурнай мове. Ужыванне яго абумоўлена імкненнем вылучыць галоўнае дзеянне, падкрэсліць яго дэталі і зрабіць усю фразу больш цэласнай і сціслай *(М. Цікоцкі)*.

**116.** Прачытайце тэкст. Якія з выдзеленых слоў абазначаюць асноўныя дзеянні, а якія — дадатковыя? З якой мэтай аўтар увёў дадатковыя дзеянні?

**Падняўшы** каўнер і **прыгнуўшыся**, Лабановіч **спусціўся** з ганка. На вуліцы снегу было мала. Вецер **гнаў** яго, як па жолабе, **шліфуючы** вуліцу і **робячы** яе слізкай. На сярэдзіне вецер падхапіў настаўніка і панёс уздоўж вуліцы. Лабановіч **прысеў** на кукішкі, **падставіўшы** ветру спіну, і некалькі крокаў праехаўся, як на санках. Кватэра пісара засталася ззаду. Вецер загнаў Лабановіча ў гурбу, дзе ён знайшоў апору і спыніўся. Настаўнік папікнуў сябе за легкадумнасць. Ён павярнуў назад, насустрач ветру, які забіваў дыханне, хвастаў снегам па твары, як венікам.

«А ўсё ж такі дайду!» — сказаў Лабановіч сам сабе і накіраваўся ў бок пісаравай кватэры.

Абсыпаны снегам, як мельнік мукою, **барукаючыся** з ветрам, часамі **ўступаючы** яму, часамі **пераадольваючы** яго, настаўнік нарэшце **ўзлез** на валасны ганак *(Я. Колас)*.

×

Выпішыце з тэксту словазлучэнні «дзеяслоў + дзеепрыслоўе». Пастаўце пытанні ад галоўнага слова да залежнага.

Карыстаючыся табліцай, назавіце прыметы дзеяслова і прыслоўя ў дзеепрыслоўях.

| Прыметы дзеяслова | Прыметы прыслоўя |
| --- | --- |
| 1) мае закончанае ці незакончанае трыванне;<br>2) можа быць зваротным ці незваротным;<br>3) захоўвае кіраванне залежнымі словамі;<br>4) мае агульнае лексічнае значэнне з дзеясловамі | 1) не змяняецца (не спрагаецца і не скланяецца);<br>2) з'яўляецца ў сказе акалічнасцю |

**117.** Дапоўніце прыказкі патрэбнымі дзеепрыслоўямі (або дзеепрыслоўямі з залежнымі словамі).

1. Рыбы не зловіш ... . 2. ..., розуму не прыдбаеш. 3. Не кажы «гоп» ... . 4. ..., не сунься ў ваду. 5. ..., па валасах не плачуць.

Д л я д а в е д к і: *гуляючы, не пераскочыўшы, не намачыўшыся, зняўшы галаву, не знаючы броду.*

**118.** Прачытайце тэкст, вызначце яго асноўную думку і дайце загаловак. Звярніце ўвагу на тое, хто выконвае асноўнае і дадатковае дзеянні.

З першымі тактамі «Ветрыку» Дубатоўк стукнуў абцасамі і пайшоў трайным крокам, то з правай, то з левай нагі. Рухаўся ён нечакана лё*(г/х)*ка, спачатку прыстукваючы абцасамі пасля кожных трох крокаў, а пасля проста так, на цыпках. А поруч з ім плыла яна, і вэлюм яе віўся ў паветры.

Пасля яны круціліся, плылі, то зблізаючыся, то а*(д/т)*даляючыся, то перасякаючы адзін аднаму шлях. Гэта быў сапраўдны «Ветрык», які паступова пераходзіў у буру, і вось ужо толькі круціўся ў паветры вэлюм[л], мільгацелі ногі...

Раптам Дубатоўк памчаўся напера*(д/т)*, грукаючы абцасамі і стукаючы нагой аб нагу. А поруч плыла яна, лё*(х/г)*кая, усмешлівая, вялікасная.

Гэта было сапраўднае дзіва, нябачаны цу*(д/т)*, два чалавекі стваралі пера*(т/д)* намі гэтую ка*(с/з)*ку *(Паводле У. Караткевіча).*

Знайдзіце ў тэксце і прачытайце, як танцаваў Дубатоўк. Замяніце ў сказах дзеепрыслоўі дзеясловамі, запішыце сказы парамі. Параўнайце іх сэнс і стылістычнае значэнне.

● Растлумачце выбар зычнай, што ў дужках.



Асноўнае дзеянне, выражанае дзеясловам-выказнікам, і дадатковае, выражанае дзеепрыслоўем, абавязкова выконвае адна і тая асоба (ці прадмет).

**119.** Складзіце сказы, выбіраючы з двух варыянтаў той, у якім дзеепрыслоўе сэнсава спалучаецца з дзейнікам.

Карыстайцеся прыёмамі самаправеркі:

1) перабудова сказа: замена дзеепрыслоўя дзеясловам і злучэннем аднародных выказнікаў злучнікам ***і***: *чытаў, думаючы — чытаў і думаў*;

2) перастаноўка дзеепрыслоўя бліжэй да дзейніка: дзеепрыслоўе адносна свабодна размяшчаецца ў сказе і сэнсава звязваецца з дзейнікам.

1. Убачыўшы на стале новенькі ранец, ... . [а) сэрца ў Сяргейкі затахкала мацней; б) Сяргейка ледзь не заскакаў ад радасці]

2. ..., не прыхарошваючы яго. [а) пісьменнік паказаў нам сапраўднае жыццё; б) жыццё паказана ў аповесці такім, як яно ёсць у сапраўднасці]

3. Чытаючы новую аповесць, ... [а) у хлопчыка ўзніклі пытанні пра яе назву; б) хлопчык шмат думаў пра яе назву]

4. ..., знаходзячыся ў няволі? [а) якія думы агортвалі паэта; б) пра што марыў паэт]

**120.** У якіх сказах дапушчаны памылкі пры ўжыванні дзеепрыслоўя? Спішыце сказы, выпраўляючы памылкі (там, дзе яны ёсць).

Карыстайцеся адным са спосабаў:

1) перабудова асновы сказа;

2) замена дзеепрыслоўя з залежнымі словамі даданай часткай сказа са словам *калі.*

1. Пры..шоўшы ў школу, я сустрэў па дарозе свайго брата. 2. Праязджаючы па вёсц.., сям-там траплялiся пустыя хаты. 3. Заняўшыся гульн.., дзецiФ не заўважылi настаўнiка. 4. Вярнуўшыся дадому, пайшоў дож.. . 5. Прачытаўшы кнiгу, яна здалася мне вельмi цiкавай. 6. Некаторыя хлопч..кi, расклаўшы мальберты*, пачалi малявац.. . 7. Знаходзячыся ў няволi, сумн.. думы агортвалi паэта.

Выпiшыце са сказаў прыметнiкi, ад якiх могуць утварацца ступенi параўнання.

**121.** Прачытайце тэкст. Выпiшыце дзеепрыслоўi, назавiце ў iх прыметы дзеяслова i прыслоўя.

СПАЛIЦЬ ЗА САБОЙ МАСТЫ

Гiсторыя войнаў i паходаў ведае нямала выпадкаў, калi, пераправiўшыся на другi бок ракi, палкаводцы спальвалi за сабой масты, тым самым паказваючы салдатам, што назад дарогi няма i што наперадзе толькi рашучая i пераможная барацьба або смерць. Захавалася паданне, што менавiта так зрабiў Дзмiтрый Данскi напярэдаднi Кулiкоўскай бiтвы.

Выраз азначае «рашуча парваць з мiнулым, не мець магчымасцi вярнуцца да яго» *(«Этымалагiчны слоўнiк фразеалагiзмаў»)*.

Складзiце i запiшыце сказы з прыведзеным выразам.

## § 15. Правапiс *не* з дзеепрыслоўямi

**122.** Прачытайце прыказкi. Параўнайце правапiс ***не*** з дзеепрыслоўямi i дзеясловамi.

1. Не паспытаўшы, не пазнаеш смаку. 2. Не пераскочыўшы, не кажы гоп. 3. Не паклаўшы, не возьмеш. 4. Не запрогшы, не паедзеш. 5. Не пазнаўшы бяды, дабра не ўчуеш. 6. Не пачаўшы, не скончыш. 7. Не згубiўшы, не шукай.

Завучыце на памяць тры прыказкi (на выбар). Запiшыце iх па памяцi, падкрэслiце ***не*** з дзеепрыслоўямi.



***Не*** з дзеепрыслоўямі пішацца звычайна **асобна.**

Некаторыя дзеепрыслоўі без ***не*** не ўжываюцца, таму пішуцца з ***не*** **разам:** *непакоячыся, ненавідзячы.*

Разам пішуцца дзеепрыслоўі з прыстаўкай ***неда-***: *недавыканаўшы, недацягваючы.*

**123.** Выпішыце спачатку дзеясловы, потым дзеепрыметнікі, а затым дзеепрыслоўі. Вызначце, чым з'яўляецца ў словах і спалучэннях ***не***.

Не адчуваў радасці, не адчуваючы радасці, непакоячыся пра сына, незакончаная аповесць, не залежаць ад некага, незалежны народ, сачыненне не закончана, ненавідзець ворага, не дачакаўшыся дапамогі, не чакаў дапамогі, нечаканая дапамога, не здзіўляючыся падарунку.

**124.** Запішыце тэкст, растлумачце правапіс ***не*** са словамі.

Губаты, *(не)* пакоячыся, але *(не)* адчуваючы яшчэ ніякага страху, нехаця падаўся ўслед... За брамкаю* амаль адразу пачаўся брук*, на якім ледзь *(не)* спатыкнуўся, *(не)* могучы ісці па камянях. За брукам ляжаў ***(не)* абгароджаны** выган.

Тут ляснік спыніўся і замахаў рукамі, адганяючы ласяня, але тое, зусім *(не)* спалохаўшыся, падскокнула, брыкнула заднімі нагамі і гайцанула далей, п'янеючы ад вялікай прасторы. Нічога *(не)* помнячы, *(не)* азіраючыся, мінуў ён хмызняк і памчаў у глыб лесу.

Хутка ап'яненне воляй прайшло, і ён адчуў, што шмат чаго тут *(не)* ведае, а вось леснікоў двор знае ўжо да драбніц *(Г. Далідовіч)*.

Утварыце дзеепрыметнікавы зварот з выдзеленым дзеепрыметнікам. Сказ запішыце. Ці змянілася напісанне ***не*** з дзеепрыметнікам?

● Успомніце некалькі назоўнікаў, якія абазначаюць назвы маладых істот. Запішыце іх разам з прыметнікамі ў адзіночным і множным ліку (напрыклад: *малое ласяня — малыя ласяняты*).

**125.** Выкарыстоўваючы табліцу, успомніце правілы напісання ***не*** з дзеясловам і яго формамі. Прывядзіце прыклады.

| **Дзеяслоў і яго формы** | **З *не* пішацца разам** | **З *не* пішацца асобна** |
|---|---|---|
| Дзеяслоў<br>Дзеепрыметнік<br>Дзеепрыслоўе | | |

**126.** Запішыце тэкст, дапоўніўшы яго неабходнымі выразамі з дзеепрыслоўямі.

ПРЫРУЧЭННЕ СІНІЦ

Максім карміў сініц. Нарэзаў дробненькімі кавалачкамі сала, паклаў на далонь і, ..., выставіў руку. Яго маленькая радасць — эксперымент[л] з прыручэннем сініц. Дзве з іх лёталі над галавой, ..., піскалі гучна і весела, але бліжэй не падляталі.

Максім азірнуўся. На парозе прычыненых дзвярэй ляжаў Барон, ... .

..., Максім зноў застыў з працягнутай[сл] рукой. І вось пырхнуў на руку адзін пушысты камячок, пасля — другі. Перамога! Сініцы, ..., пырхнулі на бярозу *(Паводле І. Шамякіна)*.

Для давёдкі: *выйшаўшы на ганак, прагнаўшы ката, пільна сочачы за сініцамі, пераскокваючы з галінкі на галінку, схапіўшы сала.*

Параўнайце тэкст з вучэбнага дапаможніка (з пропускамі) і запісаны вамі. Зрабіце вывад пра ролю дзеепрыслоўяў у тэксце.

## § 16. Дзеепрыслоўны зварот, знакі прыпынку

**127.** Прачытайце. Выдзеленыя звароты вымаўляйце з павышэннем тону, калі яны знаходзяцца ў пачатку ці ў сярэдзіне сказа, і з паніжэннем — калі ў канцы.

На маладой сасонцы прыхарошвалася вавёрка. **Пераскокваючы з адной галінкі на другую,** цікавала за мной. Бачыла, што я, **стаіўшы дыханне,** сачу за ёй, і нібы ста-

ралася спадабацца мне. Трымалася велічна, грацыёзна. Здаецца, яна тут адчувала сябе гаспадыняй. Я ж уздрыгваў ад кожнага выпадковага гуку, **баючыся сустрэчы з леснiком.** Вавёрка глядзела на мяне з даверам і нібы заклікала смялей трымацца. Яна скочыла на самую ніжнюю галінку, пакруцілася на ёй, а затым, **слаба піскнуўшы,** зляцела на зямлю. Хутка-хутка пабегла туды, дзе сярод лесу віднелася шырокая прагаліна *(У. Мяжэвіч)*.

Назавіце ў зваротах дзеепрыслоўі і залежныя ад іх словы, пастаўце пытанні да залежных слоў. Калі звароты выдзяляюцца коскамі?

Дзеепрыслоўе разам з залежнымі ад яго словамі ўтварае **дзеепрыслоўны зварот.** Ён з'яўляецца адным членам сказа — развітай акалічнасцю. Дзеепрыслоўны зварот і адзіночнае дзеепрыслоўе выдзяляюцца ў вымаўленні інтанацыяй і паўзамі, а на пісьме — коскамі.

!

Адзіночнае дзеепрыслоўе, якое стаіць у канцы сказа і адказвае на пытанне я к?, не выдзяляецца ў вымаўленні інтанацыяй і паўзай, а на пісьме — коскай: *Дзед ішоў дахаты* (я к?) ***не спяшаючыся***.

**Дзеепрыслоўе і дзеепрыслоўны зварот**

═══════, |— · — · — · —|.
|— · — · — · —|, ═══════.
..., |— · — · — · —|, ... .

**128.** Прачытайце прыказкі. Знайдзіце дзеепрыслоўі і вызначце, дзеянне якой асобы яны перадаюць. Выпішыце спачатку сказы з адзіночнымі дзеепрыслоўямі, а потым — з дзеепрыслоўнымі зваротамі. Пастаўце знакі прыпынку, устаўце прапушчаныя літары, дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты падкрэсліце як члены сказа.

1. Лета прагуляўшы **восе..ю** не **збяр..ш.** 2. Дрэмлючы нічога не выдрамл..ш. 3. Напрацаваўшыся да пот.. **пад'ясі** ў **ахвоту.** 4. Каля вады ходзячы намочышся, а каля агн.. — апяч..шся. 5. І ў мал.. дарогу збіраючыся бяры з сабою хлеб. 6. Махлюючы свет пройдзеш, але назад ці верн..шся?

● Назавіце пачатковую форму выдзеленых слоў.
● У якіх дзеясловах напісанне і вымаўленне не супадаюць?
Падрыхтуйце выказванне на тэму адной з прыказак (на выбар).

**129.** Падбярыце да дзеепрыслоўяў залежныя словы. Атрыманыя сказы запішыце, падкрэсліце дзеепрыслоўныя звароты як члены сказа. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Атрымаўшы (ш т о? д з е?), Пеця радасны ішоў дадому. 2. Упершыню мы праехалі ў метро, пабываўшы (д з е? к а л і?). 3. Рэчка, робячы (ш т о? д з е?), вырывалася на прастор і цякла далей павольна і спакойна.

**130.** Прачытайце тэкст. Выпішыце сказы з дзеепрыслоўнымі зваротамі, пастаўце неабходныя знакі прыпынку.

МАТЫЛЁК

Набліжаецца навальніца. Недзе далёка прабубніў гром.

На ўзлеску ўсё заварушылася. Мурашка кінуўшы свой груз пабегла хутчэй да мурашніка. Зарываючыся носам у пясок хутка прапоўз чорны жук, праляцеў чмель натужна гудучы.

Лётае на ўзлеску матылёк. Вось ён сеў на бліскуча-зялёны ліст, павёў крыльцамі, перабраў ножкамі. Не спадабалася тут — зноў затрапятаў над кветкамі.

Наляцеў віхор. Чорная хмара закрыла сонца, і адразу небасхіл разрэзалі трэшчыны маланак, задрыжэла зямля.

Тонка піскнуўшы мільганула ў гушчар сініца, сігануў у карчы заяц.

Лётае на ўзлеску матылёк. Заўважыў непадалёку пушынку — дагнаў, стукнуў яе так, што тая паляцела ўніз. Апусціўся на кветку, пакратаў ножкамі.

У гэты момант буйная кропля ўпала на крыльца. Матылёк адпіхнуўся ножкамі — хацеў узляцець. Упаў, на яго пасыпаліся новыя кроплі, прыбілі да зямлі. Ён заплюшчыў вочы... *(Паводле У. Аляхновіча).*

Параўнайце сказы з дзеепрыслоўнымі зваротамі і сказы з аднароднымі выказнікамі, у якіх перадаюцца дзеянні насельнікаў лесу. Якія з іх перадаюць большую дынамічнасць, імклівасць у развіцці

дзеяння? Якія лексічныя і граматычныя сродкі дапамагаюць перадаць гэта? Зрабіце вывад пра сэнсавую і стылістычную ролю дзеепрыслоўяў у тэкстах.

Зрабіце вусны выбарачны пераказ на тэму «Перад навальніцай» (апусціце інфармацыю пра матылька). З гэтай мэтай перачытайце ўважліва тэкст і выберыце тое, што непасрэдна адносіцца да тэмы. Ці ўвойдуць у пераказ выпісаныя вамі сказы з дзеепрыслоўямі? Якой інфармацыяй трэба іх дапоўніць?

**131.** Спішыце, пастаўце, дзе трэба, коскі.

1. Пчолка мален..кая, а жыве не гуляючы. 2. Не хваліся сеўшы, а хваліся з’..ўшы. 3. Пасаліўшы можна з’..сці. 4. Парогі паабіваў ходзячы. 5. Воўк не выб..раючы авечак бярэ.

**Вымаўляй правільна: [з′]е́ўшы, [з′]е́[с′]ці.**

**132.** Параўнайце выдзеленыя словы, вызначце, якімі членамі сказа яны з’яўляюцца і да якіх часцін мовы адносяцца.

1. Лісце на дрэвах **пажаўцела** і апала.
2. З дрэў апала **пажаўцелае** лісце.
3. **Пажаўцеўшы,** лісце апала з дрэў.

**133.** Складзіце вуснае паведамленне пра формы дзеяслова, дапоўніўшы табліцу неабходнымі звесткамі.

**Формы дзеяслова**

| План | Дзеепрыметнік | Дзеепрыслоўе |
|---|---|---|
| I. Агульнае значэнне | Абазначае... | Абазначае... |
| II. Марфалагічныя прыметы | Прыметы дзеяслова:... Прыметы прыметніка:... | Прыметы дзеяслова:... Прыметы прыслоўя:... |
| III. Сінтаксічная роля | У сказе з’яўляецца... | У сказе з’яўляецца... |

**134.** Перабудуйце сказы, замяняючы выдзеленыя дзеясловы спачатку дзеепрыметнікамі, потым дзеепрыслоўямі. Сказы запішыце. Абазначце межы зваротаў, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Падкрэсліце дзеепрыметнікавыя і дзеепрыслоўныя звароты і адзіночныя дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі як члены сказа.

1. Палеткі **апусцелі** і сумавалі без спеваў птушак. 2. Стагі **пачарнелі** ад дажджоў і снегу і выглядалі яшчэ чарней на белым полі. 3. Ягады **перамерзлі** на марозе і здаваліся яшчэ смачнейшымі. 4. Яблыкі **пераспелі** і са стукам падалі на зямлю. 5. Траву на поплаве **скасілі** і склалі ў стагі.

Параўнайце правілы выдзялення на пісьме дзеепрыметнікавага і дзеепрыслоўнага зваротаў. Якое з іх улічвае месца звароту ў сказе?

**Вымаўляй правільна:** **[жж]а́лі, апу[с′]це́лі, [с′]не́гу, [б′ас′с′]пе́ваў, пера[с′]пе́лі.**

*прыйшо́ўшы*
*адпачы́ўшы*
*прачыта́ўшы*
*спі́сваючы*
*зако́нчыўшы*

**135.** Разгледзьце малюнкі. Апішыце, што робіць хлопчык, прыйшоўшы дамоў са школы. Некалькі сказаў запішыце, выкарыстайце дзеепрыслоўі з рамкі.









⊙ **136.** Замяніце выдзеленыя выразы фразеалагічнымі зваротамі, у склад якіх уваходзяць дзеепрыслоўі. Сказы запішыце. Ці трэба выдзяляць коскамі фразеалагізмы з дзеепрыслоўямі?

1. Выступленне сваіх аднакласнікаў вучні слухалі **вельмі ўважліва.** 2. Пасля цяжкага працоўнага дня Васіль спаў **вельмі моцна.** 3. Мая маці заўсёды многа працавала, яна не любіла сядзець **нічога не робячы.** 4. Працавалі хлопцы **вельмі старанна.** 5. Міколка рэдка калі гаварыў праўду, і зараз ён зманіў **вельмі лёгка.**

Д л я д а в е д к і: *затаіўшы дыханне, склаўшы рукі, не пакладаючы рук, як пшаніцу прадаўшы, вокам не зміргнуўшы.*



У сказе дзеепрыслоўі, якія ўваходзяць у склад фразеалагізмаў (устойлівых выразаў), на пісьме коскамі не выдзяляюцца.

**137.** Выберыце і выпішыце сказы, у якіх дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты не выдзяляюцца коскамі. Абгрунтуйце свой выбар. Падкрэсліце дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты як члены сказа.

1. Снег зляжаўся, прамёрз, і толькі зрэдку лыжына правальваецца прабіваючы следзянелую скарынку *(І. Навуменка)*. 2. Васіль любіў хадзіць па лесе не спяшаючыся *(С. Давідовіч)*. 3. Антон натапырыўся і сядзеў як мыла з'еўшы *(М. Лупсякоў)*. 4. Людзі пачуўшы гэты дзіўны спеў спыняліся і задраўшы галовы намагаліся адшукаць жаваранка ў яркім вясновым блакіце *(І. Шамякін)*. 5. Маці ўжо гады тры таму перабралася з вёскі, але па-ранейшаму не можа сядзець склаўшы рукі *(А. Жук)*. 6. Адчыніце хутчэй, бо змерз зусім, на марозе стоячы... *(М. Лынькоў)*.

Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры дзеепрыслоўных зваротах у іншых сказах.

## § 17. Дзеепрыслоўі незакончанага трывання, іх утварэнне і правапіс

**138.** Прачытайце тэкст. Абгрунтуйце думку, што ён належыць да навуковага стылю. Перакажыце змест тэксту.

Дзеепрыслоўі могуць быць незакончанага і закончанага трывання.

Дзеепрыслоўе **незакончанага** трывання абазначае незакончанае дадатковае дзеянне, якое звычайна адбывалася ці адбываецца адначасова з асноўным дзеяннем, выражаным дзеясловам-выказнікам. Яно адказвае на пытанне ш т о р о б я ч ы? У сказе *Конік, напружваючыся, цягнуў цяжкі воз...* (М. Стральцоў) дзеепрыслоўе незакончанага трывання *напружваючыся* (ш т о р о б я ч ы?) абазначае незакончанае дадатковае дзеянне, якое адбывалася адначасова з асноўным дзеяннем, выражаным дзеясловам-выказнікам *цягнуў* (напружваўся і цягнуў).

Дзеепрыслоўе **закончанага** трывання звычайна абазначае закончанае дадатковае дзеянне, якое адбылося раней за асноўнае дзеянне, выражанае дзеясловам-выказнікам, ці пасля яго. Яно адказвае на пытанне ш т о з р а б і ў ш ы? У сказе *Азірнуўшыся, ён убачыў на вуліцы цяпельца...* (М. Стральцоў) дзеепрыслоўе закончанага трывання *азірнуўшыся* (ш т о з р а б і ў ш ы?) абазначае закончанае дадатковае дзеянне, якое адбылося раней за асноўнае дзеянне, выражанае дзеясловам-выказнікам *убачыў* (спачатку азірнуўся, а потым убачыў).

! Ад дзеясловаў незакончанага трывання ўтвараюцца дзеепрыслоўі незакончанага трывання, а ад дзеясловаў закончанага трывання — дзеепрыслоўі закончанага трывання.

**139.** Прачытайце тэкст. Назавіце дзеепрыслоўі, вызначце іх трыванне.

НА ЎСХОДЗЕ СОНЦА

Сонца, толькі што паказаўшыся з-за сасонніку, імкліва кацілася насустрач адзінокай ранішняй хмарцы. Яна, нібы

спалохаўшыся, што спазнілася, хутка падала ўніз і раставала ў полымі ўсходу. Полымя гэтае, праглынуўшы хмарку, паступова гасла, рассейвалася.

Пад праменямі сонца заблішчэла раса. Статак яшчэ быў на выгане, каровы прагна хапалі ля агароджы траву, нездаволена рыкаючы.[сн] Крычалі пастухі, ляскаючы пугамі і выганяючы з пасеваў увішных цёлак.

Радасна віталі новы дзень птушкі. Звінелі ў вышыні жаваранкі, мітусіліся каля шпакоўняў[с] і над стрэхамі шпакі, шукаючы спажыву. Няспынна насіліся імклівыя ластаўкі, на ляту хапаючы мошак *(Паводле І. Шамякіна)*.

**140.** Разгледзьце табліцу. Ад асноў якіх дзеясловаў і з дапамогай якіх суфіксаў утвараюцца дзеепрыслоўі незакончанага трывання?

| Аснова дзеяслова незакончанага трывання | Суфіксы дзеепрыслоўяў незакончанага трывання | Дзеепрыслоўі незакончанага трывання |
|---|---|---|
| *піш уць* | ***-учы*** | *пішучы* |
| *чыта юць (чытай уць)* | ***-ючы*** | *чытаючы* |
| *бач аць* | ***-ачы*** | *бачачы* |
| *кос яць* | ***-ячы*** | *косячы* |
| *смя юц ца (смяй уц ца)* | ***-ючы*** | *смеючыся* |

Дзеепрыслоўі незакончанага трывання ўтвараюцца ад асновы цяперашняга часу дзеясловаў незакончанага трывання з дапамогай суфіксаў ***-учы (-ючы), -ачы (-ячы)***.

**141.** Спішыце, падкрэсліце дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты як члены сказа. Пастаўце неабходныя знакі прыпынку. Назавіце дзеясловы, ад якіх утвораны дзеепрыслоўі. Вызначце іх трыванне і абазначце суфіксы, з дапамогай якіх яны ўтвораны.

1. Лезучы ў нерат не пройдзеш уперад. 2. Ідучы па кладачцы на бакі не глядзі. 3. Пытаючыся — дапытаешся,

а шукаючы — знойдзеш. 4. Седзячы нічога не выседзіш. 5. Хваляцца з кірмашу едучы. 6. Едучы бачком ні з кім не зачэпішся. 7. Зарабіў, як на валах седакоў возячы.

У якіх сказах дзеепрыслоўі не выдзяляюцца коскамі?

**Вымаўляй правільна:** **кла́да[цы], дапыта́е[с′с′а], зачэ́пі[с′с′а].**

**142.** Прачытайце тэкст, вызначце яго тэму. Знайдзіце і прачытайце сказы, якія перадаюць асноўную думку тэксту. Як гэтая думка раскрываецца ў тэксце?

У галубятніках прачнуліся ды ўстрапянуліся галубяняты. З цікаўнасцю і бояззю пачалі глядзець на двор тоўхаючыся ўперад мілымі галоўкамі.

Увішна* тэпаючы трохкутнымі лапкамі па густой траве сытыя[ф] качкі подбегам паківаліся на выган, да рэчкі. За імі — гусі. Гэтыя не спяшаю**цца**. Пра штосьці дружна гамонячы пайшлі памалу па абочынах ды па дарозе разварушваючы асаджаны расою пыл.[сн]

Стары калека-кравец, што выгнаў іх са двара, стаіць ды ўсміхаецца сам сабе, відаць, разумеючы іхнюю гутарку.

Якая раніца! Так і хочацца стаць на калені ў пухкай, **ц**ёплай ра**лл**і... *(Я. Брыль)*.

● Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

Выпішыце з тэксту сказы з дзеепрыслоўнымі зваротамі, пастаўце неабходныя знакі прыпынку. Абазначце ў дзеепрыслоўях суфіксы.

**143.** Складзіце адзін сказ з двух простых, утварыўшы ад аднаго з дзеясловаў дзеепрыслоўе. У якім выпадку гэтага нельга зрабіць? Чаму? Абазначце суфіксы дзеепрыслоўяў, выдзеліце дзеепрыслоўныя звароты.

Сказы запішыце, раскрываючы дужкі.

1. Рака імкліва нясецца напера*(т/д)*. Яна робіць шматлікія павароты і ўтварае затокі. 2. Хвалі набягаюць на бера*(г/х)*. Яны вымываюць карэ*(н/нн)*е дрэў. 3. Над берагам кружа*(цц)*а чайкі. Іх прарэзлівыя крыкі разнося*(цц)*а па навако*(лл)*і[м].

**144.** Утварыце ад дзеясловаў дзеепрыслоўі незакончанага трывання. Запішыце іх, абазначце суфіксы.

Кружыцца, набягаць, чытаць, здзяйсняць, адчуваць, прыглядвацца, узнікаць, параўноўваць, спрабаваць, гаварыць.

**145.** Запішыце тэкст, утвараючы ад дзеясловаў, што ў дужках, дзеепрыслоўі адпаведнага трывання.

Загадкі ўзніклі ў глыбокай старажытнасці. Чалавек складаў іх найперш пра тое, з чым сутыкаўся ў штодзённым жыцці. *(Паляваць)* або *(лавіць)* рыбу, *(збіраць)* ягады, зёлкі, карані, людзі прыглядваліся[сл] да прыроды, бо ад яе залежала іх жыццё. Яны параўноўвалі таямнічае, загадкавае з тым, што назіралі кожны дзень...

*(Адухаўляць)* прыроду, *(надзяляць)* яе чалавечымі якасцямі — уменнем думаць, адчуваць, — чалавек спрабаваў утаіць ад яе свае намеры, перахітрыць варожыя сілы. Нашы продкі, *(верыць)*, што расліны і жывёлы разумеюць чалавечую мову, карысталіся ўмоўнымі назвамі прадметаў, з'яў і сваіх дзеянняў *(«Родная літаратура»)*.

● Растлумачце значэнне слова *зёлкі*. Падбярыце да яго сінонімы. Успомніце і прывядзіце ўласныя прыклады загадак.

## § 18. Дзеепрыслоўі закончанага трывання, іх утварэнне і правапіс

**146.** Разгледзьце табліцу. Ад асноў якіх дзеясловаў і з дапамогай якіх суфіксаў утвараюцца дзеепрыслоўі закончанага трывання?

| **Аснова неазначальнай формы дзеяслова закончанага трывання** | **Суфіксы дзеепрыслоўяў закончанага трывання** | **Дзеепрыслоўі закончанага трывання** |
|---|---|---|
| *прачыта-ць* | ***-ўшы*** | *прачытаўшы* |
| *прынес-ці* | ***-шы*** | *прынёсшы* |
| *задума-цца* | ***-ўшы*** | *задумаўшыся* |

Дзеепрыслоўі закончанага трывання ўтвараюцца ад асновы неазначальнай формы дзеясловаў закончанага трывання пры дапамозе суфіксаў ***-ўшы*** (пасля галосных) і ***-шы*** (пасля зычных).

**147.** Спішыце прыказкі, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы неабходныя знакі прыпынку. Падкрэсліце дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты як члены сказа. Вызначце трыванне дзеепрыслоўяў і абазначце суфіксы. Назавіце дзеясловы, ад якіх утвораны дзеепрыслоўі. Прааналізуйце інтанацыю пры чытанні сказаў з дзеепрыслоўнымі зваротамі.

1. Згубіўшы большае не шкадуй меншага. 2. Пакаштаваўшы сало..кага не захочаш горкага. 3. Зварыўшы каш.. не шкадуй масла. 4. *(Не)* навучыўшыся не вуч.. нікога. 5. *(Не)* пераскочыўшы р..чкі не кажы «гоп». 6. *(Не)* пастаяўшы ў паро..е не суньreceived на кут. 7. Не заўсёды добра сеўшы добра едуць.

**148.** Запішыце тэкст, замяняючы выдзеленыя дзеясловы дзеепрыслоўямі адпаведнага трывання і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Абазначце суфіксы ў дзеепрыслоўях.

Нёман не даходзіў да лукі, **выгнуўся** яшчэ раз каля лесу вельмі прыгожаю дугою, забіраў управа, **пралягаў** роўнаю бліскучаю сту..кай памі.. лугамі і полем. На адным канцы дугі стаялі[м] кучаравыя пышныя хвоі, **звесілі** над вадою махрыстыя галіны і **аплялі** пя..чаны бера.. цэлаю сеткаю смаляных кара..ёў.

Параўнайце прапанаваны тэкст і запісаны вамі. Вызначце сэнсава-граматычную і стылістычную ролю дзеепрыслоўяў у тэксце.

**149.** Прачытайце тэкст, утвараючы ад дзеясловаў у дужках дзеепрыслоўі адпаведнага трывання.

Запішыце сказы з дзеепрыслоўямі, растлумачце іх утварэнне і правапіс.

А гэта што за звярок сядзіць амаль на самай макаўцы высокай сасны? Маленькі, папяліста-шэры, з доўгім пушыс-

тым хвастом, ён старанна мые сваю мордачку. Пасля завяршэння туалету, *(стаць)* на заднія лапкі і ўважліва *(агледзецца),* ён скокнуў на зямлю. У час скачка паміж яго шырока раскінутымі ў бакі пярэднімі і заднімі лапкамі раскрыліся ўздоўж тулава эластычныя скурыстыя перапонкі. *(Ператварыцца)* у плюскаты квадрацік, звярок плануе ўніз, лёгка *(манеўраваць)* паміж сучкоў і галін. Здаецца, што звярок вось-вось прызямліцца на лясны подсціл. Але ля самай зямлі, рэзка *(узмахнуць)* пушыстым хвастом, ён імгненна мяняе курс і робіць пасадку на ствол суседняга дрэва, *(праляцець)* у паветры каля 50 метраў.

Вядома, гэта вавёрка-палятуха *(А. Курскоў)*.

Выберыце з тэксту інфармацыю для апісання вавёркі-палятухі. Раскажыце пра гэтага звярка. Падбярыце словы, якія можна выкарыстаць як сродак сувязі сказаў у выказванні (замест *вавёркапалятуха*).

**150.** Утварыце і запішыце ад дзеясловаў дзеепрыслоўі закончанага трывання.

Прачытаць, здзейсніць, пазнаёміць, прапусціць, расказаць, узгадаць, запісаць, выйсці, прыдумаць, запомніць, убачыць, навучыцца.

**151.** Выпішыце сказы, у якіх ужыты дзеепрыслоўі закончанага трывання. Устаўце прапушчаныя літары, пастаўце неабходныя знакі прыпынку.

Падкрэсліце дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты як члены сказа.

1. Вось так думаў я бегучы са школы, у той дзень, калі выпаў першы снег *(І. Грамовіч)*. 2. Стары ляснік, перайшоўшы рачулку па зробл..най яго рукамі кла..цы, выбраўся на другі, высокі бераг *(І. Шамякін)*. 3. І цяпер чырв..нагрудыя сн..гіры вісяць на паасобных мяцёлках, успырхваюць пачуўшы шоргат Васілёвых лыжаў *(І. Навуменка)*. 4. Цэлыя вечары праседжваў настаўнік у с..лянскіх хатах прыглядаючыся да жыцця пал..шукоў *(Я. Колас)*. 5. Нават і цяпер лежачы ў пасцелі з заплюшч..нымі

вачыма можна бачыць, як маці збіраецца паліць у печы *(А. Кудравец)*. 6. Саша доўга стаяў на ўзлессі прытуліўшыся плячом да сасны і нервова круціў у руках лазіну *(І. Шамякін)*. 7. Адышоўшыся з паўсотні крокаў Лабановіч з захапленнем заўзятага грыбніка стаў аглядаць больш-менш зручныя для баравікоў лясныя сховы *(Я. Колас)*. 8. Нават не аглядаючы навакол..я сёння ўжо кожны скажа, што прыйшла восень *(П. Кавалёў)*.

Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з дзеепрыслоўямі незакончанага трывання.

**152.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову, звярніце ўвагу на суфіксы дзеепрыслоўяў у беларускай і рускай мовах. Запішыце тэкст па-беларуску.

ЭТО ПОЛЕЗНО ЗНАТЬ

Получив книгу в библиотеке, внимательно ознакомься с ней. Прочитав на титульном листе фамилию автора, постарайся запомнить, кто написал эту книгу. Читай внимательно, не «глотая» страниц, не пропуская рассуждений автора. Помни, что, вдумываясь в них, ты знакомишься с самим автором, с его отношением к героям.

Продумывая поведение героев, попробуй дать им оценку. Правильно ли они поступают, совершая тот или иной поступок?

Закрывая последнюю страницу книги, подумай, чем она тебя обогатила, какой след оставила в твоей душе *(Из газеты)*.

**Слоўнік:**

*внимательно* — ***уважліва;***
*титульный лист* — ***тытульны ліст;***
*рассуждение* — ***развrouteжанне (н. р.), развага (ж. р.);***
*вдумываться* — ***удумвацца;***
*отношение* — ***адносіны (мн. л.), стаўленне (н. р.);***
*продумывать* — ***прадумваць;***
*совершать* — ***рабіць; здзяйсняць;***
*поступок* — ***учынак;***
*обогатить* — ***узбагаціць.***

## § 19. Выбарачны пераказ тэксту

**ПАМЯТКА**

**Як пісаць выбарачны пераказ**

1. Прачытайце тэкст, высветліце значэнне незразумелых слоў.
2. Вызначце тэму, асноўную думку тэксту і падтэмы.
3. Падумайце над тэмай выбарачнага пераказу, вызначце яе межы.
4. Уважліва прачытайце тэкст. Выберыце з тэксту тое, што непасрэдна адносіцца да тэмы, зрабіце неабходныя выпіскі.
5. Вызначце асноўную думку пераказу.
6. Падумайце над стылем і тыпам (апавяданне, апісанне, разважанне) будучага выказвання.
7. Складзіце план. (Майце на ўвазе, што паслядоўнасць пытанняў у тэксце і ў вашым выбарачным пераказе можа не супадаць.)
8. Прадумайце, як лепш звязаць сэнсавыя часткі выбарачнага пераказу. Якія словы, выразы, сказы для гэтага трэба выкарыстаць?
9. Напішыце чарнавік выбарачнага пераказу, пасля праверкі і дапрацоўкі перапішыце яго.

**153.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль і тып, тэму і асноўную думку.

Падрыхтуйцеся да выбарачнага пераказу на тэму «Нечаканы адпор», апусціце ўсю інфармацыю пра людзей і іх назіранні за сутычкай.

ЖУРАЎКА ІДЗЕ Ў АТАКУ

На беразе таўклі мак камары. У паветры слаўся ледзьве ўлоўны пах чабору, а вада ў Віліі, нягледзячы на нядаўнія дажджы, была празрыстая. Але рыба не бралася. Не лепш было і ў суседа. Бачу, ён падымаецца і ідзе да мяне.

— Жураўля хочаш пабачыць? — раптам спытаў ён.

— Жураўля?! Адкуль яму тут быць?

— Вунь за тым лесам невялікая балацінка ёсць, — паказаў ён рукою. — Там і жыве шэры. А сюды кожную

раніцу прылятае гарохам паласавацца, што на ўзгорку расце, каля тых маладых бярозак.

Не паспеў я нічога адказаць, як мужчына ажыўлена дадаў:

— Глядзі! Вунь ён, жураўка! На лаўца і звер бяжыць...

Я зірнуў у бок лесу і ў чыстым блакіце неба ўбачыў цёмную кропку, якая з кожнай хвілінай набліжалася да нас, расла і праз нейкі час ператварылася ў вялікую птушку. Гэта сапраўды быў шэры журавель. Ён апусціўся на поле, пакруціў галавой, пастаяў крыху і, як бы ўпэўніўшыся, што яму не пагражае небяспека, смела рушыў у гарох.

Я ўсміхнуўся і чакаю, што будзе далей. Журавель ціха курлыкнуў, выбраў сцябло і, ухапіўшы яго за самы верх дзюбай, схіліў долу. Прыціснуў да зямлі нагой і пачаў патрашыць струкі.

Ласаваўся гарохам журавель нядоўга. Аднекуль наляцелі, хрыпла закаркаўшы, вароны. Адна з іх, самая нахабная, спікіраваўшы на жураўля, ударыла дзюбай у спіну. Той аж падскочыў, узмахнуў крыламі і кінуўся ўцякаць. Вароны не адставалі, ляцелі следам, дзяўблі, шчыпалі за крылы. У мяне ад крыўды ажно закалацілася сэрца. Здавалася, каб мог ператварыцца ў птаха, не раздумваючы, кінуўся б на дапамогу жураўлю. Але толькі крыкнуў услед:

— Жураўка, родненькі, трымайся!

І раптам здарылася такое, што вельмі ўзрадавала. Журавель спыніўся і, раптоўна крутануўшыся, кінуўся ў атаку на варон. Дагнаўшы адну, так стукнуў дзюбаю, што тая каменем паляцела на зямлю. Дагнаў другую, і той дасталося. Вароны ўсчалі гвалт і разляцеліся хто куды. А журавель спакойна накіраваўся да лесу *(Паводле Я. Галубовіча)*.

Зрабіце пісьмовы выбарачны пераказ тэксту.

Прыкладны план

1. На абед у гарох.
2. Вароны атакуюць.
3. Уцёкі жураўля.
4. Пастаяў за сябе.

## ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА

### Кантрольныя пытанні і заданні

1. Што называецца дзеепрыслоўем?
2. Якія агульныя граматычныя прыметы маюць дзеепрыслоўі і дзеясловы, дзеепрыслоўі і прыслоўі?
3. Як пішацца ***не*** з дзеепрыслоўямі?
4. Як утвараюцца дзеепрыслоўі незакончанага і закончанага трывання?
5. Што называецца дзеепрыслоўным зваротам?
6. Якімі членамі сказа з'яўляюцца дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты?
7. Як выдзяляюцца дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты ў вусным маўленні і на пісьме?
8. Дакажыце, што выкарыстанне дзеепрыслоўяў робіць выказванне больш дакладным, дынамічным і выразным.
9. Што маюць агульнага і чым адрозніваюцца дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе, дзеепрыметнікавы і дзеепрыслоўны звароты?
10. Утварыце і запішыце адпаведныя дзеепрыслоўі ад дзеясловаў *завязаць, цягнуць, хмурыцца, пацалаваць, утрымацца, слухаць, разабрацца, правяраць, дрыжаць*.

**154.** Састаўце складаны план выказвання пра дзеепрыслоўе як форму дзеяслова. Раскажыце пра дзеепрыслоўе, абапіраючыся на план, прывядзіце свае прыклады-доказы. Да якога стылю маўлення належыць ваша выказванне?

### Марфалагічны разбор дзеепрыслоўя

Парадак разбору

1. Часціна мовы (форма дзеяслова). Агульнае значэнне.
2. Марфалагічныя прыметы: пачатковая форма (неазначальная форма дзеяслова), трыванне, нязменная форма.
3. Сінтаксічная роля.

Узор разбору

*Стары ішоў, не зважаючы на тое, што рабілася вакол* (У. Караткевіч).

### *Вусны разбор*

*Не зважаючы* — форма дзеяслова — дзеепрыслоўе, абазначае дадатковае дзеянне: *ішоў* (я к?) *не зважаючы.* Пачатковая форма — *не зважаць*, незакончанае трыванне, нязменная форма; у сказе з'яўляецца акалічнасцю.

### *Пісьмовы разбор*

*Не зважаючы* — форма дзеяслова — дзеепрыслоўе, абазначае дадатковае дзеянне; *не зважаць*, незак. трыв., нязм. ф.; акалічнасць.

---

**155.** Прачытайце тэкст, знайдзіце ў ім выраз, які перадае асноўную думку. Вызначце тэму тэксту. Скажыце, што перадае загаловак: тэму ці асноўную думку тэксту.

РОДНАЯ ЗЯМЛЯ

Любоў да радзімы ў чалавека асабліва яскрава праяўляецца тады, калі ён разлучыцца з ёй. Але чалавек здольны хаваць свае пачуцці. А вось у птушак усё гэта навідавоку.

Возьмем усім нам знаёмых жураваў. На радзіме яны, апрача глухога балота, нічога, бадай, за сямейнымі клопатамі не бачаць. У далёкіх жа краях птушак чакае багаты корм, залітыя сонцам берагі маляўнічых рэк і азёр. І ўсё ж восенню пакідаюць жоравы радзіму вельмі неахвотна.

Паволі пралятаючы над вёскамі і пустымі палямі яны раз-пораз падаю́ць свае сумныя галасы — цяжка з роднай зямлёй развітвацца. А то не ўтрымаўшыся парушаць свой падарожны строй і закружацца на месцы ўглядаючыся з вышыні ў мілыя сэрцу краявіды. Потым сяк-так зноў выстраяцца і сумна курлычучы пацягнуць удалячынь.

Неахвотна пакідаюць родную зямлю не адны жоравы. Гэта ўласціва ўсім птушкам *(Р. Ігнаценка).*

Спішыце трэці абзац, расстаўце прапушчаныя знакі прыпынку.

Зрабіце марфалагічны разбор двух дзеепрыслоўяў з тэксту (аднаго — вусна, другога — пісьмова).

**156.** Вызначце, ад якіх дзеясловаў (што ў дужках) утвораны дзеепрыслоўі. Запішыце іх парамі, абазначце суфіксы дзеепрыслоўяў.

У з о р: *схавацца — схаваўшыся.*

Уключыўшы (уключаць, уключыць, уключыцца, уключацца).

Задумаўшыся (задумваць, задумвацца, задумаць, задумацца).

Кружачыся (кружыць, кружыцца).

Распранаючыся (распранацца, распрануцца, распрануць).

Разварушыўшы (разварушваць, разварушвацца, разварушыць).

Падпарадкоўваючыся (падпарадкаваць, падпарадкоўваць, падпарадкоўвацца).

Набраўшы (набіраць, набраць, набрацца, набірацца).

**157.** Падрыхтуйцеся да дыктанта. Растлумачце правапіс слоў з прапушчанымі літарамі, абгрунтуйце неабходнасць пастаноўкі прапушчаных знакаў прыпынку.

Тым часам канчалас.. лета. А..грымелі ліпен..скія і жнівен..скія навальніцы гучна адспяваўшы песні лету. Дзень за днём пусцелі палі. Сціхлі разнастайныя птушыныя песні. Адн.. толькі дружныя шпакі павыводзіўшы дзяцей зляталіся ў вялізныя гурты ляталі на.. палямі то ..біваючыся ў кучы то ра..сыпаючыся ў паветры празрыстымі сеткамі. Старыя шпакі, відавочна, практыкавалі маладых у лятанні ўмацоўваючы іх крылы перад дарогай у вырай*. Тое самае рабілі і буслы. Яны то збіраліся на лу..е ў ц..лыя чароды і доўга павольна пахаджвалі або стаялі нерухома нібы трымаючы нейкую нараду* то пад..маліся высока ў неба доўга-доўга кружыліся пад аблокамі выпрабоўваючы сілу сваіх крылаў... *(Паводле Я. Коласа).*

Запішыце тэкст пад дыктоўку.

## Дадатковыя заданні

*I варыянт*

1. Вызначце і запішыце спосаб сувязі сказаў у тэксце.
2. Выпішыце з тэксту дзеепрыслоўі, абазначце ў іх суфіксы.
3. Падкрэсліце ў тэксце дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты як члены сказа.
4. Зрабіце марфалагічны разбор дзеепрыслоўя з тэксту *(адспяваўшы)*.

*II варыянт*

1. Знайдзіце ў тэксце і падкрэсліце займеннік, які з'яўляецца сродкам сувязі сказаў.
2. Выпішыце з тэксту дзеепрыслоўі, запішыце побач дзеясловы, ад якіх яны ўтвораны.
3. Падкрэсліце ў тэксце дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты як члены сказа.
4. Зрабіце марфалагічны разбор дзеепрыслоўя з тэксту *(умацоўваючы)*.

# ПРЫСЛОЎЕ

## § 20. Прыслоўе як часціна мовы



**158.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Вызначце тып і стыль тэксту, яго асноўную думку. Якімі словамі-сінонімамі называе аўтар селяніна?

**Неяк увесну, даўным-даўно,** вандраваў па Беларусі добры чараўнік. Здарожыўся ён. І есці не меў чаго. Ажно бачыць — арэ **непадалёку** палетак селянін. Зямля пясчаная, а **сям-там** камяністая. Конік **ледзь** цягне драўляную саху. А ў самога гаспадара кашуля на спіне — хоць выкручвай ад салёнага поту.

Прывітаўся чараўнік з хлебаробам. Слова за слова — разгаварыліся. **Потым** араты запрасіў падарожніка папалуднаваць. Хоць які там полудзень. Акраец чэрствага хлеба, некалькі горкіх цыбулін ды крынічнай вады збанок.

Але **нездарма** людзі кажуць: не дораг абед, а дораг прывет. Падсілкаваўся **трошкі** падарожнік-чарадзей, пачаў распытваць у аратага пра ягонае жыццё-быццё, якую ён хацеў бы мець палёгку.

«Ніякай мне не трэба палёгкі, — адказаў яму селянін. — Толькі слухаць абрыдла, як грукае каменне аб саху...»

Добры чараўнік счакаў, пакуль адыдзецца, налягаючы на саху, хлебароб, **потым** узяў у рукі маленькі камень і **штосілы** шпурнуў яго ў неба. І толькі ён тое зрабіў — зашчабятала, зазвінела ў паднябессі шэрая пташка. **Весялей** пацягнуў саху знясілены конь, **упершыню** за цэлы дзень усміхнуўся араты *(У. Ягоўдзік)*.

Што абазначаюць выдзеленыя словы? З якімі часцінамі мовы яны звязаны ў сказе і на якія пытанні адказваюць? Якімі членамі сказа з’яўляюцца?


92

**Прыслоўе** — самастойная нязменная часціна мовы, якая абазначае прымету дзеяння, прымету іншай прыметы або прадмета і адказвае на пытанні я к? д з е? к у д ы? п а я к о й п р ы ч ы н е? я к і м ч ы н а м? к о л ь к і? ч а м у? з я к о й м э т а й? н а в о ш т а? і інш.

У сказе прыслоўі звычайна адносяцца да дзеяслова, прыметніка ці прыслоўя: *расказаць* (я к?) ***уголас,*** (н а- к о л ь к і?) ***вельмі*** *сучасны, учора* (к а л і?) ***увечары.***

Зрэдку прыслоўе можа адносіцца да назоўніка: *дарога* (я к а я?) ***дадому.***

Прымету дзеяння прыслоўі абазначаюць, калі адносяцца да дзеяслова ці дзеепрыслоўя: 1. *На шэрую прамерзлую зямлю* (я к?) ***бязгучна*** *і* (я к?) ***густа*** *сыплецца першы снег* (Я. Брыль). 2. *Магутныя дрэвы, кронамі зросшыся* (д з е?) ***уверсе,*** *берагуць прахалоду і цень* (Я. Скрыган).

Прымету іншай прыметы прыслоўі абазначаюць, калі адносяцца да прыметніка, дзеепрыметніка ці прыслоўя: 1. *Восень была гожая і* (я к?) ***памяркоўна*** *туманная* (У. Караткевіч). 2. (Я к?) ***Няўлоўна*** *невыказная асалода — чытаць добрае* (Я. Брыль). 3. *Праз хвіліну* (я к?) ***нечакана*** *выразна і гучна загрымела музыка* (І. Шамякін).

Прымету прадмета прыслоўі абазначаюць, калі адносяцца да назоўніка: *І прыкінь на розум, хлопча, што парубак там няма і травы ніхто не топча: так, работа* (я к а я?) ***надарма*** (Я. Колас).

**159.** Па якой прымеце можна згрупаваць змешчаныя ніжэй словазлучэнні? Запішыце іх у два слупкі, уставіўшы прапушчаныя літары.

Гла..кая тканіна, гла..ка папрасаваць; якасны выраб, адрамантаваць якасна; рэ..кі выпадак, сустракацца рэ..ка; сусе..скі дом, сябраваць па-сусе..ску; бе..па..стаўны папрок,

папракаць бе..па..стаўна; позні вечар, прыйсці позна; ранняй вясной, сустрэцца вясной; дапама..чы зайцам, ехаць зайцам; францу..ская мова, гаварыць па-францу..ску; ісці ўдвух, у двух вучняў.

Чым падобныя і чым адрозніваюцца прыслоўі і прыметнікі? Як адрозніць прыслоўі ад назоўнікаў? Ці супадаюць напісанне і вымаўленне слоў з прапушчанымі літарамі?

***нездарма́***
***непадалёку***
***сям-та́м***
***што́сілы***
***даўны́м-даўно́***
***уво́сень***
***уве́сну***
***пацíху***
***пад ве́чар***
***у пару́***

Прыслоўе не змяняецца — не скланяецца і не спрагаецца.

У сказе прыслоўе найчасцей бывае **акалічнасцю.** *Зямля* ***заўсёды*** *дзякуе* (Прыказка). *Дзякуе* (к а л і?) ***заўсёды*** — акалічнасць часу.

Калі прыслоўе паясняе назоўнік у сказе, яно з'яўляецца **азначэннем:** *вокны* (я к і я?) ***насупраць,*** *кава* (я к а я?) ***па-турэцку.***

**160.** Прачытайце прыказкі. Вызначце іх тэматыку.

Калі раіш суседу, то абмазгуй да следу. Лёгка пасварыцца, цяжэй памірыцца. Прыглядай гасцей, каб хадзілі часцей. Трэба з людзьмі па-людску жыць.

Лепей трошкі зрабіць, чым багата нагаварыць. Калі ўлетку на сонцы не папячэшся[ф], то ўзімку з холаду натрасешся[ф]. Увесну плача, хто ўвосень скача. Хутка гаворыцца, ды пацiху робіцца. Рана не ўстанеш, многа не зробіш.

Лазовыя дровы хоць крыва ляжаць, ды горача гараць. Маленькая прачка часам многа зробіць. На харошага глядзець хораша, а з разумным жыць лёгка.

Выканайце марфемны разбор некалькіх прыслоўяў.

У з о р: *лёгка*, *па-людску*.

Ці ёсць у іх канчаткі? Чаму?

Якімі членамі сказа з'яўляюцца прыслоўі, ужытыя ў прыказках?

Выпішыце словазлучэнні з прыслоўямі, зрабіце іх сінтаксічны разбор.

**Вымаўляй правільна:** **па-лю́[ц]ку, папячэ́[с′с′]я, натрасе́[с′с′]я.**

**Пішы:** ***па-людску, папячэшся, натрасешся.***

**161.** Спішыце. Пазначце ў словазлучэннях галоўнае і залежнае словы. Надпішыце пытанні, на якія адказваюць залежныя словы.

Як адрозніць прыслоўе ад падобнага да яго назоўніка з прыназоўнікам?




У з о р: *глядзець у бок лесу, адысці ўбок.*

Відаць з боку дарогі, стаяць збоку; збірацца на сустрэчу з сябрамі, рухацца насустрач; спачатку выканай заданне, з пачатку восені; падымацца наверх, зірнуць на верх гары; ісці ў глыб пушчы, нырнуць углыб.

З адной парай словазлучэнняў (на выбар) складзіце і запішыце сказы. Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа.

**!** Як бачна, пры асобным напісанні да назоўніка, ужытага з прыназоўнікам, можна паставіць склонавае пытанне (*ісці ў глыб* (ч а г о?) *пушчы*); дабавіць тлумачальнае слова (*на сустрэчу* (з к і м?) *з сябрамі*); дабавіць азначэнне *(з самага пачатку ранняй восені).*

**162.** Прачытайце тэкст. Вызначце асноўную думку. Дайце загаловак. Назавіце сродкі сувязі сказаў у тэксце.

Цікава, што спачатку будучы матэматык і фізік Ісаак Ньютан вучыўся даволі пасрэдна. Дапамог у вучобе адзін цікавы, хоць і не дужа прыемны для самога Ньютана, выпадак.

Неяк на перапынку адзін з вучняў моцна стукнуў яму па жываце. Гэтак моцна, што Ісаак ледзь не страціў прытомнасць. Але адказаць тым жа ён не мог, таму што быў значна слабейшы.

І хлопчык знайшоў даволі арыгінальны* спосаб помсты. Справа ў тым, што яго крыўдзіцель пераўзыходзіў Ньютана

не толькі ў фізічнай сіле, але і быў першым вучнем класа. І тады будучы вучоны вырашыў перагнаць свайго саперніка па ведах. І, што вы думаеце, праз некалькі месяцаў у вучобе з ім ужо ніхто не мог спаборнічаць, у тым ліку і яго крыўдзіцель *(«Бярозка»)*.

Выпішыце спачатку словазлучэнні, у якіх прыслоўі абазначаюць прымету дзеяння, а потым — прымету прыметы, зрабіце іх пісьмовы разбор.

Падрыхтуйце вусны пераказ тэксту.

**163.** Прачытайце тэкст, вызначце яго тып і тэму. Дайце загаловак.

Двор — гэта цэлы гуж* пабудоў, прычым самых розных. Дрывотня — месца, **дзе** сякуць, рэжуць і хаваюць, каб не моклі, былі **заўсёды** сухія, дровы. За дрывотняю, пад паветкаю, — абозня: **там** калёсы, сані, сохі, бароны, плугі, жалезнякі, вілы, капаніцы... **Далей** гумно — у ім складваюць снапы, малоцяць, **там** на сценах вісяць цапы, граблі, вейніцы, лапаты, шуфлі, паўміскі, ночвы... Вядома ж, былі і стайня для коней, хлеў для валоў, кароўнік для кароў, свінушнік для свіней, аўчарня для авечак, куратнік для курэй. Жылі **асобна** ў цёмнай прыбудоўцы і качкі, і гусі. **Трохі ўбаку** стаяла і сцёбка — у ёй хавалі на зіму ў бочках квашаную капусту, агуркі, салёныя грыбы, вараныя брусніцы. Блізка ля сцёбкі стаяў і імшанік* — у яго завозілі на зіму калоды-вуллі з пчоламі. Быў і азярод — на ім дасушвалі сена, снапы. **Ужо** за дваром, **дзесьці здаля,** у полі, стаяла і ёўня — у ёй сушылі лён, церлі церніцамі. У двары была і будка, **дзе** дняваў і начаваў сабака. Усё будавалася з моцнага смалістага дрэва, накрывалася пад шчотку саломай ці чаротам. **Улетку** ў стрэхах ці застрэшках якія толькі не гняздзіліся птушкі!

Дзеці любілі свой двор, **заўсёды** знаходзілі **там** сабе занятак *(Б. Сачанка)*.

● Ці адпавядае тэкст тыповай схеме апісання: 1) агульнае ўражанне ад прадмета; 2) пералік розных прымет прадмета; 3) агуль-

ная ацэнка? Назавіце лагічныя часткі тэксту. Як звязаны сказы ў тэксце?

Якія прыслоўі ўжыты ў тэксце? Паспрабуйце прачытаць тэкст без прыслоўяў. Што змянілася?

Зрабіце вывад: для чаго могуць выкарыстоўвацца прыслоўі ў тэкстах.

Вусна перакажыце тэкст.

⊙ Складзіце і запішыце тэкст — апісанне свайго двара, ужывайце неабходныя прыслоўі.

Роля прыслоўяў у мове вельмі значная. Яны робяць маўленне больш дакладным і выразным, перадаюць паслядоўнасць дзеянняў, месца і спосаб дзеяння, час, калі яно адбываецца; служаць для сувязі сказаў у тэксце; могуць складаць граматычную аснову сказа і ўжывацца для перадачы стану душы чалавека і стану прыроды. Некаторыя прыслоўі могуць быць граматычным сродкам сувязі ў складаных сказах *(дзе, калі, куды)*, выражаць адносіны аўтара да выказанай думкі (*па-першае, вядома, бясспрэчна, дарэчы, напэўна* і інш.).

**164.** Прачытайце выразна тэксты. Вызначце прыслоўі. Якую ролю яны выконваюць у тэкстах?

І. Спачатку выпусцілі свае коцікі вербы. Потым, перад Вялікаднем, пачалі сачыцца празрыстым сокам пні бяроз. Пасля пупышкі сталі зялёныя, а лясы — цёмныя. Пазней заплакалі перад Купаллем травы: меліся назаўтра загінуць. А затым прыйшла чарга палегчы каласам *(У. Караткевіч)*.

Што дапамагае аўтару перадаць цыклічнасць і паўтарэнне прыродных з'яў і працэсаў?

ІІ. Гулі дзве скрыпкі, пявуча вохкаў бас, мядзведзем раўла дуда, пяшчотна сапла жалейка, звонка ўдаралі цымбалы, і, вышэй за ўсё іншае, узлятаў, залівaўся і ўздыхаў бубен *(У. Караткевіч)*.

● Якімі моўнымі сродкамі перадаецца апісанне каляднай музыкі? Назавіце словы-сінонімы, ужытыя ў тэксце.

III. Пад столлю вялізнай залы гучала мяккая, як ручаіна, пявучая, як голас птушкі, гнуткая і цвёрдая адначасова, лаканічная мова. Гучала ўпершыню за шмат год *(У. Караткевіч)*.

● Якімі эпітэтамі характарызуе пісьменнік беларускую мову?

**165.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль. Складзіце і запішыце план тэксту.

### ПАНЕНКА І ТЭЛЕФОН

Пагаворым пра такую простую рэч, як тэлефон. Вядома, карыстацца ім усе ўмеюць: набраў некалькі лічбаў і балбачы сабе з сяброўкай або прыяцелем. Але ж мы хочам быць культурнымі людзьмі, таму не будзем забывацца на некаторыя правілы, прынятыя ў прыстойным грамадстве.

**Па-першае**, паняцце «колькі ўлезе» для тэлефоннай гутаркі зусім не падыходзіць. **Па-другое**, набраўшы чыйсьці нумар, трэба павітацца і назваць сябе. Гэта толькі здаецца, што, калі цябе не бачаць, цырымоніцца неабавязкова. Бацькі тваёй сяброўкі больш ахвотна паклічуць яе ў адказ на тваё ветлівае: «Добры дзень, будзьце ласкавы...»

Калі трубку на тым канцы ніхто не здымае, не трэба трымаць сваю каля вуха паўгадзіны, нават калі ты ўпэўнена, што сяброўка дома. Ну не хоча чалавек ні з кім размаўляць — мае права!

Пачуўшы ў трубцы зусім незнаёмы голас, пастарайся ўстрымацца ад пытання: «А хто гэта?» Выхаваны чалавек скажа: «Даруйце, а хто вам патрэбен?» Дарэчы, на пытанне: «А куды я трапіла?» — табе, хутчэй за ўсё, таксама не адкажуць. **Навошта** называць свой хатні тэлефон невядома каму? Каб усё высветліць, лепш спытацца: «Гэта вось такі нумар?» Дапытваць незнаёмца, які пазваніў вам, хто ён такі, не зусім тактоўна, затое дарэчы спытаць, што трэба перадаць.

Хто павінен першы пакласці трубку, пытанне, вядома, таксама цікавае... *(«Алеся»)*.

Выпішыце з тэксту адзіночныя прыслоўі і прыслоўі ў словазлучэннях. Вызначце іх сінтаксічную ролю ў сказе.

Абмяркуйце з аднакласнікамі адказ на апошняе пытанне артыкула. Якія правілы тэлефоннага этыкету вы яшчэ ведаеце?

**166.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып. Запішыце, уставіўшы патрэбныя прыслоўі. Якую ролю выконваюць прыслоўі ў тэксце?

ЦІ ЎМЕЕЦЕ ВЫ ПРАСАВАЦЬ?

Калі кашуля зашпільваецца на гузікі, то прасуюць ... адну палічку, спінку, а ... другую палічку.

Каўнер ... прасуюць з левага боку ад куткоў да сярэдзіны, ... гэтак жа з правага боку, каб на самых бачных месцах не было відаць маршчын.

Штаны пачынаюць прасаваць з левага боку — усе швы, падкладкі, кішэні. Вывернуўшы на правы бок, ... прасуюць іх верхнюю частку і пояс, ... складаюць штаны так, каб бакавыя і ўнутраныя швы, а ... пярэднія вытачкі супалі.

Касцюм апранаюць не ... пасля прасавання, а праз некаторы час, ... ён ... пакамечыцца *(«Бярозка»)*.

Д л я д а в е д к і: *адразу, данізу, затым, зверху, знoў, інакш, паслядоўна, потым, спачатку, таксама, хутка.*

**167.** Складзіце і запішыце тэкст-мініяцюру на адну з прапанаваных тэм: «Як памяняць лямпачку», «Як прыгатаваць...», «Правілы паводзін на вуліцы», «Як зрабіць калядную зорку». Спачатку паназірайце, што і ў якой паслядоўнасці робіцца. Запішыце матэрыялы назірання.

Выкарыстайце ў сачыненні прыслоўі, з дапамогай якіх характарызуюцца дзеянні, указваецца на іх паслядоўнасць.

***даспадо́бы***
***спады́спаду***
***сам-на́сам***
***наўцёкі***
***спадцішка́***
***зрэ́дчас***

## § 21. Разрады прыслоўяў па значэнні

Прыслоўі, адносячыся да дзеяслова, могуць абазначаць **месца, час, прычыну, мэту, спосаб, меру** і **ступень дзеяння:** 1. (Д з е?) ***Справа*** *ляжала нізіна, уся ўкрытая лесам* (Я. Скрыган). 2. *Косцік* (к а л і?) *і* ***ўчора,*** *і* ***пазаўчора*** *хадзіў у лес па дровы* (Я. Брыль). 3. (Ч а м у?) ***Згарача*** *дзед Талаш кінуўся на жаўнераў* (Я. Колас). 4. *Мартын* (з я к о й м э т а й?) ***сумыслу*** *едзе павольна* (Я. Колас). 5. *Люблю* (я к?) ***бязмежна*** *пра-*

*дзедаў зямлю, руплівую і мужную краіну* (М. Лужанін). 6. *У вільготным паветры* (н а к о л ь к і?) ***крыху*** *пацяплела* (В. Вольскі).

Меру і ступень якасці прыслоўі абазначаюць тады, калі адносяцца да прыметніка ці іншага прыслоўя: 1. *Вёска была* (у я к о й с т у п е н і? н а к о л ь к і?) ***досыць*** *вялікая* (Я. Колас). 2. *Вось крыкнула птушка* (н а к о л ь к і?) ***зусім*** *блізка* (Я. Маўр).

У залежнасці ад значэння прыслоўі падзяляюцца на азначальныя і акалічнасныя.

Да **азначальных** прыслоўяў адносяцца прыслоўі:

- способу дзеяння: *асцярожна, бягом, нязручна, пешшу, штосілы, шэптам* і інш.;
- меры і ступені: *багата, вельмі, выключна, двойчы, дужа, мала, некалькі, трохі, удвая* і інш.

У разрад азначальных прыслоўяў уваходзяць прыслоўі, якія ўтварыліся ад якасных прыметнікаў і адказваюць на пытанне я к? *(звонка, радасна, смела, шчыра, холадна).*

Да **акалічнасных** прыслоўяў адносяцца прыслоўі:

- месца: *вакол, уверсе, дахаты, улева, аднекуль, знізу* і інш.;
- часу: *аднойчы, заўсёды, узімку, цяпер, штодзень, учора* і інш.;
- прычыны: *затое, згарача, чамусьці, нашто, сóсну, спрасонку, таму, чаму* і інш.;
- мэты: *назло, назнарок, наўмысна, напаказ, наперакор, сумыслу* і інш.

**168.** Прачытайце загадкі Васіля Зуёнка. Устаўце прапушчаныя словы. Абазначце сэнсавы разрад прыслоўяў.

ЗІМОЎКА

Хоць таўстун ... ласы,
На зіму сабе прыпасы
Па крупінцы не збірае,
Бо ... наедак мае:
Спаць кладзецца, скіне тапак —
І ... смокча лапу,
А вясна дыхне ... —
Прачынаецца мядзведзь.

ПРАСПАЎ

Зналі гэткага вы соню?
Першы ўрок праспаў ён ...,
А на ўрок другі спяшаўся,
Ад задухі аж хістаўся:
Спатыкнуўся на сук —
Паляцеў ... барсук.

МАЎЧУН

Кліч — не кліч: маўчыць ... .
Як пяску набраў у рот:
Некалі — будуе хату
Пад зямлёю чорны крот.

Для даведкі: *зацята, занадта, заўжды, ледзь-ледзь, паціху, сёння, старчма.*

**169.** Разгледзьце табліцу. Дапоўніце прыкладамі з папярэдняга лінгвістычнага тэксту і практыкаванняў.

| | Значэнне | Пытанне | Прыклады |
|---|---|---|---|
| Акалічнасныя | 1. Месца | дзе? куды? адкуль? | *справа...* |
| | 2. Час | калі? як доўга? з якога часу? да якога часу? | |
| | 3. Прычына | чаму? па якой прычыне? | |
| | 4. Мэта | з якой мэтай? | |
| Азначальныя | 5. Спосаб дзеяння | як? якім чынам? | |
| | 6. Мера і ступень | колькі? наколькі? у якой ступені? | |

**170.** Прачытайце тэкст. Вызначце тып і стыль тэксту. Дайце яму загаловак.

Аднойчы вучні спыталі Арыстоцеля:
— Чаму чалавек вышэйшы за малпу?

Мудрэц на хвілінку засяродзіўся і адказаў:

— Ён пачаў задумвацца, як бы аблегчыць сабе жыццё.

У дасціпных словах бессмяротнага філасафа тоіцца глыбокі сэнс. Увесь час для існавання і развіцця нам, людзям, чагосьці не хапала. Спачатку хоць бы адзення, каб затуліцца ад дажджу ці холаду. Потым сырое мяса настолькі абрыдла, што барадаты продак начэй не спаў, усё меркаваў, каб яго засмажыць. Затым вылез з сырой пячоры і зрабіў будан, за ім пачаў ставіць курныя хаціны, драўляныя, нарэшце, каменныя дамы, палацы.

Надакучыла хадзіць пехатой, і ён змайстраваў сабе першае кола, ад якога пайшлі-пакаціліся воз, веласіпед, аўтамабіль, цягнік, параход. І гэтак ва ўсім. Прагрэс, як вучыць філасофія*, нараджаўся з неабходнасці пераадолення аб'ектыўных перашкод і цяжкасцей. Адкрываючы новыя гарызонты, чалавек нярэдка наіўна меркаваў: вось і ўзняўся да апагея*, вынайшаў нябачаную лятаючую «птушку» — аэраплан. Ніхто і ніколі гэтага не перасягне. Але праходзіў час, і аэраплан перарос у турбавінтавы, рэактыўны лайнер. З'явілася «вогненная птушка» — ракета. Навукова-тэхнічны прагрэс рухаецца сапраўды сямімільнымі крокамі, шалёнымі тэмпамі *(А. Шагун)*.

Выпішыце з тэксту словазлучэнні з прыслоўямі, вызначце разрад, сінтаксічную і сэнсавую ролю прыслоўяў у тэксце.

⊙ Як бы вы прадоўжылі тэкст?

**171.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэкстаў.

I. Аб слове **зараз.** У літаратурнай практыцы яно аднолькава ўжываецца ў такіх фразах: *Я зараз быў у яго. Я зараз сяджу ў яго. Я зараз буду ў яго.* У народнай практыцы слова **зараз** звязана з будучым часам: *Я зараз буду ў цябе. Я зараз прыбягу. Я зараз распрануся.* Калі ж гэта датычыць мінулага часу, то будзе сказана: *Я толькі што быў у яго. Я толькі што адтуль. Я толькі што абедаў.* А калі дзеянне адбываецца ў цяперашнім часе, то і скажуць — *цяпер*: *Цяпер я займаюся на курсах. Цяпер я ўжо гэта разумею. Цяпер мы сталі багатыя (Я. Скрыган).*

⊙ Адрэдагуйце сказ: *Я ото пайду на работу, толькі хату трохі падмяту* (Народнае).

II. **Таропка.** І гэта выпадковае слова. У народнай гаворцы яго нідзе няма. Нават цяжка знайсці да яго корань. Не можа ж яно ўтварыцца ад слоў з вельмі далёкім сэнсам «атарапець», «утаропіцца». Яно нават шкодзіць тым, што, будучы само бледным, невыразным, вельмі ахвотна падменьвае сабою словы куды каларытнейшыя на сваім месцы. Вось можна сказаць: *Скоранька паеў і падаўся ў дарогу. Хуценька паеў і падаўся ў дарогу. Спехам паеў і падаўся ў дарогу. Нахапкам паеў і падаўся ў дарогу* — усюды той самы фізічны рысунак, а эмацыянальная акраса другая. Можна яшчэ сказаць: *Ён усё робіць порстка. Сабраўся і шпарка паехаў. Рухі ў яго былі хапатлівыя.* А дзе трэба, то можна сказаць і *борздзенька* і *быстра* *(Я. Скрыган)*.

Якую агульную думку сцвярджае аўтар?

● Да якіх сэнсавых разрадаў адносяцца прыслоўі, пра якія ідзе гаворка ў тэкстах?

## Прэдыкатыўныя прыслоўі

Асобую групу складаюць прыслоўі, якія абазначаюць стан прыроды або чалавека і ў сказе з'яўляюцца выказнікамі: *Добра ўлетку ў пушчы* (В. Вольскі). *Мне цёпла, прытульна, лёгка* (Д. Бічэль). *Парна зранку* (Я. Колас). У такіх сказах няма і не можа быць дзейніка (яны называюцца **безасабовымі**).

Некаторыя прыслоўі могуць быць толькі выказнікамі *(неабходна, нельга, можна, патрэбна, трэба)*, яны спалучаюцца з дзеясловамі ў неазначальнай форме: *Трэба дома бываць часцей, трэба дома бываць не госцем...* (Р. Барадулін). Такія прыслоўі называюцца **прэдыкатыўнымі.**

Іншыя прыслоўі могуць быць і выказнікамі, і акалічнасцямі: 1. *Гэтак радасна, гэтак хораша, гэтак цёпла* (Я. Брыль). 2. *Хораша разлеглася ты, наша зямля, на ўлонні старажытнай маці-планеты* (М. Гамолка).

**172.** Спішыце, падзяліўшы тэкст на абзацы. Устаўце прапушчаныя літары, а таксама пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.

### КАСТРЫЧНІК

У прыродзе ўсё больш а..чуваецца восень. Лісце на дрэвах пажоўкла. Парывы ветру лёгка зрываюць з дрэў лісты ўсцілаючы зямлю пярэстым чырвона..жоўтым дываном. Толькі з магутных дубоў доўга яшчэ не ападае лісце. Надвор..е псуецца. Павялічваецца колькасць пахмурных дзён, часта цярушыць дробны зацяжны дождж. Але і ў кастрычніку, асабліва ў пачатку месяца, усталёўваецца часам добра.. сонечна.. надвор..е. У такія дні ў ясным і празрыстым паветры плывуць тонкія ніці павуцінак з маленькімі павучкамі-вандроўнікамі. На сінім высокім небе — ні хмаркі. Лагодна свеціць сонца. Цёпла і суха. Зноў расцвітаюць некаторыя расліны. З-пад кары дрэў, з розных шчылін вылазяць днём нас..комыя, якія схаваліся на зіму. Дзе-нідзе л..таюць на сонцы матылькі і стракозы. «Бабіна лета» — так называюць у народзе гэтыя цудоўныя дні залатой восені *(В. Вольскі)*.

Вызначце, якімі членамі сказа з'яўляюцца прыслоўі і да якога разраду па значэнні адносяцца.

⊙ Напішыце невялікі тэкст — апісанне зімовага дня. Выкарыстайце прыслоўі розных разрадаў па значэнні.

**173.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту і яго асноўную думку. Каму адрасуецца тэкст?

### ЯК СЯБЕ ПАВОДЗІЦЬ?

Добра і проста сказаў Гётэ: «Існуе ветлівасць, што ідзе ад сэрца, блізкая да любові. З яе фарміруецца ўтульная ветлівасць знешняга абыходжання».

Гаворачы пра культуру паводзін, нельга прайсці міма некаторых асаблівасцей характару, ад якіх залежаць паводзіны чалавека. Спачатку прааналізуем станоўчыя якасці. Ледзь не самая важная з іх — пачуццё такту. Тактоўны чалавек імкнецца прадухіліць сітуацыю, якая стварае няёмкасць. Каб развіць у сабе пачуццё такту, трэба часцей ставіць сябе на месца іншага.

Напрыклад, вы прыйшлі да некага вырашаць свае справы. А там ужо ідзе размова з іншай асобай. Што вы робіце? Аб чым бы ні вялася гаворка ў вашай прысутнасці, заўсёды варта памятаць, што пачуццё такту не дазваляе чалавеку ўмешвацца ў чужую размову.

Нетактоўная цікаўнасць, якая можа пакрыўдзіць. Напрыклад, непрыгожа падглядаць праз плячо чалавека, які піша або чытае. Разглядаючы чыю-небудзь фатаграфію, нельга чытаць подпісы на ёй.

Падслухоўваць чужыя размовы гэтак жа непрыстойна, як падглядаць праз замочную шчыліну. Не толькі нетактоўна, але і дзёрзка* высмейваць і перадражніваць чалавека з фізічнымі недахопамі. Да такіх людзей трэба ставіцца з асаблівай далікатнасцю. Людзям з фізічнымі недахопамі больш прыемна, калі іх недахопы не заўважаюць.

Пачуццё такту можна развіваць. Гэта залежыць ад самога чалавека *(«Звязда»)*.

Выпішыце прыслоўі, ужытыя ў тэксце. Якую сэнсавую ролю яны выконваюць? Вызначце іх разрад і сінтаксічную ролю.

● Пісьмова перакажыце тэкст, падмацоўваючы выказванне сваімі думкамі і назіраннямі.

**174.** Прачытайце. Ці можаце вы назваць твор Якуба Коласа, з якога ўзяты гэтыя радкі?

Выпішыце словазлучэнні з прыслоўямі, вызначце іх сінтаксічную ролю ў сказе і стылістычную ролю ў тэксце.

Міхал ідзе. У лесе глуха.
Дарэмна зыкі ловіць вуха.
Вакол маўкліва і маркотна,
І лес застыў, глядзіць гаротна,
І толькі дзесь у ельняку
Шалпоча сойка на суку,
Ды стукне дзяцел траекротна.

***во́ддаль***
***на до́світку***
***на па́мяць***
***незнаро́к***
***удвая́***
***утрая́***
***паасо́бку***

**!** У ролі прыслоўяў могуць ужывацца ўстойлівыя выразы — фразеалагізмы: *за блізкі свет* (вельмі далёка); *душа ў душу* (вельмі дружна); *на вока* (прыблізна, прыкладна); *спакон вякоў* (заўсёды, пастаянна). У сказе фразеалагізмы з'яўляюцца адным членам сказа: *Падышлі бліжэй, і тут я спыніўся як укапаны* (А. Кудравец).

**175.** Запішыце сказы, замяняючы прыслоўі адпаведнымі фразеалагізмамі. Якую сінтаксічную ролю выконваюць фразеалагізмы ў тэксце (пазначце графічна)?

1. Бачыць ваўчыха — бяда: Іван імчыцца **шпарка,** а за ім цэлая пагоня *(Казка)*. 2. Кася з Янкам бягуць ды бягуць **вельмі хутка** *(Казка)*. 3. А мядзведзь прымасціўся ля печы і засоп **гучна** *(У. Караткевіч)*. 4. Спаць бы табе тут **заўсёды,** каб не я *(Казка)*. 5. І вырашыў Янка ўрэшце, праз гэтыя чортавыя выбрыкі, забіць хату дошкамі і падацца з дзецьмі і кошкамі **некуды далёка** *(У. Караткевіч)*.

Д л я д а в е д к і: *век-векам, за свет, на ўвесь дух, на ўсю сілу, на ўсе застаўкі.*

Які варыянт сказаў вам больш падабаецца і чаму?

⊙ **176.** Прачытайце пачатак казкі Аляксея Дударава «Сінявочка». Прыдумайце і запішыце працяг казкі. Ужывайце, пры неабходнасці, прыслоўі розных сэнсавых разрадаў.

У ціхай лагчыне, пад старой разгалістай вярбой, жыла маленькая чыстая крынічка. Яе звалі Сінявочка. Крыштальная вадзіца ўдзень і ўночы, улетку і ўзімку бруілася з Сінявочкі і збягала ў Зялёную Сажалку, што жыла па суседстве...

Д л я д а в е д к і.

**Сэнсавыя разрады прыслоўяў і іх правапіс**

1. Прыслоўі месца (д з е? к у д ы? а д к у л ь? д а к у л ь?): *абапал, блізка, вакол, высока, далёка, злева, наверсе, навокал, налева, наперадзе, насупраць, недзе, непадалёку, нідзе, паблізу, пасярэдзіне, побач, поплеч, поруч, справа, сям-там, тут, уваччу, угары, унізе, уперадзе, усюды; дадому, далоў, дамоў, набок, наверх, назад, наперад, направа, некуды, нікуды, сюды, туды, убок, увысь, угару, углыб, удаль, улева, уніз, уперад, управа, услед; адгэтуль, адкуль, адсюль, адтуль, зблізку, збоку, зверху, зводдаль, здалёк, ззаду; даверху, дагэтуль, дакуль, данізу, дасюль, датуль* і інш.

2. Прыслоўі часу (к а л і? я к д о ў г а? з я к о г а ч а с у? д а я к о г а ч а с у?): *адвячоркам, адвеку, вечарам, даўно, загадзя, залетась, зараз, затым, заўчора, зімой, зранку, летась, неўзабаве, ніколі, ноччу, пад вечар, пасля, потым, раніцай, сёлета, сёння, тады, увесну, увечары, увосень, удзень, ужо, улетку, уначы, часам, штогод; вечна, навек, назусім; здаўна, зранку, зроду, спачатку, спрадвеку; давеку, надоўга, назаўсёды, назусім* і інш.

3. Прыслоўі прычыны (ч а м у? п а я к о й п р ы ч ы н е?): *завошта, навошта, нашто, нездарма, нізавошта, паняволі, спрасоння, чамусьці* і інш.

4. Прыслоўі мэты (з я к о й м э т а й? д л я ч а г о?): *знарок, знячэўку, назло, напаказ, наперакор, наўмысна, незнарок, неспраста, сумыслу* і інш.

5. Прыслоўі спосабу дзеяння (я к? я к і м ч ы н а м?): *адмыслова, асцярожна, боязна, бягом, весела, выразна, горача, гучна, добра, знянацку, інакш, мімаходам, моўчкі, навыварат, навылёт, насцеж, начыста, неяк, нязручна, нячутна, паасобку, па-беларуску, паволі, памалу, па-свойму, паступова, паціху, пехатой, прыгожа, пяшком, радасна, раптам, уброд, уголас, удагон, удвух, упустую, урассыпную, урачыста, хараша, хутка, цвёрда, ціха, цугам, чароўна, штосілы, шчодра, шчыра, шэптам* і інш.

6. Прыслоўі меры і ступені (к о л ь к і? н а к о л ь к і? у я к о й с т у п е н і?): *амаль, асабліва, багата, больш, вельмі, выключна, даволі, дастаткова, дашчэнту, двойчы, досыць, дужа, залішне, занадта, зусім, ледзь, ледзь-ледзь, мала, менш, многа, надвае, надзвычайна, надта, натрае, некалькі, прыблізна, тройчы, трохі, трошкі, удвая, цалкам, яшчэ* і інш.

**177.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэксту.

ПРОЧТИ И ПЕРЕДАЙ ДРУГОМУ

Зубы — бесценный дар, который надо беречь смолоду. Ведь больные зубы не только некрасиво выглядят, портят внешность, но и могут стать причиной желудочных, сердечных и почечных заболеваний.

Лучше, если вы будете чистить зубы после каждого приёма пищи, чтобы застрявшие между зубами кусочки пищи не разлагались, вызывая неприятный запах. И уж совершенно необходимо пользоваться зубной щёткой утром и вечером, перед сном.

Не чистите зубы только в одном направлении. Водите щёткой снизу вверх, справа налево и наоборот, с наружной и внутренней стороны. Вся процедура должна длиться не менее трёх минут. Полоскать рот лучше тёплой водой. Хорошо добавить туда щепотку столовой соли.

Зубы не любят контрастную температуру. Нельзя сразу после мороженого выпить чашку горячего чая и наоборот. Даже гранит даёт трещину, если окунать его попеременно то в горячее, то в холодное, что уж говорить о зубах.

Но даже когда вы добросовестно ухаживаете за зубами, надолго сохранить их здоровыми можно лишь в том случае, если заботиться о рациональном питании. Ешьте побольше сырых овощей и фруктов. Прекрасно укрепляют зубную эмаль и дёсны сырые яблоки и морковь. Ешьте побольше молочных продуктов, в которых содержится кальций.

Ежедневный уход за зубами — самое эффективное и самое недорогое средство *(О. Михайлова)*.

Выканайце пісьмова пераклад двух абзацаў тэксту (на выбар). Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа. Вызначце разрад прыслоўяў.

Вусна перакажыце тэкст па-беларуску.

**Слоўнік:**

*бесценный* — ***вельмі каштоўны, неацэнны;***
*внешность* — ***выгляд;***
*длиться* — ***цягнуцца, доўжыцца;***
*добросовестно* — ***добрасумленна;***
*желудочный* — ***страўнікавы;***
*наружный* — ***вонкавы, знадворны;***
*попеременно* — ***папераменна, напераменку;***
*почечный* — ***ныркавы;***
*смолоду* — ***за́малада;***
*сохранить* — ***захаваць;***
*трещина* — ***трэшчына, расколіна;***
*щепотка* — ***каліва.***

## § 22. Ступені параўнання прыслоўяў

Прыслоўі, што заканчваюцца на суфікс *-а*, утвораныя ад якасных прыметнікаў, маюць формы ступеней параўнання: **вышэйшую** і **найвышэйшую** (*дорага* — ***даражэй, найдаражэй;*** *прыгожа* — ***прыгажэй, найпрыгажэй***).

**Простая форма вышэйшай ступені** параўнання прыслоўяў утвараецца ад асновы прыслоўя пры дапамозе суфікса ***-эй (-ей)***: *высока* — ***вышэй***, *весела* — ***весялей***, *хутка* — ***хутчэй***. У некаторых прыслоўях пры гэтым зычныя чаргуюцца, а суфікс ***-к- (-ок-, -ёк-)*** выпадае: *далёка* — ***далей***.

Простая форма вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў *добра, дрэнна, мала, многа* ўтвараецца шляхам замены асноў: *добра* — ***лепш***, *дрэнна* — ***горш***, *мала* — ***менш***, *многа* — ***больш***.

**Складаная форма вышэйшай ступені** параўнання прыслоўяў утвараецца спалучэннем слоў *больш (болей)*, *менш (меней)* і пачатковай формы прыслоўя: ***больш*** *якасна*, ***менш*** *асцярожна*.

**Простая форма найвышэйшай ступені** параўнання прыслоўяў утвараецца ад простай формы вышэйшай ступені пры дапамозе прыстаўкі ***най-***: *вышэй* — ***найвышэй***, *хутчэй* — ***найхутчэй***, *лепш* — ***найлепш***, *больш* — ***найбольш***.

**Складаная форма найвышэйшай ступені** параўнання прыслоўяў утвараецца далучэннем да прыслоўя слоў *надзвычай, найбольш, найменш*, а таксама далучэннем да формы вышэйшай ступені прыслоўя слоў *за ўсё, за ўсіх*: ***найбольш*** *дакладна*, ***найменш*** *удала*, *даражэй* ***за ўсё***, *лепш* ***за ўсіх***.

**178.** Прачытайце прыказкі, растлумачце іх сэнс.

1. Кланяйся зямлі ніжэй — будзеш да хлеба бліжэй. 2. Лёгка раскідаць, ды цяжка збіраць. 3. Работы многа,

а толку мала. 4. Лепш крышку зрабіць, чым багата нагаварыць. 5. Сёння зробіш — заўтра як знойдзеш. 6. Рыхтуй летам сані, а зімой калёсы. 7. Адна галава добра, а дзве лепш. 8. Блізка відаць, ды далёка дыбаць. 9. Меней слоў — то праўды болей.

Назавіце прыслоўі, ужытыя ў пэўнай форме ступені параўнання.

Назавіце прыслоўі-антонімы, вызначце іх сэнсава-стылістычную ролю ў прыказках.

Запішыце ўсе магчымыя формы ступеней параўнання прыслоўяў *блізка, далёка.*

**179.** Запішыце. Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа. Зверху абазначце ступень параўнання прыслоўя (калі ёсць).

I. Марта, як маці, глыбей і мацней за Міколу любіла дачку, яскравей і чутней адчувала даччыны радасці і мукі. А ад гэтага больш і гарачэй жадала ёй шчасця *(Ц. Гартны).*

II. Трэба шчыра прызнацца: у Міці ўсё выходзіла хутчэй і лепш: ён спрытней знаходзіў словы, рыфмы і ясней, ямчэй выяўляў думку. Ён умеў сказаць пра звычайнае неяк вельмі ж незвычайна, хораша *(Г. Далідовіч).*

⊙ Складзіце невялікі тэкст-разважанне на тэму «Я і мой сябар (сяброўка)», ужыўшы ў ім прыслоўі і прыметнікі ў формах вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання.

**180.** Прачытайце. Вызначце асноўную думку тэкстаў. Выпішыце словазлучэнні з прыслоўямі, вызначце сэнсавы разрад, форму ступені параўнання прыслоўяў (калі ёсць).

I. Навучы мяне,
Родная мова мая,
Яшчэ больш адчуваць
Сваю сувязь
З бацькоўскай зямлёй,
Гарачэй і мацней
Дарагую Радзіму любіць...
Як найлепей
Апошнюю сэрца крывінку
Аддаць
Для свайго народа —
Навучы мяне,
Вернае слова народа.

*К. Кірэенка.*

| |
|---|
| ***уво́гуле*** |
| ***на жаль*** |
| ***напры́клад*** |
| ***насу́праць*** |

II. Красу прыроды хлебароб адчувае інакш, паўней, чым яе староннi назiральнiк, няхай сабе нават найлепш эстэтычна падрыхтаваны[м] цi па натуры вельмi чулы. Хлебароб успрымае яе не збоку, не зверху, а з самай сярэдзiны, свядома цi падсвядома адчуваючы[м] сябе саўдзельнiкам стварэння гэтай красы, — гордае i шчаслiвае адчуванне *(Я. Брыль)*.

Адкажыце, чым адрознiваецца простая форма вышэйшай ступенi параўнання прыслоўя ад простай формы вышэйшай ступенi параўнання прыметнiка.

!

Адрознiвайце форму вышэйшай ступенi параўнання **прыслоўя** ад аналагiчнай формы вышэйшай ступенi параўнання **прыметнiка:** у iх розныя суфiксы i неаднолькавая сiнтаксiчная роля ў сказе. Прыслоўе паясняе дзеяслоў, адказвае на пытанне як?, у сказе бывае звычайна акалiчнасцю: *Сонца свецiць* (я к?) *ярчэй.* Прыметнiк у вышэйшай ступенi параўнання паясняе назоўнiк, адказвае на пытаннi я к i? я к а я? я к о е? я к i я?, у сказе бывае выказнiкам: *Сонца* (я к о е?) *ярчэйшае за Месяц.* Параўнаем: *За год дрэва вырасла* (я к?) *вышэй за хату. Гэта дрэва* (я к о е?) *вышэйшае за хату.*

**181.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту. Назавiце прыметы стылю. Растлумачце, якую моўную памылку дапусцiў хлопчык.

— Нарысуй мяне, Алесь, — просiць Шура.
— А што дасi? — пытаюся.
— Жыта.
— Колькi жыта?
— Мяшок або яшчэ мнажэй.
— Ды не мнажэй, а трэба казаць **больш**, — зноў папраўляе Нiна. I, падумаўшы, дадае: — От дурненькi! *(Я. Брыль)*.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.

**182.** Прачытайце словазлучэнні. Назавіце ў іх прыслоўі. Ад кожнага з прыслоўяў утварыце формы ступеней параўнання і запішыце. Абазначце суфіксы простай формы вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў.

| Прыслоўе ў словазлучэнні | Простая форма вышэйшай ступені | Складаная форма вышэйшай ступені | Простая форма найвышэйшай ступені | Складаная форма найвышэйшай ступені |
|---|---|---|---|---|
| *прыехаў ахвотна*<br>*сустрэлі радасна*<br>*выступіў эфектна*<br>*расказаў падрабязна*<br>*аддзячылі шчыра*<br>*развіталіся цёпла*<br>*успамінаюць часта*<br>*адгукаюцца добра* | | | | |

● Прыдумайце тэму дыялогу з прапанаванымі прыслоўямі. Складзіце і выканайце дыялог з таварышам (з суседам па парце).

**183.** Перакладзіце сказы на беларускую мову. Звяртайце ўвагу на правільнае ўжыванне формаў ступеней параўнання прыметнікаў і прыслоўяў.

1. Митраша по елани* шёл вначале лучше, чем даже раньше по болоту. Постепенно, однако, нога его стала утопать всё глубже и глубже, и становилось всё труднее и труднее вытаскивать её обратно.

2. Ёлочки-старушки не как деревья в бору, все одинаковые. Чем старше старушка на болоте, тем кажется чуднее.

3. Слой под ногами у Митраши становился всё тоньше и тоньше, но растения хорошо держали человека.

*М. Пришвин.*

**184.** Прачытайце прыслоўі. Вызначце іх разрад. Утварыце ад іх усе магчымыя формы ступеней параўнання і запішыце.

Блізка, высока, гладка, глыбока, спадцішка, далёка, коратка, вечна, нізка, зацята, рэдка, цяжка, шырока.

**185.** Разгледзьце малюнкі. На іх аснове складзіце невялікае апавяданне, выкарыстаўшы неабходныя па змесце прыслоўі (у тым ліку і ў формах ступеней параўнання).








⊙ **186.** Запішыце сказы. Вызначце, якімі членамі сказа і часцінамі мовы з'яўляюцца выдзеленыя словы. Выпраўце, калі неабходна, памылкі ва ўжыванні формаў слоў.

1. Кірыл быў удвая **дужэйшы** за кожнага з нас *(І. Навуменка)*. 2. Гара была тады і **шырэй** і **вышэй,** акружалі яе вал земляны і дубовая сцяна *(В. Хомчанка)*. 3. Куды **шаноўней** слесарам выдатным быць, чым дрэнным піяністам *(У. Корбан)*. 4. Цёмныя цені **даўжэй** у лагчыне *(М. Багдановіч)*. 5. Не было нічога **прыгажэйшага** за гэту ўсмешку *(У. Караткевіч)*. 6. Ідзе-брыдзе Аксіння **далей**. Стала

Аксінні неяк **лягчэй** *(А. Вярцінскі)*. 7. Даўней быў шмат **дужэйшы** наш народ *(Я. Купала)*.

**187.** Разгледзьце табліцу і адкажыце на пытанні, змешчаныя ніжэй.

| Ступень параўнання | | Утвараецца | | Прыклады |
|---|---|---|---|---|
| Вышэйшая | Простая форма вышэйшай ступені | 1) ад асновы прыслоўя | шляхам далучэння суфіксаў **-эй (-ей)** | *хутка → хутчэй*<br>*моцна → мацней* |
| | | 2) шляхам замены асноў | | *добра → лепш (лепей)*<br>*дрэнна, кепска → горш (горай)*<br>*мала → менш (меней)*<br>*многа → больш (болей)* |
| | Складаная форма вышэйшай ступені | ад пачатковай формы прыслоўя | шляхам далучэння слоў ***больш (болей), менш (меней)*** | *тонка → больш тонка*<br>*выразна → болей выразна*<br>*прыгожа → менш прыгожа*<br>*карысна → меней карысна* |
| Найвышэйшая | Простая форма найвышэйшай ступені | ад простай формы вышэйшай ступені параўнання | шляхам далучэння прыстаўкі ***най-*** | *найбліжэй*<br>*найдалей*<br>*найлепш*<br>*найгорш* |
| | Складаная форма найвышэйшай ступені | 1) ад пачатковай формы прыслоўя | шляхам далучэння слоў ***найменш, найменей, найбольш, найболей*** | *найменш блізка*<br>*найменей сцісла*<br>*найбольш далёка*<br>*найболей выразна* |

| Ступень параўнання | | Утвараецца | | Прыклады |
|---|---|---|---|---|
| Найвышэйшая | | 2) ад простай формы вышэйшай ступені | шляхам далучэння слоў **за ўсё** **за ўсіх** | *менш за ўсё*<br>*лепш за ўсё*<br>*горш за ўсіх*<br>*бліжэй за ўсіх* |

1. Якія формы ступеней параўнання маюць прыслоўі, утвораныя ад якасных прыметнікаў, што заканчваюцца на суфікс ***-а***?

2. З дапамогай якіх суфіксаў утвараецца простая форма вышэйшай ступені? Прывядзіце прыклады.

3. Як утвараецца састаўная форма вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў? Прывядзіце прыклады.

4. Як утвараецца простая форма найвышэйшай ступені параўнання прыслоўяў? Прывядзіце прыклады.

5. Як утвараецца састаўная форма найвышэйшай ступені параўнання прыслоўяў? Прывядзіце прыклады.

6. Для чаго служаць суфіксы ступеней параўнання: для ўтварэння новага слова ці формы таго самага слова?

**188.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і тып. Спішыце, устаўце прапушчаныя літары, пастаўце патрэбныя знакі прыпынку і растлумачце іх.

Зіма сёл..та наступіла рана. Было суха і цёпла а назаўтра ўжо ляжаў снег. Вакол раскінуліся пуховыя снежныя п..рыны, на вокнах з’явіліся ледзяныя ўзоры, ды такія, што не адвесці вачэй. Па зямлі закружылася замець падымаючыся ўсё вышэй і вышэй. Нарэшце ўсчалася сапраўдная завіруха нам..таючы горы снегу.

Праз некалькі дзён мароз спаў, стала крышку ц..плей, а перад Новым годам ужо ішоў пуш..сты ліпкі снег *(В. Чэрнікава)*.

Паспрабуйце прачытаць тэкст без прыслоўяў. Што змянілася ў тэксце? Якую ролю выконваюць тут прыслоўі?

Вызначце разрад па значэнні, ступень параўнання (калі ёсць) і сінтаксічную ролю прыслоўяў.

● Якое значэнне мае фразеалагізм, ужыты ў тэксце?

⊙ Складзіце свой тэкст — мастацкае апісанне зімовай раніцы. Ужывайце ў тэксце прыслоўі розных лексічных разрадаў.

## Марфалагічны разбор прыслоўя

П а р а д а к  р а з б о р у

1. Часціна мовы, агульнае значэнне.

2. Марфалагічныя прыметы: нязменнае слова, разрад па значэнні, ступень параўнання (калі ёсць).

3. Сінтаксічная роля.

У з о р  р а з б о р у

*Сонца памалу ўжо хілілася к захаду* (Я. Колас).

***Вусны разбор***

*Памалу* — прыслоўе, абазначае прымету дзеяння; нязменнае слова, прыслоўе спосабу дзеяння; у сказе з'яўляецца акалічнасцю.

***Пісьмовы разбор***

*Памалу* — прыслоўе, абазначае прымету дзеяння; нязм., прысл. спосабу дзеяння; акалічнасць.

**189.** Выканайце вусны і пісьмовы разбор прыслоўяў з прапанаванага сказа.

Барыс рос ціхім, не па гадах сур'ёзным хлопчыкам, неахвотна і рэдка спускаўся ў цесны, захламлены двор, у якім заўжды было сцюдзёна і сыра, і часта падоўгу разглядаў малюнкі ў бацькавых кніжках *(В. Быкаў)*.

**190.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту, яго асноўную думку.

Як дзіўна ўсё
І нечакана ў гэтым свеце!
Жывеш, жывеш — і раптам адкрываеш:
Кол і калона —
А яно ж, бадай,
Адно і тое...
Так — амаль адно,
Калі зірнуць у корань.

*В. Зуёнак.*

Зрабіце поўны марфалагічны разбор прыслоўяў.

**191.** Прачытайце. Пазнайце, з якога твора Якуба Коласа ўзяты гэтыя страфы.

I. Вось улетку дык раздольна:
Выйдзеш з хаты ў поле, луг;
Цёпла ўсюды і прывольна,
Сонца многа, чысты дух.

II. І балуе пажар — іскры сонцавых кос,
Разнімаецца шырай, дужэй, —
Ясны дзень павядзе цяпер рэй.

III. На Сымонку і дзяўчаты
Паглядалі цікавей,
Ім пацешыць сэрца ў святы
Запрашалі ласкавей.

IV. І тады вакол Сымонкі
Ўсе збіваліся цясней,
А **дзядоўскія**[сл] скарбонкі
Накладаліся паўней.

Выканайце пісьмова поўны марфалагічны разбор прыслоўяў з адной страфы (на выбар).

● Вызначце разрад па значэнні выдзеленага прыметніка.

**192.** Прачытайце. Вызначце стыль і тып тэксту. Перакладзіце тэкст на беларускую мову.

Монументальный комплекс «Хатынь» расположен в Логойском районе Минской области на месте сожжённой вместе с жителями (22.03.1943) одноимённой белорусской деревни. Авторы: архитекторы Ю. Градов, В. Занкович, Л. Левин, скульптор С. Селиханов.

Мемориальный архитектурно-скульптурный комплекс, занимающий площадь около 50 га, отразил планировочную схему бывшей деревни Хатынь. В центре композиции высится шестиметровая бронзовая скульптура «Непокорённый человек» с убитым ребёнком на руках. Рядом сомкнутые гранитные щиты, символизирующие крышу сарая, в котором немецко-фашистские каратели сожгли жителей деревни. На братской могиле из белого мрамора — Венец Памяти со словами наказа мёртвых живым — на одной стороне — и ответ живых погибшим — на другой. В тех местах, где

когда-то стояли хаты, поставлено 26 обелисков, напоминающих печные трубы, опалённые огнём, и столько же символических венцов-срубов из бетона. На трубах-обелисках — бронзовые таблички с именами тех, кто здесь родился и жил. А сверху — печально звенящие колокола. Вечный Огонь в память о жертвах фашистского террора *(В. Чантурия)*.

**Слоўнік:**

*высится* — ***высіцца, узвышаецца;***
*крыша* — ***дах, страха;***
*одноимённый* — ***аднайменны;***
*отдельный* — ***асобны, паасобны, некаторы;***
*печально* — ***маркотна, засмучана, журботна, скрушліва;***
*расположить* — ***размясціць, расставіць;***
*рядом* — ***поруч, побач, каля, ля, недалёка, паблізу, блізка;***
*сожжённый* — ***спалены;***
*сомкнутый* — ***самкнуты, злучаны.***

## § 23. Утварэнне прыслоўяў

Прыслоўі ўтвараюцца ад усіх самастойных часцін мовы: *вечарам ← вечар, холадна ← халодны, бягом ← бегчы, нашто ← што, двойчы ← два, патроху ← трохі.*

Вылучаюцца наступныя спосабы ўтварэння прыслоўяў:

**суфіксальны:** *ранак → ранкам, сардэчны → сардэчна, таіцца → тайком;*

**постфіксальны:** *як → як-небудзь; чаму → чамусьці;*

**прыставачны:** *цёмна → зацемна, воддаль → наводдаль, заўтра → паслязаўтра;*

**прыставачна-суфіксальны:** *верх → даверху, даўні → здаўна, тры → утрох;*

**словаскладанне:** *міжволі, мімаходзь, паўсур'ёзна, сюды-туды, штодзень.*

Некаторыя прыслоўі ўтварыліся даўно ад слоў, якія ў сучаснай мове не ўжываюцца: *дасюль, знячэўку, насцеж, папярок, трохі, цяпер.* Складана вызначыць, ад якіх часцін мовы і як утварыліся такія прыслоўі.

**193.** Прачытайце.

Ох і цёмна ж ноччу ў пушчы:
Ельнік стаў яшчэ **гусцей,**
Лось галлё сухое трушчыць
І чапляецца часцей
То за пень, то за калоду,
То за вострыя сукі, —
Не былі такія зроду
Паздзіраныя бакі.

*С. Грахоўскі.*

Выканайце словаўтваральны і марфалагічны разбор прыслоўяў. Што вы можаце сказаць пра ўжыванне выдзеленага слова?

**194.** Падбярыце да прыслоўяў адпаведныя фразеалагізмы з правага слупка.

| | |
|---|---|
| блізка | без году тыдзень |
| даўно | гады ў рады |
| здаўна | не за гарою |
| рэдка | за дзедам шведам |
| мала | спакон вякоў |
| нядаўна | у свіныя галасы |
| позна | хоць вока выкалі |
| хутка | як кот наплакаў |
| цёмна | як на дражджах |

Вызначце, ад якіх часцін мовы і як утварыліся прыслоўі.

● З трыма фразеалагізмамі (на выбар) складзіце сказы. Вызначце, якімі членамі сказа з'яўляюцца ўжытыя фразеалагізмы.

**195.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль. Падбярыце загаловак.

Спішыце тэкст. Пазначце разрад прыслоўяў па значэнні, ступень параўнання (калі ёсць), графічна абазначце сінтаксічную ролю прыслоўяў у сказе.

Загадка фарбаў, іх прызначэнне хвалююць нас і ў сталасці. Вельмі звычайнае — жоўты лубін цвіце паміж цёмна-зялёнымі пералескамі, а **зверху,** скажам, яшчэ і блакіт,

і белыя, ціхія аблачынкі. Не навіна, а ўсё ж у душы **між-волі** ўзнікае радаснае пытанне: «Навошта яна, такая краса?..» І ніхто, відаць, не адкажа як след, на ўсю глыбіню. Тысячагоддзямі стараемся. Каму ўдаецца гэта менш, каму трохі ці значна больш, а таямніцы, мноства шматфарбных таямніц навокал нас, — застаюцца.

Колькі ж іх бачыць дзіця, чалавек у тым узросце, калі ён пазнае, абагачаецца **непараўнана** хутчэй, чым у сталасці!.. *(Я. Брыль).*

Выканайце словаўтваральны разбор выдзеленых прыслоўяў.

**196.** Прачытайце тэкст. Якая асноўная думка тэксту? Пра якую сэнсавую групу прыслоўяў ідзе размова?

Многа, шмат, багата, безліч... Цэлае сінанімічнае гняздо. Але ў жывой мове не толькі гэтыя словы ствараюць малюнкі мноства...

Усё расце на полі бы на дражджах. Усё зарадзіла. Ягады — хоць шуфлюй, а грыбоў у лесе — хоць касі *(Ф. Янкоўскі).*

**197.** Прачытайце. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту.

НАЦЮРМОРТ

Сусед прынёс суседу кошык яблыкаў. Падпалкоўнік здзіўлена смяецца:

— А я занясу табе кошык сваіх!

Процьма сёлета гэтага дабра, людзі не ведаюць, што з ім рабіць. І ніхто ў гэтым не памагае.

Утрох мы гаворым пра такую безгаспадарчасць, а кошык стаіць на чыстай, охрыстай, асветленай сонцам падлозе. Звычайны кошык сваёй работы, з недалёкай надрэчнай лазы. Ужо спрацаваны, бо многа панасіў, перш за ўсё бульбы, у розную пагоду-непагадзь. А яблыкі — я ем адно — такія свежыя, вялікія, чырванабокія, салодкія. І хочацца сказаць пра гэты кошык, повен яблыкаў. З увагі да таго, хто вырасціў іх, хто кошык сплёў, я гавару як найпрасцей:

— І паглядзець на такое добра.

А ён, сусед, з выгляду працоўны, малазнаёмы мне чалавек, дадае нечакана:

— Ага, нацюрморт!

Гэта гучыць не як акрэсленне — як пахвала. Толькі ж не хочацца згадзіцца з тым, што гэта — «натура мёртвая». Хай сабе рабачай-кошык — ён стары, безліч разоў то мокры, то сухі, хай сабе дошкі падлогі таксама сухія, а яшчэ і прыглушаныя фарбай. Але ж сонца, што свеціць так шчодра і весела, але ж яблыкі, што румяныя ў сонцы, — ну як жывыя! *(Я. Брыль)*.

Выпішыце з тэксту словазлучэнні з прыслоўямі, вызначце спосаб утварэння прыслоўяў.

Назавіце прыслоўі-сінонімы, ужытыя ў тэксце, падбярыце да іх антонімы.

● Выпішыце з тэксту словазлучэнні з дзеепрыметнікамі. Выканайце марфалагічны разбор аднаго дзеепрыметніка (на выбар).

⊙ Напішыце невялікі тэкст — апісанне нацюрморта І. Глазавай (гл. уклейку).

**198.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму, адрасата і асноўную думку.

Ёсць на рацэ Бярозе маленькая вёсачка з паэтычнай назвай Ніўкі. Як помню сябе, так помню прасторную зялёную вуліцу, густыя прысады і пошум спрадвечнага бору, у які проста ўпіраецца адным сваім канцом вёска. А **даражэй** за ўсё, **мілей** за ўсё — гэта, вядома, рака. Плыве яна, празрыстая, задуменная, вабіць да сябе і раніцаю, і ўдзень, і ўвечары...

Па-свойму прыгожа ў нас зімою, па-свойму хораша. І ніякія маразы, ніякія завеі не закуюць, не засыплюць крыніц ля ракі.

Б'юць яны з-пад зямлі маленькімі віркамі, і такое ўражанне, быццам кіпіць вада. Нават па́ра струменіцца над крыніцамі. І чым **большы** мароз, тым яна гусцейшая. Галінкі кустоў над ёй пакрываюцца сіняватай шэранню. Выгляне сонца — і яны заззяюць, загарацца тысячамі разна-

колерных зорачак; падзьме вятрыска — і яны ціхенька зазвіняць, быццам зробленыя з тонкага крышталю.

Багаты тут куток, прыгожы. Яго нельга не любіць, нельга не ганарыцца ім *(М. Вадановаў)*.

Выпішыце з тэксту прыслоўі, паспрабуйце вызначыць, ад якіх часцін мовы і як яны ўтвораны.

⊙ Вызначце, якой часцінай мовы з'яўляюцца выдзеленыя словы. Ці заўважылі вы памылкі ў словаўжыванні? Абгрунтуйце сваё меркаванне.

**199.** Прачытайце. Вызначце, з якой мэтай напісаны тэкст, каму ён адрасуецца. Да якога стылю маўлення і тыпу можна яго аднесці і чаму?

Перакладзіце тэкст на беларускую мову (тры першыя або тры апошнія абзацы).

Асфальтированная дорога, пахнущая солнцем и густо обсаженная деревьями, мягко огибает сосняк, который тянется слева, и выскакивает на равнину поля. Сразу за ним — городок. Среди пышной зелени парков и садов поднимаются древние здания с башнями и куполами.

Это — Несвиж. Увидишь его — и невольно вспоминается прошлое, о котором столько легенд. Впервые город упоминается в летописи в 1223 году. Тогда несвижский князь Юрий участвовал со своей дружиной в битве с монголотатарами на реке Калке.

В 1586 году Несвиж стал центром ординации князей Радзивиллов. Это значит, что они получили нераздельную и неотъемлемую родовую собственность — земли, леса, поселения и т. д.

Исключительно интересен как памятник архитектуры дворец Радзивиллов. Он трёхэтажный, имеет форму замкнутого эллипса. Внутри его просторный двор длиною 80 метров. Головной фасад украшен лепниной. Во дворце свыше 300 комнат. Особенно оригинально отделаны двенадцать больших залов: золотой, мраморный, королевский, гетманский. Для их украшения и оборудования использованы чёрное дерево, роскошная мебель.

Вокруг замка — глубокий ров, заполненный водой. Мост через ров был подъёмным. Для города задачи обороны имели определяющее значение: не только замок, но и само поселение, расположенное поодаль от него, было опоясано рвом и валом. У въездов в город стояли каменные ворота с башнями — брамы: Замковая, Слуцкая, Клецкая, Виленская и у бернардинского монастыря.

Памятниками архитектуры стали ратуша (1590), «Домик на рынке» (1721), Слуцкие ворота (XVII в.). У каждого из этих зданий своя неповторимая прелесть *(Н. Деленковский)*.

**Слоўнік:**

*внутри* — ***усярэдзіне, унутры;***
*исключительно* — ***выключна, надзвычайна, надзвычай;***
*использовать* — ***выкарыстаць, скарыстаць, ужыць;***
*невольно* — ***міжволі, мімаволі, паняволі;***
*неотъемлемый* — ***неад'емны;***
*опоясать* — ***акружыць, аперазаць;***
*подниматься* — ***падымацца, уздымацца, узвышацца;***
*просторный* — ***прасторны, раскошны;***
*упоминаться* — ***упамінацца, згадвацца, называцца.***

## § 24. Суфіксальны спосаб утварэння прыслоўяў

Пры дапамозе суфіксаў прыслоўі ўтвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў, дзеясловаў, прыслоўяў: ***верхам*** ← *верх*, ***вясной*** ← *вясна*, ***гадамі*** ← *год;* ***багата*** ← *багаты*, ***даўно*** ← *даўні*, ***шчыра*** ← *шчыры;* ***двойчы*** ← *двое;* ***бегма*** ← *бегчы*, ***ходам*** ← *хадзіць;* ***высакавата*** ← *высока*, ***ціхутка*** ← ціха.

Постфіксальным спосабам утвараюцца прыслоўі ад прыслоўяў: ***дзесьці*** ← *дзе*, ***чамусьці*** ← *чаму*, ***куды-небудзь*** ← *куды*.

**200.** Запішыце прыслоўі. Пакажыце графічна, ад якіх часцін мовы і якім спосабам яны ўтвораны.

*Вечарам* ← *вечар*; дабром, зімой, залпам, вожыкам.

*Рашуча* ← *рашуч ы;* багата, балюча, даўно, весела, шчыра.

*Двойчы* ← *двое* ([двой э]); аднойчы, тройчы.

*Бягом* ← *бег чы;* валам, крадком, цягам.

*Нізенька* ← *нізка*; добранька, хуценька, ціхенька.

*Дзе-небудзь* ← *дзе*; куды-небудзь, як-небудзь.

*Калісьці (калісь)* ← *калі*; дзесьці, кудысьці, чамусьці.

Падбярыце да некаторых з прапанаваных слоў прыслоўі з супрацьлеглым значэннем. Складзіце і запішыце сказы або невялікі тэкст з дзвюма-трыма парамі такіх прыслоўяў.

**!** У прыслоўях на **-а, -о, -е** пішацца адно або два ***н*** (***н*** або ***нн***), як і ў прыметніках, ад якіх яны ўтвораны: *лішне* ← *лішні*, *танна* ← *танны*, *холадна* ← *халодны*, *даўно* ← *даўні*.

**201.** Утварыце прыслоўі з дапамогай суфіксаў ад прапанаваных прыметнікаў. Згрупуйце іх паводле напісання ***н (нн)*** і запішыце ў словазлучэнні «дзеяслоў + прыслоўе» або «прыслоўе + прыметнік».



Узор: *трымацца мужна, бяздонна глыбокія.*

Бяздонны, бескарысны, вогненны, магутны, надзейны, нечаканы, старанны, сцюдзёны, бесперапынны, сумленны, радасны, сучасны.

⊙ Якія прыметнікі і прыслоўі можна ўжыць для характарыстыкі чалавека? Складзіце і запішыце тэкст на адпаведную тэму.

◉ **202.** Запішыце тэкст. Пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Якая асноўная думка тэксту?

Прыляцеў дрозд да сваёй вербалозіны пакалыхаўся на ёй і давай спяваць. Што гэта быў за спеў! То шпаком пасвішча то жаўранкам зазвініць то ластаўкай зашчабеча то салаўём зацухкае а сваёй песні не ўспомніў *(К. Каліна)*.

Над прыслоўямі пазначце іх разрад па значэнні і спосаб утварэння.

● Знайдзіце сінанімічны рад слоў, ужытых у тэксце.

● Вызначце выпадкі ўжывання аднаго ладу дзеяслова ў значэнні іншага, а таксама аднаго часу ў значэнні іншага.

**203.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэксту. Назавіце прыметы стылю.

Непрыкметна пад вятрамі
Дрэвы скінулі ўбор,
З неба зноў зляцелі самі
Мухі белыя на бор.

Пакружылі ціхім роем
І паселі на галлі,
За гарою, пад гарою
Гурбы снегу намялі.

У зацішку верасовым,
Дзе сям'я старых бяроз,
Зай сабе прыгледзеў сховы,
Каб адлежвацца ў мароз.

Моўчкі слухаў, як над вухам
Ціша інеем трасе,
Як яліны-векавухі
Уздыхаюць пакрысе.

Не здзівіўся, як аднойчы
Расхадзіліся вятры,
І кракталі сосны ўночы,
І зваліўся дуб стары...

Паміж хвой стагнала глуха,
У вяршалінах гула,
Лютавала завіруха
Аж да самага святла.
*Г. Бураўкін.*

Выпішыце з тэксту прыслоўі і зрабіце іх словаўтваральны разбор. Якую сэнсава-стылістычную ролю выконваюць прыслоўі ў тэксце?

## § 25. Прыставачны спосаб утварэння прыслоўяў

Пры дапамозе прыставак прыслоўі ўтвараюцца ад іншых прыслоўяў: ***назаўсёды*** ← *заўсёды,* ***недалёка*** ← *далёка,* ***замнога*** ← *многа,* ***паслязаўтра*** ← *заўтра,* ***недзе*** ← *дзе.*

Прыслоўі, утвораныя ад іншых прыслоўяў пры дапамозе прыставак, пішуцца разам: *заўтра* → ***назаўтра,*** *мала* → ***нямала,*** *надта* → ***занадта.***

**204.** З прапанаванымі прыслоўямі ўтварыце і запішыце словазлучэнні. Абазначце прыстаўкі, пры дапамозе якіх утвораны прыслоўі.

Засветла, ненадоўга, залішне, пазаўчора, ніадкуль, паабапал, наводдаль, нязграбна, недзе, пазалетась, назаўсёды, абы-дзе, некалі, замала, занізка.

**205.** Запішыце сказы. Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа. Якія прыслоўі ўтвораны прыставачным спосабам?

1. Даўно гэта было і быццам нядаўна *(М. Парахневіч).* 2. Я гэту мову ўзяў сабе таму, што зашмат у ёй гаротных песень *(М. Танк).* 3. Народ мой, дзякуй, што нідзе мяне балюча не ўпікнулі за твой далёкі век мінулы, за сённяшні твой сіні дзень[сн] *(Г. Бураўкін).* 4. Друг сапраўдны заўсёды падзеліць хлеб апошні, кавалачак свой. Друг не толькі з табою ў нядзелю, ён і ў будні нязменна з табой *(А. Бялевіч).* 5. Вось ён, той самы дом насупраць, цераз дарогу *(А. Васілевіч).* 6. Нездарма словы крылатымі называюцца *(А. Якімовіч).*

**206.** Нярэдка ў п'есах, інтэрмедыях аўтар ужывае прыслоўі, падаючы іх у рэмарках*, для ўдакладнення інтанацыі акцёра, яго паводзін, указанняў, як і для каго вымаўляецца рэпліка.

Прачытайце дыялогі-жарты. Вызначце стыль тэкстаў. Падбярыце да кожнай рэплікі прыслоўі для ўдакладнення інтанацыі.

Д л я  д а в е д к і: *настойліва, ціха, хрыпла, безнадзейна, катэгарычна, саркастычна*, дзёрзка, спакойна, стрымана, цвёрда, перапалохана, злосна, нечакана, насцярожана, зусім наіўна, мнагазначна, занепакоена, устрывожана, шэптам, вельмі зацікаўлена, грозна, разважліва, здзіўлена, гарэзліва, трагічна, адчужана, істэрычна.*

Перакажыце жарты, ужываючы неабходную інтанацыю.

### УЧОРА І СЁННЯ

— Але ж гэтае малако зусім кіслае.

— Ну, вы ўжо зашмат вымагаеце. Учора гэтае малако ўсе хвалілі.

### НЕ ПАРАЗУМЕЛІСЯ

— Сынок, — просіць маці, — зачыні фортку, а то на вуліцы холадна.

— А што, — здзіўляецца сын, — хіба, калі я яе зачыню, на вуліцы стане цяплей?

### ЯК ТУТ СКАЗАЦЬ

— Твае дзеці яшчэ вучацца ці ўжо пайшлі на свой хлеб?

— Ды як сказаць. На свой хлеб пайшлі, але ад бацькоўскіх грошай не адмаўляюцца.

### НАСТАЎНІЦА ВІНАВАТА

Вова прыйшоў са школы раней тэрміну.

— Што, зноў правініўся? — пытае маці.

— Настаўніца сама вінавата. Яна сказала: паводзьце сябе як дома. Я так і паводзіў сябе. І яна адправіла мяне дамоў.

### ЗАПЫТАЛАСЯ

Н а с т а ў н і ц а *(да вучня)*. Коля, як трэба напісаць слова «невысока»?

В у ч а н ь. Нізка.

УДАЛЫ ПРЫКЛАД

Н а с т а ў н і к. Усе целы ад цяпла расшыраюцца, а ад холаду сціскаюцца. Ці не прывядзеш, Сцёпка, прыклад?

С ц ё п к а. Зімой дні карацейшыя, таму што холадна, а летам даўжэйшыя, таму што горача.

ПАМЫЛКА

— Які мурзаты хлопчык! Сёння я магу сказаць, што ты еў учора.

— Ну, што?

— Кісель.

— А от і не. Кісель я еў яшчэ заўчора.

Запішыце (на выбар) два тэксты, падкрэсліце прыслоўі, на аснове якіх пабудаваны жарты. Вызначце разрад прыслоўяў па значэнні.

## § 26. Правапіс *не (ня), ні* з прыслоўямі

***Не (ня)*** з прыслоўямі на ***-а, -е*** пішацца **разам**:

1) калі слова без ***не (ня)*** не ўжываецца: *неабходна, няўхільна, няўцешна, непахісна*;

2) калі прыслоўе з прыстаўкай ***не- (ня-)*** можна замяніць сінонімам без ***не- (ня-)***: *невысока — нізка, няцяжка — лёгка, нечакана — раптоўна, няспешна — павольна.*

***Не*** з прыслоўямі на ***-а, -е*** пішацца **асобна**, калі ў сказе ёсць або падразумяваецца слова з супрацьлеглым значэннем, звязанае злучнікам ***а***: 1. *Сябры сустрэліся не ўчора, **а** сёння.* 2. *Наступны прыпынак не далёка* (падразумяваецца — ***а*** *блізка*).

***Не*** пішацца **разам** у неазначальных прыслоўях *не́дзе, не́калі, не́куды, не́як, не́адкуль, не́чага* (прыстаўка ***не-*** пад націскам).

***Ні*** пішацца **разам** у адмоўных прыслоўях *нідзе́, ніко́лі, ніку́ды, нія́к, ніадку́ль, нізашто́, ніко́лькі* (прыстаўка ***ні-*** не пад націскам).

**207.** Спішыце, падкрэсліце прыслоўі як члены сказа. Пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Растлумачце правапіс ***не (ня), ні*** з прыслоўямі.

У з о р   р а з в а ж а н н я. *Сава нечакана вылецела з-за майго будана* (Р. Ігнаценка). Прыслоўе *нечакана* пішацца разам, таму што слова можна замяніць сінонімам без прыстаўкі ***не-*** — *раптоўна.*

1. Народ, які зведаў, што такое воля, ніколі не ўдасца паставіць на калені *(Б. Сачанка)*. 2. Пакуль мы з Наткай прыбіралі ў кватэры а потым мокрай шчоткай чысцілі адзенне, час праляцеў непрыкметна *(А. Васілевіч)*. 3. Не доўга спяваюць зязюлі *(Р. Ігнаценка)*. 4. Каханне ніколі нідзе не знікае, каханы каханую скрозь адшукае *(С. Грахоўскі)*. 5. Арганізаваць заняткі ў школе было не проста *(Б. Сачанка)*. 6. Падаўжэлая восеньская ноч прамільгнула незаўважна — як летняя *(Я. Сіпакоў)*. 7. Горад быў ужо ўвесь у агні дыме руінах бамбёжка не спынялася ні ўдзень, ні ўночы *(Б. Сачанка)*. 8. Стаяла хмара нерухома ў жыце спелым. Ад першага **ўдару грому** аж пачарнела *(П. Панчанка)*.

- Назавіце простыя і складаныя сказы.
- У якіх сказах вы паставілі коскі? Чаму?
- Растлумачце правапіс канчаткаў выдзеленых назоўнікаў.

**208.** Прачытайце. Складзіце і запішыце словазлучэнні спачатку з тымі прыслоўямі, якія без ***не (ня)*** не ўжываюцца, а потым — з астатнімі. Растлумачце правапіс галосных ***е, я***.

Н..дастаткова, н..падалёку, н..важна, н..цяжка, н..ўпапад, н..ўзнак, н..магчыма, н..ўтульна, н..далёка, н..смачна, н..выпадкова, н..ўмела, н..здарма, н..бяспечна, н..прыкметна, н..паспешна, н..спадзявана, н..шчыра, н..зграбна, н..чакана, н..гучна, н..свядома, н..ўпрыкмет, н..ахайна.

З двума прыслоўямі (на выбар) запішыце сказы, каб у адным выпадку ***не*** пісалася разам, а ў другім — асобна.

***у абхва́т***
***у абды́мку***
***у ахво́ту***
***у ме́ру***
***праз ме́ру***

**209.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэксту. Назавіце некаторыя асаблівасці і прыметы стылю.

Партызанка Кніга. Так звалі маладую гнядую кабылу. Кніга ўмела, калі трэба было, замаскіравацца, легчы на зямлю і ляжаць *(н..)* рухома да таго часу, пакуль ёй не дазвалялі ўстаць. Яна ўмела ступаць, як кот, зусім *(н..)* чутна, і бег яе быў лёгкі і імклівы.

*(Н..)* вядома, па якіх прыметах вызначала Кніга з усяго атрада партызанскую сувязную Таню. Не адзін раз выносіла Кніга бясстрашную партызанку з-пад варожых куль.

Вось што здарылася з імі аднойчы. Лясной дарогай Таня вярталася верхам на Кнізе з баявога задання. Стомленая бяссоннай ноччу, яна *(н..)* прыкметна задрамала. Таня прачнулася ад таго, што Кніга раптам спынілася і застыла на месцы як укопаная. Дзяўчына кранула кабылу стрэмем. Кніга толькі *(н..)* цярпліва пераступіла з нагі на нагу, нібы прасіла: «Не перашкаджай...»

Раптам да Тані даляцеў слабы чалавечы стогн. На невялічкай, з хату велічынёй, палянцы дыміліся абломкі самалёта. І сярод гэтых абломкаў ляжаў лётчык. Адзежа на лётчыку сатлела. Ад апёкаў і страшэннага болю ён страціў прытомнасць. Трэба было як мага хутчэй ратаваць яго.

І Таня ўспомніла пра сваю верную Кнігу. Разумная жывёліна рабіла ўсё, што загадвала дзяўчына. Вось яна асцярожна апусцілася на зямлю. Асцярожна павярнулася спінай да лётчыка, прыўзняла галаву, каб Таня магла прывязаць да яе шыі рукі лётчыка. Потым Кніга асцярожна паднялася з зямлі і пачакала, пакуль сядзе на яе сама дзяўчына. Потым гэтак жа асцярожна яны рушылі ў атрад.

З партызанскага атрада лётчыка адправілі на лячэнне ў шпіталь, на Вялікую зямлю *(Паводле А. Васілевіч)*.

Выпішыце словазлучэнні з прыслоўямі, растлумачце правапіс ***не (ня)*** з прыслоўямі.

Ці абгрунтавана дае аўтар паўтор аднаго і таго ж прыслоўя ў передапошнім абзацы?

⊙ Пісьмова перакажыце тэкст, сцісла перадаўшы змест трэцяга і чацвёртага абзацаў.

## § 27. Прыставачна-суфіксальны спосаб утварэння прыслоўяў

Прыставачна-суфіксальным спосабам прыслоўі ўтвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў, дзеясловаў, прыслоўяў: *поўдзень* ← ***апоўдні***, *даўні* ← ***здаўна***, *наш* ← ***па-нашаму***, *тры* ← ***утрох***, *перамяшаць* ← ***уперамешку***, *доўга* ← ***падоўгу***.

**210.** Запішыце і растлумачце, як утвораны прыслоўі.

*Спераду* ← *перад;* (наз.) дадому, дадолу, знізу, наверсе.

*Злева* ← *левы;* (прым.) дабяла, здалёку, начыста, па-святочнаму, па-беларуску.

Па-вашаму, па-свойму, наколькі, учатырох, утраіх, надвае.

Упрыкуску, бесперастанку, наперагонкі.

Памалу, патроху, паціху.

**211.** Утварыце прыслоўі прыставачна-суфіксальным спосабам. Запішыце іх.

I. ***у-***, ***на-***, ***у-*** + вясна, гара, сярэдзіна, **мера, зіма** / глухі, доўгі, сухі, тугі, чысты / двое, трое, чатыры, пяць, шэсць + ***-у, -ку***, ***-а***, ***-іх (-ых)***, ***-ох (-ёх)***

II. ***з-***, ***у-***, ***да-*** + вечар + ***-а***, ***-ы***, ***-а***

***у-***, ***па-***, ***да-*** + ніз + ***-е***, ***-е***, ***-у***

Чым адрозніваецца напісанне выдзеленых слоў? Прыдумайце і запішыце сказы з гэтымі прыслоўямі.

**Заўвага!**

Ужывайце правільна прыслоўі, утвораныя ад колькасных лічэбнікаў тыпу *удвух, утрох:*

***удвух*** — толькі пра хлопчыкаў, мужчын;

***удзвюх*** — толькі пра дзяўчынак, жанчын;

***удваіх*** — пра асоб рознага полу або пра істот ніякага роду;

***утрох, учатырох, упяцёх, ушасцёх, усямёх*** і г. д. — толькі пра мужчын або толькі пра жанчын;

***утраіх, учацвярых, упяцярых, ушасцярых, усемярых*** і г. д. — пра асоб рознага полу або пра істот ніякага роду.

**212.** Прачытайце прыслоўі. Падбярыце да іх антонімы і запішыце. Вызначце спосаб іх утварэння.

У з о р: *даверху — данізу. (Прыставачна-суфіксальны.)*

Спераду, направа, збоку, па-новаму, зрання, памалу.

З адной-дзвюма парамі антонімаў складзіце і запішыце сказы або невялікі тэкст.

**213.** Спішыце. Пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа, абазначце спосаб іх утварэння.

1. Было спрадвеку, слова, ты крыніцай цудадзейнай сілы, што вызваляла з нематы, Айчыны ніву каласіла *(Р. Барадулін).* 2. Сцежкаю вузкай неяк уранку выйшаў хлапчук на лясную палянку *(А. Дзеружынскі).* 3. Не пераставаў па-воўчы выць у коміне вецер, па-ранейшаму ашалела кідала ў шыбы прыгаршчамі снегу мяцеліца *(А. Васілевіч).* 4. Час ад часу напамінаючы аб сабе звінеў трамвай *(Я. Рамановіч).* 5. Я змераў Мінск і ўпоперак і ўдоўжкі спазнаў усе завулкі тупікі *(П. Панчанка).* 6. Людзі збоку заўсёды ўсё бачаць і ведаюць пра нас лепш, чым мы самі *(А. Васілевіч).*

Які фразеалагізм ужыты ў сказе ў ролі прыслоўя?

**214.** Прачытайце верш. Выпішыце словазлучэнні з прыслоўямі. Вызначце спосаб утварэння прыслоўяў.

КАСМІЧНЫ ЦЯГНІК

Мы ў касмічнай вышыні
**Ўдвух** працуем
Усе дні.
Станцыю,
Наш новы дом,
У якой
Даўно жывём,
Стыкавалі
З караблём
І, бязважкія,
Плывём...
Зоры яркія
Гараць,
Добра нам тут
Працаваць.
Робім
Не адзін віток...
Чуецца
Сігнал
Здалёк,
Вестка
З роднае Зямлі,
Каб гасцей мы
Прынялі.
Хтосьці
Стукае
Ў наш дом,
Нібы птах
Сваім крылом...
Два таварышы
Да нас
Прыляцелі
Ў добры час.
Весялей
**Учатырох,**
У дамах жывём
**У трох** —
Станцыя,
Два караблі —
Дар
Любімае Зямлі.

*А. Дзеружынскі.*

Якімі часцінамі мовы з'яўляюцца выдзеленыя словы?

**215.** Прачытайце. Пра якую мясцовасць Беларусі ідзе размова ў гэтым тэксце?

Яшчэ ў першыя паездкі свае па раёне Апейка заўважыў, што людзі ў розных месцах жылі неаднолькава, што тыя, хто жыў падалей ад ракі, між балот ды лясоў, багата розніліся ад яго знаёмых змалку землякоў — жыхароў пясчанай надпрыпяцкай вёсачкі. Розніліся некаторымі звычаямі, розніліся гаворкаю: раптам прыкмеціў, што ў блізкіх, можна сказаць, суседніх сёлах па-align=рознаму вымаўлялі адны і тыя ж словы, быццам гаварылі на розных мовах! Дзіўна

было чуць, як дзядзькі ці хлопцы аднаго сяла пацяшаюцца з гаворкі тых, што жылі за тым жа балотам, з другога боку яго! Пацяшаліся, хоць у саміх гаворка была дзіўная, хоць тыя, з другога боку, таксама падсмейваліся з іх! Апейка, дабіраючыся да разгадкі такога дзіва, меркаваў, што гэта была, мабыць, памяць далёкай даўніны, калі вёсачкі на сваіх выспах між багнішч жылі яшчэ больш асобна *(І. Мележ)*.

Выкажыце сваю думку — «разгадку такога дзіва», абапіраючыся на свае веды па мове.

● Выпішыце два рады аднакаранёвых слоў. Якімі часцінамі мовы і членамі сказа з'яўляюцца яны ў тэксце? Дакажыце.

Якія прыслоўі ўжыў аўтар у тэксце і з якой мэтай?



Некаторыя прыслоўі ўтвараюцца шляхам:

**складання слоў:** *штодзень, паўсур'ёзна, мімаходам, таксама*;

**паўтарэння аднолькавых або блізкіх слоў:** *вось-вось, даўным-даўно, калі-нікалі, сям-там, раз-пораз, туды-сюды*.

**216.** Запішыце сказы. Вызначце спосаб утварэння прыслоўяў.

1. Плошча круглая! Ноччу і днём я схіляюся нізка-нізка перад Вечным тваім агнём, перад вечным тваім абеліскам *(А. Грачанікаў)*. 2. Народ мой, дзякуй, што ты велікадушна даў мне ў рукі не **алебарды*** і **шчыты**, а **лемяхі*** і першадрукі *(Г. Бураўкін)*. 3. Ты ў такім шчаслівым узросце, калі яшчэ сэрца не знае злосці, калі яму лёгка-лёгка біцца, калі салодка-салодка спіцца *(А. Вярцінскі)*. 4. Хоць Кім звечара прасіў разбудзіць рана-раненька, Юля вырашыла ўсё ж па-свойму: няхай унук добра выспіцца, а рэчка ад яго нікуды не дзенецца *(М. Парахневіч)*. 5. Празвінеў званок ранютка-рана, і адразу клас увесь заціх *(А. Дзеружынскі)*. 6. Туман, што быў дзе-нідзе, завалок лагчынкі, заварушыўся, папоўз бліжэй да кустоў *(Б. Сачанка)*. 7. Увачавідкі цямнела — зімовы дзень вечарэе дужа рана *(Я. Сіпакоў)*.

Вызначце па тлумачальным слоўніку лексічнае значэнне выдзеленых слоў. Складзіце з імі сказы.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах.

Выканайце марфалагічны разбор прыслоўяў з апошняга сказа.

## § 28. Правапіс прыслоўяў праз дэфіс

**217.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйце паведамленне аб правапісе прыслоўяў праз дэфіс.

### Праз дэфіс пішуцца прыслоўі

| | Прыклады |
|---|---|
| 1. з прыстаўкай ***па-***, якія заканчваюцца:<br>а) на ***-ому, -аму, -яму, -му***<br><br>б) на ***-ску, -цку, -ы, -і*** | <br><br>*па-дзелавому, па-новаму*<br>*па-летняму, па-твойму*<br>*па-беларуску, па-мастацку,*<br>*па-чалавечы, па-латыні* |
| 2. з прыстаўкай ***па-***, утвораныя ад парадкавых лічэбнікаў | *па-першае, па-другое,*<br>*па-трэцяе, па-чацвёртае*<br>і г. д. |
| 3. з прыстаўкай ***абы-*** | *абы-як, абы-дзе* |
| 4. з постфіксам ***-небудзь*** | *калі-небудзь, як-небудзь* |
| 5. утвораныя шляхам паўтору аднолькавых, блізкіх або антанімічных слоў | *ціха-ціха, перш-наперш,*<br>*сюды-туды, дзе-нідзе,*<br>*крыж-накрыж, шыварат-навыварат* |
| **Але:** *адзін на адзін, дзень у дзень, след у след, у рэшце рэшт, час ад часу* і іншыя ўстойлівыя выразы. | |

**218.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі. Прыслоўі падкрэсліце як члены сказа. Правапіс прыслоўяў растлумачце, вызначце спосаб іх утварэння.

1. Восеньскае невысокае сонца грэе ласкава. Сям *(там)* праплыве павуцінка і лена зачэпіцца за плот *(Я. Скрыган)*. 2. Зіма *(па)* ранейшаму стаяла бясснежная. Увесь снежань плыло нізкае шэрае неба, *(па)* асенняму цадзілі дажджы *(Г. Далідовіч)*. 3. Рэдка сонца з месяцам страчаюцца. Свецяць *(па)* асобку. Дзень і ноч. Ды яны, раўніўцы, і спрачаюцца з-за цябе, зямля, даўным *(даўно)* *(П. Панчанка)*. 4. Туман, што быў *(дзе)* нідзе, завалок лагчынкі, завару-

шыўся, папоўз бліжэй да кустоў *(Б. Сачанка)*. 5. Ён знарок пайшоў мыцца, *(абы)* толькі адцягнуць час, калі трэба садзіцца за стол *(І. Шамякін)*.

● Складзіце схемы сказаў пад нумарам 2.

**219.** Ад прапанаваных слоў утварыце аднакаранёвыя прыслоўі, выкарыстаўшы паказаныя сродкі словаўтварэння.

У з о р: *летні* → *па-летняму*.




⊙ З двума-трыма прыслоўямі складзіце і запішыце сказы, у састаў якіх уваходзілі б дзеепрыслоўныя звароты.

**220.** Спішыце, апускаючы дужкі. Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа. Вызначце іх разрад па значэнні. Правапіс прыслоўяў растлумачце.

I. Восень развітвалася, адыходзіла — *(н..)* упрыкмет падкрадаліся халады. Дрэвы ўжо былі амаль голыя, толькі дзе *(нідзе)* гарэлі апошнім сухім лісцем вяршынкі бярозак, асінак ды зелянелі неяк надта *(ж)* цёмна, змрочна іголкі соснаў. І было наўздзіў холадна, *(н..)* утульна *(Б. Сачанка)*.

II. Вакол, як кінуць вокам, у строгім маўчанні стаяў лес. Дзе *(сьці)* за ім тонка свіснуў паравоз, потым да слыху даляцеў аднатонны грукат колаў — і вось *(у)* нізе перад намі паказалася «кукушка», якая цягнула цёмна-бурыя вагончыкі, *(да)* верху напоўненыя чым *(сьці)* чорным *(М. Парахневіч)*.

**221.** Прачытайце водзыў Якуба Коласа на кнігу «Ніколі не забудзем». Выпішыце з тэксту прыслоўі. З якой мэтай ужыты прыслоўі *па-першае, па-другое, па-трэцяе*? Як яны аформлены на пісьме?

Я горача вітаю паяўленне гэтай кнігі, дастойнай вялікай увагі.

У чым яе вартасць?

Па-першае, кніга ў значнай меры запаўняе той прыкры прабел у нашай беларускай мастацкай літаратуры, у якой пакуль што яшчэ няма колькі-небудзь выдатнага твора аб гераічнай барацьбе нашага народа з нямецкімі захопнікамі, аб яго стойкасці, адданасці сваёй Радзіме. Па-другое, кніга паказвае велічнасць душы і патрыятызм усяго народа ў цэлым і ў прыватнасці — яго гераічных дзяцей, смелых, вынаходлівых, бясстрашных, цвёрдых воляю, мужна пераносячых нечуваныя пакуты, дужых сваёю верaю ў перамогу над ворагам. Па-трэцяе, кніга «Ніколі не забудзем» уяўляе сабою грозны абвінаваўчы акт супраць тых міжнародных вар'ятаў-разбойнікаў, якія мараць аб сваім панаванні над народамі, аб устанаўленні сваёй улады над светам, і ў той жа час яна красамоўна гаворыць пра тое, які лёс налучыць такіх сусветных бандытаў.

Напісаная нашымі дзецьмі кніга аб вайне павінна стаць здабыткам не толькі чытачоў Савецкай Беларусі — яна варта таго, каб яе перакласці на мовы іншых народаў Савецкага Саюза *(Я. Колас)*.

⊙ Вызначце, у якім сказе парушана граматычная норма. Запішыце сучасны варыянт пабудовы сказа.

⊙ Паспрабуйце самі напісаць невялікі водзыў на нядаўна прачытаную кнігу.

## § 29. Правапіс прыслоўяў разам

**Разам пішуцца прыслоўі:**

- што маюць у сваім саставе назоўнікі, якія ў сучаснай беларускай мове не ўжываюцца: *бесперастанку, даспадобы, досыць, знячэўку, насцеж, папярок;*
- з прасторавым і часавым значэннем, што маюць у сваім саставе назоўнікі *верх, высь, гара, ніз, перад, па-*

*чатак, бок, даль, дзень, ранак, раз: уверх, увысь, угару, знізу, наперад, спачатку, убаку, удаль, звечара* (**але:** *пад вечар, з ранку да вечара, з вечара да ранку*), *удзень, зранку, адразу* і інш.;

● утвораныя шляхам спалучэння назоўніка з прыназоўнікам, паміж якімі нельга без змены сэнсу ўставіць азначэнне або да назоўніка нельга паставіць склонавае пытанне: *апоўдні, апоўначы, увесну, узімку, спадылба, напаказ, углыб, упершыню, навекі* і інш.;

● утвораныя шляхам спалучэння прыназоўнікаў з рознымі склонавымі формамі кароткіх прыметнікаў: *дабяла, дачыста, зацемна, здаўна, злева, справа, нанава, паціху*;

● утвораныя шляхам спалучэння прыназоўнікаў ***у, на*** з поўнымі прыметнікамі ў форме жаночага роду вінавальнага склону: *упустую, урассыпную, ушчыльную, наўдалую, начыстую*; **але:** *у адкрытую*;

● утвораныя шляхам спалучэння прыназоўнікаў ***у, на*** з лічэбнікамі: *надвае, удвух, удзвюх, утрая, утрох, упяцёх, ушасцёх* (**але:** *у адно, па двое, па трое*);

● утвораныя шляхам спалучэння прыназоўнікаў з некаторымі займеннікамі: *зусім, навошта, нашто, нізашто, потым.*

● з першай часткай ***што***: *штодзень, штораніцы, штовечар, штоноч, штохвілінна, штомесячна, штотыднёва, штосілы*;

● з другой часткай *-**сама***: *гэтаксама, таксама, тамсама*;

● утвораныя ад складаных назоўнікаў і прыметнікаў: *дабрадзейна, дабрадушна, дабрачынна, мілагучна, мэтазгодна, усебакова.*

**222.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс прыслоўяў, звяртаючыся да адпаведнага правіла, прыведзенага ў вучэбным дапаможніку.

1. Толькі *(на)* заўтра *(пад)* раніцу на наш зялёна-ціхманы закутак *(не)* бывала заядла абрынулася *(ад)* разу навальніца. 2. Вільгаці стала як быццам *(у)* досталь, нават для нашай прылясной ненасытнай пясчанасці. 3. Учора

*(у)* вечары над лесам яшчэ *(не)* высока стаяла поўня, каля якой памігвала пястунка-зорачка. 4. Учора *(пад)* раніцу — навальніца з грымотамі, а *(пад)* вечар пайшоў я па дарозе *(с)*пачатку лугавой, а потым лясной, месцамі чапляючыся за навіслае *(з)* верху голле або за стромкія дубцы лазняку *(з)* нізу. 5. Учора *(а)* поўдні грэўся на сонцы, седзячы на ганку, *(у)* першыню адчуўшы гэтую раскошу. 6. А *(у)* дзень ляцелі *(не)* высока два жоравы, курлыкалі — хоць ты бяжы за імі *(Я. Брыль)*.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў 5-м сказе. Выканайце яго графічны разбор па членах сказа.

**223.** Складзіце сказы з прыслоўямі *дабяла, дачыста, урассыпную, у адкрытую, удвух, удзвюх, па двое, навошта.* Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа.

**224.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі. Правапіс прыслоўяў абгрунтуйце.

1. Лесавіковы ягады цудоўныя *(на)* смак і карысныя для здароўя. 2. Калі ж надумаўся прыйсці дамоў з поўным вядром чарніц, *(ні)* як не абысціся без добрай парады: «Адной рукой дзіцё не няньчаць і ягад не збіраюць». 3. Здараюцца *(у)* летку ці восенню шчодрыя дзянькі, калі ад грыбоў, здаецца, аж цесна *(у)* лесе. 4. Расце святаяннік *(па)* усюды: і на сухім лузе, і ў хмызняку, і на ўзмежках. *(З)* далёк відаць яго цыбатыя кусцікі, з цэлым букетам залацістых кветак *(на)* самым версе. 5. Добра звараная гарбата са святаянніка карысная нават здароваму чалавеку, праўда, піць яе трэба *(у)* меру і не кожны дзень. 6. Залётнік — першы з раслін *(на)* нова абжывае пашкоджаныя лясныя дзялянкі *(У. Ягоўдзік)*.

**225.** Утварыце і запішыце прыслоўі ад прапанаваных слоў. Зрабіце марфемны разбор утвораных прыслоўяў.

Узор: *верх* → *зверху*, *цёмна* → *зацемна*.

Бок, высь, ніз, ранак, новы, белы, ціхі, рэдка, летась, сем.

**226.** Падрыхтуйцеся да слоўнікавага дыктанта. Складзіце словазлучэнні з прыслоўямі і запішыце іх.

Здаўна, узімку, зрэдку, удзвюх, па двое, дзесьці, кудысьці, на хаду, на ляту, у абдымку, напаказ, раз-пораз, апоўначы, на вока, урассыпную, упустую, дзе-нідзе, па-руску, у адкрытую.

Растлумачце напісанне прыслоўяў.

**227.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып. Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары і раздзяляльныя знакі.

ПАКУПАЛАСЯ

Нараў — ціхаплынная рэчка, моцна зарослая вадзяным зел..ем. Трэба мець сапраўдны рыбацкі спрыт, каб закінуць вуду, *(н..)* зачапіўшы кручок за аер ці прыб..рэжную алешыну. Затое плоткі ў гэтай рэ..цы, што віецца праз Белавежскую пушчу, адна *(у)* адну, з далонь, нават большыя.

Праўда, тым разам кл..вала слаба. Чэрвен..скае сонца кацілася *(у)* гору і прып..кала. Раптам *(з)* лесу выл..цела вялікая птушка. Шырока раскінуўшы крылы, яна маруднa планіравала над рэчышчам. Н..звыклы галавасты сілуэт па..казаў мне — гэта сава. А потым адбылося што *(сьці)* *(н..)* зразумелае. Сава, падцяўшы крылы, *(н..)* як *(н..)* зграбна кульнулася ў рэчку.

— Што з ёй? — па..хапіўся я. — Няўжо хто па..стрэліў?..

Пайсці *(на)* дно лупавокая *(н..)* як не магла. Пер..е надзейна трымала яе на вадзе. Але пагадзіцеся: дзіўнае ўсё-такі відовішча. *(Па)* сярэдзіне рэчкі плыве сава з задранымі *(у)* гору лапамі.

Плынь магла прыбіць птушку да майго берага. Кінуўшы вуду, я пабег, спадз..ючыся разжыцца на чучала. Аднак дарма спяшаўся. Сава пакупалася, лё..ка ўзнялася на крылы і знікла *(у)* лесе *(Паводле У. Ягоўдзіка)*.

Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў апошнім абзацы тэксту.

⊙ Узгадайце і раскажыце пра цікавае здарэнне, якое назіралі вы, адпачываючы на прыродзе.

## § 30. Правапіс спалучэнняў слоў, блізкіх да прыслоўяў

**Асобна пішуцца:**

- спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі, якія не канчаткова перайшлі ў прыслоўі, бо назоўнік можа ўжывацца ў розных склонавых формах: *на памяць, да прыкладу, да пары, не ў пару*;
- устойлівыя спалучэнні, у якіх слова паўтараецца ў розных склонах з прыназоўнікам: *дзень у дзень, дзень пры дні, след у след, час ад часу*;
- спалучэнні назоўнікаў, якія пачынаюцца галоснай з прыназоўнікам ***у***: *у абмен, у абдымку, у адзіночку, у абхват, у абрэз*;
- спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі ***без, з, да, на***: *без агляднкі, без пары, без разбору, з разбегу, з размаху, да зарэзу, да месца, да ўпаду, на віду, на вока, на ляту, на смак, на хаду*;
- спалучэнні слоў *усё роўна, без дай прычыны, без дай рады, не да смеху, як след*.

**228.** Прачытайце. Вызначце, каму адрасаваны гэты верш. Якую думку сцвярджае аўтар?

КУКАРЭКІ

Ах, Зарэчча —
Кукарэчча,
хатка,
плот,
садок,
гарод,
кукарэкае
аб нечым
кукарэчанскі народ.
Там гуляюць за ракою
каля хат
і паміж град
Кукарэк з Кукаракою,
з выводкам кукаранят.

І ўвесь дзень па-кукарэцку
тараторацъ
на свой лад.
Гутараць па-кукарэцку,
і маўчаць па-кукарэцку,
і крычаць па-кукарэцку
Кукарэчча жыхары.
Гэта песня
па-суседскуф
будзіць цішу без пары.
*Н. Кіслік.*

***без разбо́ру***
***да сма́ку***
***на во́ка***
***на ляту́***
***на хаду́***

● Выпішыце з тэксту аднакаранёвыя словы. Вызначце, якімі часцінамі мовы яны з'яўляюцца і якім спосабам утвораны.

● Якія сінонімы ўжыты ў гэтым тэксце?

**229.** Прачытайце. Растлумачце сэнс загалоўка. Як бы вы адказалі на пытанні, што гучаць у вершы?

ЦЯЖКОЕ ПЫТАННЕ

Часамі пытаннем ашпараць, як варам:
— Чаму вы гаворыце па-беларуску?
А чаму па-балгарску гавораць у Варне?
А над Сенай — чаму па-французску?
Варта смеху, ды не да смеху,
Хоць на месцы маім смяяўся б усякі:
Чаму не па-польску гавораць чэхі?
І не па-чэшску — палякі?
Гавораць сур'ёзна, пытаюць цвяроза,
Чаму ад бяроз расце тая ж бяроза,
Чаму, як дзятва, дубнячок у дуброве
Лапоча з дубамі на той жа мове? Чаму?
*М. Арочка.*

Запішыце верш па памяці. Праверце сябе. Падкрэсліце прыслоўі, вызначце спосаб іх утварэння.

● Выпішыце аднакаранёвыя словы.

Што агульнага ў вершах Навума Кісліка (практ. 228) і Міколы Арочкі?

**230.** Запішыце, устаўляючы дарэчныя па сэнсе прыслоўі або спалучэнні слоў, блізкія да прыслоўяў.

... збан ваду носіць *(Прыказка)*. Яду ... адлажы, а справу ... зрабі *(Прыказка)*. А пушча ... налілася птушынымі песнямі *(У. Ліпскі)*. Вывучыць верш ... . Адклад не ідзе ... *(Прыказка)*. Хто жыве без запасу, той згіне ... *(Прыказка)*. Што робіцца ..., тое выходзіць курам ... *(Прыказка)*. На год — сем прыгод, а на вяку — ... *(Прыказка)*. Пачутае слова можна забыць, а запісанае ... будзе жыць *(Прыказка)*. Беражы адзенне ... , а чэсць ... *(Прыказка)*.

Для даведкі: *змоладу, без ліку, да пары, вечна, на памяць, да краёў, сёння, на заўтра, без часу, на смех, знову, наспех.*

**231.** Прачытайце нататку.

**Менавіта.** Апошнім часам гэта прыслоўе проста запаланіла нашу прэсу. І што заўважаецца: асабліва стараюцца тыя, хто кепска ведае беларускую мову, але хоча паказаць, што ведае яе выдатна. Слова «менавіта» яны заўсёды ставяць там, дзе просіцца рускае «именно». І вось з вуснаў нашых «беларусаў» з радыёпрыёмнікаў ды тэлевізараў так і нясецца: «менавіта таму», «менавіта тым», «менавіта так». Суцэльнае татаканне.

Хацелася б пачуць слова «менавіта» ў жывой беларускай гаворцы, народзе. Мне, напрыклад, гэта не ўдалося. Не траплялася мне яно і ў класікаў беларускай літаратуры — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Кузьмы Чорнага. А ўсё, відаць, таму, што слова жывасілам прыцягнулі з польскай мовы.

Надта ўпадабаўшы гэтае «именно — mianowicie», да месца і не да месца ўжываючы, мы ўжо нават і не рупімся зазірнуць у багатую скарбніцу жывой народнай мовы. Наш народ выдатна абыходзіцца без чужога, наноснага ў сваёй мове. У яго моўным запасе ёсць мноства сінонімаў любому слову. Вось гэтыя словы: 1. Якраз, акурат. «Именно так я и делал». — «Якраз (акурат) так я і рабіў». 2. Толькі. «Нет, мне нужен именно карандаш». Ці ж кепска будзе

гучаць: «Мне патрэбен толькі аловак»? 3. Канкрэтна. «Мы навестили самые далёкие деревни района, а именно — Новосёлки, Рыбцы». — «Мы наведалі самыя далёкія вёскі раёна, а канкрэтна — Навасёлкі, Рыбцы». А то можна і зусім апусціць гэта прыслоўе *(К. Цвірка)*.

Вызначце тып і стыль тэксту.
Якую думку сцвярджае аўтар? Ці пераканаўча ён разважае?
Вусна перакажыце тэкст.

## § 31. Сачыненне-апісанне вёскі (горада)

**232.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэксту.
З якіх кампазіцыйных частак складаецца гэты тэкст?

I. Вёскі самой толькі мясцовасцю розняцца адна ад другой, а так усе яны падобныя паміж сабой, як сёстры, — паходжаннем, патрэбамі, звычаямі і доляй сваіх жыхароў.

Месцяцца яны звычайна непадалёку ад рэчкі, каля лугу па адзін бок і каля поля — па другі. Перасякае яе вуліца — з хатамі на адным баку і з хлявамі на другім. Часам касцёл, царква і заўсёды карчма ўзвышаюцца пасярэдзіне ці ў канцы сяла. Па абодвух яго канцах стаяць вароты, якія большую палавіну года не замыкаюцца. Пры варотах часам стаіць крыж, часам бяроза або груша, або пафарбаваны ў белыя і чорныя палосы слуп з надпісам назвы вёскі і колькасці хат, воддаль — мясцовыя могілкі з простымі замшэлымі крыжамі.

Гэта — агульны выгляд літоўскай* вёскі, характэрны як для маіх былых ваколіц, так і для іншых ваколіц краю *(У. Сыракомля)*.

Пра вёскі якога часу напісаў аўтар у сваёй нататцы? Ці падобны сучасныя вёскі на тыя, што паказвае Уладзіслаў Сыракомля? Якія прыслоўі ўжыў аўтар у тэксце, з якой мэтай?

II. МІНСК

Месца Мінск, размешчанае ва ўмеранай здаровай кліматычнай зоне, заслугоўвае ўвагі як сваім размяшчэннем, так і ўнутраным выглядам. Шырока раскінуты абапал ракі

Свіслачы, якая ўпадае ў Бярэзіну, ён вызначаецца хараством краявідаў. Спічакі* касцёлаў і гмахі, што здалёк кідаюцца ў вочы, надаюць Мінску выгляд горада нашмат большага, чым ён на самай справе.

Унутраны выгляд горада вызначаецца акуратнасцю і парадкам. Вуліцы шырокія і прамыя, дамы не заціснуты, паветра чыстае. Муры і бярвёны дамоў, пафарбаваныя ў белае, выглядаюць лепей, чым у Вільні, дзе рознакаляровая стракатасць камяніц рэдка дадае, а часцей псуе выгляд найпрыгажэйшага будынка. На вуліцах няма тлуму, бо ўсім тут прасторна, а будынкі найбольш важнага значэння не засланяюцца суседнімі і выступаюць ва ўсёй сваёй веліччы. Зрэшты, Мінск і да гэтага часу менш як напалову мураваны. Сасновыя, адна-, а часам двухпавярховыя на цагляных падмурках дамы стаяць пры галоўных вуліцах побач з двухпавярховымі камяніцамі.

Найцікавейшае месца ва ўсім горадзе, безумоўна, Высокі рынак, да якога сыходзяцца ўсе галоўныя вуліцы і які абступаюць высокія дамы і гмахі.

Размешчаны высока на пагорку, забрукаваны, шырокі — гэты рынак імпануе* здалёк, добра бачны з прамых, як страла, акуратных прылеглых вуліц. Упрыгожваюць яго кафедральны касцёл з высокаю гадзіннікаваю вежаю і домам, у якім месціцца са сваёй управаю мясцовы цывільны губернатар*. На другім баку рынку — гатэль, мясцовы тэатр, цудоўныя магазіны, два мясцовыя рэстараны, аптэкі, цукерні. Віднеюцца магазіны замежных напояў і магазін мод, нядаўна ўзведзены раскошны грэка-расейскі сабор.

Мінск налічвае 46 вуліц і вулачак, з якіх 22 — брукаваныя *(У. Сыракомля)*.

Складзіце план тэксту.

Чым адрозніваецца гэты тэкст ад папярэдняга? Выпішыце з тэксту прыслоўі, пры дапамозе якіх аўтар больш выразна і дакладна дае апісанне горада.

III. ПОЛАЦК

*Тут пад кожным курганам і каменем*
*Ці быліна, ці казка чароўная...*

Так напісаў паэт Генадзь Бураўкін пра самае старажытнае паселішча — горад Полацк. І сапраўды. Непадалёку ад Сафійскага сабора будаўнікі нечакана адкапалі старажытны мур. Аказалася, там стаяў будынак XI стагоддзя. У Полацку знаходзіцца духоўная рэліквія нашай беларускай зямлі — Спасаўская царква. У ёй малілася за ўсіх нас святая Еўфрасіння. У той царкве знаходзяцца мошчы нашай нябеснай заступніцы. Тут ёсць і вобраз-копія яе жыватворнага крыжа, які зрабіў вядомы беларускі мастак-ювелір Мікалай Кузьміч.

У цэнтры горада стаіць помнік вялікаму сыну Полацкай зямлі, асветніку, першадрукару Францыску Скарыне. Уславілі Полацк вучоныя Сымон Будны і Сімяон Полацкі.

Полацк багаты на гістарычныя помнікі. Тут кожны вучань пакажа вам вал Івана Грознага, Сафійскі сабор, домік Пятра І, раскопкі старажытных паселішчаў на Верхнім замку, помнік славутага палкаводца — вучня Суворава і паплечніка Кутузава — Якава Кульнёва, які вызначыўся ў бітве з напалеонаўскімі войскамі каля вёскі Клясціцы...

Старажытны Полацк — былінны і казачны.

Сучасны Полацк — малады і зялёны горад нашай явы. Тут шмат заводаў, камбінатаў, фабрык. Ва ўсёй краіне вядомы завод шкловалакна, на якім робяць такую тканіну, якой не страшны ні агонь, ні вада.

У сучасным Полацку свае помнікі і музеі. Госці горада з задавальненнем наведваюць музей баявой славы, Курган Бессмяротнасці з Вечным агнём, новы мікрараён імя Героя Савецкага Саюза партызанскай разведчыцы Таццяны Марцыненкі.

У кожнага з вас, сябры, свой родны кут. Вучыцеся любіць і шанаваць сваю вёску ці горад. А калі наведаеце старажытны Полацк, добра падумайце: як мы апраўдваем надзею нашай духоўнай настаўніцы, неўміручай Еўфрасінні Полацкай, — любіць да слёз сваю родную Зямлю, нашу Бацькаўшчыну, мілую Беларусь. *(Паводле У. Ліпскага. З кнігі «Я тут жыву: дзецям пра Беларусь»)*.

Вызначце асноўную думку тэксту. Пацвердзіце адпаведнымі словамі з тэксту.

**233.** Падрыхтуйце сачыненне-апісанне сваёй вёскі або горада. Перадайце ўласныя адносіны да родных мясцін. Пры напісанні выкарыстоўвайце тэксты папярэдніх практыкаванняў.

### Прыкладны план сачынення

I. Агульнае ўражанне ад паселішча: яго геаграфічнае становішча, краявіды.

II. 1. Адкуль пайшла назва (паданні пра паходжанне назвы)? 2. Адметныя мясціны і ваколіцы. 3. Вядомыя імёны: людзі з залатымі рукамі і спагадлівай душой. 4. Куды вядуць дарогі?

III. Запрашэнне ў госці.

### ПАМЯТКА
### аўтару сачынення

1. Тэкст сачынення павінен адпавядаць абранай тэме. Змястоўным будзе такое сачыненне, у якім тэма поўна і глыбока раскрыта, а ўсе выказванні арганізаваны агульнай думкай.
2. Поўна і глыбока раскрыць тэму — гэта значыць:
   - ✓ знайсці і прачытаць неабходную літаратуру;
   - ✓ сабраць і прааналізаваць найбольш важную інфармацыю, факты;
   - ✓ выказаць такія думкі, якія б дазволілі зразумець адносіны аўтара да зместу выказвання;
   - ✓ вызначыць адпаведны стыль, тып і жанр тэксту.
3. Варта ўжо з самага пачатку работы выразна ўяўляць асноўную думку сачынення, якая будзе аб'ядноўваць увесь матэрыял.
4. Неабходна захоўваць прапарцыянальнасць падзелу тэксту на тры часткі: уступ, асноўная частка, высновы (заключэнне). Усе часткі павінны быць звязаны паміж сабой.
5. У сачыненні пажадана выкарыстоўваць цытаты з вуснай народнай творчасці, мастацкіх і публіцыстычных твораў.

   Роля цытат:
   - ✓ адлюстроўваюць асноўную думку тэксту;
   - ✓ служаць для падмацавання думак аўтара.
6. Пры ацэнцы сачынення ўлічваецца не толькі змест і правільны выклад фактаў, але і яго мова (нарматыўнасць, чысціня, выразнасць маўлення), знешняя прывабнасць выгляду тэксту.

## ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА

### Кантрольныя пытанні і заданні

1. Назавіце ўсе самастойныя часціны мовы.

2. Што называецца прыслоўем?

3. У якія словазлучэнні можа ўваходзіць прыслоўе? Ці можа быць прыслоўе галоўным словам у словазлучэнні? Прывядзіце прыклады.

4. Якімі членамі сказа бывае прыслоўе?

5. Што агульнага ў прыслоўях з іншымі самастойнымі часцінамі мовы? Чым адрозніваюцца прыслоўі ад іншых самастойных часцін мовы?

6. Якія прыслоўі маюць формы ступеней параўнання? Назавіце спосабы ўтварэння іх формаў.

7. Якімі спосабамі і ад якіх часцін мовы ўтвараюцца прыслоўі? Прывядзіце прыклады.

8. З якой мэтай могуць ужывацца прыслоўі ў тэксце?

9. Як пішуцца ***не (ня), ні*** з прыслоўямі? Што агульнага ў напісанні ***не (ня), ні*** з прыслоўямі, назоўнікамі, прыметнікамі, дзеясловамі? Прывядзіце прыклады.

10. Якія прыслоўі пішуцца праз дэфіс? Якія яшчэ часціны мовы пішуцца праз дэфіс?

### Правер сябе

1. Адзначце словы, якія пішуцца разам.
   1) Азірацца *(без)* канца;
   2) адмовіцца *(на)* адрэз;
   3) перакусіць *(на)* хаду;
   4) сустрэцца *(у)* восень;
   5) спадзявацца *(на)* ўдачу.
2. Адзначце словы, якія пішуцца асобна.
   1) Уцякаць *(без)* аглядкі;
   2) сястра *(за)* мужам;
   3) скакаць *(з)* разгону;
   4) пасадзіць *(у)* пару;
   5) здаваць *(на)* пракат.

3. Адзначце словы, якія пішуцца праз дэфіс.
   1) Адносіцца *(абы)* якава;
   2) апрануцца *(па)* летняму;
   3) спісаць *(абы)* як;
   4) каціцца *(па)* малу;
   5) спыняцца *(дзе)* нідзе.

**234.** Падрыхтуйце вуснае выступленне ў навуковым стылі «Прыслоўе як часціна мовы».

**235.** Падрыхтуйцеся да дыктанта па словах, змешчаных у рамках.

**236.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэкстаў.

I.

Над намі словы ўладараць.
Мы чуем і гаворым іх.
Яны то здружаць, то пасвараць.
Сяброў і ворагаў маіх.

Бо словы розныя бываюць.
Адны — агню стрымаюць шквал.
Другія словы забіваюць
Усё жывое напавал.

*С. Грахоўскі.*

II.

Спачатку ўсё ж быў хлеб,
А потым — слова.
Спакон быў чалавечай мовай хлеб.
Пакладзены на стол,
Пароўну разламаны,
Як мудра ён яднаў плямёны,
Свет людзей!

*М. Арочка.*

III. Слова — найлепшая зброя чалавека. Слабае само па сабе, яно становіцца магутным і пераканальным, сказанае ўмела, шчыра і своечасова *(А. Коні)*.

Вызначце тэму і асноўную думку выказванняў.

Што аб’ядноўвае гэтыя тэксты і чым яны адрозніваюцца? Якой думкі прытрымліваецеся вы?

● Выпішыце з тэкстаў усе самастойныя часціны мовы (назоўнікі: ...; прыметнікі: ... і г. д.).

Якую сэнсава-стылістычную ролю выконваюць у тэкстах прыслоўі?

**237.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.

1. Хлеб — ёсць *(з)* даўна завядзёнка — першы ўзыходзіць на стол. Бразнула звонка заслонка — пах жыццядайны *(на)* укол *(С. Законнікаў)*. 2. Застаўшыся ***(у)*** **двух** Іван з Федзем *(не)* прыкметна для сябе паскорылі крок *(А. Кудравец)*. 3. ***(У)*** **дзень** хацелася спаць а *(у)* начы я не магла заснуць *(І. Шамякін)*. 4. Ехалі *(у)* траіх: *(з)* заду на коўдры бацька і мачыха, *(с)* пераду звесіўшы ногі цераз драбіну Ганна *(І. Мележ)*. 5. Сонца стаяла высокавысока. Яго і *(не)* відаць было над дваром — з-за ззяння, што лілося ***(з)*** **верху** *(Т. Бондар)*. 6. Было ціха і ***(па)*** **асенняму** празрыста ў чыстым высокім небе *(С. Грахоўскі)*. 7. Хлопец у чоўне, смуглявы і рослы, прагна глядзіць і плыве *(у)* далячынь — толькі рыпяць і згінаюцца вёслы *(С. Грахоўскі)*. 8. *(У)* далячынь, што расчынена насцеж, голасам сэрца і буйнай крыві кліча цябе неспакойнае шчасце, толькі хутчэй да яго даплыві *(С. Грахоўскі)*.

Прыслоўі падкрэсліце як члены сказа. Абазначце знакам «×» словы, да якіх прыслоўі адносяцца, і надпішыце пытанні.

Складзіце сказы, каб выдзеленыя словы былі іншымі часцінамі мовы.

**238.** Прачытайце. Вызначце адрасата і стыль тэксту.

### ПРАДКАЗАЛЬНІКІ НАДВОР’Я

Кожны хацеў бы ведаць надвор’е *(на)* перад. І не толькі дзеля цікавасці. Гаспадарчая дзейнасць чалавека таксама шмат у чым залежыць ад яго «капрызаў».

На жаль, метэаролагі *(н..)* заўсёды дакладныя. У той жа час вялікую дапамогу ў гэтым могуць аказаць жывёлы,

якіх мы ўвогуле ведаем *(н..)* дрэнна, але аб іх цудоўных здольнасцях часам і *(н..)* здагадваемся. Жывёлы асабліва адчувальныя да змянення надвор'я і адразу рэагуюць на гэта сваімі паводзінамі.

За паўдня, а то і за суткі, адчувае набліжэнне дажджу *(н..)* вялікая птушка нашых лясоў — зяблік — і папярэджвае аб гэтым усё наваколле звонкай песняй. Чыстым і доўгім кукаваннем вітае ўстанаўленне цёплых дзён і спыненне ранішніх замаразкаў зязюля. Не падманваюць у прадказанні надвор'я і стрыжы. Часта даводзіцца назіраць, як стрыжы, якія толькі што ляталі ў паветры, раптоўна знікаюць. Гэта прыкмета таго, што тут *(н..)* узабаве будзе *(н..)* пагадзь. Стрыжы, якія з'яўляюцца добрымі летунамі, паспяваюць да *(н..)* пагадзі адляцець на сотні кіламетраў і там перачакаць дрэннае надвор'е.

Дома прадказальнікам надвор'я з'яўляецца кошка. Калі яна ляжыць, скруціўшыся ў клубок, — чакай моцных маразоў; ходзіць пацягваючыся і трымаючы цела дугой — будзе пацяпленне; ложка поўсць — на *(н..)* пагадзь, скрабе кіпцюрамі — на моцны вецер *(Часопіс «Родная прырода»)*.

Растлумачце правапіс ***не (ня)*** з рознымі часцінамі мовы ў тэксце.

Складзіце просты план тэксту. Вусна перакажыце тэкст па плане.

## Тэматычная праверачная работа

Запішыце тэкст пад дыктоўку.

Гэта было даўно, калі яны пасяліліся на ўскраіне вялікага горада. Тады Каця была ціхай, хударлявай дзяўчынкай. Яе вялікія, крыху сумныя вочы зусім па-даросламу глядзелі на свет.

За хатай пачынаўся луг. Ён адразу паклікаў малую да сябе, даў ёй мноства цікавых забаў.

У той дзень Каця ўжо сабралася дамоў, як заўважыла над галавой маленькую шэрую птушачку, якая чамусьці кінулася ёй пад ногі ў высокую траву. «Ці не хворая яна?» — падумала Каця.

Птушка была не хворая. Высока над лугам кружыў вялізны каршун. Каця здагадалася, што драпежнік хацеў схапіць бездапаможнае птушанё, і прыкрыла яго сваёй хусткай.

З тае пары Каця ўжо ведала, што не ўсё ў прыродзе так лагодна і хараша, як здаецца *(М. Ваданосаў)*.

**Дадатковыя заданні**

*I варыянт*

1. Вызначце тып тэксту. Адказ абгрунтуйце.
2. Напішыце азначэнне прыслоўя. Прывядзіце прыклады.
3. Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа.
4. Выканайце марфалагічны і словаўтваральны разбор слова *чамусьці* з тэксту.

*II варыянт*

1. Вызначце стыль тэксту. Дайце тэксту загаловак.
2. Напішыце азначэнне прыслоўя. Прывядзіце прыклады.
3. Пазначце над прыслоўямі іх разрад па значэнні.
4. Выканайце марфалагічны і словаўтваральны разбор слова *адразу* з тэксту.

# СЛУЖБОВЫЯ ЧАСЦІНЫ МОВЫ

## § 32. Граматычныя асаблівасці службовых часцін мовы

**239.** Прачытайце. Вызначце тэму і стыль тэксту.

**Службовыя часціны мовы** — гэта п р ы н а з о ў н і к і, з л у ч н і к і, ч а с ц і ц ы. У адрозненне ад самастойных часцін мовы яны не называюць ні прадметаў, ні прымет, ні дзеянняў, ні колькасці і не маюць ярка выражанага лексічнага значэння. Службовыя часціны мовы не змяняюцца і не бываюць асобна членамі сказа. Такія словы ўжываюцца ў сказе толькі разам з самастойнымі часцінамі мовы. У маўленні амаль кожнае чацвёртае або трэцяе слова ў тэксце — службовая часціна мовы.

Чым адрозніваюцца паміж сабой самастойныя і службовыя часціны мовы?

**240.** Прачытайце і параўнайце тэксты. Вызначце мэту іх напісання. Дзе такія тэксты выкарыстоўваюцца? Якія моўныя сродкі для іх характэрны?

I. «Без талакі* — як без рукі!» — так вобразна ахарактарызаваў народ неабходнасць і значнасць узаемадапамогі ў ранейшай беларускай вёсцы. Выкліканая да жыцця пэўнымі эканамічнымі ды сацыяльнымі патрэбамі, талака разам з тым надавала своеасаблівасць і прывабнасць сялянскай гаспадарчай дзейнасці і побыту. Шчырасць і спагада ў адносінах да другога чалавека, гатоўнасць у любы час прыйсці на дапамогу іншаму заўсёды былі адметнай рысай характару беларускага селяніна *(Т. Валодзіна)*.

II.

Ах, як плечы прагнуць працы,
Як напружана рука...
Талака, талака,
Вясковая талака.
Ад світання да змяркання
Працавітай грамадой
Пасабіць — адно жаданне,
І за плугам, і з касой...

*П. Броўка.*

**своеасабл́івасць**
**памкн́енне**
**сацы́яльны**

III. ТАЛАКА

Так было заўсёды. Спакон веку. Захварэў гаспадар забралі ў салдаты ці хата згарэла — аднавяскоўцы не пакінуць у бядзе збяруцца грамадой, і закіпіць праца.

Талака звычай узаемадапамогі перададзены нам ад бацькоў і дзядоў нашых не адну сям'ю ад голаду і галечы ўратаваў. Бачыць гаспадар, што не ўправіцца сам з якой работай, — вось і ідзе да суседзяў на талаку кліча.

І ведае, што прыйдуць да яго і платы не запатрабуюць, толькі на вячэру збяруцца. Ды і вячэра талочная святам абернецца, святам вясёлым дружным святам сялянскай працы *(Т. Валодзіна)*.

Раскажыце, ці захаваўся ў вашай мясцовасці звычай збіраць талаку. Калі так, прывядзіце прыклады.

● Запішыце тэкст III, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Абазначце вядомыя вам службовыя часціны мовы. Над прыназоўнікамі напішыце літару **п**, над злучнікамі — **з**, над часціцамі — **ч**.

З якімі самастойнымі часцінамі мовы ўжыты службовыя?

**241.** Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі, устаўляючы прапушчаныя літары і расстаўляючы знакі прыпынку. Вызначце яго тып і стыль.

З усіх цудаў цудам створаным людз..мі на шляху да шчасця і будучыні назваў Максім Горкі кнігу. Уся ж мудрасць чалавечага генія ўсе ж дасягненні цывілізацыі — не *дзе (небу..ь)*, а ў кнігах. І *(ні)* што *(ні)* хто *(не)* можа

лепей і паўней расказаць аднаму народу пра лад жыцця і мыслення пра спадзяванні і надзеі другога народа, як кніга *(Б. Сачанка)*.

Ці згодны вы з думкай аўтара? Прывядзіце ўласныя аргументы для пацвярджэння думкі.

Падкрэсліце апорныя словы ў сказах, якія аб'ядноўваюць тэкст у адно цэлае (звязваюць тэкст лагічна і граматычна).

Выканайце разбор сказаў па часцінах мовы. Якія часціны мовы пераважаюць? Як вы думаеце чаму?

***цывіліза́цыя***
***спадзява́нне***
***мы́сленне***
***мышле́нне***
***каляндá́р***

⊙ **242.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль, абгрунтуйце сваё меркаванне.

ВАСІЛЛЕ, АБО СТАРЫ НОВЫ ГОД

14 студзеня адзначалася Васілле, або, як яшчэ казалі, — Стары Новы год.

Ці не праўда, дзіўна неяк гучыць — Стары Новы год. А справа вось у чым. З вельмі-вельмі даўніх часоў старажытныя рымляне карысталіся юліянскім календаром, які ўвёў славуты палкаводзец Юлій Цэзар. Але ён быў недасканалы. І ў 1582 годзе Папа Рымска-каталіцкай царквы Грыгорый Трынаццаты зацвердзіў новы каляндар, складзены па праекце італьянскага астранома і матэматыка Алаізія Лілiё. Гэты каляндар, названы пазней грыгарыянскім, быў намнога дакладнейшы за юліянскі. Амаль усе краіны Еўропы прынялі яго, акрамя Беларусі, Украіны і Расіі. Толькі ў пачатку XX стагоддзя юліянскі каляндар адышоў у нябыт. Праўда, не зусім: ім па-ранейшаму карыстаецца праваслаўная царква. І таму той, хто лічыць сябе праваслаўным вернікам, мае радасць двойчы святкаваць Новы год.

Ну, а цяпер пра першы дзень Старога Новага года, які ў гонар святога Васіля яшчэ называюць Васіллем. Хачу адразу папярэдзіць: ранкам нельга доўга вылежвацца ў пасцелі, нават у нядзельку, бо хто першы ў хаце альбо кватэры памыецца, той увесь год будзе бадзёры і рухавы.

А яшчэ на Васілле, узяўшы па торбачцы жыта, дзеці з самай раніцы абыходзілі хаты, віншавалі гаспадароў з Новым годам і поўнай жменяй, на радасць і шчасце, «засявалі» жытло залацістым зернем. Усюды іх прымалі як жаданых і дарагіх гасцей, частавалі смачным печывам, цукеркамі, арэхамі і сушанымі ягадамі *(У. Ягоўдзік)*.

● Выпішыце з тэксту ўсе ўласныя назвы ў пачатковай форме.

● Выпішыце адзін сказ з тэксту (на выбар). Вызначце, якімі часцінамі мовы з'яўляюцца ўсе словы ў сказе. Выканайце сінтаксічны разбор сказа (графічна).

● Вусна перакажыце тэкст.

**243.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку.

ЗАЙМАЛЬНАЕ ПАДАРОЖЖА

Навінка пад назвай «Мінск: падарожжа па горадзе» ўжо з'явілася на паліцах кнігарняў і карыстаецца папулярнасцю. Асабліва ў дзяцей, на якіх і разлічана. У кнізе аўтары паспрабавалі папулярна расказаць пра гісторыю і сучаснае жыццё горада, прычым зрабілі гэта ў незвычайным фармаце. Галоўная адметнасць выдання ў тым, што да ягоададзена гістарычнае лато, гуляючы ў якое можна замацаваць свае веды па гісторыі і літаратуры. Сярод дзясяткаў аб'ектаў, намаляваных на карцінках-фішках, — касцёл Святых Сымона і Алены, гарадская ратуша, манумент Перамогі, Нацыянальны мастацкі музей, Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Таксама тут ёсць партрэты нашых знакамітых землякоў — Уладзіміра Караткевіча, Максіма Багдановіча, Стэфаніі Станюты і іншых.

Выданне будзе цікавае дзецям, але і дарослыя ад гульні таксама атрымаюць задавальненне *(І. Строеў «Беларусь»)*.

Выпішыце з тэксту знаёмыя вам службовыя часціны мовы.

Назавіце ўласныя назвы, ужытыя ў тэксце. Растлумачце іх правапіс.

Назавіце прыметнік, ужыты ў тэксце ў значэнні назоўніка.

⊙ Раскажыце пра аднаго з вядомых вам знакамітых землякоў.

# ПРЫНАЗОЎНІК

## § 33. Прыназоўнік як службовая часціна мовы

**244.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту, назавіце прыметы стылю. Складзіце план тэксту.

**Прыназоўнік** — гэта службовая часціна мовы, якая выражае адносіны паміж назоўнікам, займеннікам і лічэбнікам ва ўскосным склоне і іншымі словамі ў словазлучэнні.

Напрыклад, у сказе *Шмат прыгожых месцаў ёсць на свеце* пры дапамозе прыназоўніка ***на*** выражаюцца прасторавыя адносіны паміж назоўнікам *свеце* ў М. скл. і дзеясловам *ёсць*: *ёсць* (д з е?) *на свеце*.

Прыназоўнік паказвае на залежнасць аднаго слова ад другога і служыць для сінтаксічнай сувязі слоў у словазлучэнні. Галоўным словам у такіх словазлучэннях можа быць д з е я с л о ў, радзей — н а з о ў н і к, п р ы м е т н і к, п р ы с л о ў е, нават ф р а з е а л а г і з м. Сама назва гэтай часціны мовы падказвае, што прыназоўнік ужываецца ў спалучэнні з назоўнікам і стаіць перад ім. Але паміж прыназоўнікам і назоўнікам (ці займеннікам, лічэбнікам) можа стаяць слова або некалькі слоў, якія паясняюць назоўнік: *Капалі бульбу. Цэлымі днямі, **ад** ранняга **ранку да** позняга **змроку,** Ганна рабіла **на полі*** (І. Мележ).

Прыназоўнікі нязменныя, асобна ўзятыя, яны не з’яўляюцца членамі сказа. Прыназоўнік уваходзіць у састаў члена сказа разам з той часцінай мовы, у спалучэнні з якой ужываецца. Напрыклад: 1. *Неба на ўсходзе пачало бялець.* 2. *Ігнат любіў работу з дрэвам* (А. Кудравец).

Раскажыце пра агульнае значэнне, марфалагічныя прыметы і сінтаксічную ролю прыназоўніка як часціны мовы.

**245.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль. Падбярыце загаловак.

Прайшоў цэлы дзень у размовах; сонца схавалася за лес, звечарэла. Колькі суседзяў (што жывуць ля возера Нешчарда), запрошаныя з жонкамі ды дзецьмі на куццю*, прыехалі да майго дзядзькі. Паказалася першая зорка на небе; **пасярод**[м] паставілі доўгі стол, заслалі яго сенам і пакрылі белым абрусам. Посную ежу з мёдам і найлепшую рыбу падалі на стол. Завальня ламаў аплатку* з панам Марагоўскім, а пасля па чарзе — з кожным госцем. Апавядаў, як колісь князь Агінскі, добры і ласкавы пан, запрашаў на гэты вечар да сябе ўсіх суседзяў, не зважаючы, ці ён бедны, ці багаты, абы толькі шляхціц і прыстойны чалавек. З незвычайнай сардэчнасцю прымаў гасцей, шчыра і адкрыта з кожным гаварыў, бавіў яго, расказваючы размаітыя даўнейшыя гісторыі.

За гэтай размоваю некаторыя госці, седзячы за сталом, падсоўвалі руку пад абрус, выбіралі **наўдачу** даўжэйшую сухую сцяблінку; паказвалі адно аднаму, загадвалі, ці высокі будзе наступнаю вясною расці на полі лён, а паненкам прадказвалі хуткае замужжа. Шукалі пад сенам зярнятак жыта, пшаніцы ці іншага збожжа, бо яно, выпадкам знойдзенае ў гэты вечар пад сенам, вешчавала вялікія ўраджаі.

О, салодкія ўспаміны забаў і звычаяў роднае зямлі! Як кароткае шчасце, як прыемны сон, як вера бацькоў! **Навек** застануцца яны ў памяці... *(Я. Баршчэўскі).*

Выпішыце з тэксту пяць словазлучэнняў з прыназоўнікамі (на выбар).

Вызначце, якімі часцінамі мовы з'яўляюцца галоўнае і залежнае словы. Вызначце, у састаў якога члена сказа ўваходзіць прыназоўнік.




● Якімі часцінамі мовы і членамі сказа з'яўляюцца выдзеленыя словы?

Вусна перакажыце тэкст.

**Вымаўляй правільна:**

**ці [йі́]ншага, садавіны́ [й] гаро́дніны.**

**246.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль. Дайце тэксту загаловак.

Мова — душа чалавека.

Мая родная мова серабрыстай, чыстай крынічкай выліваецца з маёй душы. І кожным разам яна вяртае мяне да мамы, ад якой навучыўся гэтых слоў. Маміна мова вяртае мяне ў сонечнае маленства, да духмяных дубраў, да гаючых рос на лугавіне, да галасістых птушак у нашых бярэзніках, барах.

Родная мова дапамагае глыбока зразумець і палюбіць сваю Айчыну. Яе словы — як зярняткі для мукі, як зоркі для неба, як нектар для кветак. Слова беларускае — жывое, гаваркое, музычнае, напеўнае, непаўторнае. Вучоныя даказваюць, што беларуская мова найбліжэй[м] стаіць да старажытнай славянскай гаворкі. Значыць, яна да таго ж і духоўны помнік даўніны. Мы ўсе павінны берагчы гэты спадчынны скарб нашых продкаў *(Паводле У. Ліпскага)*.

Выпішыце словы, якія звязаны прыназоўнікамі. Якімі часцінамі мовы яны з'яўляюцца? Якую ролю выконвае прыназоўнік у словазлучэннях?

Вызначце, у састаў якіх членаў сказа ўваходзяць прыназоўнікі.

● Выпішыце адзін сказ з аднароднымі членамі сказа, графічна абазначце іх.

⊙ Падрыхтуйцеся растлумачыць выказванні: «Гаварыць на розных мовах», «Знайсці агульную мову», «За словам у кішэню не лезе», «Словам цесна, а думкам прасторна», «Слова лечыць, слова і калечыць».

⊙ **247.** Прачытайце і вызначце, у якіх словазлучэннях залежнае слова звязана з галоўным: а) толькі па сэнсе; б) па сэнсе і з дапамогай канчатка ўскоснага склону; в) па сэнсе, з дапамогай канчатка і прыназоўніка.

Выпішыце словазлучэнні, якія адносяцца да групы «в», абазначце галоўнае слова і склон залежнага.

Катацца на каньках, гуляць побач, праваліцца пад лёд, крычаць на беразе, кінуцца на дапамогу, ісці каля рэчкі,

скокнуць у ваду, узняць над галавой, пайсці да берага, сабрацца з вёскі, плакаць ад радасці, запрашаць дадому, пабегчы ў гарадок, не запомніць у твар, прыйшоўшы ў гарадок, расказаць камандзірам, аб'явіць па ротах, стаць у строй, падзякаваць ад душы, пакланіцца да зямлі.

⊙ На якую тэму вы напісалі б сачыненне, выкарыстаўшы гэтыя словазлучэнні? Напішыце невялікі тэкст, выбраўшы адпаведны стыль і жанр. Можна напісаць у форме ліста сябру (сяброўцы).

**248.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту. Назавіце моўныя прыметы стылю. Вызначце асноўную думку тэксту.

Ляснік і сам з сябе дзівіўся, а от чамусьці не мог інакш: любіў даваць дрэвам мянушкі, любіў размаўляць з імі. Па ўсім лесе рассяліліся ў яго «артысткі» і «лейтэнанты», «настаўніцы» і «трактарысты». Іншы раз, калі душа бадзёрылася добрым настроем, ён падыходзіў да якога-небудзь свайго знаёмца, вітаўся, як з чалавекам, распытваў яго. Як начавалася ў навальнічную ноч? Ці не бачыў ён — не падкрадвалася ліса да зайца, каб паснедаць ім? Ці не прынесла якіх лясных навін сарока-белабока?

Чалавечымі якасцямі Бібікаў надзяляў не толькі дрэвы, а і ўсіх лясных жыхароў: звяроў, птушак, мурашак. «Хроснай маці» называў крынічку, што выбівалася з-пад выспы.

І ўлетку, і ўзімку булькае яна, як дзікі лясны голуб, сцішана, па-жаночы радасна і таямніча смяецца. Шчодра аддае сваю жыватворную ваду соснам, бярозам, травам, а яны пільна аберагаюць яе ад розных нягод. Ні марозу не асіліць яе, ні гарачыні.

Бібікаў таксама аберагае крынічку. Зрабіў з ліпавага камля даўбёнку*, падставіў яе пад струмень крынічкі. Прыўзняў адзін канец, і атрымаўся вадаспадзік. Разбіваецца, вясёлкава блішчыць крыштальны струмень. П'еш з яго — не нап'ешся *(А. Капусцін)*.

Выпішыце з тэксту словазлучэнні, у якіх залежнае слова звязана з галоўным пры дапамозе прыназоўніка, выканайце іх разбор (абазначце галоўнае слова, пастаўце пытанне да залежнага, вызначце яго склон).

● Якія прыслоўі ўжыты ў тэксце? Якая іх сэнсава-стылістычная роля?

⊙ Ці спадабаўся вам герой гэтага тэксту? Пісьмова выкажыце сваю думку пра лесніка Бібікава, пацвярджаючы яе словазлучэннямі і сказамі з тэксту.

***жыватво́рны***
***чаму́сьці***
***па-жано́чы***
***нараджэ́нне***
***адраджэ́нне***
***дабрабы́т***

**Вымаўляй правільна:**
**не нап’е́[с′с′а], [н′а] мо[х], [н′а] то́лькі.**

**Пішы:** ***не нап’ешся, не мог, не толькі.***

## § 34. Разрады прыназоўнікаў па значэнні

**249.** Прачытайце нарыс Віталя Вольскага. Вызначце тып тэксту і яго структуру.

Выпішыце з тэксту словазлучэнні з прыназоўнікамі, пастаўце пытанні.




У з о р: *знаходзіцца на паўночным захадзе.*

БЕЛАРУСКАЕ МОРА

Нарач — самае вялікае возера Беларусі. Плошча яго — во́семдзесят квадратных кіламетраў. Найбольшая глыбіня — пяцьдзяся́т метраў. Знаходзіцца яно **на** паўночным захадзе Мінскай вобласці.

Нарач адносіцца **да** азёр, якія не зарастаюць раслінамі. Вада **ў** гэтых азёрах чыстая, багатая **на** кісларод. **Над** Нараччу амаль заўсёды дзьмуць вятры.

**На** паўднёвым усходзе **з** возера выцякае рэчка Нарач, якую мясцовыя жыхары называюць Нарачанкай. Звілістай стужкай прабіраецца яна **сярод** топкага балота **ў** раку Вілію, прыток Нёмана.

**На** поўначы бераг возера закругляецца, набываючы форму чашы, **да** краёў напоўненай вадой. **З** усходняга боку віецца **паўз** возера дарога, **абапал** якой высяцца сосны, расце ядловец. Справа — цягнецца цудоўны сухі і вясёлы сасновы бор. Злева — наступаюць на бераг хвалі.

**На** паўднёвым беразе лясоў няма. Да вады спускаюцца спадзістыя ўзгоркі. **На** іх расце толькі трава. Бераг нізкі, з зараснікамі трысця* і чароту.

**На** ўсходзе возера Нарач злучаецца вузкім пралівам **між** пясчаных кос з возерам Мястра, плошча якога — трынаццаць квадратных кіламетраў. Непадалёку знаходзяцца возера Мядзель і маленькае возера Баторын.

● Падрыхтуйце вусны пераказ тэксту (у дапамогу зрабіце малюнак-схему возера).

**250.** Прачытайце лінгвістычны тэкст і вызначце, якія значэнні перадаюцца пры дапамозе прыназоўніка і ўскоснага склону назоўніка ці займенніка.

Прыназоўнікі ў спалучэнні з самастойнымі часцінамі мовы выражаюць розныя значэнні:

● **прасторавыя** (абазначаюць месца): *адпачываць* (д з е?) ***на*** *возеры, спыніцца* ***сярод*** *лесу, дарога* ***ў*** *горад*;

● **часавыя:** *сустрэцца* (к а л і?) ***у*** *нядзелю, адпачываць* ***пасля*** *экзаменаў, непакоіцца* ***з*** *раніцы* ***да*** *вечара*;

● **аб'ектныя** (указваюць на прадмет): *трымацца* (з а ш т о?) ***за*** *парэнчы, адносіцца* ***да*** *прыроды, распытваць* ***пра*** *жыццё, працаваць* ***над*** *перакладам*;

● **прычынныя:** *намокнуць* (ч а м у? п а я к о й п р ы ч ы н е?) ***ад*** *дажджу, з'явіцца* ***па*** *просьбе, спазніцца* ***без*** *прычыны*;

● **мэтавыя:** *рыхтавацца* (з я к о й м э т а й?) ***да*** *ўрокаў, пайсці* ***па*** *бульбу, дарожка* ***для*** *язды*;

● **азначальныя** (абазначаюць прымету прадмета): *сукенка* (я к а я?) ***з*** *шоўку, рыба* ***пад*** *соусам, дом* ***на*** *два паверхі*;

● **спосабу дзеяння:** *дзяліць* (я к?) ***па*** *справядлівасці, іграць* ***у*** *дзве рукі, чытаць* ***з*** *захапленнем*.

⊙ Дакажыце, што з рознымі самастойнымі часцінамі мовы той самы прыназоўнік можа выражаць розныя адносіны і значэнні.

**251.** Прачытайце. Вызначце агульную тэматыку тэкстаў Пімена Панчанкі. Назавіце вобразныя сродкі мовы.

I.

На цябе, мой лес,
Як на цуд гляджу —
Ад сасновых крон
Да блакітных красак.
Палянка дыміцца
Пасля дажджу,
Як зялёная коўдра
Пасля гарачага праса.

II.

Ад Оршы да Смаргоні
Палеткі зацвілі.
На ўсю зямлю гармонікі
Каханне прывялі.

III.

Да роднай зямлі я
Душою і сэрцам прыкуты,
Куваюць зязюлі,
Клякочуць буслы на маёй Беларусі.
Ты радасць мая, Беларусь,
Ты гора маё і пакута,
І ад цябе я ніколі
Не адцураюся,
Не адракуся.

Выпішыце словазлучэнні з прыназоўнікамі. Вызначце, якія значэнні выражаюць прыназоўнікі ў спалучэнні з назоўнікамі ці займеннікамі.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

**252.** Прачытайце. Вызначце адрасата, мэтанакіраванасць, тып і стыль тэксту. Да якога жанру можна аднесці гэты тэкст?

КАБ ЛЕПЕЙ ВЕДАЦЬ МОВУ...

У выдавецтве «Народная асвета» пабачыў свет «Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў» П. Шубы. Выданне гэтае ў першую чаргу разлічана на вучняў сярэдніх і старшых класаў, але карысна будзе для кожнага, хто хоча

лепей ведаць родную мову. У слоўніку раскрываюцца значэнні прыназоўнікаў, тлумачацца складаныя граматычныя пытанні ўжывання прыназоўнікаў з тым ці іншым склонам. Акрамя таго, ёсць гісторыка-этымалагічныя даведкі, праводзіцца ў патрэбных выпадках паралель з рускай і ўкраінскай мовамі *(«ЛіМ»)*.

Якія значэнні выражаюцца пры дапамозе прыназоўнікаў у гэтым тэксце?

⊙ Спытайце ў бібліятэцы названы слоўнік. Пагартайце, раскажыце пра слоўнікавыя артыкулы, якія вас найбольш зацікавілі.

## § 35. Невытворныя і вытворныя прыназоўнікі

Паводле паходжання прыназоўнікі падзяляюць на невытворныя і вытворныя.

Да **невытворных** адносяцца прыназоўнікі ***а, аб, ад, акрамя, без, да, дзеля, для, з (са), за, к (ка), на, над (нада), па, пад (пада), пра, праз, пры, сярод, у (ва), цераз.*** Службовую ролю гэтыя прыназоўнікі выконваюць са старажытных часоў. Паходжанне іх сёння цяжка ці зусім немагчыма растлумачыць.

Да **вытворных** адносяцца прыназоўнікі, якія паходзяць ад самастойных часцін мовы. Ад назоўнікаў ва ўскосных склонах з далучэннем невытворных прыназоўнікаў і без іх утварыліся прыназоўнікі ***за выключэннем, з выпадку, з мэтай, з прычыны, на працягу, на чале, пры дапамозе, у адпаведнасці, у адрозненне, у выніку, у гонар, у час, у імя, у ролі, у параўнанні, каля, кшталтам, перад, шляхам, у напрамку да.***

Ад прыслоўяў паходзяць прыназоўнікі ***абапал, блізка, збоку, зверху, міма, насуперак, насупраць, насустрач, паблізу, пасля, пасярод, скраю, спераду, уздоўж, упоперак, услед*** і інш.

Ад дзеепрыслоўяў паходзяць прыназоўнікі ***выключаючы, дзякуючы, гледзячы па, нягледзячы на, пачынаючы ад, уключаючы*** і інш.

**!** Многія вытворныя прыназоўнікі часцей за ўсё ўжываюцца ў публіцыстычным, афіцыйным і навуковым стылях маўлення.

**253.** Прачытайце. Вызначце стыль і тып тэксту.

БОРТНІЦТВА

Гэты старадаўні лясны промысел быў пачатковай формай культурнага пчалярства. Развядзенне і ўтрыманне лясных пчол-баровак у штучных дуплах-борцях на тэрыторыі Беларусі вядома здаўна. На працягу стагоддзяў бортніцтва задавальняла патрэбы ўсходніх славян у мёдзе, воску, праполісе. З канца XVII стагоддзя ў выніку масавых высечак лясоў пачаўся заняпад промыслу, у XIX стагоддзі ён саступіў месца калоднаму і пасечнаму пчалярству *(«Беларускі каляндар»)*.

Выпішыце з тэксту словазлучэнні з прыназоўнікамі. У дужках пазначце, якія значэнні выражаюць прыназоўнікі разам з залежным словам. Абазначце вытворныя (**в**) і невытворныя (**н**) прыназоўнікі. Ад якіх часцін мовы ўтварыліся вытворныя прыназоўнікі?

Складзіце і запішыце сказы з вытворнымі прыназоўнікамі.

***нягле́дзячы на***
***на праця́гу***
***у вы́ніку***
***у адпаве́днасці***

**!** Каб адрозніць вытворны прыназоўнік ад адпаведнай самастойнай часціны мовы, можна выкарыстаць наступныя прыёмы:

1) прапусціць у словазлучэннях тыпу *працаваць на працягу года*, *знаходзіцца побач з домам, адшукаць дзякуючы міліцыі, бегаць паблізу пляцоўкі, трэніравацца нягледзячы на мароз* другое самастойнае слова (назоўнік або займеннік), і тады словазлучэнне губляе сэнс, разбураецца *(працаваць на працягу..., знаходзіцца побач з..., адшукаць дзякуючы..., трэніравацца нягледзячы на...)* або зусім змяняецца значэнне выказвання *(бегаць паблізу)*;

2) замяніць вытворны прыназоўнік сінанімічным невытворным: *знаходзіцца паблізу лагера — знаходзіцца каля лагера, спытацца наконт водпуску — спытацца пра водпуск*.

**254.** Выпішыце сказы, у якіх выдзеленыя словы з'яўляюцца прыназоўнікамі. Абазначце прыназоўнікі: невытворныя — **н**, вытворныя — **в**.

1. **Вакол** нічога не відаць было *(Г. Васілеўская)*. 2. **Вакол** дома ішла галерэя на лёгкіх каменных арачках *(У. Караткевіч)*. 3. **Вакол** панавала цемра *(В. Вольскі)*. 4. Як вядома, лягчэй за ўсё быць незаўважаным тады, калі **вакол** цябе народу многа *(Я. Маўр)*. 5. **Пасля** надышлі замаразкі *(М. Лынькоў)*. 6. **Пасля** вячэры мы доўга размаўлялі з Колем *(М. Лужанін)*. 7. **Побач** з хатай, прыкрываючы яе ад летняга сонца, красуецца высокая разложыстая груша *(Я. Колас)*. 8. Калісьці раніцай **уздоўж** хадзіў ля возера я Вечалле *(С. Шушкевіч)*. 9. За старэйшымі братамі ехалі **побач**, нага да нагі, Павел і Алесь *(У. Караткевіч)*. 10. Мы разам зірнулі **ўздоўж** вуліцы *(М. Кусянкоў)*.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў 7-м сказе.

● Знайдзіце і выпішыце са сказаў назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў адзіночным або толькі ў множным ліку.

*галерэ́я*
*што́сьці*
*дзе́сьці*
*калі́сьці*

**255.** Прачытайце, вызначце стыль і тып тэксту. Дайце тэксту загаловак.

У чэрвені — першай палове ліпеня неба над нашай краінай не вельмі цікавае. Але ўжо пачынаючы са жніўня можна любавацца найпрыгажэйшай панарамай Млечнага Шляху. У небе над Беларуссю можна назіраць і Паўночнае ззянне. Яно добра відаць тады, калі на Сонцы адбываюцца ўспышкі. Праўда, у выніку асаблівасцей зроку мы не бачым яго ва ўсёй красе. Але калі выкарыстаць фотаапарат, можна атрымаць выдатныя і вельмі відовішчныя здымкі.

У Беларусі можна бачыць і адну з самых таямнічых з'яў — серабрыстыя, або мезасферныя, аблокі. У адрозненне ад звычайных аблокаў серабрыстыя жывуць на фантастычнай вышыні ў 80 кіламетраў. Паводле найбольш папулярнай версіі — гэта пыл ад разбураных ледзяных ме-

тэарытаў. Відаць з тэрыторыі Беларусі і загадкавы Марс *(Часопіс «Беларусь»)*.

Выпішыце з тэксту словазлучэнні з прыназоўнікамі, размяркуйце іх на дзве групы: 1) невытворныя прыназоўнікі; 2) вытворныя прыназоўнікі.

● Выпішыце ўласныя назвы, ужытыя ў тэксце. Растлумачце іх правапіс.

⊙ Падрыхтуйце невялікае паведамленне на тэму «Зорнае неба над Беларуссю».

## § 36. Прыназоўнікі простыя, складаныя і састаўныя, іх правапіс

Па будове прыназоўнікі падзяляюцца на простыя, складаныя і састаўныя.

**Простыя** прыназоўнікі: ***а, аб, ад, без, для, за, на, пад, перад, пры, шляхам, дзякуючы.***

**Складаныя** прыназоўнікі ўтварыліся з двух слоў: ***з-за, з-пад, па-за, па-над, побач, замест, уздоўж.***

**Састаўныя** прыназоўнікі складаюцца з двух або некалькіх слоў: ***у час*** *заняткаў,* ***поруч з*** *дубкамі,* ***у залежнасці ад*** *надвор'я,* ***нягледзячы на*** *мароз,* ***з выпадку*** *адкрыцця,* ***з нагоды*** *юбілею,* ***у канцы*** *даклада.*

**256.** Запішыце сказы. Абазначце вытворныя прыназоўнікі, вызначце іх паходжанне і будову.

1. Жыццё — даброта. Найвялікшая даброта, якая дадзена кожнаму, нягледзячы на ўвесь боль *(У. Караткевіч)*. 2. Згодна з законамі выразнага чытання на месцы працяжніка пры вымаўленні робіцца паўза. 3. Дзякуючы таму, што бацька як чыгуначнік штогод меў бясплатны білет, яшчэ ў дзяцінстве я пабываў у Маскве *(І. Навуменка)*. 4. Вершаваная мова ў адрозненне ад празаічнай з'яўляецца рытмічна ўпарадкаванай *(Падручнік)*. 5. Доўгія суметы ляглі ўпоперак дарогі, і людзі стараліся патрапіць след у след, каб лішне не ісці цалiной *(М. Лынькоў)*. 6. Алесь ішоў недзе пасярэдзіне працэсіі *(У. Караткевіч)*. 7. Нягледзячы на рознасць поглядаў і характараў, мы ўчатырох сыходзі-

ліся ў адным: нельга сядзець склаўшы рукі, трэба дзейнічаць *(І. Навуменка)*. 8. Дзякуючы энтузіязму галоўнага балетмайстра ў тэатры склаўся прывабны для гледачоў і саміх выканаўцаў рэпертуар *(«ЛіМ»)*. 9. Гэта нармальна, што ў мяне яно ёсць, было і будзе — адчуванне роднай зямлі, народа, мовы, — нягледзячы ні на што *(Я. Брыль)*.

● Падкрэсліце прыслоўі і фразеалагізмы як члены сказа.

● Назавіце словы, запазычаныя з іншых моў, растлумачце іх лексічнае значэнне.

⊙ Складзіце і запішыце сказы, каб словы *(па) сярэдзіне, (не) гледзячы на* ў адным выпадку былі прыслоўем, дзеепрыслоўем, а ў другім — прыназоўнікамі.

Прыназоўнікі пішуцца асобна ад тых слоў, перад якімі стаяць: *за зіму, з арміі, у кабінеце, з самай раніцы.*

Складаныя прыназоўнікі ***з-за, з-над, з-пад, па-за, па-над, з-па-над, з-па-за*** пішуцца праз злучок: *Апоўдні пад несціханы крык пеўняў з-за лесу выпаўзла густая блакітна-шэрая хмара* (А. Асіпенка).

А л е: прыназоўнік ***паўз*** пішацца разам.

Прыназоўнікі ***аб, перад, над, пад*** перад займеннікам ***мне (мною)*** пішуцца з дадатковым ***а***: *аба мне, перада мною, нада мною.*

Замест прыназоўніка ***ў*** ужываецца яго варыянт ***ва*** перад словамі, якія пачынаюцца з ***у***: *ва ўніверсітэце, ва ўсіх.*

Перад словамі, якія пачынаюцца спалучэннем зычных, першы з якіх ***з, с, ш, ж, м,*** замест прыназоўніка ***з*** вымаўляецца і пішацца яго варыянт ***са***: *са мною, са школы, са знаёмым, са студыі, са жвіру, са жменю.*

Састаўныя прыназоўнікі пішуцца ў два або тры словы: ***з боку*** *адміністрацыі,* ***з мэтай*** *укаранення,* ***з выпадку*** *адкрыцця,* ***у выніку*** *катастрофы,* ***у кірунку да*** *плошчы,* ***у час*** *спаборніцтваў,* ***нягледзячы на*** *ўказанне.*

! З а ў в а г а. Неабходна адрозніваць у тэксце састаўныя прыназоўнікі ад прыслоўяў, у якіх прыстаўка супадае з першай часткай прыназоўніка: *Турысты пайшлі **ў бок** лесу. — Заўважыўшы людзей, заяц скочыў **убок**.*

**257.** Запішыце сказы. Графічна пазначце, у састаў якога члена сказа ўваходзяць прыназоўнікі. Вызначце паходжанне і будову вытворных прыназоўнікаў.

1. Навокал клуба вырас густы вішняк і бэз. 2. З нагоды паспяховага заканчэння ўборкі калгаснікі ў клубе наладзілі вечар. 3. Снег выпаў у канцы лістапада. 4. Лыжнікі паволі ішлі сонечнай, адліжнай вуліцай у напрамку да клуба. 5. Насустрач лыжнікам з хат выбягалі дзеці, а за імі выходзілі і дарослыя[м]. 6. У час сустрэчы з танкістамі Галі здалося, што яна з Максімам яшчэ раз спаткаецца. 7. Скрозь страляніну танкісты пачулі, як спявае мінамётчык. 8. Дзве гарматы, якія стралялі насустрач, былі раздушаны гусеніцамі танка. 9. Батальён з нагоды чаканай урачыстасці наладзіў святочны абед. 10. Максім прыехаў у Мінск напярэдадні першамайскага свята *(І. Грамовіч)*.

● Зрабіце сінтаксічны разбор складанага сказа (на выбар).

⊙ Ці можна з прапанаваных сказаў скласці тэкст? Адказ абгрунтуйце, выкарыстоўваючы табліцу на с. 8—9.

Складзіце і запішыце сказы, каб вытворныя прыназоўнікі сталі іншымі часцінамі мовы.

**258.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі. Устаўце адпаведныя па сэнсе прыназоўнікі.

1. ... сосен бору, ... ялінкі бяжыць ручай такі маленькі, збярэш яго, здаецца, у жменьку, а ён імчыцца *(у)* даль жывінкай, кідаючы між лугу след *(П. Броўка)*. 2. ... абрывам схіленай вярбе штосьць шэпчуць сарамлівыя купавы *(П. Броўка)*. 3. ... плячэй дзядка *(у)* лясное люстэрка пазірала яліна *(Я. Пархута)*. 4. ... зелянюткага моху вылазіла і ўзбягала *(на)* пахіленую альхавіну чарада апенек *(Я. Пархута)*. 5. ... Белага гаю ўсю ноч ішоў першы прымаразак *(Я. Пархута)*. 6. Жаваранак пырхнуў ... самых ног і на *(не/ня)* бачнай нітачцы[ф] пачаў церабіцца *(у)* гору *(Я. Пархута)*. 7. ... самага лесу віецца Друць *(Я. Пархута)*.

Для даведкі: *па-над, з-пад, з-за.*

**259.** Прачытайце тэксты, вызначце іх тып і стыль. Назавіце прыметы стылю. Запішыце тэксты.

I. Па начах, калі мацнелі маразы, вакол чуўся сухі раскацісты трэск. Трашчала недзе на гарышчы, каля варот, пад самымі вокнамі. Потым гучна і працяжна грукнула за гародамі. Раніцою з двара Кім убачыў, што праз раку ходзяць людзі, нехта нават праехаў на кані.

II. Дарога ўсё далей вяла Кіма ў лес. Пайшлі высокія сосны, старыя кудлатыя яліны, а бяроз нідзе не было. Тады Кім крышку збочыў, прашыўся скрозь густы малады ельнік і выбраўся на невялічкую паляну. Вакол паляны, як на падбор, стаялі бярозы, адсвечваючы снежнай белізной гладкіх ствалоў.

III. Раніцою я быў уражаны ўбачаным[м]. Далёка вакол, наколькі магло бачыць вока, ляжала пульхная белізна. З боку аэрадрома выкочвалася чырвонае сонца, і пушыстая елка каля агароджы казачна ружавела на фоне блакітнага неба *(М. Парахневіч)*.

Абазначце вытворныя і невытворныя прыназоўнікі, вызначце іх будову.

● Падкрэсліце прыслоўі і фразеалагізмы як члены сказа.

**260.** Прачытайце. Вызначце адрасата і мэту напісання тэксту (гл. уклейку).

Глыбокі сімвалічны сэнс у карціне вядомага майстра Гаўрылы Вашчанкі «Нашчадкам». За сталом, засцеленым белым абрусам, сядзіць Скарына. Ён глядзіць убок, нібыта кагосьці чакае. На стале ляжыць кніга. Жанчына ў намітцы* кладзе побач з кнігаю бохан свежавыпечанага хлеба. Хлеб і Кніга — госцю. Здаецца, зараз ён увойдзе ў хату і сядзе ў падрыхтаванае для яго крэсла. Хто ён? Беларус, наш сучаснік. Гэта нам пакінулі продкі Хлеб і Кнігу — Зямлю і Неба. Што застанецца пасля нас? Няўжо мы апошнія, хто разумее Скарынава слова без перакладу на якуюнебудзь суседскую мову? *(П. Васілеўскі)*.

Выпішыце з тэксту словазлучэнні з прыназоўнікамі. Вызначце іх будову і паходжанне.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.

**Вымаўляй правільна:** **сусé[цк]ую.**

**Пішы:** ***суседскую.***

**261.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту.

АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ

Радзіма Алімпійскіх гульняў — Грэцыя. Яшчэ 28 стагоддзяў таму ў Старажытнай Грэцыі **ў гонар** бога Зеўса праводзіліся спаборніцтвы паміж атлетамі. Вызначаліся самыя дужыя, спрытныя і хуткія. Цэнтрам гэтых спаборніцтваў быў горад Алімп, адсюль і пайшла назва гульняў. Алімпіяда была агульнагрэчаскім святам. **На час** спаборніцтваў, якія працягваліся пяць дзён, спыняліся войны і міжусобіцы. Пераможцаў узнагароджвалі вянком з галінак алівы, паважалі і ўшаноўвалі.

Спачатку алімпійцы спаборнічалі толькі на хуткасць бегу. Пазней у праграму ўвайшлі барацьба, пяцібор’е (бег, скачкі ў даўжыню, кіданне дыска, кіданне кап’я і барацьба), кулачны бой, гонкі на калясніцах. Гульні былі адменены рымскім імператарам Феадосіем I у 394 годзе **ў сувязі з** перамогай хрысціянства.

Другое нараджэнне Алімпійскіх гульняў адбылося **ў канцы** XIX стагоддзя. У 1896 годзе ў Афінах прайшлі буйныя міжнародныя спартыўныя спаборніцтвы, дзе быў адноўлены дух гульняў. З таго часу алімпіяды праводзяцца рэгулярна адзін раз у чатыры гады, а з 1924 года ладзяцца яшчэ і Зімовыя гульні *(«Бярозка»)*.

Выпішыце з тэксту словазлучэнні з выдзеленымі састаўнымі прыназоўнікамі, вызначце іх разрад па паходжанні.

● Назавіце лічэбнікі, ужытыя ў тэксце. Якія яны: колькасныя ці парадкавыя? Выпішыце словазлучэнні з лічэбнікамі, замяняючы лічбы словамі.

● Якую сэнсавую і граматычную ролю выконваюць прыслоўі ў другім абзацы тэксту?

Складзіце план тэксту і перакажыце тэкст па плане (вусна).

⊙ Раскажыце пра ўдзел беларускіх спартсменаў у апошняй Алімпіядзе.

**262.** Прачытайце. Растлумачце, чаму тэкст так называецца. Да якога стылю і тыпу яго можна аднесці?

Запішыце тэкст, устаўляючы патрэбныя прыназоўнікі і прапушчаныя літары. Расстаўце знакі прыпынку.

БЕРАСЦЯНЫЯ ВЫРАБЫ

Сшываючы кавалкі бярозавай кары гнуткімі карэн..чыкамі ці скуранымі сту..камі ... даўніх часоў рабілі беларусы посуд ... сыпкіх рэчываў карабы кашалі сявенькі берасцянкі ... мёду круп прыпраў. ... стужак ... бяросты плялі вярэнькі ... пераносу прадуктаў заплечныя кашалі ... збору грыбоў ягад, імі аплятаалі гліняны посуд. ... бяросты выраблялі таксама табакеркі шкатулкі куфэркі і іншыя рэчы *(«Беларускі каляндар»)*.

● Назавіце словы, пры дапамозе якіх звязаны сказы ў тэксце. Растлумачце правіла ўжывання прыназоўніка ***з (са)***. З формамі якіх склонаў ужыты прыназоўнікі, якія значэнні яны выражаюць з залежнымі словамі?

● Выпішыце з тэксту аднакаранёвыя словы.

⊙ Вусна перакажыце тэкст (гл. уклейку).

## Марфалагічны разбор прыназоўніка

Парадак разбору

1. Часціна мовы. Значэнне, якое выражае прыназоўнік разам з залежным назоўнікам (займеннікам, лічэбнікам) ва ўскосным склоне.

2. Марфалагічныя прыметы: нязменнае слова, разрад паводле паходжання (невытворны ці вытворны), разрад паводле будовы (просты, складаны ці састаўны); з якім склонам залежнага слова ўжыты.

3. Сінтаксічная роля.

Узор разбору

*З-за лесу выкацілася сонца* (Т. Бондар).

***Вусны разбор***

*З-за (лесу)* — прыназоўнік, выражае разам з назоўнікам *лесу* прасторавае значэнне; нязменнае слова, невы-

творны, складаны; ужыты з родным склонам назоўніка *лесу*; уваходзіць у састаў акалічнасці.

### *Пісьмовы разбор*

*З-за (лесу)* — прыназоўнік, выражае прасторавае значэнне, нязмен., невытв., склад.; ужыты з Р. скл. наз. *лесу*; у саставе акалічнасці.

---

**263.** Спішыце. Пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку. Выканайце марфалагічны разбор усіх прыназоўнікаў вусна, а двух (на выбар) — пісьмова.

1. Сярод жыта, за ўзгоркам, гаманілі два галасы *(М. Гарэцкі)*. 2. Рака бліснула з-за кустоў шырокай іскрыстай гладдзю трохі спалохаўшы мяне асляпіўшы і зачараваўшы *(І. Шамякін)*. 3. Ельнік скончыўся раптоўна адкрыўшы чыстую прастору поля пасярод якога на пагорку стаяла вялікая груша *(А. Кудравец)*. 4. Стаіць ля Карэлічаў жыта сцяной шыпшына цвіце каля Мірскага замка да брацкай магілы ідзе партызанка[сн] *(П. Панчанка)*. 5. Збіраюцца ў пушчы былыя салдаты — на свята, здабытае некалі свята *(Э. Агняцвет)*. 6. Абапал Бярозы лугі і лугі... *(А. Ставер)*. 7. На вакзальнай плошчы, у трамваі, паблізу мяне сеў чалавек *(Я. Скрыган)*. 8. Унь ускрай сядзібы конь паўзе сталёвы рэжа лусты-скібы хлебу тчэ асновы... *(Я. Колас)*.

**264.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту. Дайце яму загаловак. Запішыце тэкст, устаўляючы патрэбныя прыназоўнікі і знакі прыпынку.

... пачатку веснавых палявых работ здаўна існаваў ... беларусаў традыцыйны земляробчы абрад — заворванне, аранне першай баразны. Першы выхад ... поле быў святам. Араты ўставаў ... золку апранаў чыстую кашулю акрапляў валоў ці коней крынічнаю вадою і ехаў ... ніву. ... сабою браў хлеб ваду яйкі соль якія ... павер'і садзейнічалі ўрадлівасці палеткаў. Зрабіўшы 2—4 баразны селянін вяртаўся дадому дзе яго чакаў накрыты гаспадыняй стол ... абра-

давым печывам. Заворванне існуе і ... сучаснай працоўнай абраднасці *(«Беларускі каляндар»)*.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.

Выканайце марфалагічны разбор двух прыназоўнікаў (на выбар).

⊙ Раскажыце, як адзначаецца ў вашай мясцовасці свята першай баразны. Якія яшчэ веснавыя святы вы ведаеце? Як яны адзначаюцца на вашай радзіме? Ці бралі вы ў іх удзел?



**265.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэкстаў.

I. У беларускай мове прыназоўнік ***па*** ўжываецца з месным склонам залежнага слова для выражэння разнастайных значэнняў — прасторавых *(па палях і сенажацях)*, часавых *(па вечарах)*, аб'ектных *(сумаваць па родных)*.

У рускай мове ў такіх выпадках прыназоўнік ***по*** ўжываецца з давальным склонам множнага ліку *(по равнинам)*.

II. У спалучэнні з дзеясловамі руху *ісці, хадзіць, бегчы, ехаць, ляцець, пасылаць* для выражэння мэты залежнае слова ўжываецца з прыназоўнікам ***па*** і ставіцца ў вінавальным склоне: *ідзе па ваду, збегай па брыгадзіра, прыйшоў па цябе*.

Калі залежным словам з'яўляюцца назвы ягад (*брусніцы, чарніцы* і г. д.), само слова *ягады*, назвы грыбоў (*лісічкі, сыраежкі* і г. д.), само слова *грыбы*, слова *арэхі*, то гэтыя назоўнікі таксама ставяцца ў вінавальным склоне, але ўжываюцца з прыназоўнікам ***у***: *пайшлі ў грыбы, ехаць у журавіны*.

У рускай мове...

III. Спалучэнні з прыназоўнікам ***праз*** у беларускай мове выражаюць прычынныя адносіны: *Праз цябе, дзявоцкая краса, слёзы коцяцца, як буйная раса* (М. Багдановіч).

Прыназоўнік ***праз*** ужываецца таксама ў спалучэннях *пранікаць праз, прабівацца праз, праходзіць праз: Праз цёмныя фіранкі ледзь пранікала святло* (Я. Колас).

У рускай мове... *(Паводле Ф. Янкоўскага)*.

Дапішыце апошнія абзацы другога і трэцяга тэкстаў. Прывядзіце прыклады.

**266.** Запішыце тэкст. Устаўце неабходныя прыназоўнікі. Абгрунтуйце свой выбар.

Чэрвеньскае сонца стаяла ў зеніце і пякло н..шчадна. Н..абходна было спяшацца. Мы ішлі сцежкамі, якія ведала я адна, — і ... лясы, і ... поле, і ... лузе, ... гэтых сцежках хіба выпадкова маглі прайсці людзі — ... грыбы ці ... ягады. Часцей увогуле і сцежкі ніякай не было, бо ўсё зарасло густой травой *(І. Шамякін)*.

● Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа, вызначце іх разрад па значэнні.

**267.** Прачытайце. Вызначце адрасата і стыль тэксту.

Пішам і гаворым часам: пасмяяўся над ім; жаніўся на ёй; дзякую вас; прабачце мяне; адкрыў кнігу. Але гэта калькавы пераклад. Бо па-беларуску трэба дзякаваць не каго, а каму — **дзякую вам;** прабачаць не каго, а каму — **прабачце мне.** І **пасмяяцца** не над кім, а **з каго, ажаніцца** не на кім, а **з кім.** І не адкрыць **кнігу,** а **адгарнуць, разгарнуць** *(Я. Скрыган)*.

У якім склоне ставіцца назоўнік або займеннік пры дзеясловах *прабачыць, дзякаваць, падзякаваць, дараваць* у беларускай мове?

Які прыназоўнік ужываецца пры дзеясловах *пасмяяцца, ажаніцца*?

Складзіце і запішыце сказы з названымі ў тэксце беларускімі словазлучэннямі.

**268.** Прачытайце. Падбярыце і запішыце адпаведныя сінанімічныя словазлучэнні.

У з о р: *ісці лесам — ісці праз лес.*

Паехаць на вёску, аднолькавыя выглядам, вучыцца напярэдадні вайны, парашкі супраць кашлю, перайсці рэчку, напісаць брату, купіць дачцэ, успаміны аб мінулым, праходзіць уздоўж шашы, прачытаць на працягу вечара.

З дзвюма парамі словазлучэнняў складзіце і запішыце сказы.

**269.** Прачытайце рускія выразы. Падбярыце і запішыце беларускія адпаведнікі.

Выше отца, в трёх километрах от деревни, благодарю вас, более или менее, жениться на ком, болеть гриппом, у меня болит голова, удивляться чему, не удивительно, пойти за грибами, на этих днях, топить печь, минуты три, в другой раз.

## § 37. Разважанне як тып тэксту

### Схема разважання




**270.** Прачытайце тэкст услых, захоўваючы патрэбную інтанацыю. Чаму адпавядае загаловак: тэме ці асноўнай думцы тэксту? Вызначце тып і стыль тэксту. Назавіце структурныя часткі. Прывядзіце прыклады да тэзісаў з уласных уражанняў і назіранняў.

ВАРТА АД'ЕХАЦЦА

За што мы, людзі, любім далёкія дарогі?

На гэтых дарогах мы, безумоўна, шмат знаходзім: не бачаныя нідзе раней дрэвы і кветкі, не чутыя раней галасы звяроў і птушак, нанава адкрываем для сябе старую зямлю, старое сонца, старыя зоры на небе, знаходзім новыя для сябе гарады і новых сяброў.

Але ж любая знаходка мае толькі тады нейкі сэнс, калі яна, далёкая, дапаможа зразумець, паўней адчуць самае для сябе блізкае і самае дарагое, калі ў чужым па-новаму пачынаеш разумець і цаніць сваё, кроўнае.

Так, варта ад'ехацца далей ад свайго мілага кута. Ад'ехацца хоць дзеля таго, каб здалёк зірнуць на саміх сябе, на сваё добрае і благое *(В. Карамазаў)*.

Назавіце прыназоўнікі, ужытыя ў тэксце. Якія значэнні перадаюцца з іх дапамогай у словазлучэннях?

● Растлумачце правапіс часціцы ***не*** ў тэксце.

● Выпішыце словазлучэнні з прыслоўямі. Вызначце ролю прыслоўяў, растлумачце правапіс.

**271.** Пазнаёмцеся з тэкстам. Знайдзіце словы, у якіх выказана асноўная думка. Да якога стылю і тыпу адносіцца тэкст? Адказ растлумачце.

Меркаваць, што чалавек становіцца кепскім таму, што на яго негатыўна ўплываюць абставіны жыцця (сацыяльна-эканамічная сітуацыя), — трагічная памылка.

Паспрабую растлумачыць, што я маю на ўвазе. Па-першае, у адной і той жа сітуацыі, у залежнасці ад настрою, стану, чалавек можа паводзіць сябе па-рознаму. Па-другое, розныя людзі ў адной і той жа сітуацыі паводзяць сябе таксама па-рознаму. Хачу прывесці прыклад. Шмат хто ведае цікавага дацкага карыкатурыста Херлуфа Бідструпа. У яго творчасці добра адлюстравана псіхалогія чалавека, яго паводзіны.

Дык вось, сярод яго творчага скарбу ёсць адна работа, якая складаецца з чатырох малюнкаў. На кожным намалявана адна і тая ж сітуацыя. Чалавек сеў на лаўку, зняў капялюш і паклаў побач. Другі чалавек, падышоўшы, не заўважыў і ўсеўся на гэты капялюш, натуральна, пакамечыўшы яго і сапсаваўшы форму. На ўсіх чатырох малюнках гэта з'яўляецца агульным і нязменным пачаткам. Але вось кульмінацыі розныя, бо розная рэакцыя людзей у гэтай сітуацыі.

На першым малюнку ўладар капелюша схапіў неабачлівага небараку і пачаў на яго крычаць, гэта значыць праявіў раздражнёнасць і гнеў. На другім малюнку гаспадар забраў свой капялюш, зірнуў на яго і засмяяўся, ды гэтак

1



2



3



4



заразліва, што і той, хто сеў на капялюш, таксама заўсміхаўся. На трэцім малюнку ўладар капелюша, убачыўшы, што сталася з яго рэччу, заплакаў.

А на апошнім малюнку гаспадар увогуле не праявіў ніякіх эмоцый.

Мастак паказаў, што паводзіны чалавека і яго рэакцыя на вонкавае ўздзеянне не залежаць ад знешніх абставін, а залежаць толькі ад самога чалавека, яго ўнутранага стану, характару, выхаванасці. Маральны і культурны ўзровень

чалавека не залежыць ад таго, як і чым яго кормяць і ў што апранаюць *(А. Дылюк)*.

Растлумачце лексічнае значэнне слоў *негатыўна, трагічны, сітуацыя, эмоцыі, рэакцыя*; падбярыце да іх сінонімы. Складзіце з гэтымі словамі сказы.

Якія значэнні перадаюцца пры дапамозе прыназоўнікаў у гэтым тэксце?

Выдзеліце ў тэксце тэзіс, доказ і вывад. Якія асаблівасці пабудовы гэтага публіцыстычнага разважання? Ці згодны вы з думкай аўтара? Калі так, то прывядзіце прыклады са сваіх назіранняў.

**272.** Ці думалі вы калі-небудзь, які сэнс укладваюць людзі ў словы *сапраўдны сябар*? Запішыце свае думкі па гэтым пытанні. Прыдумайце тэзіс, які вы будзеце абгрунтоўваць, абараняць. Падбярыце прыклады з прачытаных літаратурных твораў, якія дапамогуць вам зрабіць выказванне больш выразным, пераканаўчым.

Напрыклад:

Сапраўдны друг гадамі гартаваны,
Гатовы засланіць і памагчы.
Прыходзіць у бядзе неспадзявана,
Як хлеб, як соль, як вогнішча ўначы.

*С. Грахоўскі.*

Што сцвярджае народная мудрасць у наступных беларускіх прыказках?

Дружба не заўсёды салодкая служба.

Той не можа быць другам, хто абыдзе ў бядзе кругам.

Прыяцеля пазнаеш у няшчасці.

Не той друг, хто мёдам мажа, а той, які ў вочы праўду скажа.

Новых сяброў набывай, а старых не забывай.

Скажы мне, хто твае сябры, я скажу, хто ты сам.

Падрыхтуйцеся да дыспуту на тэму «Каго можна назваць сапраўдным сябрам?». Па выніках дыспуту напішыце нататку ў газету.

Рыхтуючыся да дыспуту, вазьміце пад увагу наступныя парады.

**ПАМЯТКА**

- У час выказвання не адхіляйся ад тэмы абмеркавання.
- Стаўся з павагай да сваіх апанентаў, да таго, што яны кажуць.
- Не перапыняй суразмоўцу, памятай, што, як і ты, кожны мае права выказаць сваю думку.
- Уласныя думкі выказвай годна, спакойна, выбірай важкія аргументы і прыклады.
- Не падмяняй абмеркаванне пэўных думак абмеркаваннем асабістых якасцей удзельнікаў дыспуту.



**Нататка** — кароткае паведамленне ў публіцыстычным стылі, разлічанае на эмацыянальнае ўздзеянне на чытача. Нататка складаецца з трох частак:

1) уступу, дзе гаворыцца пра месца, час дзеяння і тэму выказвання;

2) выкладу асноўных фактаў, палажэнняў і доказаў;

3) канцоўкі — вываду.

# ЗЛУЧНІК

## § 38. Злучнік як часціна мовы

**Злучнік** — службовая часціна мовы, якая звязвае аднародныя члены сказа або часткі складанага сказа, сказы, часткі тэксту і паказвае на розныя адносіны паміж імі.

1. *Лагодна, дружна **і** шчаслівa жыццё зайграла каля рэчкі* (Я. Колас).
2. *Вецер дзьмуў, **і** шумеў па-над Нёманам бор* (М. Танк).

У першым сказе злучнік ***і*** звязвае аднародныя члены сказа — акалічнасці *дружна, шчаслівa*. У другім сказе злучнік ***і*** звязвае дзве часткі складанага сказа — *вецер дзьмуў, шумеў па-над Нёманам бор*.

Злучнік не змяняецца, не з'яўляецца членам сказа.

**273.** Прачытайце. Вызначце стыль і жанр тэксту. Чаму вучыць гэты тэкст?

ПРА ЗЯЗЮЛЮ

Жылі-былі брат **і** сястра. Брат быў вельмі бедны, **а** сястра — дужа багатая.

Аднойчы пайшоў брат да сястры, **каб** хоць кавалкам хлеба дапамагла.

Сястра скупая была, сказала, **што** ключы ад клеці згубіла. **І** пачала яна нібы шукаць ключы, **а** брат стаяў, стаяў пад акном, чакаў, чакаў **і** нарэшце не вытрымаў **і** пайшоў.

На дарозе паваліўся **і** памёр ад голаду.

Сястра зразумела, **што** зрабіла дрэнна, **і** стала клікаць брата:

— Якуб, Якуб, вярніся, ключы знайшліся.

Праз сваю скупасць яна зрабілася зязюляй **і** цяпер увесь час кліча:

— Якуб, Якуб!

Толькі чуваць:

— Ку-ку, ку-ку! *(В. Ластоўскі).*

Вызначце, што звязвае ў тэксце кожны са злучнікаў — аднародныя члены ці часткі складанага сказа. Які злучнік звязвае сказы ў тэксце? Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

● Ці з'яўляецца ў гэтым тэксце прыназоўнік ***ад*** адназначным? Якое значэнне разам з залежным словам выражае прыназоўнік ***праз***?

Вусна перакажыце тэкст.

**274.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэксту, яго тэму і асноўную думку. Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і патрэбныя знакі прыпынку.

Імёны Янкі Купалы і Якуба Коласа даўно і заслужана стаяць поруч. Пісьменнікі поруч ішлі ў літаратурнай творчасці, якая паралельна расла і мужнела стаўшы славай і гонарам нашага народа. У іх былі блі..кія ідэйна-эстэтычныя праграмы і грама..скія погляды. Абодва паэты зрабілі шчодры і д..братворны ўклад у беларускую літаратурную мову. Па сутнасці, былі яе заснавальнікамі, сваёй творчасцю навуковай грама..скай дзейнасцю садзейнічалі росту і ўмацаван..ю яе грама..скага прэстыжу* *(М. Бірыла).*

Вызначце, што ў гэтым тэксце звязвае злучнік ***і*** — аднародныя члены ці часткі складанага сказа.

● Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа. Якую сэнсава-стылістычную ролю яны выконваюць у тэксце?

***прэсты́ж***
***дабратво́рны***
***грама́дскі***
***эстэты́чны***

**Вымаўляй правільна:** **грама́[цк]ія.**

**Пішы:** ***грамадскія.***

**275.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку. Падбярыце загаловак.

Дарога была далёкая. Ішоў-ішоў дзівак, нёс-нёс у мяшку за плячыма хлеб, змарыўся. Спыніўся. Перакідае ношу з пляча на плячо і лаецца:

— Ох, каб на цябе ліха! Яшчэ гэты цяжар нясі на сабе!

А хлеб у мяшку за плячыма адгукаецца:

— Не, чалавеча, не ты мяне нясеш, а я цябе нясу.

— Што? — абурыўся дзівак. — Каму гэта не відно, што я цябе ўсю дарогу на сабе валаку!..

А хлеб з мяшка зноў падае голас:

— Памыляешся. Не ты мяне нясеш, а я цябе нясу.

— Пабурчы ў мяне! — узлаваўся дзівак. — От зараз вазьму ды кіну з плеч... Пабачым, хто каго панясе.

— Кідай, — кажа хлеб, — але потым не кайся.

— Ах, ты будзеш у мяне аскірзацца*! — разгневаўся дзівак і кінуў мяшок на ўзбочыну дарогі.

Пайшоў сабе з вольнымі рукамі. Ідзе. Без цяжару лёгка ісці. Ішоў-ішоў, а тут і ноч настае. Есці захацелася. Прысеў ды і думае: «Далей ісці трэба, але падсілкавацца не шкодзіла б... А чым? Хлеба няма...»

Так і атрымалася, што хлеб спрыяў чалавеку. А чалавек? Адумаўся дзівак, пакаяўся, ды было позна *(І. Грамовіч)*.

● Выпішыце з тэксту злучнікі, вызначце іх сінтаксічную ролю.

● Растлумачце, чаму сказы з простай мовай афармлены ў тэксце па-рознаму: пры дапамозе працяжнікаў і двукосся.

Вусна перакажыце тэкст.

**276.** Прачытайце. Вызначце стыль і тып тэксту. Дайце тэксту загаловак. Назавіце злучнікі і вызначце, што яны спалучаюць — аднародныя члены ці часткі складанага сказа. Які злучнік звязвае часткі тэксту?

Берагчы хлеб, шанаваць самы маленькі кавалачак, кожную скарыначку прывучалі дзед і бацька.

— З'еш усё, не пакідай! — сварылася маці. — Няможна!

— Чаму?

— Голад можа настаць...

Я не разумеў іх. Якая сувязь паміж голадам, якога ніколі я не бачыў, і палоханнем, строгасцю, з якімі дарослыя прывучалі мяне шанаваць хлеб?

Што можа здарыцца, калі я выкіну недаедзеную скібку? Падумаеш, вялікая страта! Сабака з'есць.

Аднак пасля падобных жартаў у мяне доўга балела рука. Бацька так даў па руцэ, якой я кідаўся хлебам, што навекі запомніў.

Дзед не караў мяне. Ён толькі ўгаворваў, расказваў казкі.

— Пацалуй недаедзены кавалачак і пакладзі ў торбу, — сказаў ён аднойчы мне. — Эх, які ж ты неакуратны! Колькі цябе ні навучай, усё роўна расцеш бяспамятным. Відаць, як паспытаеш свой горкі кавалачак хлеба, тады зразумееш, чаго ён каштуе *(І. Грамовіч)*.

Якія словы і аргументы знайшлі б вы, каб давялося выхоўваць героя гэтага тэксту? Складзіце і запішыце адпаведны тэкст.

● Якія правілы трэба ведаць, каб пісьменна напісаць словы *бяспамятны, недаедзены, з'есці*?

**277.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль. Дайце тэксту загаловак.

Працоўны год у старажытных славян вызначаўся натуральнымі падзеямі, што даюцца самой прыродай. Ён падзяляўся на дзве паловы: летнюю і зімовую. І пачынаўся звычайна з першага веснавога месяца — сакавіка, таму што з чатырох пораў года вясна разглядалася як папярэдніца лета, а восень — як **пераддзвер'е** зімы.

Дзякуючы такім уяўленням на працягу многіх вякоў і складаўся адзіны каляндарна-земляробчы цыкл абрадаў. Сярод іх адным з самых цікавых і найважнейшых быў цыкл веснавых свят. З вясны пачыналіся новыя клопаты аб будучым ураджаі, вясной абуджалася прырода. Ад таго, наколькі цёплай і ўдалай будзе вясна, залежалі дабрабыт і лад жыцця чалавека.

Дык якія ж святы ўтваралі веснавы цыкл? Мяркуючы па апісаннях многіх даследчыкаў фальклору, у гэты цыкл

на Беларусі ўваходзілі наступныя святы: Гуканне вясны, Вялікдзень, Юр'е, Сёмуха.

Да нашых дзён у сваім першапачатковым выглядзе абрады не захаваліся, але шэраг іх элементаў, і галоўнае песні, існуюць і да гэтай пары *(Л. Зыкава)*.

Выпішыце злучнікі, ужытыя ў тэксце. У дужках пазначце, што яны злучаюць.

● Выпішыце з тэксту словазлучэнні з прыназоўнікамі, вызначце будову прыназоўнікаў. Выканайце пісьмовы марфалагічны разбор аднаго з іх (на выбар).

● Растлумачце правапіс выдзеленага слова, а таксама пастаноўку знакаў прыпынку ў перадапошнім абзацы.

⊙ Раскажыце, якія веснавыя святы і як адзначаюцца ў вашай сям'і або ў вашай мясцовасці.

## § 39. Злучнікі простыя і састаўныя; адзіночныя, паўторныя і парныя

Паводле саставу злучнікі падзяляюцца на простыя і састаўныя.

**Простыя** злучнікі складаюцца з аднаго слова (***і, а, ды, але, ці, бо, каб, пакуль*** і інш.): *Выйдзі ў луг* ***ці*** *поле летам — колькі там дзівосных кветак* (К. Цвірка).

**Састаўныя** злучнікі складаюцца з двух або некалькіх слоў, якія выконваюць ролю аднаго слова (***таму што, так што, так як, як толькі, для таго каб, пасля таго як, у той час як, перад тым як, хоць — але, як — так***): ***Хоць*** *складанае пастаўлена пытанне,* ***але*** *просты на яго адказ* (П. Глебка).

**278.** Прачытайце. Выпішыце спачатку сказы толькі з простымі злучнікамі, а потым з састаўнымі і простымі. Злучнікі абазначце авалам (⬭), калі яны злучаюць часткі складанага сказа, або кружком (◯), калі яны спалучаюць аднародныя члены сказа.

1. Як толькі прыйдзе дзень вясновы і стане возера сінець, я, хоць рыбак не адмысловы, люблю за вудачкай сядзець *(П. Броўка)*. 2. Мы аб прыгожым заўжды марым,

але да нас да ўсіх дайшло: прыгожыя — не толькі тварам, а тыя, у кім душы святло *(П. Броўка)*. 3. Хоць першая беларуская газета «Наша ніва» друкавалася ў Вільні, але я пра яе існаванне даведаўся праз Пецярбург *(У. Дубоўка)*. 4. Святых мясцін на свеце многа, але і гэтай не міні... Іду ў Альбуць лясной дарогай — ступня адчула карані *(С. Законнікаў)*. 5. Калі ў канцы апавядальнага сказа стаіць скарочанае слова, то пастаўленая пасля яго кропка адначасова афармляе і канец сказа *(Даведнік па пунктуацыі)*. 6. Лес, і рэчку, і клёкат бусловы, чалавечую ўсмешку ўраз можна знішчыць адным толькі словам, што бяздумна вырвецца ў нас *(В. Вітка)*.

Паводле спосабу ўжывання злучнікі падзяляюцца на адзіночныя, паўторныя і парныя.

Да **адзіночных** адносяцца злучнікі, якія не паўтараюцца пры аднародных членах сказа або частках складанага сказа, а ўжываюцца адзін раз: ***а, але, ды*** (у значэнні ***але***), ***бо, як*** і інш.

Да **паўторных** адносяцца злучнікі, якія паўтараюцца пры аднародных членах сказа або частках складанага сказа (***і — і, ні — ні, ці — ці, або — або, то — то, ці то — ці то*** і інш.): 1. *Поле — не толькі зямля, гэта **і** неба, **і** ветрык, **і** васілёк, што здаля свеціць душою прыветна* (В. Зуёнак). 2. *Міканору не было **ні** сумна, **ні** санліва, усяго яго поўніла нецярплівая, прагная да дзейнасці радасць* (І. Мележ).

Да **парных** належаць злучнікі, кожная частка якіх адносіцца да розных аднародных членаў сказа або частак складанага сказа (***не толькі — але (але і), не столькі — колькі, не то што — але (але і), калі — то (тады, дык), хоць (хоць і) — але (ды, аднак, усё ж), толькі — як, а раз — то (дык)*** і інш.): 1. ***Калі*** *родзяць грыбы,* ***то*** *і жыта зародзіцца* (Прыказка). 2. ***Хоць*** *часу не зрушыць мне з месца,* ***ды*** *думы імкнуцца ў палёт* (П. Броўка).



**Перад другой часткай парнага злучніка заўсёды ставіцца коска.**

**279.** Прачытайце тэкст. Вызначце тып тэксту, абгрунтуйце сваю думку. Ці можаце вы назваць жанр тэксту?

Вызначце, што злучаюць злучнікі. Назавіце іх разрад паводле саставу і спосабу ўжывання.

ПРА ПОЧЫРК

Вялікі паэт і вучоны Гётэ ўсё жыццё збіраў і вывучаў аўтографы. Ён меркаваў, што характар чалавека адлюстроўваецца ў почырку. **Аднак** у класіка нямецкай літаратуры хапала здаровага сэнсу не верыць модным на той час псіхаграфолагам, якія браліся вызначаць па почырку **не толькі** характар, **але і** колер валасоў, рост, голас, **і нават** прадказвалі па почырку лёс.

Сучасныя графолагі* лічаць, што почырк дае магчымасць вывучаць механізмы рухаў рукі, якія толькі дапаўняюць псіхалагічны воблік аўтара почырку. Па асаблівасцях гэтых рухаў і вырашаюць, якімі рысамі характару можа валодаць той, хто пісаў. Так што не варта асабліва цешыцца, калі падрабляеце ў дзённіках подпіс настаўніка — паўтарыць рух ягонай рукі даволі цяжка, падробку відаць, што называецца, няўзброеным вокам.

Даказана, што почырк перадаецца генетычна, па спадчыне *(«Бярозка»)*.

Вусна перакажыце тэкст.

**280.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль. Якая асноўная думка тэксту?

Усміхайцеся, панове!

Калі смех да месца, то ён заўсёды карысны[м]. Вы прачнуліся раніцай, у вас не вельмі добрае самаадчуванне і вам падаецца, што ўвогуле ўсё дрэнна. Але ж гэта суб'ектыўны позірк! Варта пастарацца яго хаця б трошкі пахіснуць. У псіхалогіі ёсць такое паняцце — «ад знешняга да ўнутранага». Калі вы робіце пэўныя намаганні, пачынаеце ўсмі-

хацца скрозь слёзы і глядзець на сябе ў люстэрка, то адпаведныя імпульсы ідуць у мозг. Спрабуючы[м] ўсміхацца, вы імкняцеся[м] паглядзець на жыццё з іншага боку. Таму пастарайцеся адшукаць хаця б адзін плюс у той сітуацыі, якая вас не задавальняе. Калі знойдзеце адзін, то абавязкова з'явяцца і другі, і трэці. А потым вы зразумееце, што не ўсё так ужо і змрочна, як здавалася спачатку. Нельга адрозніваць у жыцці толькі дзве фарбы — белую і чорную. Рэчаіснасць наша насамрэч рознакаляровая.

Трэба ўмець знаходзіць як мага больш пазітыўнага і ў самім сабе, і ў навакольных. Тады і з'явяцца натуральныя падставы для ўсмешак *(В. Шукан. Часопіс «Бярозка»)*.

Выпішыце з тэксту злучнікі, размеркаваўшы іх у адпаведныя графы табліцы.

**Злучнікі паводле спосабу ўжывання**

| Адзіночныя | Паўторныя | Парныя |
|---|---|---|
| | | |

● Якія прэдыкатыўныя прыслоўі ўжыты ў тэксце? Вызначце іх сэнсавую і сінтаксічную ролю.

⊙ Складзіце і запішыце тэкст-разважанне на тэму «Калі смех да месца».

**281.** Запішыце вершаваныя строфы, устаўляючы прапушчаныя злучнікі і знакі прыпынку. Вызначце разрад злучнікаў паводле саставу і спосабу ўжывання.

I. Прыходзіць асцярожная вясна, —
… пацяплее … павее сцюжай.
Лажыцца ўранні снегу белізна
… ў поўдзень зіхацяць на сонцы лужы.

*С. Грахоўскі.*

II. … хмары збяруцца … вецер падуе
… крыўда сустрэне на сцежках жыцця —
Хто гэтак, … маці, цябе пашкадуе?
Дарослая, ты і цяпер ёй дзіця.

*С. Басуматрава.*

III. … дзіўны, загадкавы лёс
… дзіўны, раз’юшаны вецер
Нашы душы, … пёркі, панёс
Па чужым, незнаёмым нам свеце.
*А. Бадак.*

IV. Над намі словы ўладарацъ
Мы чуем … гаворым іх.
Яны … здружаць … пасвараць
Сяброў … ворагаў маіх.
*С. Грахоўскі.*

Для даведкі: *а, і, ды, як, то — то, ці — ці, ці то — ці то.*

**282.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль. Запішыце, раскрываючы дужкі, пастаўце, дзе трэба, коскі. Абазначце злучнікі авалам, калі яны злучаюць часткі складанага сказа, ці кружком, калі злучаюць аднародныя члены сказа, і вызначце, якія яны паводле саставу і спосабу ўжывання.

Ішлі афрыканскія турысты па адной з васількоўскіх вуліц. У іх было вялікае афіцыйнае суправаджэнне ды і неафіцыйных ахвотнікаў паглядзець на гасцей і на іх адзежу знайшлося *(н..)* мала. Ідзе натоўп па вуліцы турысты паварочваюць галовы то *(на)* права то *(на)* лева, слухаюць тлумачэнні перакладчыка і раптам усе ўтаропваюцца *(на)* перад[сл], уздымаюцца на дыбачкі, пачынаюць нават апярэджваць адзін аднаго каб лепш разгледзець нешта дзіўнае перад сабой. Некаторыя навялі фотаапараты.

Што там такое? *(А. Кулакоўскі).*

● Прачытайце сказ, у якім форма дзеяслова аднаго часу ўжыта ў значэнні іншага.

⊙ Пафантазіруйце, што магло зацікавіць і здзівіць замежных турыстаў. Прадоўжыце тэкст.

***афіцы́йны***
***фотаапара́т***
***суправаджэ́нне***

**283.** Прачытайце і растлумачце сэнс наступных устойлівых спалучэнняў. З трыма фразеалагізмамі складзіце сказы.

Ні рыба ні мяса, ні села ні пала, і нашым і вашым, ні «бэ» ні «мя», ні пуху ні пяра, і ў хвост і ў грыву.

Д л я  д а в е д к і: *неспадзявана, нечакана; пажаданне поспеху, удачы; пра чалавека, які нічым не вылучаецца; пра чалавека, які зусім нічога не разумее, не разбіраецца ў чымсьці; чалавек, які служыць, дагаджае двум розным па поглядах бакам; біць вельмі моцна.*



Калі паўторныя злучнікі ***і — і, ні — ні*** звязваюць два аднародныя члены сказа, якія ўтвараюць устойлівае спалучэнне (фразеалагізм), то паміж імі коска не ставіцца.

**284.** Прачытайце. Вызначце тэму і стыль тэксту.

Пра паходжанне фразеалагізмаў можна даведацца ў «Этымалагічным слоўніку фразеалагізмаў» І. Я. Лепешава.

**Ні кала ні двара.** Усходнеславянскі, са значэннем ‘анічога няма’: *Добра табе, халасцяку, ні кала ні двара, сам сабе галава. А тут — чацвёра ў доме, і малыя!* (В. Быкаў).

Этымалогія фразеалагізма стане зразумелай, калі прыняць пад увагу, што ўстарэлае слова (гістарызм) **кол** абазначала ‘невялікі ўчастак ворнай зямлі, надзел каля хаты (у некаторых мясцінах шырынёй два сажні*)’. **Двор** — гэта ‘гаспадарка’. Такім чынам, першапачатковае значэнне спалучэння было канкрэтным паказчыкам беднасці — ‘ні зямлі, ні гаспадаркі’.

**285.** Прачытайце. Вызначце асноўную думку тэксту. Чым адрозніваецца мова гэтага тэксту ад сучаснай літаратурнай мовы?

Запішыце тэкст.

Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім памёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе; ото ж гаворка, язык, і ёсць адзежа душы *(М. Бурачок)*.

Абазначце злучнікі, вызначце іх разрад паводле саставу і спосабу ўжывання.

## § 40. Злучальныя і падпарадкавальныя злучнікі

**286.** Прачытайце сказы. Што злучаюць злучнікі ў першым, другім і трэцім выпадку?

У якім са сказаў ад адной часткі сказа да другой можна паставіць пытанне (адна частка сказа залежыць ад другой)?

I. Стаяць дубровы ў жнівеньскай красе,
Ляцяць у вырай жураўлі **і** гусі.
Дубовы ліст у жылках **і** ў расе
Мне нагадаў абрысы Беларусі.
*С. Грахоўскі.*

II. Мы хочам,
Мы хочам, паэты,
Пра сіняе неба спяваць, —
**А** неба цікуюць ракеты,
Гатовы яго расстраляць.
*П. Броўка.*

III. Мне заўсёды падказвае сэрца — спыніся,
**Калі** я выходжу на плошчу імя Перамогі,
Дзе ўздымаецца стройна і строга
Велікан абеліск
**І** трапеча на ветры нязгасны агонь.
Колькі, колькі сыходзіцца тут пуцявін чалавечых.
*А. Зарыцкі.*

Па значэнні злучнікі падзяляюцца на злучальныя і падпарадкавальныя.

**Злучальныя** злучнікі звязваюць аднародныя члены сказа або раўнапраўныя па сэнсе часткі складанага сказа, які называецца складаназлучаным. *Мінула восень, **а** за ёю прыйшла з марозамі зіма* (Я. Купала).

**Падпарадкавальныя** злучнікі звязваюць звычайна часткі ў складаным сказе, які называецца складаназалежным. У такім сказе адна частка залежыць ад другой, гэта значыць, ад адной часткі сказа да другой можна паставіць пытанне. *Званы так прыгожа звінелі* (як?), ***што** ўсё жывое замірала, слухаючы іх* (В. Хомчанка).

[ —— ══ ], ***што*** ( —— ══ ).



Перад злучнікамі, якія спалучаюць часткі складанага сказа, ставіцца коска.

**287.** Запішыце сказы, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Граматычныя асновы сказаў падкрэсліце. Над злучальнымі злучнікамі напішыце літару **з**; над падпарадкавальнымі — **п**. Злучнікі, якія звязваюць аднародныя члены сказа, абвядзіце кружком, а злучнікі, якія звязваюць часткі складанага сказа, — авалам.

1. Каб свет не затхнуўся ў куродыме душных пажараў, якіх не бывала люцей, не будзь раўнадушным, не будзь раўнадушным да гора, да болю, да смутку людзей *(А. Вольскі)*. 2. Я хачу каб стварылі неспакойныя людзі век спакойнага сонца, век спакойнай зямлі! *(Э. Агняцвет)*. 3. Заўжды, калі дзень свой новы ў працы сустрэць іду я, аб міры і думы і словы мне сэрца маё дыктуе *(У. Нядзведскі)*. 4. Хай робіцца ўсё па Ньютону але патрабую, мой лёс, зрабіць выключэнне з закону каб бомбам не падаць з нябёс *(П. Прыходзька)*. 5. Маёй дачцэ зусім нямнога год, яна ці спіць, ці пасля сну гуляе і ні трывог і ні турбот не ведае ў жыцці сваім малая *(М. Калачынскі)*.

● Якой агульнай тэмай аб'яднаны выказванні пісьменнікаў? Ці можна гэтыя сказы назваць тэкстам?

**288.** Запішыце тэкст, падзяляючы на сказы і абзацы. Устаўце на месцы пропускаў злучальныя злучнікі ***і, а***, падпарадкавальныя злучнікі ***каб***, ***калі***, ***што***. Запішыце. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку.

Падкрэсліце асновы сказаў; злучнікі, якія злучаюць часткі сказа, абвядзіце авалам, а злучнікі, якія злучаюць аднародныя члены сказа, — кружком.

ВЫПАДАК НА БЕРАЗЕ

Прыбой адступіў ... рыбінка засталася на беразе збянтэжаная такой несправядлівасцю, глытала даўкае паветра, ... потым страпятнулася ... асыпала на пясок серабрыстую луску відно было, ... у яе спалоханых вачах вось-вось[сл] дагарыць летні дзень раптам Юлька ўкленчыла на пясок, працягнула да яе рукі ... асцярожна, ... не садраць

лускі, панесла да вады ... рыбінка згубілася ў азёрным блакіце, Юлька ўсміхнулася — шчыра ... добразычліва *(Я. Пархута)*.

● Пры дапамозе якіх прыназоўнікаў разам з назоўнікам перададзена значэнне месца?

● Якія прыслоўі і з якой мэтай ужыты ў тэксце?

**289.** Прачытайце. Вызначце, што звязвае ў гэтым тэксце падпарадкавальны злучнік ***каб***, якія адносіны выражае.

У беларускага народа ёсць стары звычай: пры пабудове новага дома класці ў яго падмурак хлеб, соль, сярэбраныя манеты. Каб не зводзіліся тут мір, дастатак і шчасце *(М. Танк)*.

**290.** Прачытайце. Якія тыпы тэксту спалучаюцца ва ўрыўку з аповесці «Падстаўка» Уладзіміра Шыціка? Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары і знакі прыпынку.

З С..ргеем Апанасавічам Вежыкам мы пазнаёміліся ўчора. Спачатку ён мне *(не)* паказаўся. Невысокі, таўставаты. Валасы доўгія, аж на карку* закручваюцца. Нос бульбінай, рот вялікі, усмешлівы. На субяседніка капітан Вежык глядзіць мякка і нібы бянтэжыцца. Мне падумалася што яму *(да)* твару больш мальберт з пэндзлем — хай малюе флору і фа*(у/ў)*ну. Вядома, я не чакаў, што ўбачу волата з пранізлівым і жорсткім позіркам. На маім в..ку ў міліцыі такія не надта затрымліваюцца. Аднак і залішняя лагоднасць у аблі*(ч/чч)*ы, падобная на *(не)* рашучасць, таксама сустракаецца не часта. Прафе*(с/сс)*ія наша, як ні круці, сур..ёзная. А Вежык не проста сышчык, ён узначальвае ў *(п/П)*рыдняпроўску раённы крымінальны вышук *(У. Шыцік)*.

Падкрэсліце злучнікі. Вызначце, што яны злучаюць у тэксце і якімі з'яўляюцца па значэнні: злучальнымі ці падпарадкавальнымі.

● Растлумачце правапіс часціцы і прыстаўкі ***не***.

⊙ Вусна дайце характарыстыку герою тэксту. Як усё ж адносіцца аўтар да свайго калегі? Якую дадатковую падтэкставую інфармацыю вы атрымалі?

## § 41. Злучальныя злучнікі

Па значэнні злучальныя злучнікі падзяляюцца на спалучальныя, супраціўныя і размеркавальныя.

**Спалучальныя** злучнікі (***і, ды*** (у значэнні ***і***), ***і — і, ні — ні, як — так і***) спалучаюць і аднародныя члены, і раўнапраўныя па сэнсе часткі складаназлучанага сказа, якія паказваюць, што дзеянні (падзеі, з'явы) адбываюцца адначасова або паслядоўна — адно за адным: 1. *Імкліва **і** спорна плыве руда па канвееры* (А. Кулакоўскі). 2. *Свяціла сонца, **і** ад зямлі падымалася ўгору пара* (М. Лупсякоў).

**Супраціўныя** злучнікі (***а, але, ды*** (у значэнні ***але***), ***аднак, затое, не толькі — а (але і), хоць (хоць і) — але)*** звязваюць аднародныя члены і раўнапраўныя па сэнсе часткі складаназлучанага сказа з супраціўным значэннем: 1. *Зацерусіў дробны, **але** густы асенні дождж* (А. Марціновіч). 2. *Напрасткі варона лятае, **ды** ніколі дома не бывае* (Прыказка). 3. *Лета збірае, **а** зіма паядае* (Прыказка). 4. *Крычалі кнігаўкі, малілі аб вадзе, **хоць** яе досыць было на залітых лугах* (У. Караткевіч).

**Размеркавальныя** злучнікі ***(ці, ці — ці, або — або, альбо — альбо, то — то, ці то — ці то, не то — не то)*** злучаюць аднародныя члены і раўнапраўныя па сэнсе часткі складаназлучанага сказа, якія паказваюць на магчымасць толькі аднаго дзеяння (падзеі, з'явы, прадмета) з двух або некалькіх ці на чаргаванне дзеянняў (падзей, з'яў, прадметаў): 1. ***Ці** плачу я, **ці** пяю, **ці** размаўляю з матуляю — песню сваю, мову сваю я да грудзей прытульваю* (П. Панчанка). 2. ***Ці** жаўрук звінеў у небе, **ці** свістаў на небе шпак* (І. Гурскі).

**291.** Прачытайце. Назавіце характэрныя моўныя сродкі. Вызначце тэму і асноўную думку тэкстаў Пімена Панчанкі.

I.

Гатоў ізноў ісці на мукі,
І замярзаць, і галадаць,
Каб нашым дзецям і ўнукам
Не бомбы ў спадчыну аддаць.

А Радзіму, ды чыстыя ліўні,
Ды зялёнае сонца лесу,
Ды блакітнае сонца мора,
Ды янтарнае сонца жыта.

II. Прырода надзіва[м] праўдзіва —
Ці вые, ці хмельна пяе.
На свет нас яна нарадзіла,
А мы забіваем яе.
То шротам*, то вострай пілою,
То труцім, то палім жыўцом...
Планету мы так прапалолі:
Патомкі заплацяць жыццём.
Альбо выпрамляем машынай
Рачулкі, што любяць пятляць.
І сохне цяністы ляшчыннік,
І мяккія сцежкі пыляць.

Спішыце тэксты. Над спалучальнымі злучнікамі надпішыце **сп**, над супраціўнымі — **с**, над размеркавальнымі — **р**. Што звязваюць гэтыя злучнікі? На якія адносіны паказваюць? Абвядзіце злучнікі адпаведным знакам: ⬭, ◯.

Звярніце ўвагу на пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах.

У якім значэнні ўжыты злучнік ***ды***?



Паміж аднароднымі членамі сказа перад супраціўнымі злучнікамі заўсёды ставіцца коска. Перад спалучальнымі і размеркавальнымі злучнікамі коска ставіцца тады, калі яны паўтараюцца.



Адрознівайце супраціўны злучнік ***затое*** ад спалучэння прыназоўніка ***за*** і займенніка ***тое***, якія пішуцца ў сказе асобна — ***за тое***:

| Злучнік ***затое*** | Займеннік ***тое*** з прыназоўнікам ***за*** |
|---|---|
| *Да лесу было яшчэ далёка, **затое** ехаць туды цікавей* (Я. Маўр). | *Возера наша Чырвоным завуць **за тое**, што многа рыбы ў ім і рыба ўсё больш чырванапёрая* (Паданне). |

Злучнік ***затое*** не з'яўляецца галоўным або даданым членам сказа, да яго немагчыма паставіць пытанне, яго нярэдка можна замяніць блізкім па значэнні злучнікам ***але***.

Указальны займеннік ***тое*** з прыназоўнікам ***за*** з'яўляецца членам сказа, да займенніка ***тое*** можна паставіць пытанне і замяніць адпаведным па сэнсе прыметнікам або назоўнікам.

**292.** Спішыце сказы, раскрываючы дужкі. Займеннік ***тое*** з прыназоўнікам ***за*** падкрэсліце як члены сказа, супраціўны злучнік ***затое*** пазначце авалам. Пастаўце прапушчаныя коскі.

1. Не відаць ужо ні ясеня, ні ліпы *(за)* тое часцей сустракаюцца беластволыя бярозы *(В. Вольскі)*. 2. Максім хваліў Косцю *(за)* тое што ён займаўся спортам *(І. Грамовіч)*. 3. Нейкі час у бабулі Марыі кармілася дзікая рыска, якая ў рукі не давалася *(за)* тое рэгулярна выводзіла на вышках гэткіх самых дзікіх, непрыступных кацянят *(Г. Каржанеўская)*. 4. Няхай берагам ісці ўдвая[м] далей *(за)* тое як хораша ісці басаног па пясчанай палосцы ля самай вады, захапляцца сонечным бляскам, свежым ветрам, сінечай чыстага неба *(А. Савіцкі)*. 5. *(За)* тое кароткае імгненне, пакуль Гані павінны былі даць слова, яна ўспомніла Карпа Мікалаевіча *(І. Грамовіч)*. 6. Дождж пачынаў сціхаць *(за)* тое ўзняўся і гразіўся яшчэ больш памацнець вецер *(У. Караткевіч)*.

**293.** Прачытайце. Назавіце адрасата тэксту.

ГРЫБЫ

Самыя раннія грыбы, што з'яўляюцца ў лесе, як толькі сыдзе снег, — смаржкі і страчкі. Гэта ядомыя грыбы, але трэба ведаць, як іх гатаваць.

Затое ўсе ведаюць цара грыбоў — баравіка. Першыя баравікі на кароткі час абзываюцца рана, калі каласуе жыта. Таму і завуць іх каласавікамі.

Ёсць летнія баравікі. Але найболей баравікі любяць расці цёплай восенню ў сасновых і яловых барах, бярозавых гаях і ў дубровах. Многія грыбы маюць «пашпарты» і прапісаны ў лясах да сваіх любімых мясцін і дрэў. Пад бярозамі — падбярозавікі, пад асінамі — падасінавікі, пад дубамі — паддубовікі, паміж імхоў — махавікі, на старых пнях — апенькі. Большасць спажыўных грыбоў вы ведаеце. Але ці ўсе з вас ведаюць і могуць пазнаць ядавітыя грыбы?

Асцерагайцеся браць незнаёмцаў, бо сярод іх ёсць хоць і прыгожыя, але вельмі ж хітрыя — прыкідваюцца праўдзівымі, каб ашукаць нас і ўлезці ў наш кошык *(І. Скурко)*.

Назавіце злучальныя і падпарадкавальныя злучнікі з тэксту; вызначце, да якіх груп адносяцца злучальныя злучнікі, што яны злучаюць.

● Выпішыце з тэксту аднакаранёвыя словы, вызначце спосаб утварэння вытворных слоў.

Складзіце і запішыце па два сказы па тэме тэксту, у якіх былі б словы ***затое*** і ***за тое***.

**294.** Прачытайце. Для каго напісаны гэты тэкст? Вызначце яго тып і стыль. Выпішыце сказ, у якім выказана асноўная думка тэксту.

Здавалася б, якую эмацыянальную нагрузку можа ўзяць на сябе такая часціна мовы, як злучнік. Граматыка адводзіць яму службовую ролю ў сказе. Яго нельга мяняць пры дапамозе суфіксаў і прыставак. Ён не скланяецца, не мае катэгорыі ліку. У мастацкім творы нават злучнік можа служыць сродкам выяўлення эмоцый героя і аўтара.

Алесь Руневіч у фашысцкім палоне ўспамінае сваё маленства (Я. Брыль. «Птушкі і гнёзды»). Гэтыя ўспаміны як промень святла, які саграе душу і свеціць надзеяй на лепшае. У памяці героя ўсплывае малюнак гасцявання ў яго сям'і маленькай пляменніцы. Кожная сустрэча з ёй была, як свята. Хлапчук гатовы быў аддаць ёй усе свае цацкі, усе свае скарбы: «І тыя шышачкі-таўкачыкі, што бацька прывёз яму з лесу, і тыя, што ён сёння прывязе; і

калодзеж з паленцаў, якіх яму таксама тата настругаў, і чатыры шпулькі; і кніжку з цацкамі, і ката...»

Паспрабуйце прачытаць фразу, апусціўшы гэтае «і». Як многа яна страціць! Не толькі будзе іншы рытм. Знікне захоплена-радаснае адчуванне героя. Па-іншаму будзе ўяўляцца і стаўленне аўтара да свайго персанажа. Пералік усяго таго, што хлапчук гатовы, як яно яму ні дорага, аддаць госці, ператворыцца ў рэестр, канцылярскі вопіс рэчаў *(Р. Шкраба)*.

● Назавіце сінонімы да слоў *эмоцыі, рэестр, персанаж.* Вусна перакажыце тэкст.

**295.** Прачытайце. Якія думкі і пачуцці выказвае аўтар у гэтых радках? Што злучае злучнік ***і*** ў гэтых тэкстах? Якую сэнсава-стылістычную ролю ён выконвае?

I.

Беларусь старажытная!
Полацк, і Віцебск, і Тураў,
І Заслаўе, і Мінск,
І Гародня, і Крычаў, і Пінск.
Церпялівая ты,
І з тваёй працавітай натурай
Нажыла ты павагу
І горы пагардлівых кпін.

*П. Панчанка.*

II.

О, рэкі Беларусі
Сярод лугоў, сярод лясоў!
Калі я гімн саткаць збяруся
З блакітных вашых паясоў?
Як мне салодка з вас пілося!
Як сняцца,
                    што ні гавары,
І вашы завадзі, і плёсы,
І лукавіны,
                    і віры,
І ластаўкі на вашых кручах,
І цень ад вербаў
                            і бяроз.

Ля берагоў —
аер пахучы,
Чарот
і талака стракоз.
*Г. Бураўкін.*

⊙ Складзіце і запішыце сказы (або невялікі тэкст), у якіх злучнікі паўтараюцца некалькі разоў з мэтай узмацнення выразнасці выказвання.

⊙ **296.** Прачытайце. Пры дапамозе спалучальнага злучніка ***і*** або супраціўнага злучніка ***а*** аб'яднайце першую частку складаных сказаў (пад лічбай I) з другой (пад лічбай II), каб атрымаліся вершаваныя строфы, што напісаў Янка Журба. Запішыце складаныя сказы, падкрэсліце іх граматычныя асновы.

I. 1. Ад цяжкага сну ачуняла зямля ... .
2. Загарэўся агнём край усходні нябёс ... .
3. Прашумеў вецярок па кустах лазняка ... .
4. Навокал[м] нас зеляніна і прастор палёў ... .
5. Каля нас пяшчотна, ціха шэпчуць каласы ... .
6. Ужо вечар прыйшоў з цішынёю сваёй ... .
7. Вунь дыміцца рака, сціхлі скрозь галасы ... .
8. Я рос сярод красы прыроды, душу сваю з прыродай зліў ... .

II. ... як многа мілых кветак — сініх васількоў.
... заснуў ціхім сном лес вячэрняй парой.
... у шчасны час і ў час нягоды яе заўсёды я любіў.
... ляцяць на зямлю іскры сонечных кос.
... свежым паветрам дыхнула ралля.
... над жытам льюцца срэбрам птушак галасы.
... упалі ў траву дыяменты* расы.
... іскрыцца-гарыць залатая рака.

## § 42. Падпарадкавальныя злучнікі

Па значэнні падпарадкавальныя злучнікі падзяляюцца на:

**часавыя: *калі, як, пакуль, ледзь, чуць, толькі, як толькі*** і інш.;

**прычынныя: *бо, што, таму што, з прычыны таго што*** і інш.;

**мэтавыя: *каб, для таго каб, з тым каб*** і інш.;

**умоўныя: *калі (б), каб, як, раз*** і інш.;

**уступальныя: *хоць, хоць бы, хай, няхай, нягледзячы на тое што*;**

**параўнальныя: *як, нібы, бы, быццам, што*** і інш.;

**тлумачальныя: *што, як, каб*** і інш.

Часавыя, прычынныя, мэтавыя і ўмоўныя злучнікі звязваюць такія часткі складанага сказа, якія паказваюць на час, прычыну, мэту і ўмову таго, пра што гаворыцца ў галоўнай частцы: 1. *Я хачу зберагчы цябе, матчына песня,* (з якой мэтай?) ***каб** запоўніць табою спусцелыя душы!* (Н. Гілевіч). 2. *Не страшна мне,* (чаму?) ***бо** я кахаю, не скрушна мне, **бо** я люблю* (Н. Гілевіч). 3. (Калі?) ***Калі** ўсе сабраліся і пазаймалі месцы, прыйшоў настаўнік* (Я. Колас). 4. *Якой бы музыкай гучала наша слова,* (пры якой умове?) ***калі б** умелі слова шанаваць* (Я. Непачаловіч).

Уступальныя злучнікі звязваюць такія часткі складаназалежнага сказа, у якіх паказваюцца пэўныя ўступкі, пры якіх адбываецца ці характарызуецца дзеянне ў галоўнай частцы: 1. — *Я ім адпомшчу за цэ! Яны мэнэ шчэ вспомняць... — Пятро гаварыў на зразумелай мове, **хоць** беларускіх слоў у яго гаворцы траплялася не дужа багата* (М. Ваданосаў). 2. ***Нягледзячы на тое што** вада сцюдзёная, аж зубы заходзяцца, Андрэйка прагна п'е, не адрываючыся* (А. Якімовіч).

Параўнальныя злучнікі звязваюць такія часткі складаназалежнага сказа, якія шляхам параўнання характарызуюць тое, пра што паведамляецца ў галоўнай частцы: 1. *Уласна, рэчкі ўжо няма — мінулае сканала: **нібы** напятая струна, прасцерлася канава* (Н. Гілевіч). 2. *То*

*мароз, то адліга, ні хмурынкі няма,* ***быццам*** *белую кнігу разгарнула зіма* (С. Грахоўскі).

Тлумачальныя злучнікі звязваюць такія часткі складаназалежнага сказа, дзе тлумачыцца, раскрываецца сэнс якога-небудзь члена галоўнай часткі: *Мне ўсё яшчэ даведацца не позна*, (а б ч ы м?) ***што*** *дзень для ночы — як сястра і брат* (В. Аколава).

**297.** Запішыце вершаваныя строфы з падпарадкавальнымі злучнікамі: а) часавымі; б) мэтавымі; в) параўнальнымі; г) тлумачальнымі; д) умоўнымі.

I.

Ад ранку да вечара
Сонца глядзела,
Каб жыта
Бурштынавым зернем
Паўнела.

*П. Макаль.*

II.

Як у лесе зацвіталі
Ліпы ды каліна, —
Залатыя сны снавалі
Мы з табой, дзяўчына.

*Я. Купала.*

III.

Шлю вам песняй, братнім словам
Здароўканне, людзі:
Не гасіце веры, што вам
Жыцца лепей будзе.

*Я. Купала.*

IV.

Зазвіні ты, як звон, і ўдар, як пярун,
Песня наша, як воля, магучая.

*Я. Купала.*

V.

Калі пачнуць збірацца хмары
І неба ўсцелюць чарнатой, —
Тады ўсплываюць буйны ветры
І віхрам гоняць над зямлёй.

*Я. Купала.*

VI. Я хачу прайсці па зямлі
Самым верным, любімым сынам.
Каб дарогі мяне вялі
Пад вятрамі прасторам сінім,
Каб нямоўчна ў мяне на плячах
Росным раннем спявалі птушкі,
Каб я кветкамі ўсімі прапах
Ад падэшваў да самай макушкі...

*Г. Бураўкін.*

● Падкрэсліце звароткі, што сустракаюцца ў тэкстах. Складзіце схему аднаго са складаных сказаў.

**298.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Сфармулюйце і запішыце пытанні па змесце тэксту (гл. уклейку).

САФІЯ — ГЭТА МУДРАСЦЬ

З даўніх часоў і пакуль уладарыў Брачыслаў Ізяслававіч, полацкі дзядзінец* і навакольныя рамесніцкія паселішчы мясціліся на берагах рэчкі Палаты. Абарончыя сцены з тоўстага дубовага бярвення ўраслі ў зямлю, на вузкіх і крывых вулках цяжка размінуцца... Даўно сталіцы магутнага княства было цесна ў колішніх межах. Заняўшы бацькоўскі пасад, Усяслаў Брачыслававіч вырашыў перанесці Полацк у новае месца — на высокі пагорак каля прыгажуні Дзвіны. Якраз там палачане ладзілі свята, калі рака зрывала ледзяныя аковы. Баяры і дружыннікі ўхвалілі князеву задуму. Ён жа распачаў будоўлю не з харомаў і церамоў, бо прысніў уночы сон. Тройчы паказвалася яму ў чорным воблаку асветленая маланкамі дзева-ваярка, якая мела пры сабе Святы крыж. Потым усё перамянілася, замест хмары ўзнік храм. Дзева зайшла туды і зачынілася. І быў голас вельмі страшны: «Гэта Сафея, або Прамудрасць».

Назаўтра раніцай Усяслаў Брачыслававіч склікаў баяр і дружыннікаў і сказаў ім: «Ёсць Сафійскі сабор у грэчаскай сталіцы Царгорадзе. Нядаўна каменныя бажніцы*

з'явіліся ў Кіеве і Ноўгарадзе. І на нашай зямлі паўстане Сафійскі сабор, бо Полацк — роўны Царгораду, і Кіеву, і Ноўгараду!»

Тут трэба патлумачыць, што грэчаскае слова «сафія» ў перакладзе на нашу мову азначае «мудрасць», а ў велічным храме-саборы разам з малітвай да Бога яднаюцца сэрцы і душы людзей. Якраз пра мудрасць і людскую супольнасць дбаў найперш полацкі князь, калі задумаў пабудаваць на беразе Дзвіны Сафійскі сабор.

Мінаў 1050 год ад нараджэння Хрыстова *(У. Ягоўдзік)*.

Выпішыце з тэксту складаназалежныя сказы з падпарадкавальнымі злучнікамі. Пастаўце пытанні ад галоўнай да залежнай часткі і вызначце, якія адносіны паміж часткамі перадаюцца пры дапамозе злучнікаў.

**299.** Запішыце тэкст. Абазначце злучнікі, вызначце іх разрад і групу па значэнні.

ХТО ЯКІМІ МОВАМІ ВАЛОДАЎ?

Сустрэліся ў Мінску чатыры пісьменнікі розных нацыянальнасцей: паэт, празаік, драматург і перакладчык. Хоць кожны з пісьменнікаў і валодаў дзвюма мовамі з чатырох (беларускай, англійскай, французскай і італьянскай), не было такой мовы, на якой яны маглі б размаўляць **учатырох.** Праўда, была адна мова, на якой маглі размаўляць **утрох.** Прычым ніхто з пісьменнікаў не валодаў французскай і беларускай мовамі адначасова. Хоць перакладчык не ўмеў гаварыць **па-англійску,** ён мог перакладаць, калі б захацелі пагаварыць між сабой паэт і празаік. Празаік гаварыў **па-беларуску** і мог пагаварыць з драматургам, хоць той і не валодаў беларускай мовай. Перакладчык, паэт і драматург не маглі размаўляць **утрох** на адной мове.

Якімі дзвюма мовамі валодаў кожны з пісьменнікаў? *(«Бярозка»)*.

- Растлумачце правапіс выдзеленых слоў.
- Паспрабуйце даць адказ на пытанне.

**300.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэксту. Назавіце асноўныя рысы гэтага стылю. Дайце тэксту загаловак.

Спішыце, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. У складаназалежных сказах ад адной часткі да другой пастаўце пытанні.

Колькі радасці ад птушак калі яны вясной вяртаюцца з выраю! Каля хаты ў полі ў лесе чуцен іх ласкавы спеў і гоман. Ён не змаўкае ўсю вясну.

Я заўсёды любіў і люблю слухаць ластавак жаўрукоў берасцянак...

Для шпакоў я падрыхтаваў з дошчачак домікі. Яны вісяць на бярозе і на грушы. Адтуль шпакі, як прыляцяць, абвяшчаюць цяпло.

Жаваранкі — раннія гаспадары сіняга неба.

А берасцянкі — яны звіняць і ў садку і ў лесе. Зойдзеш у лес і пад ціхі шум сосен і бярозак чуеш як берасцянка галасіста заліваецца, спявае. Паўтараецца яна але слухаў бы яе бясконца... *(І. Грамовіч).*

Надпішыце над злучнікамі, да якой групы па значэнні яны адносяцца.

Назавіце сродкі сувязі сказаў у тэксце.

⊙ Прывядзіце прыклад ужывання формы аднаго часу дзеяслова ў значэнні іншага. З якой мэтай гэта зроблена? Чаму?

⊙ **301.** Прачытайце і падумайце, на якую тэму і ў якім стылі можна напісаць тэкст з гэтымі словамі. Складзіце сказы, выкарыстаўшы прапанаваныя фрагменты, каб атрымаўся невялікі тэкст.

1. Ледзь прыгрэла ... . 2. ... быццам звонкая музыка ... . 3. Калі сышоў апошні снег ... . 4. ... і ўся зямля заспявала ... . 5. ... нібы прыгожы дыван ... . 6. ... што прыйшла самая прыгожая ... .

**302.** Прачытайце. Вызначце адрасата, тэму, мэту і стыль выказвання. Якую думку сцвярджае аўтар? Ці згодны вы з ёй?

Злучнік **бо.** Звычайна мы абыходзімся трошкі ўжо прыказёненай і прыземленай формай **таму што**. Не зайшоў, таму што не было часу; спяваем і танцуем, таму што ма-

ладыя; лёг спаць, таму што натаміўся. А жывая мова перадае гэта іначай: не зайшоў, **бо** не было часу; спяваем і танцуем, **бо** маладыя; лёг спаць, **бо** натаміўся *(Я. Скрыган)*.

● Як вы думаеце, у якіх стылях маўлення прычынныя злучнікі ***таму што, з прычыны таго што*** будуць на сваім месцы? Складзіце сказы з гэтымі словамі на адпаведную тэму.



Паводле стылістычнай афарбоўкі злучнікі бываюць нейтральныя ***(і, а, хоць, пакуль)***, кніжныя ***(з прычыны таго што)***, размоўныя ***(ды, дарма што)*** (Л. Бурак).

## Марфалагічны разбор злучніка

Парадак разбору

1. Часціна мовы.

2. Марфалагічныя прыметы: нязменнае слова; разрад паводле значэння: злучальны (спалучальны, супраціўны, размеркавальны) ці падпарадкавальны (часавы, прычынны, мэтавы, умоўны, уступальны, параўнальны, тлумачальны); разрад паводле саставу: просты ці састаўны; разрад паводле спосабу ўжывання: адзіночны, паўторны ці парны.

3. Сінтаксічная роля: якія сінтаксічныя адзінкі звязвае (аднародныя члены, часткі складанага сказа, сказы, часткі тэксту).

Узор разбору

*Жыццё вымерваецца не гадамі, а тымі справамі, якія зрабіў чалавек* (А. Асіпенка).

### Вусны разбор

*А* — злучнік; нязменнае слова; злучальны (супраціўны); просты, адзіночны; звязвае аднародныя дапаўненні *гадамі, справамі*.

### Пісьмовы разбор

*А* — злучнік; нязм., зл. (супрац.); прост., адз.; звязвае аднародныя дапаўненні *гадамі, справамі*.

**303.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту, назавіце асноўныя стылёвыя рысы і моўныя асаблівасці. На якія структурныя часткі падзяляецца тэкст?

Нашы далёкія родзічы ведалі тое, што цяпер паспяхова даказвае навука. Духоўная энергія папярэдніх пакаленняў не знікае — яна жывіць род і ўвесь народ, дазваляе яму выстаяць у самыя цяжкія часіны. Але дабратворны ўплыў гэтай энергіі адчувае не кожны, а толькі той, хто захаваў з продкамі «канал сувязі» — памяць пра іх і іхнія дзеі.

У крывічоў існаваў няпісаны закон: калі юнак не ведаў сваіх продкаў да пятага калена, ён не меў права звацца мужчынам.

Такому чалавеку не давяралі, яго маглі наогул выгнаць з паселішча, бо лічылася, што бяспамятны[сл] лёгка робіцца здраднікам.

Ці шмат хто з нас, сённяшніх, распавядзе пра свой род няхай не да пятага, а хоць бы да трэцяга пакалення?

Дык мо паспрабуйма[м] адрадзіць гэты звычай у нашых сем’ях? Кім былі нашы дзяды, прадзеды? Якая памяць засталася ад іх?

Беражыце старыя дакументы. Занатуйце ацалелыя імёны, даты, усе звесткі пра свой род. Некалі з хваляваннем і гонарам гэтыя запісы будуць працягваць вашы дзеці і ўнукі.

Сёння радавод шмат у каго атрымаецца вельмі кароткім, але паверце, усё адно[м] адбудзецца дзіва: дзяды пачнуць дапамагаць вам *(З часопіса «Бярозка»)*.

Выпішыце з тэксту злучнікі і пазначце, што яны спалучаюць.
Выканайце поўны марфалагічны разбор трох злучнікаў з тэксту.
⊙ Напішыце сачыненне пра ваш род, пра яго звычаі і традыцыі.

**Вымаўляй правільна:** **[н′а] ве́даў, [н′а] меў.**

**Пішы:** ***не ведаў, не меў.***

## ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА

### Кантрольныя пытанні і заданні

1. Дайце азначэнні прыназоўніка і злучніка.

2. Чым падобныя і чым адрозніваюцца паміж сабой прыназоўнікі і злучнікі па сінтаксічнай ролі?

3. На якія групы падзяляюцца прыназоўнікі і злучнікі па будове і значэнні?

4. Якія сэнсавыя адносіны выражаюцца пры дапамозе прыназоўнікаў?

5. Чым адрозніваюцца паміж сабой злучальныя і падпарадкавальныя злучнікі? Якія групы выдзяляюцца ў складзе злучальных і падпарадкавальных злучнікаў?

6. Якія злучнікі служаць для сувязі і аднародных членаў, і частак складанага сказа, а якія — толькі для сувязі частак складанага сказа?

Для падрыхтоўкі адказаў на пытанні выкарыстоўвайце свае веды, вучэбны дапаможнік, прыклады з папярэдніх і наступнага тэкстаў, апорную табліцу.

| **ЗЛУЧНІК — СЛУЖБОВАЯ ЧАСЦІНА МОВЫ** | |
|---|---|
| Служыць для сувязі:<br>● аднародных членаў сказа;<br>● частак складанага сказа;<br>● сказаў;<br>● частак тэксту | |
| **Разрады паводле саставу** | |
| простыя: | ***і, а, але, ды, бо, ці, каб, пакуль***; |
| састаўныя: | ***таму што, так як, пасля таго як, як — так, хоць — але*** |
| **Разрады паводле спосабу ўжывання** | |
| адзіночныя: | ***а, але, ды, бо***; |
| паўторныя: | ***і — і, ні — ні, ці — ці, ці то — ці то***; |
| парныя: | ***не толькі — але, калі — то, хоць — але, толькі — як*** |

| **Разрады паводле значэння** | |
|---|---|
| з л у ч а л ь н ы я: | |
| ● спалучальныя: | ***і, ды (=і), і — і, ні — ні, як — так і***; |
| ● супрацiўныя: | ***а, але, ды (=але), затое, аднак***; |
| ● размеркавальныя: | ***ці, ці — ці, або — або, то — то*** |
| п а д п а р а д к а в а л ь н ы я: | |
| ● часавыя: | ***калі, як, пакуль, ледзь, чуць, толькі, як толькі***; |
| ● прычынныя: | ***бо, што, таму што, паколькі***; |
| ● мэтавыя: | ***каб, для таго каб, з тым каб, абы***; |
| ● умоўныя: | ***калі б, каб, як, абы, раз, як бы***; |
| ● уступальныя: | ***хоць (бы), хай, няхай, нягледзячы на тое што***; |
| ● параўнальныя: | ***як, чым, што, то, дык***; |
| ● тлумачальныя: | ***што, як, каб*** |
| **Знакі прыпынку** | |
| ○, ***а*** ○ | ***(але, ды (=але), аднак, затое)*** |
| ○ ***і*** ○ | ***(ці, ды (=і))*** |
| ***і*** ○, ***і*** ○ | ***(ні — ні, ці — ці, то — то, або — або, ці то — ці то)*** |
| [ ], ***і*** [ ]. | **(*а, але, ці, аднак*** і інш.**)** |
| ***хоць*** [ ], ***але*** [ ]. | ***(як — так)*** |
| [ ], ***бо*** ( ). | **(*калі, як, пакуль, што*** і інш.**)** |

**304.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Дайце тэксту загаловак.

Слова любіць, каб над ім падумалі, тады ў яго будзе больш упэўненасці.

Слова любіць, каб яго шанавалі.

Слова любіць, каб з ім раіліся, тады яно будзе служыць мове праўдзіва.

Калі я сумняваюся ў праўдзе нейкай фразы, я гавару яе ўчуткі. Або ўяўляю другога чалавека, найлепш даўняга

суседа ці знаёмага, труханаўца, або нават тату ці маму, і прыслухоўваюся, як снуецца тая фраза ў іх вуснах. Калі хоць трошкі ў чым фраза фальшывіць, я прымушаю маіх уяўных памагатых вар'іраваць* яе да таго часу, пакуль не пачую, што праўда гучання знойдзена *(Я. Скрыган)*.

Якія злучнікі ўжыты ў тэксце? Дайце ім поўную характарыстыку.

З якімі словамі ўжыты прыназоўнікі? Якія значэнні яны выражаюць?

**вар'і́раваць**
**учу́ткі**

**305.** Падрыхтуйцеся да дыктанта па словах, змешчаных у рамках.

**306.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэксту. Назавіце яго асноўныя рысы і моўныя асаблівасці. Дайце тэксту загаловак.

Спішыце, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку.

Паволі але з кожным днём усё смялей і ўладней наступала вясна. Снег проста ўвачавідкі асядаў змрачнеў і адсоўваўся як мага далей ад платоў і прызбаў. Удзень капала са стрэх паветра вільгатнела святлела прасторнела ў небе. Ні з таго ні з сяго сярод белага дня галасіста спявалі пеўні і на пачарнелых сметніках жвава капашыліся вераб'і. Зіма, праўда, не хацела здавацца храбрылася. На ноч уедліва браўся яршысты марозік сушыў сцягваў тонкім празрыстым лядком лужы а ранкам церусіў дробны, як манка, сняжок. Але саўладаць з цяплом ужо не магла старая, і ледзь паказвалася сонца, ад злосці і бяссілля плакала шчодрымі снежнымі капяжамі. А потым неяк у адзін дзень снег набрак вадою і шухнуў у раўчукі.

Нас распусцілі на вясновыя канікулы *(Б. Сачанка)*.

Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа.

Абазначце злучнікі, зрабіце поўны марфалагічны разбор аднаго з іх.

● Падкрэсліце фразеалагізмы як члены сказа.

**307.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэксту. Перакладзіце тэкст на беларускую мову.

Стилистическая окраска предлогов и союзов во многом зависит от истории их происхождения. Так, первообразные предлоги ***в, на, к, о*** и союзы ***а, и, или, но***, как правило, в стилистическом отношении нейтральны и используются в любом функциональном стиле. Отыменные, отглагольные и некоторые наречные предлоги ***(относительно, согласно, сообразно, соответственно, касательно)*** характерны для научной, официально-деловой и публицистической речи.

К числу предлогов, получивших в последние годы широкое распространение в книжных стилях, относятся: ***в деле, по линии, за счёт, в части, в пользу, в области, в смысле, со стороны, в сопровождении*** и др.

Разнообразие союзных форм отражается в многообразии их стилистических значений: ***но, или, что*** — нейтральные; ***благодаря тому что, в связи с тем что, в силу того что*** — книжные; ***покамест, добро бы, раз*** — разговорные; ***покуда, ежели*** — просторечные *(«Стилистика русского языка»)*.

**Слоўнік:**

*первообразный* — ***першаўзорны, прататыпны, невытворны;***
*сообразно* — ***адпаведна*** (ч а м у?), ***згодна*** (з ч ы м?);
*согласно* — ***адпаведна, у адпаведнасці, згодна*** (з ч ы м?), ***паводле;***
*касательно* — ***што да.***

**308.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэксту. Вызначце яго асноўную думку (зачытайце адпаведны сказ). Перакажыце тэкст.

ХОЧАЦЦА АБАРАНІЦЬ

Прыслухаемся... да прыназоўнікаў і злучнікаў, і так хочацца іх абараніць. Сапраўды, чаму ў апошні час у сінанімічных парах злучнікаў ***і (й) — ды, або — альбо***; прыназоўнікаў ***аб — пра, для — дзеля, паміж — між*** некаторыя навукоўцы, выкладчыкі, выданні, радыё, тэлебачанне аддаюць перавагу другому варыянту? І робіцца гэта даволі настойліва, з мэтай усталявання толькі іх.

Звернемся ж да слоўнікаў, дапаможнікаў, а яшчэ лепш — да літаратурных твораў. Там яны цудоўна існуюць побач. Вось прыклады:

Мне сняцца сны аб Беларусі.
*Я. Купала.*

Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі.
*Я. Купала.*

Паміж Польшчай і Расіяй,
Між Літвой і Украінай
Полька беларуская.
*Л. Дранько-Майсюк.*

Дрыжаць у золаце асіны,
І гнуцца кісці арабіны.
*Я. Колас.*

Пад вяслом і шастом ласкава
Плёхала ды булькала вада.
*Я. Брыль.*

Згадзіцеся, кожны са злучнікаў і прыназоўнікаў ззяе толькі на сваім месцы.

А вось чытаем у «Нашым слове»: «радыйныя ды тэлевізійныя журналісты»... Надумана. Цяжка перш за ўсё для вымаўлення, так і просіцца ***і***. Бо тут злучнік ***ды*** ўжываецца ў спалучальным значэнні (адпавядае ***і***).

Улічваючы, што сфера прымянення злучніка ***ды,*** асабліва ў супраціўным і далучальным значэннях, шырокая, уяўляецца неабходным (ці мэтазгодным) якраз і даць яму прастору ў гэтых значэннях і не «дыдыкацца» без патрэбы *(В. Бразоўская).*

# ЧАСЦІЦА

## § 43. Часціца як службовая часціна мовы



**309.** Прачытайце пары сказаў у левай і правай калонках. Што ў іх агульнага і чым яны адрозніваюцца?

| | |
|---|---|
| Прыйшла вясна. | Няўжо прыйшла вясна? |
| Кожны чалавек радуецца сонцу. | Амаль кожны чалавек радуецца сонцу. |
| Вясна — цудоўная пара. | Што за цудоўная пара вясна! |

Якія дадатковыя сэнсавыя адценні надаюць словам ці сказам уведзеныя ў правай калонцы словы?

Параўнайце сказы ў левай і правай калонках па мэце выказвання і інтанацыі. Разбярыце іх па членах сказа. Ці ўсе словы з'яўляюцца самастойнымі часцінамі мовы?



У сказах *Людзі патрэбны, дзясятак адважных людзей* і *Людзі патрэбны, хоць бы дзясятак адважных людзей* гаворыцца пра адно і тое, але ў другім сказе з дапамогай слоў ***хоць бы*** перадаецца дадатковае значэнне — абмежаванне, пажаданне. ***Хоць бы*** — часціца.

Некаторыя часціцы служаць для ўтварэння формаў слоў — ладоў дзеяслова: 1. ***Няхай*** *наша дружба цвіце!* (Я. Колас). 2. *І гультай* ***бы*** *касіў, каб хто касу насіў* (Прыказка).



**Часціца** — службовая часціна мовы, якая выражае розныя дадатковыя адценні значэння ў сказе (***вось, вунь, аж, нават, ці, няўжо, хіба, не, ні, вось дык, што за, хоць*** і г. д.) або служыць для ўтварэння формаў слоў — ладоў дзеяслова ***(бы (б), хай, няхай, давай, давайце)***.

Чым адрозніваюцца часціцы як службовыя словы ад прыназоўнікаў і злучнікаў?

● Якія лады мае дзеяслоў? Прывядзіце прыклады.

**310.** Прачытайце выразна, перадаючы з дапамогай інтанацыі неабходныя пачуцці. Дакажыце, што выдзеленыя словы — часціцы. Растлумачце іх ролю ў паэтычным тэксце.

Пазіраў Сымон на хмары.
**Што ж** яны там выраблялі!
**Як** клубіліся яны!
**Як** маланкі іх аралі!
**Як** траслі іх перуны!
А па хмарах на маланках
Громы кідае Ілья,
**Аж** калоціцца зямля.
Цёмна стала на палянках.
— Дзедка, бачыш, **унь** сядзіба,
Па-над лесам хутарок!
— **Дык** хутчэй, хутчэй, сынок!
*Я. Колас.*

**311.** Прачытайце сказы, захоўваючы правільную інтанацыю. Знайдзіце ў іх словы, якія не называюць пэўныя з'явы, падзеі, дзеянні ці прыметы, а толькі перадаюць розныя адценні значэння або служаць для ўтварэння ладоў дзеяслова.

Запішыце сказы, устаўце прапушчаныя літары. Часціцы падкрэсліце.

У з о р   р а з в а ж а н н я. У сказе *Вось дык сустрэча!* словы *вось дык* уносяць дадатковае адценне здзіўлення, захаплення. Да іх нельга паставіць пытанне ад іншых слоў у сказе, яны не з'яўляюцца членамі сказа. Значыць, ***вось дык*** — часціца.

1. Цудоўны адвячорак у далін.. Арарата. Што за цудоўная зямля! Як лё..ка ідзецца па яе суровай камяністасці... *(Я. Брыль).* 2. Не шкадуй[м] ні сіл, ні часу, папрацуй, юнача, удала *(П. Панчанка).* 3. Хоць бы мне па жменьц.. сонца, я б сыпануў туды, дзе цёмна *(П. Броўка).* 4. Пра Мінск, пра Беларусь людзі ведаюць нават за самымі далёкімі марамі *(М. Гамолка).* 5. Які[ф] прастор для думкі чалавечай, які размах для працавітых рук! *(А. Звонак).* 6. Колькі радасц.. чулася ў кожным разбуджаным гуку! *(Н. Гілевіч).* 7. Якраз быў красавік, канец зімы, пачыналася прадвесне*... *(В. Быкаў).*

**312.** Прачытайце. Якія з выдзеленых часціц дапамагаюць сэнсава вылучыць тое ці іншае слова (удакладніць або абмежаваць яго значэнне, указаць на нешта), выказаць розныя пачуцці (радасць, захапленне, здзіўленне), а якія служаць для ўтварэння ладоў дзеяслова?

Быў **якраз** пачатак мая.
**Ну й** была тады в..сна!
**Ось** такая, што бывае,
Можа, у сотні лет адна.
Выйдз..ш з хаты на дасвецці*,
Так і піў **бы** дух зямл..,
І раслі **б,** здаецца, дзеці,
Каб іх кінуць на ралл.. .
А дз..нёчак **як** настане,
Тая ранічка вясны!

*Я. Колас.*

Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце выказнікі, якія выражаны формамі ўмоўнага ладу дзеяслова.

**313.** Прачытайце выразна, перадаючы з дапамогай інтанацыі неабходныя пачуцці. Ахарактарызуйце тыя адценні значэнняў, якія надаюць выказванням выдзеленыя часціцы.

ПЫХ

Жылі-былі дзядулька, бабулька ды ўнучка Алёнка. І быў у іх агарод. А ў агародзе тым капуста, бурачкі, моркаўка, **нават** рэпка жоўтая расла.

Захацелася дзеду рэпкі, **вось** і пайшоў ён у агарод. **Толькі** нахіліўся дзед рэпку выцягнуць, а пад кустом хтосьці: «Пп-ы-хх! Пп-ы-хх! **Ці не** дзедка гэта? **Ды ці не** па рэпку ён?»

Спужаўся дзед ды **як** пабяжыць з агарода.

Пайшла потым бабка ў агарод. **І** яе напалохаў нехта.

Пайшла потым Алёнка. **Толькі** нахілілася яна рэпку цягнуць, а пад кустом хтосьці: «Пп-ы-хх! Пп-ы-хх! **Ды ці не** Алёнка гэта? **Ды ці не** па рэпку прыйшла?»

Засмяялася Алёнка ды **як** закрычыць звонкім галаскам:

— **Так, так! Гэта** я, Алёнка!

Нахілілася Алёнка над градкай, **аж** там вожык. Засмяялася яна ды кажа:

— **Дык гэта** ты дзядульку ды бабульку напужаў, **гэта** ты іх ад рэпкі прагнаў?

Выцягнула Алёнка рэпку, ды **якую!** Узяла вожыка ў фартушок і пабегла дадому.

Сустракае Алёнку дзедка, сустракае Алёнку бабка — пытаюцца:

— **Ці** рэпку прынесла?

— **Вось** вам, дзядулька, бабулька, **і** рэпка.

Усцешылася бабка, усцешыўся дзедка. **Ну і** малайчына Алёнка, **ну і** смелая ўнучка! *(Беларуская народная казка).*

Прачытайце тэкст яшчэ раз, апусціўшы часціцы. Ці змяніўся агульны змест тэксту? Што ў ім змянілася? Зрабіце вывад пра ролю часціц у маўленні.

**314.** Прачытайце і абгрунтуйце вывад пра ўжыванне часціц у маўленні.

Шырокае ўжыванне часціц — неад'емная прымета гутарковага стылю, а разам з гэтым і мовы мастацкай літаратуры, публіцыстыкі *(П. Шуба).*

**315.** Дакажыце, што мова — галоўнае багацце любой культуры, паказчык ступені яе развіцця. Выкарыстайце ў якасці тэзіса выказванне Алеся Разанава: *Кожны народ стварыў хоць бы адзін геніяльны твор, і твор гэты — мова.*

**316.** Спішыце тэкст, устаўляючы замест кропак неабходныя часціцы. Абгрунтуйце мэтазгоднасць іх ужывання.

Будзь благаславёнай, Літва!

— ... напісаў ужо? — спытаўся ў мяне пры сустрэчы сябар-літовец, калісьці мужны партызан, цяпер выдатны лінгвіст і рыбак з паэтычнай душой.

— ..., але сёння трэба напісаць для літоўскай газеты. Словы прызнання, ці як тут сказаць.

— Я напісаў ..., браце, так. Колькі чаго перажыта разам за столькі стагоддзяў! Цяжкага, страшнага, светлага перажыта. А вось ... няма ў нашай народнай творчасці — ... у беларускай, ... у літоўскай — ... у песнях, ... у казках, ... у прыказках ... славечка злоснай кплівасці адзін з аднаго, ... якой-небудзь нянавісці, варажнечы. Здорава?

А што ты думаў — ... здорава.

Будзь ... благаслаўлёнай, Літва! *(Я. Брыль).*

Д л я  д а в е д к і: *не, жа, і — і, ні — ні, ані — ані — ані, ці, бы, і.*

## § 44. Асноўныя значэнні часціц (знаёмства)



**317.** Прачытайце тэкст, вызначце яго адрасата і мэтанакіраванасць. Складзіце план (просты ён будзе ці складаны?) і перакажыце змест згодна з планам.

У сучаснай беларускай мове вылучаюцца чатыры асноўныя групы часціц.

Часціцы  п е р ш а й  групы выражаюць розныя сэнсавыя адценні значэнняў. Сюды адносяцца **ўказальныя *(вось, вунь, гэта)***, **удакладняльныя *(якраз, іменна, акурат, проста, амаль, прыблізна, сапраўды)*** і **абмежавальныя *(толькі, хоць, хоць бы, выключна, ледзь)*** часціцы.

Да  д р у г о й  групы адносяцца часціцы, якія выражаюць мадальныя адценні. Гэта **сцвярджальныя *(так, але, ну, ага)***, **адмоўныя *(не, ні, ані)*** і **пытальныя *(ці, хіба, няўжо, а, ну)*** часціцы.

Т р э ц ю ю  групу складаюць эмацыянальна-экспрэсіўныя часціцы. Да іх адносяцца **ўзмацняльныя *(нават, і, дык, ды, жа (ж), аж (ажно), ні, -такі)*** і **клічныя *(вось дык, ну і, што за, як, якія)*** часціцы.

У  ч а ц в ё р т у ю  групу вылучаюцца **формаўтваральныя** часціцы, якія служаць для ўтварэння формаў умоўнага ***(бы, б)*** і загаднага ***(хай, няхай, давай, давайце)*** ладу.



Часціцы самі па сабе не маюць ярка выражанага лексічнага значэння. Іх значэннем лічыцца тое дадатковае адценне, якое яны надаюць моўнай адзінцы.

**318.** Прачытайце. Вызначце, якая з выдзеленых часціц служыць для ўказання на што-небудзь далёкае, а якая ўказвае на што-небудзь больш блізкае.

Пуста ў садзе і журботна,
Як бы страціў нешта сад...
А **вось** тут, пад гэтай грушай,
Ён сядзеў, а з ім яна.
Выйшла Ганна на дзядзінец,
Сэрца сцісквае туга.
**Унь** бяжыць у свет гасцінец,
Над ім сцелецца смуга...
Куды ж ён пайшоў? Куды?

*Я. Колас.*

● Растлумачце значэнне слова *гасцінец.* Якое значэнне гэтага слова вы яшчэ ведаеце? Як называюцца словы, якія маюць аднолькавае гучанне, але рознае значэнне?

**319.** Спішыце, устаўляючы ў выдзеленыя сказы часціцы з даведкі, якія найбольш падыходзяць па сэнсе. Якое дадатковае адценне значэння надаюць часціцы сказам?

1. Я адчуваю сваю віну. **Таму і хачу папрасіць прабачэння.** 2. Міхал хуценька выйшаў з хаты. **Ён не мог цярпець фальшу.** 3. Дома не спалі. **Усю ноч у хаце гарэла святло.** 4. Ну і гарачыня была. **Быў пачатак лета.**

Для даведкі: *амаль, менавіта, проста, якраз, іменна, акурат, сапраўды.*

**320.** Прачытайце, устаўляючы на месцы кропак часціцы, якія падыходзяць па сэнсе. Запішыце 2—3 сказы. Падкрэсліце часціцы і словы, якім часціцы надаюць своеасаблівае дадатковае адценне значэння.

1. З гэтай пары гадзіну-другую гаварыла ... піла *(І. Мележ).* 2. ... дзе жывы хто, ... чалавечы голас *(К. Чорны).* 3. Ад жаласці да самой сябе яна ... не заплакала *(І. Мележ).* 4. Ведайце, я гэта раблю ... з добрых адносін да вас *(І. Шамякін).* 5. Смех гэткі маюць ... дзеці ды людзі з яснаю душой *(М. Багдановіч).*

Для даведкі: *толькі, хоць, хоць бы, ледзь, выключна.*

**321.** Прачытайце дыялог, устаўляючы замест кропак патрэбныя часціцы. Што яны выражаюць?

— Мне патрэбна машына. Гэта чыя?
— Наша, — адказаў я.
— Вы што — па выбарах?
— ...
— Па дзяржаўнай пазыцы?
Быў пяцьдзяся́т чацвёрты год.
— ...
— Хто ж вы тады? Чыя[ф] машына, я пытаюся?
Зусім спакойна я растлумачыў:
— Гэта машына ўдавы Янкі Купалы.
— ..., добра. Яна ўдава, а вы хто?
— Мы яе суправаджаем *(Я. Брыль)*.

● Як запісана простая мова? Прааналізуйце пастаноўку знакаў прыпынку пры дыялогу.

Д л я д а в е д к і: *не, ні, ані, так, але, ага.*

**322.** Далучыце да сказаў часціцы, якія служаць для выражэння запытання. Якія з іх надаюць пытальнаму сказу дадатковае адценне сумнення, здзіўлення?

1. Ты прымаў удзел у спаборніцтвах?
2. Ты выканаў дамашняе заданне?

Якое месца ў сказе займаюць пытальныя часціцы? Перакладзіце сказы на рускую мову. Параўнайце месца пытальных часціц.

Д л я д а в е д к і: *ці, няўжо, хіба.*

**323.** Прачытайце сказы. Перабудуйце іх у клічныя з дапамогай часціц. Запішыце сказы.

Прыгожа вясной у лесе. Многа птушыных галасоў пачуеш тут. Цудоўныя спевакі — птушкі. Сапраўдныя майстры сваёй справы. Малайцы.

Параўнайце, з якой інтанацыяй вымаўляюцца перабудаваныя вамі сказы. Які знак прыпынку ставіцца ў канцы клічных сказаў?

Д л я д а в е д к і: *вось дык, што за, як, якія, ну і.*

**324.** Дапоўніце выдзеленыя словы часціцамі, якія падыходзяць па сэнсе, сказы запішыце. Калі падыходзіць некалькі часціц, запішыце сказ з адной з іх.

1. Ты не хочаш пайсці са мною? **А я лічыў** цябе сваім сябрам! 2. Ты зноў не прыйшоў на сход. **А** я **два разы** гаварыў табе пра яго. 3. Твой сябар і ты запусцілі вучобу. **Учора** не засталіся пасля заняткаў. 4. **Я прачытаў** гэту кнігу. Яна аказалася вельмі цікавай. 5. Учора я тры разы тэлефанавала табе дадому. **Цябе** ўсё не было дома. 6. Раса высахла, сонца прыгравала моцна, лес **звінеў** ад птушыных галасоў.

● Падбярыце аднакаранёвыя словы да слова *сябар*.
● Растлумачце правапіс займеннікаў ***табе*** і ***цябе***.

Для даведкі: *нават, аж (ажно), жа (ж), ды, і, дык, ні, -такі.*

**325.** Прачытайце ўрывак з верша Ніла Гілевіча, выбіраючы замест кропак часціцу ***бы*** ці ***б***. Растлумачце правапіс.

Часта думаю:
Што, каб не матчына песня?
Чым ... дыхаў?
На холадзе чым саграваўся ...?
Папрасімцам, напэўна,
Бадзяўся ... па свеце,
Жабраком
Між чужых і радні
Пабіраўся ... .
З чым пайшоў ... я ў госці
Да добрых суседзяў?
Чым аддзячыць ... змог
За дары іх ад сэрца?
Хто ... мяне
Паміж трох мільярдаў
Разгледзеў?
Хто ... мяне распазнаў
І, як роднага, стрэціў?

● Назавіце прыназоўнікі з тэксту. Якія значэнні яны перадаюць, з якім склонам ужываюцца?

**326.** Запішыце, устаўляючы на месцы дужак неабходныя часціцы. Устаўце прапушчаныя літары.

Паехаць у горад было найвышэйшым жаданнем, вялікай марай *(удакладняльная часціца)* для ўсіх нас, вясковых хлапчукоў.

Нарэшце *(узмацняльная часціца)* мне пашанцавала. Маці абяцала ўзяць мяне ў су..оту ў горад.

Я *(адмоўная часціца)* мог дачакацца тае су..оты. Зборы занялі ўвесь дзень, *(узмацняльная часціца)* пакуль я не сеў на воз побач з маці. У мяне быў такі намер: *(адмоўная часціца)* міргнуць ..окам, запомніць кожную дробязь за час падаро..а. І ўсё ж, *(клічная часціца)* ні вялікая была мая цікавасць да паез..кі, *(2 абмежавальныя часціцы)* мы выехалі за сяло, я адразу *(узмацняльная часціца)* заснуў *(Паводле І. Грамовіча)*.

## § 45. Правапіс часціц

А с о б н а пішуцца:

а) часціцы ***бы (б), жа (ж)***: *прыехаў бы, прыехала б, казаў жа, чаму ж, хто ж бы, як жа ж*. Часціца ***бы*** ўжываецца, калі дзеяслоў заканчваецца на зычны *(насіў бы, вярцеў бы, глядзеў бы)*, а часціца ***б*** — калі дзеяслоў заканчваецца на галосны *(насіла б, вярцела б, глядзела б)*;

б) часціца ***што*** ў такіх спалучэннях, як *пакуль што, амаль што, толькі што, сама што, хіба што, ледзь што* і пад.;

в) часціца ***абы***: *абы прыехаў, абы цікавы, абы не забыцца* (**але:** *абы-хто, абы-што, абы-калі, абы-дзе, абы-які, абы-куды*).

П р а з з л у ч о к пішуцца:

а) часціца ***-такі*** ў словах *усё-такі, так-такі, зноў-такі, даволі-такі*, а таксама ў тых выпадках, калі яна стаіць пасля дзеяслова: *прыйшоў-такі сам, дадумаўся-такі, зрабіў-такі*. Ва ўсіх астатніх выпадках часціца

*такі* пішацца асобна: *Ён такі прыйшоў. Усё ж такі мы сустрэліся.*

б) часціца ***то*** з дзеясловамі і займеннікамі: *сказаць-то ён сказаў; ён-то прыехаў, яны-то пабачылі.*

**327.** Прачытайце. Растлумачце правапіс выдзеленых часціц.

«Масквіч» не заводзіцца. Двое хлопцаў думаюць, мне здаецца, што дзядзьку Міхася гэта зусім-**такі** не хвалюе. Зрэшты, у хлопцаў свой клопат: адзін едзе ў горад, дахаты, другі застаецца тут, у лесе.

І вось — матор нарэшце ажыў.

Дзядзька Міхась, вадзіцель-аматар, стаў перад хлопцамі і засмяяўся — сціпла, добра, але **ж** і пераможна:

— Што, хацелі, каб не завёўся?

У адказ яны дружна пырхнулі смехам.

Думалі ўсё-**такі**, падшыванцы *(Я. Брыль)*.

Растлумачце значэнне слова *аматар*. Які спосаб тлумачэння вы выкарысталі?

**328.** Спішыце. Часціцы, што ў дужках, напішыце асобна ці праз злучок. Устаўце прапушчаныя літары.

1. Дзіцячым пісьме..ікам трэба ўсё *(такі)* нарадзіцца. 2. Памалу праходзячы, прыглядаўся да вач..й, да выразу твараў гэтых усё *(ж) (такі)* не манекенаў*. 3. Над гэтай кнігай я як быццам злавіў *(такі)* нарэшце сваю даўнюю думку... 4. Тады здавалася: *(такі) (ж)* вял-і-зны!.. *(Я. Брыль)*. 5. Ціхі я чалавек, непрыкметны. Мне дзень (абы)пражыць, і дзякуй богу *(М. Лынькоў)*. 6. Прыцемак сама(што) пачынаў ахінаць горад *(А. Васілевіч)*. 7. Пайсці(то) я пайшоў. Але памяць усё яшчэ беражэ далёкую мімалётную сустрэчу *(А. Марціновіч)*. 8. Эт, *(абы)* гаспадар быў *(Р. Сабаленка)*. 9. Да яе збоку прыціснуўся Валодзя, усё роўна як(бы) прыціскаўся некалі, калі толькі вучыўся хадзіць *(І. Пташнікаў)*.

## Марфалагічны разбор часціцы

П а р а д а к   р а з б о р у

1. Часціна мовы. Агульнае значэнне.

2. Марфалагічныя прыметы: нязменнае слова, разрад паводле значэння.

3. Сінтаксічная роля (для формаўтваральных і адмоўных).

У з о р   р а з б о р у

*Ні на кім не адбілася прадвызначэнне часу так, як на лёсе Багдановіча* (М. Стральцоў).

### *Вусны разбор*

*Ні* — часціца, узмацняе адмаўленне, якое перададзена часціцай ***не***; нязменная, узмацняльная; не з'яўляецца членам сказа.

*Не* — часціца, надае адмоўнае значэнне ўсяму сказу; нязменная, адмоўная; уваходзіць у састаў выказніка.

### *Пісьмовы разбор*

*Ні* — часціца; нязм., узмацн.; не член сказа.

*Не* — часціца; нязм., адмоўн.; уваходзіць у састаў выказніка.

---

**329.** Прачытайце. Знайдзіце і зачытайце сказы, у якіх перададзена асноўная думка тэксту.

Зрабіце марфалагічны разбор часціц (трох — пісьмова, астатніх — вусна), карыстайцеся матэрыялам практ. 309 і 317.

ШУМНЫ ЛІСТАПАД

Раненька ідзе Тацянка ў дзіцячы сад. Ідзе, як заўсёды, з дзедам. Дарога якраз праз парк. Тацянка памятае тут амаль кожны кусток, не толькі дрэва. Але сёння Тацянка не пазнае дарогі. Сапраўдны квяцісты дыван пад нагамі!

Спынілася дзяўчынка і не ведае: ісці далей ці не ісці. Як жа ступіць на такое хараство?

Назбірала Тацянка поўнае бярэма лістоў, аж рук не хапае. Дзед прыгнуўся і таксама пачаў збіраць лісточкі. Толькі не ўсе запар, а найпрыгажэйшыя.

— Усяго, дзетка, усё роўна не збярэш, — тлумачыць дзед. — Ні я, ні ты... Вунь колькі дрэваў! Глянь, які шумны лістапад! І нашто хараство збіраць? Хай будзе для ўсіх. Хай усе цешацца, як распранаюцца дрэвы, ідучы на зімовы спачын.

**Тацянка згадзілася з дзедам і ўжо хацела рассыпаць сабранае лісце, але дзед не дазволіў.**

— А твае лісцікі і вось я свае, — сказаў ён, — аднясём у дзіцячы сад. Хай і там сёння будзе лістапад. Хай і там будзе хараство *(Паводле У. Юрэвіча)*.

● Выпішыце і разбярыце па членах сказа выдзелены сказ. Пабудуйце яго схему.

**330.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Знайдзіце ў ім часціцы, вызначце, якія значэнні яны перадаюць. Ахарактарызуйце ўжыванне пытальных часціц у беларускай і рускай мовах.

Мы ходим по земле, но часто ли нам приходит в голову желание нагнуться и тщательно рассмотреть всё, что находится у нас под ногами? А если бы мы нагнулись да ещё легли бы на землю и начали рассматривать её, то на каждой пяди нашли бы много любопытных вещей *(К. Паустовский)*.

Прадоўжыце тэкст, уключыўшы ў яго часціцы розных разрадаў.

**331.** Прачытайце верш Генадзя Бураўкіна. Сфармулюйце яго тэму і асноўную думку.

Я не га́ню землі чужыя —
Хай іх сонца не абміне.
Толькі дзе за морам ні жыў я,
Беларусь мая снілася мне.

Так карцела — сляза закіпала, —
Каб да сэрца хаця б здалёк
Прыплывалі жалейка Купалы,
Багдановічаў васілёк.

Гэта ўсё, безумоўна, не нова,
А ці трэба, каб новым было
Поле бацькава, матчына слова,
І буслова — над хатай — жытло?

Хіба душы свае не лечым
Ад бяздумных бядот і згрызот
Самым простым і самым вечным,
Што пранёс праз вякі народ?

І якія б шляхі ні схадзіў я,
Кліча полацкая сенажаць...
А калі не спяваць аб Радзіме,
Дык навошта наогул спяваць?

Зрабіце марфалагічны разбор часціц з тэксту: адмоўнай, пытальнай, абмежавальнай, узмацняльнай, формаўтваральнай.

## § 46. Часціцы *не* і *ні*, іх адрозненне

Часціца ***не*** надае адмоўнае значэнне ўсяму сказу, калі стаіць перад дзеясловам-выказнікам, ці асобным яго членам: 1. *Я даўно не бачыў такой навальніцы* (М. Стральцоў). 2. *Пасля ён і пастараўся, каб мне жылося не гладка* (А. Кудравец).

**332.** Прачытайце выразна верш. Сфармулюйце яго асноўную думку. Вызначце, калі часціца ***не*** надае адмоўнае значэнне асобным словам, а калі — усяму сказу.

Гадзіннік мой — не сонца, што ў зеніце,
Гадзіннік мой — не сэрца, што ў грудзях.
Сваім дакладным часам на арбіце
Сама зямля мой вымярае шлях.

Начы і дня адбіўшы чаргаванне,
На месцы не стаяць мацерыкі —
Па іх жывым і сонечным экране
Бягуць дарог і рэчак ручнікі.

Дыван вясны перацвітае ў лета,
Завея лісцяў — у сняжынак пух;
Я не хачу, каб некалі ўсё гэта,
Хаця б на момант свой спыніла рух.

Хай сэрца стане, сонца ў хмарах згіне,
А ты, Зямля, няспынным крокам кроч,
Не дай на той мне ўпасці палавіне,
Дзе дня не будзе, будзе толькі ноч.

*А. Куляшоў.*

● Назавіце злучнікі, ужытыя ў тэксце. Вызначце, што яны спалучаюць.

Сказ мае сцвярджальны сэнс, калі ў ім дзве часціцы ***не***, адна з якіх стаіць перад дзеясловам *магчы*, а другая — перад інфінітывам: *Я **не** магу **не** паехаць на экскурсію* (параўн.: *Я павінен ехаць на экскурсію*). Замест першага дзеяслова з ***не*** можа ўжывацца прыслоўе *нельга*: *Мне нельга не паехаць на экскурсію.*

Часціца ***не*** мае сцвярджальны сэнс і ў сказах пытальна-клічнага тыпу: *Дзе ён толькі **не** быў! З кім **не** сустракаўся!* (Параўн.: *Так, ён шмат дзе быў і з многімі сустракаўся.*)

**333.** Спішыце, ставячы часціцу ***не*** спачатку перад першым, потым перад другім, а затым перад абодвума дзеясловамі. Вызначце сэнсавае значэнне часціцы ***не*** ў кожным сказе.

1. Я магу адказаць на гэта пытанне.
2. Вы можаце напісаць мне.



Ужыванне дзвюх часціц ***не*** (двайное адмаўленне) робіць сцвярджэнне больш выразным.

Часціца ***ні***:

1) надае адмоўнае значэнне сказу без дзейніка (ужываецца звычайна пры дапаўненні ў родным склоне): 1. *Вакол **ні** кусціка.* 2. *У хаце **ні** смяцінкі*;

2) узмацняе адмаўленне, якое выражана часціцай ***не*** або словамі *няма, нельга, няможна*: 1. *Няма* ***ні*** *кусціка.* 2. *Не было ў хаце* ***ні*** *смяцінкі.* 3. *Нельга прысесці* ***ні*** *на хвіліну*;

3) узмацняе сцвярджэнне і надае абагульняльнае значэнне адносным займеннікам і прыслоўям, якія падпарадкоўваюць адну частку складанага сказа другой (*хто ні, хто б ні; што ні, што б ні; дзе ні, дзе б ні; як ні, як бы ні; куды ні, куды б ні; адкуль ні, адкуль бы ні* і інш.): *Куды* ***ні*** *гляну, бачу знаёмыя твары* (г. зн. *куды гляну*);

4) ужываецца ва ўстойлівых выразах тыпу *ні свет ні зара, ні жывы ні мёртвы* і інш.

**334.** Выпішыце сказы ў адпаведнасці са значэннямі часціцы ***ні***. Устаўце прапушчаныя літары.

1. Ні гуку, ні душы наўкол, усюды маўклівыя ..окны. 2. Ведаў, што маці і сёстры будуць папракаць, што не паслаў перад прыездам ні пісьма, ні т..леграмы. 3. Закруціла, замяло, у лесе цяпер ні сце..кі, ні следу. 4. Што б ні здарылася з намі, як бы ні пайшло далей наша жы..ё, давай дамовімся сустрака..а. 5. Ні вулічныя, ні якія іншыя правілы парушаць мне не хацелася. 6. Я жыву ў свец.., якім бы ён ні быў. 7. Устаўшы ні свет ні зара, я не знаходзіў сабе месца ад хвалява..я *(М. Стральцоў)*.

**335.** Узмацніце сцвярджэнне ў першай частцы сказа з дапамогай часціцы ***ні***. Дакажыце, што ўжыванне часціцы ***не*** ў гэтых выказваннях будзе не да месца.

1. За што возьмецца, усё ў яго атрымліваецца. 2. Куды пойдзе, усюды бачыць густы лес. 3. Хто быў на выстаўцы, усе хвалілі экспанаты*. 4. Колькі рабілі, нічога не выходзіла.

● Растлумачце з дапамогай тлумачальнага слоўніка значэнне слова *экспанат*. Вызначце паходжанне гэтага слова (спрадвечнабеларускае ці запазычанае).

***экспана́т***

**336.** Разгледзьце схему. Раскажыце, як трэба адрозніваць часціцы ***не*** і ***ні***.




**337.** Запішыце прыказкі, выбіраючы з дужак ***не*** ці ***ні***, растлумачце іх ужыванне і напісанне.

У з о р  р а з в а ж а н н я. 1. *Ён (не/ні) прасіў дапамогі. — Ён прасіў дапамогі? — Не.* Тут адмаўленне, таму трэба пісаць часціцу ***не***. 2. *Што (не/ні) зробіць, усе смяюцца. — Зробіць? — Так.* Тут сцвярджэнне, таму трэба пісаць часціцу ***ні***.

1. Што *(не/ні)* край, то свой звычай. 2. Што *(не/ні)* чуеш, тое вокам бачыш. 3. Сварка да дабра *(не/ні)* давядзе. 4. Колькі ваду *(не/ні)* гатуй, усё вада будзе. 5. Рэ-

шатам вады *(не/ні)* наносіш. 6. Куды *(не/ні)* кінь — усюды клін.

Прачытайце сказы з часціцамі ***не, ні*** і без іх. Ці змянілася значэнне сказаў? Якую ролю выконваюць у іх часціцы ***не*** і ***ні***?

**338.** Разгледзьце схему. Раскажыце, як адрозніваць спалучэнні ***не што іншае, як (не хто іншы, як)*** і ***нішто іншае не (ніхто іншы не)***.

| АДРОЗНІВАЙ СПАЛУЧЭННІ | |
|---|---|
| ***Не што іншае, як ...***<br>***Не хто іншы, як ...*** | ***Нішто іншае не ...***<br>***Ніхто іншы не ...*** |
| пішуцца, калі: | пішуцца, калі: |
| сказ перадае<br>с ц в я р д ж э н н е,<br>ёсць злучнік ***як,***<br>можна замяніць спалучэнне часціцамі<br>***толькі, менавіта, іменна*** | сказ перадае<br>а д м а ў л е н н е,<br>няма злучніка ***як,***<br>нельга замяніць спалучэнне часціцамі<br>***толькі, менавіта, іменна*** |

**339.** Карыстаючыся схемай, прааналізуйце сказы і дакажыце, што ў адным выпадку ў спалучэнні ўжываюцца адносныя займеннікі ***хто (што)*** з часціцай ***не,*** а ў другім — адмоўныя займеннікі ***ніхто (нішто)*** з прыстаўкай ***ні-***.

1. Гэта было не што іншае, як перавернутая лодка. 2. Нішто іншае не дапамагала яму. 3. Гэта быў не хто іншы, як сам камандзір. 4. Ніхто іншы ў класе не мог расказаць пра гэта так цікава.

**340.** Запішыце сказы, устаўляючы ***не*** ці ***ні.*** Часціцу ***не*** падкрэсліце, прыстаўку ***ні-*** абазначце.

1. Яны схільны былі думаць, што прычынай пажару з'яўляецца *(не/ні)* што іншае, як удар маланкі *(М. Лынькоў)*. 2. *(Не/ні)* што іншае не турбавала хлопчыкаў. 3. Партрэт напісаў *(не/ні)* хто іншы, як Савіцкі. 4. Камандзір ведаў, што *(не/ні)* хто іншы не справіцца з гэтым рызыкоўным заданнем *(П. Макаль)*.

**341.** Абапіраючыся на схему, складзіце звязнае выказванне пра ўжыванне часціц ***не*** і ***ні***.

| Часціца ***не*** |
|---|
| 1) ***не*** — адмаўленне: ***не*** *быў*;<br>2) ***не*** + ***не*** — сцвярджэнне: ***не*** *мог* ***не*** *быць* = *быў*;<br>3) ***не*** — сцвярджэнне ў сказах пытальна-клічнага тыпу: *Дзе ён толькі* ***не*** *быў!* (‘быў шмат дзе’) |

| Часціца ***ні*** |
|---|
| 1) ***ні*** — адмаўленне: ***ні*** *слова*;<br>2) ***ні*** — узмацненне адмаўлення: *не чуў* ***ні*** *слова*;<br>3) ***ні*** — узмацненне сцвярджэння: *Дзе ён* ***ні*** *быў, усюды чуў добрыя словы*;<br>4) ***ні*** — у выразах тыпу ***ні*** *жывы* ***ні*** *мёртвы* |

Прааналізуйце будову сказаў пад лічбамі 3. Зрабіце вывад пра напісанне часціц ***не*** і ***ні*** ў такіх выпадках.

**342.** Састаўце з двух простых сказаў складаны, выкарыстаўшы для сувязі спалучэнні з часціцамі. Сказы запішыце, падкрэсліце граматычныя асновы ў іх.

Узор. *Сонца паліла ўвесь дзень. У лесе стаяла прыемная прахалода. — Як ні паліла сонца ўвесь дзень, у лесе стаяла прыемная прахалода.*

1. Білі ў дуб маланкі. Ён стаяў над кручай, горды і непахісны. 2. Пеця стараўся хутчэй закончыць працу. Справы ў яго не ладзіліся. 3. Хацела маці дапамагчы сыну. Той упарта адмаўляўся.

## § 47. Правапіс *не (ня), ні* з рознымі часцінамі мовы (паўтарэнне)

Часціца ***не*** пішацца асобна са словамі.

Прыстаўка ***не***- з’яўляецца часткай слова і таму пішацца разам. У першым складзе перад націскам пішацца ***ня***-.

| ***Не (ня)*** пішацца р а з а м: | |
|---|---|
| 1) калі слова не ўжываецца без ***не*** | *нянавісць, няўмека, непахісны, няспынны, няўхільна, нездаровіцца, ненавідзець, непакоячыся* |
| 2) у словах з прыстаўкай ***неда-***, якія маюць значэнне непаўнаты | *недабачыць, недавыканаць, недаробка, недаацэнка* |
| 3) калі ***не*** ўтварае новыя словы з супрацьлеглым значэннем, якія звычайна можна замяніць сінонімамі без прыстаўкі ***не- (ня-)*** | *праўда — няпраўда (хлусня), вялікі — невялікі (малы), высока — невысока (нізка)* |
| 4) з поўнымі дзеепрыметнікамі, пры якіх няма залежных слоў | *неадпраўленае пісьмо, непадкрэсленае слова* |
| 5) у неазначальных займенніках і прыслоўях | *нешта, нехта, недзе, некалі* |
| Часціца ***не*** пішацца а с о б н а: | |
| 1) з рознымі часцінамі мовы, калі ёсць або падразумяваецца супрацьпастаўленне | *не праўда, а хлусня; не шырокая рэчка, а вузкая* |
| 2) з дзеясловамі, дзеепрыслоўямі, кароткімі дзеепрыметнікамі | *не чытаў, не думаў, не думаючы, не пішучы, сачыненне не напісана* |
| 3) з поўнымі дзеепрыметнікамі пры наяўнасці залежных слоў або супрацьпастаўлення са злучнікам ***а*** | *не зжатае камбайнамі жыта; не закончаная, а толькі пачатая праца* |
| 4) са словамі ***варта, шкада, трэба, супраць*** | *не варта, не шкада, не трэба, не супраць* |
| 5) у складзе ўзмацняльных адмоўяў | *далёка не, зусім не, нікольні не* |

**343.** Прачытайце тэкст. Скажыце, за што дзякавалі адзін аднаму Багушэвіч і фурман. Выпішыце словы з ***не (ня)***, растлумачце іх правапіс.

ЗАЛАТЫЯ РУБЛІ

Выехалі на шлях. Ён нешырокі, толькі раз'ехацца двум стрэчным вазам, абапал абсаджаны дубамі. Раз-пораз зрываліся з дубоў жалуды... Нямала валялася жалудоў на дарозе, яны падалі, мокрыя, не абсохлыя ад расы, а гэта прыкмета блізкіх асенніх халадоў. Лісце дубоў яшчэ вісела моцна, не асыпалася і не пажоўкла. Сыпалася з ясеняў і ліп. Фурман злавіў адзін такі ліст, потым доўга любаваўся ім, круцячы ў пальцах.

— Прыгожа памірае дрэва, — сказаў фурман.

— Яно не памірае, а засынае на зіму, — папправіў фурмана Масальскі.

— Памірае. Яно кожны год памірае і вясной нараджаецца. А за смерць сваю лісцем, нібы залатымі рублямі, расплачваецца.

— Містыка, — сказаў, як секанyў, Масальскі. — Прымітыўная містыка прасталюдзінаў.

— Залатымі рублямі расплачваецца за смерць сваю, — паўтарыў Багушэвіч і дакрануўся да пляча фурмана. — Дзякуй вам.

— І вам дзякуй, — не аглядваючыся, заківаў галавой фурман. Ясеневы ліст ён схаваў у кішэню *(Паводле В. Хомчанкі)*.

**344.** Спішыце, выбіраючы з дужак ***не*** ці ***ня***. Абазначце прыстаўку ***не-*** ***(ня-)***, часціцу ***не*** падкрэсліце.

Вызначце сродкі сувязі сказаў у тэксце.

Зямлянкі былі пустыя, але відно было, што адну з іх пакінулі *(не/ня)* даўна, што тут *(не/ня)* хта жыў. У ёй яшчэ *(не/ня)* паспеў выветрыцца дух *(не/ня)* даўняга людскога прыстанішча. На нарах — свежая, *(не/ня)* перацёртая салома, ля парога — сухія дровы.

Ігнат і лейтэнант Галабурда стаялі за зямлянкай, ля сучкаватай елкі. Расла яна на *(не/ня)* вялікім грудку, з-пад якога выцякала крынічка, як вымыты ў пяску спо-

дачак. Са сподачка вада адразу ішла пад снег, хаваючы ад *(не/ня)* вопытнага вока сваю жывую *(не/ня)* спакойную сілу[сн] *(Паводле А. Кудраўца)*.

● Прывядзіце прыклады слоў, у якіх не супадае колькасць літар і гукаў.

**345.** Выкарыстоўваючы табліцу, раскажыце аб правілах правапісу ***не (ня)*** з рознымі часцінамі мовы.

| Часціна мовы | Разам | Асобна |
|---|---|---|
| Назоўнік | *небарака, няшчасце (гора)* | *не згода, а сварка* |
| Прыметнік | *неабходны, лёгкі — нялёгкі (цяжкі)* | *не сталы, а хутчэй малады* |
| Займеннік | *нейкі, некаторы* | *не з усімі* |
| Прыслоўе | *нямала (многа), некуды, неяк* | *не ціха, а гучна* |
| Дзеяслоў | *непакоіцца, недагледзець* | *не засеялі* |
| дзеепрыметнік | *неадрамантаваная машына* | *не сабраная, а толькі скошаная трава; не адрамантаваная механікам машына; машына не адрамантавана* |
| дзеепрыслоўе | *непакоячыся, недавыканаўшы* | *не думаючы* |

Часціца ***ні*** пішацца асобна са словамі.

Прыстаўка ***ні-*** з'яўляецца часткай слова і таму пішацца разам:

1) у адмоўных займенніках (калі пасля ***ні*** няма прыназоўніка) і ў адмоўных прыслоўях: *ніхто, нішто, ніякі, нічый* (але: *ні ў кога, ні ў якой*), *нідзе, ніколі, нікуды*;

2) у словах, якія без ***ні*** не ўжываюцца: *нікчэмны, нішчымніца, нішчымны, ніякавата*.

**346.** Утварыце ад прапанаваных слоў новыя з дапамогай прыставак ***не-*** і ***ні-***. Запішыце пары слоў з ***не-*** і ***ні-***, пастаўце націскі.

Узор: *не́куды — ніку́ды.*

Хто, што, які, дзе, калі, як, колькі.

Растлумачце, калі пішацца ***не-***, а калі — ***ні-***.
Якімі часцінамі мовы з'яўляюцца запісаныя вамі словы? Якое значэнне яны маюць з прыстаўкамі ***не-*** і ***ні-***?

**347.** Выпішыце спачатку сказы, у якіх ёсць займеннікі з прыстаўкай ***ні-***, а потым — сказы, у якіх ёсць прыслоўі з прыстаўкай ***ні-***. Якое значэнне яны маюць? Прыстаўку абазначце.

1. Ёсць праўда, якую мудрэц *(ні)* кому *(не)* адкрывае. 2. Я *(не)* забуду гэтага *(ні)* колі. 3. Цяпер, прыехаўшы з горада ў вёску, *(ні)* кога *(ні)* чым *(не)* здзівіш. 4. Дагэтуль *(ні)* як *(не)* магу разабрацца, успомніць — сон гэта ці ява... 5. *(Ні)* дзе так добра больш *(не)* думалася *(Я. Брыль)*.

**Вымаўляй правільна: [н′а з′]дзі́віш, [н′а] ду́малася.**

**Пішы: *не здзівіш, не думалася.***

**348.** Сфармулюйце правіла на аснове прыведзеных прыкладаў.

1. Не далёкі, а блізкі; не шыта, а вязана.
2. Нецікавы фільм, жыць недалёка, сказаць няпраўду.
3. Непакоіцца за сына, ненавідзячы хлусню і падман, жыць няўмекаю.

**349.** Прадоўжыце радкі (не менш за тры самастойна падабраныя словы ў кожным радзе).

1. Няздатны, няволіць, незаўважна, ... .
2. Некалі, нехта, ... .
3. Немалы, нешырокі, нядобры, ... .

## § 48. Падрабязны, сціслы і выбарачны пераказ аднаго і таго ж тэксту

*Падрабязны* пераказ патрабуе перадачы зместу цалкам з усімі падрабязнасцямі, з захаваннем яго жанрава-стылістычных і моўных асаблівасцей. Для таго каб справіцца з гэтай задачай, неабходна зразумець тэму і асноўную думку тэксту, паслядоўнасць падзей і фактаў, вызначыць колькасць тэм і падтэм, з дапамогай якіх разгортваецца змест, асэнсаваць тыпалагічную схему тэксту і яго жанрава-стылістычную прыналежнасць, моўныя сродкі, характэрныя для гэтага стылю маўлення.

Задача *сціслага* пераказу — перадаць галоўнае ў змесце тэксту-арыгінала, апусціўшы дэталі, падрабязнасці; тып і стыль пры гэтым звычайна захоўваюцца. Ёсць два спосабы сціскання тэксту — выключэнне, калі другарадная інфармацыя апускаецца, і абагульненне, калі змест некалькіх сказаў (абзацаў) перадаецца абагульнена, сцісла з дапамогай аднаго-двух сказаў.

Мэта *выбарачнага* пераказу — перадаць не ўвесь тэкст, а толькі пэўную яго частку, што мае адносіны да пэўнай тэмы (асноўнай ці пабочнай). Пры выбарачным пераказе стыль выказвання звычайна захоўваецца, а тып, кампазіцыя, асноўная думка, як правіла, змяняюцца.

**350.** Прачытайце выразна тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку.

МАЛЕНЬКАЯ ГАСПАДЫНЯ

Скрыпнулі дзверы.

— Гэта ты, Харыця? — пачуўся млявы голас хворай.

— Я, мама!

З дзвярэй паказалася спачатку вядро, да палавіны напоўненае вадою, потым русявая галоўка дзяўчынкі, нахіленая набок да вядра, а ўжо тады правая рука, паднятая трохі ўгору. У хату ўвайшла Харыця і паставіла каля печы вядро. Ёй было восем гадоў. Вельмі цяжкім здалося Харыці гэтае вядро з вадою, бо, паставіўшы яго на дол, хві-

лінку стаяла нерухома, апёршыся на прыпечак* і цяжка дыхаючы. Левая рука ад незвычайнай цяжкасці замлела, і Харыця не магла яе сагнуць. Але гэта было адну хвілінку. У наступную — кінулася Харыця да сцяны, лёгка, як козачка, ускочыла на лаву, зняла з палі́цы* гаршчок і паставіла яго каля вядра.

— Што ты робіш, дачушка? — спытала маці.

— Вячэру буду варыць, мама.

Хворая толькі ўздыхнула.

А Харыця і праўда пачала завіхацца, рыхтуючыся гатаваць вячэру. Усыпала ў гаршчок жменьку пшана, пакрышыла дзве-тры бульбіны, наліла вады, пасаліла і прыставіла ў печ да агню. Прыемна было глядзець на яе маленькія, загарэлыя на сонцы ручаняты, што жвава рабілі то адно, то другое. Вялікія блакітныя вочы з-пад доўгіх чорных веек глядзелі ўважліва і разумна. Смуглы тварык расчырванеўся, маленькі роцік разявіўся — уся яе ўвага была скіравана на работу. Яна забылася нават на новыя чырвоныя стужкі, што двойчы абвівалі яе русявую, аж белую, галаву. Стужкі гэтыя былі яе радасцю, яе гонарам. Ужо трэці дзень, як хросная маці падаравала ёй тыя стужкі, а Харыця ніяк не нацешыцца імі.

Маці ціха застагнала.

Харыця спахапілася і падбегла да ложка.

— Чаго вы, мамачка? Можа, вады халоднай? Што ў вас баліць? — ластаўкаю прыпадала яна каля хворай *(М. Кацюбінскі)*.

Складзіце план і падрабязна перакажыце тэкст (вусна).

Успомніце, як робіцца сціслы пераказ тэксту. З якой мэтай і калі ён выкарыстоўваецца? Перакажыце тэкст сцісла (вусна).

Зрабіце пісьмовы выбарачны пераказ (апісанне Харыці). Дайце тэксту загаловак.

**351.** Прачытайце сфармуляваныя задачы розных відаў пераказу тэксту «Маленькая гаспадыня». Ці могуць яны быць прынятыя за аснову?

Задача падрабязнага пераказу тэксту «Маленькая гаспадыня» — падрабязна пераказаць тэкст, максімальна

захаваўшы яго змест, паслядоўнасць падзей, логіку і кампазіцыю выкладу, аўтарскія адносіны да гераіні, выкарыстаныя для вырашэння камунікатыўнай задачы моўныя сродкі.

Задача сціслага пераказу — сцісла, коратка ў адпаведнасці з асноўнай думкай перадаць змест тэксту, захаваўшы істотныя для ўзнаўлення аўтарскай задумы мастацкія сродкі, ключавыя словы і выразы: *васьмігадовая Харыця, хворая маці, вядро з вадой, цяжкая ноша, вячэра, ручаняты жвава рабілі, вочы глядзелі ўважліва і разумна; маці застагнала, спахапілася і кінулася, ластаўкай прыпадала*.

Задача выбарачнага пераказу — даць апісанне знешнасці Харыці, ахарактарызаваўшы яе як спрытную гаспадыню і клапатлівую дачку. Гэта задача патрабуе не толькі апісання знешняга выгляду дзяўчынкі, але і ўвядзення дзеянняў (рухаў), звязаных з характарыстыкай састаўных частак апісання: *ручаняты жвава рабілі то адно, то другое; вочы глядзелі ўважліва і разумна; уся ўвага скіравана на работу, забылася на новыя стужкі; ластаўкаю прыпадала*.

## ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА

### Кантрольныя пытанні і заданні

1. Дайце азначэнне часціцы.
2. Назавіце асноўныя групы часціц.
3. Раскажыце аб правапісе часціц ***не (ня), ні*** са словамі розных часцін мовы. Запішыце прыклады на розныя выпадкі правіла.
4. Чым адрозніваюцца часціцы ***не*** і ***ні***? Пацвердзіце свой адказ прыкладамі, запішыце іх.
5. Якія часціцы пішуцца асобна, якія — праз дэфіс? Прывядзіце і запішыце прыклады.
6. Якія знакі прыпынку могуць ужывацца ў сказах з часціцамі?

## Тэматычная праверачная работа

Запішыце тэкст пад дыктоўку.

Наіўнае юнацтва. Табе здаецца, што ты выключнае, што ты самае разумнае, мудрае, ані не падобнае на ўсіх! Не адразу да цябе прыходзіць разуменне, што «як усе» — гэта не дакор. Мудрасць, разумнасць і чалавечая вартасць якраз у тым, каб раўняцца на ўсіх — на людзей, на калектыў, на чалавецтва. Не адразу ты пачынаеш разумець, што хараство не ў тваіх незямных марах, не ў тваім імкненні да выключнасці, а ў жыцці людзей. Людзі выпрацавалі самае прыгожае, высакароднае, карыснае, разумнае і ў навуцы, і ў мастацтве, і ў адносінах паміж сабой — у каханні, у сям'і. З разумення гэтых надзвычай простых ісцін і пачынаецца твая сапраўдная сталасць, юнак *(І. Шамякін)*.

**Дадатковыя заданні**

*І варыянт*

1. Вызначце і запішыце тып маўлення. Выпішыце з тэксту выраз, які перадаваў бы яго тэму.
2. Знайдзіце і падкрэсліце ў тэксце злучнікі.
3. Зрабіце марфалагічны разбор прыназоўніка з тэксту (на выбар).

*ІІ варыянт*

1. Вызначце і запішыце стыль тэксту. Дайце тэксту загаловак, які перадаваў бы яго асноўную думку.
2. Знайдзіце і падкрэсліце ў тэксце часціцы.
3. Зрабіце марфалагічны разбор злучніка з тэксту (на выбар).

# ВЫКЛІЧНІК

## § 49. Выклічнік як часціна мовы. Выклічнік і маўленчы этыкет



**352.** Прачытайце тэкст. Складзіце план і перакажыце змест тэксту паводле плана.

Выклічнікі не адносяцца ні да самастойных, ні да службовых часцін мовы. Выклічнікі — гэта словы, якія выражаюць разнастайныя пачуцці (радасць, захапленне, здагадку, здзіўленне, задавальненне, спачуванне, роздум, хваляванне, сумненне, гора, бяду, боль, страх, жаль, шкадаванне, абурэнне, асуджэнне і інш.: *о, ой, эх, ох, ай, ах*) або пабуджэнні (заклік, вокліч, зварот, запрашэнне, загад, забарону і г. д.: *гэй, эй, гайда, марш*), але не называюць іх. У маўленні ўжываюцца таксама выклічнікі этыкету, гэта значыць словы, з дапамогай якіх вітаюць адзін аднаго, развітваюцца, выказваюць падзяку, прабачэнне і г. д.: *бывайце, дзякуй* і інш.

Выклічнікі бываюць н е в ы т в о р н ы я (напрыклад: *ой, эх, о, ну*) і в ы т в о р н ы я, якія ўзніклі з самастойных часцін мовы (напрыклад: *здароў, бывай, бяда!*).

Выклічнікі не змяняюцца, не з'яўляюцца членамі сказа, але могуць ужывацца ў значэнні іншых часцін мовы. Пры гэтым выклічнік прымае канкрэтнае лексічнае значэнне і становіцца членам сказа (напрыклад: *З-за лесу пачулася гучнае «ўра!»*, дзе *ўра* — дзейнік).

Выклічнікі — характэрная асаблівасць вуснага маўлення. У мастацкіх творах яны часцей за ўсё ўжываюцца ў дыялогах.

Ад выклічнікаў трэба адрозніваць гукапераймальныя словы, якія не выражаюць ніякіх пачуццяў ці пабуджэнняў, а толькі перадаюць гукі (сігналы) жывой ці нежывой пры-

роды (напрыклад: *мяў-мяў, ку-ка-рэ-ку, гу-у-у, жых-жых* і інш.).

Што агульнага маюць і чым адрозніваюцца выклічнікі і службовыя часціны мовы?

**Выклічнік** — гэта часціна мовы, якая выражае, але не называе розныя пачуцці і пабуджэнні.

Выклічнікі бываюць **вытворныя** і **невытворныя.** Яны не змяняюцца і не з'яўляюцца членамі сказа.

Найбольш ужывальныя выклічнікі: ***а, о, э, у, і, ай, ой, эй, ах, ох, ух, эх, гэй, ага, го, го-го, ого, фу, уф, гм, хм, цсс, чш, ша, цыц, стоп, марш, алё, а-а-а, ай-яй-яй, эге, цьфу, ну, но, гайда, здароў, бывайце, добры дзень, дзякуй, прабачце, калі ласка, бяда! шабаш!***

**353.** Прачытайце. Дакажыце, што выдзеленыя словы — выклічнікі. Звярніце ўвагу, з якой інтанацыяй перадаюцца пачуцці і пабуджэнні, выражаныя выклічнікамі.

— **Эй**, Сымон... Заснуў, ці што ты?
— **А**, то ты... **Ах,** мой дзядок!..
— Дзе ж авечкі? **Ой**, блазнота...
**Ну** й дадуць табе, браток!
Тут Сымонка схамянуўся,
Бегчы кінуўся кулём.
— **Ну**, што думаў, брат Сымоне?
— **Ах**, дзядуня, любы мой!
Дудары тут шлі сягоння...
Як жа гралі! **А-ё-ёй!**
Дудары? — стары спытаўся. —
**Гм**! Дык унь што... пачакай!
Ты, відаць, не просты ўдаўся,
Дам табе я нешта... грай!
Вось, пакуль што, мой бядача,
Дудку дам табе я ў дар!
Ты — музыка, брат, няйначай,
Будзеш некалі дудар.

*Я. Колас.*

**354.** Прачытайце сказы з патрэбнай інтанацыяй. Прааналізуйце, якое значэнне перадаюць выклічнікі. Назавіце іх і вызначце стылістычную ролю.

1. О, край родны, край прыгожы! Мілы кут маіх дзядоў! 2. Ну ж і хлопец! Моц святая! Маладзец, каб я здароў! 3. Ах, Сымонка, вось цікава! 4. Ой, як ночанька яснютка! 5. Эх, вясна ты маладая! *(Я. Колас)*.

**355.** Прачытайце сказы з патрэбнай інтанацыяй. Прааналізуйце, якія пачуцці выражае ў іх выклічнік ***эх***.

1. Эх, Сымон! Ото дзівак! 2. Эх, нядобры хлопчык дзедаў! 3. Эх, дарогі! Эх, дарогі! Вы куды йдзяце? Куды? 4. Эх, музы́ка малады! Не дасяг ты свае мэты. 5. Эх вы, зверы! Мера вам — па вашай меры! *(Я. Колас)*.

Ад чаго залежыць канкрэтнае значэнне выклічніка? Прааналізуйце пастаноўку знакаў прыпынку пасля выклічнікаў.

● Назавіце сказы апавядальныя, пытальныя і клічныя.

**356.** Выпішыце спачатку сказы з выклічнікамі, якія выражаюць пачуцці і настрой, потым — з выклічнікамі, якія выражаюць пабуджэнні, а пасля — з выклічнікамі этыкету. Выклічнікі падкрэсліце.

1. — Ну, што ж, хлопец не загіне, — маці думала аб ім. 2. Ох, нагнала ліха воўка! 3. А скажы мне, калі ласка, чый ты будзеш і адкуль? 4. Але — ша! Там штось мільгнула... 5. Эх, не ўмеў з ім ладзіць ён. 6. Гэй, да зброі, каб даць жыццю тут вызваленне! 7. Дзякуй, хлопча, за ўвагу! *(Я. Колас)*.

**357.** Прачытайце. Назавіце гукапераймальныя словы. Чым выклічнікі адрозніваюцца ад гукапераймальных слоў?

1. У Сымонкі планаў многа. О, ён слаўна зажыве! 2. Ну, бывай! Будзь шчаслівы, будзь багаты. 3. І ў ражок той — тру-гу-гу! 4. Ша, ідуць! Замёр хлапч..на. 5. А той замак — ух, махіна! 6. Тфу ты, ліха! Што са мною? 7. Я цябе пакалыш.. . Люлі-люленькі малую. 8. Ой жа ліха, гора,

гора! Я без хлопчыка прапа..! 9. А зязюлька на суку ім варожыць штосьць — ку-ку! *(Я. Колас).*

Спішыце сказы з выклічнікамі, устаўляючы прапушчаныя літары. Назавіце, якія выклічнікі вытворныя, а якія — невытворныя. Абгрунтуйце мэтазгоднасць іх ужывання.

**358.** Складзіце і запішыце сказы, у якіх адзін і той жа выклічнік выражаў бы розныя пачуцці. Выразна, з адпаведнай інтанацыяй прачытайце іх.

⊙ **359.** Прачытайце сказы. Вызначце, у якіх з іх выклічнікі ўжыты ў значэнні іншых часцін мовы.

1. А сам кажа толькі: «Ух!» 2. Але Шлёма сказаў: «Гут!» 3. Скрыпка з ім! Цяпер — гайда! 4. Вось пачулася здалёк «ау». 5. Ах, Гануська, як я рады! 6. А Сымон — ого-го! 7. Ой, праспаў яго, праспаў! *(Я. Колас).*

**360.** Прачытайце інфармацыю «Найбольш ужывальныя выклічнікі» (с. 239). Выберыце і запішыце выклічнікі этыкету. Дапоўніце іх іншымі словамі і выразамі, якія маюць адносіны да маўленчага этыкету.

**361.** Складзіце (у парах) дыялогі, выкарыстоўваючы выклічнікі этыкету.

I. Папрасіце ў свайго суседа (суседкі) па парце запасную ручку (аловак ці лінейку), бо сваю вы забыліся дома. Што ён вам адкажа? Якія выклічнікі этыкету дапамогуць у гэтай сітуацыі?

II. Пасля званка вы выскачылі з класа і ў калідоры сутыкнуліся з настаўнікам (вучнем іншага класа, вахцёрам і г. д.). Як вы будзеце паводзіць сябе ў гэтай сітуацыі ў адпаведнасці з маўленчым этыкетам?

## § 50. Знакі прыпынку пры выклічніках. Дэфіс у выклічніках

Выклічнік звычайна стаіць у пачатку сказа і аддзяляецца коскай: ***Ой,*** *дачушка, дарагая...* (Я. Колас).

Калі выклічнік вымаўляецца з клічнай інтанацыяй, то пасля яго ставіцца клічнік, а наступнае слова пішацца з вялікай літары: ***Ну!*** *Музыка саматужны, пакажыся, што за «грач»* (Я. Колас).

Калі пры выклічніку стаіць асабовы займеннік ***ты*** або ***вы***, то знак прыпынку пасля выклічніка не ставіцца: ***Эх*** *ты, шыр — прастор далёкі!* (Я. Колас).



Выклічнікі, утвораныя шляхам паўтарэння асноў, пішуцца праз дэфіс: ***ай-ай-ай, ха-ха, ах-ах***.

**362.** Прачытайце сказы з патрэбнай інтанацыяй. Спішыце, раскрываючы дужкі і расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку. Вызначце сэнсава-стылістычную ролю выклічнікаў.

1. Хо *(хо)* хлопча: ты гарачы! 2. — Эхе *(хе)* мая дзяціна, — уздыхнуў Даніла дзед. 3. Вось дурныя ха *(ха) (ха)!* Куст ім страхам паказаўся. 4. Эхе *(хе)* брат! Адспявана мая песня... 5. «Га *(а)*» — ён голас тут падаў... 6. Го *(го)* Сымон! *(Я. Колас).*

**363.** Узмацніце эмацыянальную выразнасць сказаў, уставіўшы выклічнікі, якія падыходзяць па сэнсе. Спішыце, пастаўце неабходныя знакі прыпынку.

1. Сымон! Сымон! Ты чуеш? Сонца ўжо ўзышло — пара! 2. Граць на скрыпцы ён мастак. 3. — Ксёнжа наш вяльможны! — і ўстаюць ураз паны. 4. Заплача паляўнічы: стрэліў ён не па той дзічы. 5. Покі сілак хопіць, на прасторыну — разлог *(Паводле Я. Коласа).*

Для даведкі: *о, эх, гайда, віват, эй.*

Якім стылям маўлення ўласцівы выклічнікі? Якія з прыведзеных вышэй выклічнікаў ужываецца ў кніжным маўленні?

**364.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. Пастаўце неабходныя знакі прыпынку.

1. Ой не дзедку: проці сілы можна ставіць толькі сілу. 2. О які б ён быў шчаслівы, каб меў мудрасці той ніць. 3. Ой хлапч..на, справа штос..ці тут цямна! 4. Вось і ён, час развіта..я. Бывай здаровенька Бывай Бацькам паклон мой перадай. 5. — Ну грымоты ай грымоты! І ўвал..е нам ого *(го)*!.. *(Я. Колас)*.

**365.** Хто хутчэй! Назавіце (ці запішыце) па чатыры выклічнікі, якія складаюцца: а) толькі з галоснага гука; б) з галоснага і [й]; в) з галоснага і [х]; г) з двух зычных і галоснага; д) з двух слоў.

## § 51. Пераход слоў з адной часціны мовы ў іншую

**366.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго адрасата і мэтанакіраванасць. Складзіце план і перакажыце тэкст згодна з планам.

Некаторыя словы адной часціны мовы могуць набываць значэнне іншай часціны мовы і выконваць яе ролю, гэта значыць яны пераходзяць у іншую часціну мовы.

У назоўнікі часта пераходзяць прыметнікі, дзеепрыметнікі. Так, у сказе *У руках Васіля бліснуў паляўнічы нож* слова *паляўнічы* — прыметнік, які звязаны з назоўнікам *нож*, адказвае на пытанне  я к і? і абазначае прымету, у сказе з'яўляецца азначэннем. А ў сказе *Паляўнічы доўга ішоў па слядах лісіцы* слова *паляўнічы* — назоўнік, які адказвае на пытанне  х т о?, абазначае асобу чалавека і з'яўляецца ў сказе дзейнікам. У сказе *Мы верым у сонечнае заўтра* прыслоўе *заўтра* набыло значэнне назоўніка і выконвае яго ролю ў сказе — з'яўляецца дапаўненнем.

У прыметнікі могуць пераходзіць дзеепрыметнікі, калі набываюць якаснае значэнне: *Толькі б болей зрабіць для любімай радзімы* (П. Панчанка).

Многія прыслоўі пераходзяць у прыназоўнікі. У сказе *Старшыня зайшоў у кабінет і сеў* (д з е?) *насупраць* слова *насупраць* — прыслоўе, а ў сказе *Насупраць хаты рос вялікі разложысты дуб* слова *насупраць* — прыназоўнік.

Дзеепрыслоўі могуць пераходзіць у прыслоўі, калі стаяць пасля дзеяслова, да якога адносяцца *(Ён еў стоячы. Гэта трэба зрабіць не марудзячы)* або ў прыназоўнікі: *дзякуючы, уключаючы, выключаючы, не лічачы, пачынаючы, заканчваючы.* Некаторыя дзеепрыслоўі сталі часткай складаных прыназоўнікаў: *нягледзячы на, не гаворачы пра, зыходзячы з, не зважаючы на (Нягледзячы на замаразкі, праца ў садзе працягвалася).*

**367.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту і абгрунтуйце сваю думку. Скажыце, у ролі якіх часцін мовы ўжыты выдзеленыя словы.

Чытаў не раз такое: загаіліся раны вайны, загоеныя з вайны раны.

А ці праўда? Ці праўда, калі шчыра распытацца ў **параненага,** калі спытацца і паглядзець на **яго** і на **яго** раны?

Раны, мабыць, гояцца. Гояцца часам. Раны, мабыць, і застаюцца. Загойныя і незагойныя. Такія яны і ў мяне, мае *(Ф. Янкоўскі).*

Перабудуйце сказ, каб слова *паранены* выступала ў ролі дзеепрыметніка. Запішыце сказы парамі. Падкрэсліце словы *паранены, яго* як члены сказа.

**368.** Прачытайце. Назавіце, якімі часцінамі мовы з'яўляюцца выдзеленыя словы і ў якой ролі яны выступаюць у тэксце.

— І як гэта так здараецца, — думаў я ў самалёце, — што **роднае, сваё** мы неяк заўсёды пакідаем на **потым,** на **пасля,** саманадзейна ўпэўненыя, што не ўцячэ яно ад нас. І з **роднымі** мясцінамі так бывае, і з **блізкімі** людзьмі: не песцім іх увагай і ласкай, упэўненыя, што пачакаюць, што не ўсумняцца ж наогул, калі на тое, у нашай увазе і ласцы, і не разумеем, злуёмся, калі **блізкія** крыўдзяцца на нас і незаўважна, пацíху нас пакідаюць *(М. Стральцоў).*

Складзіце і запішыце сказы, каб словы *сваё, потым, пасля* выступалі ў ролі іншых, чым у тэксце, часцін мовы.

**369.** Запішыце выказванні, устаўляючы прапушчаныя літары. Знайдзіце словы, якія выступаюць у неўласцівай ім сінтаксічнай ролі. Падкрэсліце іх як члены сказа.

1. Але кожны год прылятали жураўлі на родн.. поле, кружыліс.., доўга шукалі пакінутае і забытае, а потым адляталі, адляталі туды, дзе н..роднае, цёплае сонца. 2. А над усім гэтым уставала высокае, неспазнанае, недасяжнае, вечнае, і да яго цягнула, і яно палохала сваёй велічынёй і неспазнанасцю. 3. Пасля абеду стары бабёр пера..шоў грэблю і падаўся далей па крыніцы. Яна была яшчэ шырэйшая, пахла халодным, крынічным, жалезнай рудою. 4. Маладыя жураўлі не ведалі, не пам..талі тых палёў і свае жураўлінае радзімы, дзе засталас.. душа старых жураўлёў, дзеці пачалі любіць за сваё чужое. 5. Як пра блізкае, думалас.. пра работу, пра машыны... 6. Пакуль група майстроў рабіла апарат, ля прахадной дзяжурыла машына, каб адразу ж заве..ці ў бальніцу зробленае *(А. Жук)*.

**370.** Знайдзіце ў выказваннях словы, якія набылі ў кантэксце значэнне іншай часціны мовы.

1. Усе чакалі вызвалення. Нашы былі ўжо блізка *(І. Шамякін)*. 2. З памяці сціраецца, хочаш ці не, пачутае, убачанае, адчутае. Хутчэй ці павольней *(Ф. Янкоўскі)*. 3. У кожнага свой Купала... *(Е. Лось)*. 4. Другія мясціны пайшлі аглядаць, дзе водзіцца гэтая грыбная раць *(Я. Колас)*. 5. Многа помнім, болей забываем, сілімся прыпомніць, што рабіць, светлае ў памяці трымаем, горкае стараемся забыць *(С. Грахоўскі)*. 6. Незнаёмы паглядзеў на мяне цёплымі бацькоўскімі вачыма *(З. Бядуля)*. 7. Некалькі хвоек наводдаль лесу, на полі пры самай дарозе *(К. Чорны)*.

Складзіце і запішыце сказы, каб гэтыя словы выступалі ў характэрнай для іх ролі.

**371.** Складзіце і запішыце сказы, каб прыведзеныя словы выступалі ў ролі розных часцін мовы. Падкрэсліце іх як члены сказа.

У з о р. *Усе думы аб табе, Радзіма. Усе чакалі выступлення вядомага кампазітара.*

Чужы, апошні, свае, марожанае, побач, перажытае.

# ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА ЗА ГОД

## Беларуская мова і раздзелы навукі пра яе

**372.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта тэкст (гл. табліцу на с. 9). Раскажыце пра гісторыю ўзнікнення назвы «Беларусь» і паходжанне беларускай мовы.

З Полацкам і полацкай зямлёй звязваюць гісторыкі паходжанне тэрміна «Белая Русь», які ўпершыню быў ужыты ў Іпацьеўскім летапісе ў апавяданні пра жаніцьбу польскага караля Казіміра Вялікага з дачкой вялікага князя літоўскага Гедыміна Ганнай пад 1325 годам. Польскі храніст Янко з Чарнкова называе ў «Хроніцы Польшчы» горад Полацк «крэпасцю Белай Русі». Тэрмін «Белая Русь» у часы Скарыны азначаў усходнюю зону рассялення беларускай народнасці. «Падзвінне» і «Прыдняпроўе» ўжываліся рэдка, часцей маладая народнасць называла сябе «языком руским», а людзі з заходніх яе тэрыторый — ліцвінамі *(У. Калеснік)*.

Якія словы ў тэксце напісаны з вялікай літары? Што яны абазначаюць? Раскажыце аб правапісе вялікай літары.

**373.** Прачытайце. Вызначце тэму верша і яго асноўную думку. Якія вы ведаеце яшчэ выказванні і творы, прысвечаныя гэтай тэме? Запішыце верш па памяці.

СЛОВА

Не чакайце, што буду хваліцца
Перад іншымі мовай маёй.
Хіба хваліцца з лесу крыніца,
Што грымотней яна за прыбой?

Той, хто любіць папраўдзе[с], ён ціха
Слова роднае ў сэрцы спяліць,
Беражэ ад пагарднага ліха:
Калі слову, то й сэрцу баліць.

*Е. Лось.*

Назавіце словы, якія адлюстроўваюць тэму тэксту. Якія сказы ўжыла аўтар у гэтым тэксце? Пры дапамозе чаго яны звязаны?

**374.** Дапоўніце табліцу «Стылі маўлення» назвамі адпаведных жанраў.

### Стылі маўлення

| Гутарковы | Навуковы | Афіцыйны | Публіцыстычны | Мастацкі |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Д л я   д а в е д к і: *апавяданне, артыкул, размова (сяброў), даведка, распіска, рэпартаж, манаграфія, байка, абвестка, прывітанне, загад, ліст (сябру), рэцэнзія, раман, легенда, прамова (на з'ездзе), даклад.*

**375.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму, адрасата і мэтанакіраванасць. Да якога стылю належыць тэкст?

ЯЎХІМ КАРСКІ І ЯГО «БЕЛАРУСЫ»



1 студзеня 1861 года ў вёсцы Лоша пад Гроднам нарадзіўся чалавек, якому было наканавана лёсам стаць заснавальнікам беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства, увайсці ў гісторыю навукі (і не толькі беларускай) вядомым этнографам, фалькларыстам, палеографам*.

Яўхім Карскі напісаў больш за 700 прац па славістыцы, беларусістыцы і русістыцы. Ім была падрыхтавана «Праграма для збору асаблівасцей беларускіх гаворак» (1897 і 1916). Але найбольшую вядомасць Я. Карскаму

прынесла яго фундаментальная трохтомная праца «Беларусы» (1903—1922), што складаецца з сямі выпускаў і з'яўляецца свайго роду энцыклапедыяй беларусазнаўства.

Увогуле «Беларусы» — найважнейшае дасягненне еўрапейскай славістыкі пачатку XX стагоддзя ў вывучэнні і даследаванні беларусаў як нацыі. Я. Карскі ўпершыню навукова абгрунтаваў самабытнасць беларусаў як асобнага славянскага народа *(«ЛіМ»)*.

Вызначце спосаб сувязі сказаў у тэксце. Назавіце сродкі сувязі. Назавіце асноўныя прыметы тэксту.

Выпішыце з тэксту навуковыя тэрміны, паспрабуйце растлумачыць іх значэнне.

**376.** Разгледзьце табліцу. Дапоўніце яе прыкладамі адпаведных лінгвістычных тэрмінаў.

## Раздзелы навукі аб мове

| **Фанетыка** | **Лексіка** | **Граматыка** | | |
|---|---|---|---|---|
| | **Фразеалогія** | **Словаўтварэнне** | **Марфалогія** | **Сінтаксіс** |
| | | | | |

Раскажыце, што вывучаецца ў кожным з раздзелаў. З якімі раздзеламі ўзаемазвязаны арфаграфія і пунктуацыя? Прывядзіце прыклады.

**377.** Дапішыце сказы.

... — гэта раздзел навукі аб мове, які вывучае гукі мовы.

Лексіка — раздзел навукі аб мове, які вывучае ... і ўжыванне слоў.

... — гэта раздзел навукі аб мове, які вывучае слова як часціну мовы.

... — раздзел навукі аб мове, які вывучае спосабы абазначэння гукаў мовы на пісьме.

Словаўтварэнне — раздзел навукі аб мове, які ... .

## Марфалогія



**Часціны мовы** — гэта групы слоў, якія маюць агульнае сэнсавае значэнне, марфалагічныя прыметы і выконваюць у сказе пэўную сінтаксічную ролю.

**378.** Запоўніце табліцу «Часціны мовы» адпаведнымі назвамі часцін мовы і прыкладамі.

**Часціны мовы**

<table>
<tr><th colspan="3">Самастойныя</th><th rowspan="3">Службовыя</th><th rowspan="3">Выклічнік</th></tr>
<tr><th colspan="2">Зменныя</th><th rowspan="2">Нязменныя</th></tr>
<tr><th>Скланяюцца</th><th>Спрагаюцца</th></tr>
<tr><td></td><td></td><td></td><td></td><td></td></tr>
</table>

**379.** Прачытайце. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту. Дайце загаловак.

У адным з мінскіх паркаў над кронамі маладых дрэў узвышаецца бронзавы хлопчык з вялікай гранатай ва ўзнятай руцэ. Граната — не супрацьтанкавая, звычайная РДГ, аднак яна і сапраўды вялікая ў хлопчыкавай руцэ, і гэта адразу кідаецца ў вочы.

Па суровым законе мужнасці граната гэтая была апошняя: з ёю маленькі партызан кінуўся на ворагаў і разам з імі падарваўся.

У хлопчыка была сястра. Калісьці разам з ёй хлопчык пайшоў у партызаны. Пасля таго як фашысты змардавалі іх маму. Дзяўчынка, ціхая беларуская скромніца, адмарозіла ў разведцы абедзве нагі, і гэтыя быстрыя, спрытныя ножкі лекар ампутаваў у зямлянцы звычайнай пілою.

Хлопчык з гранатай — гэта піянер Марат Казей, якому праз дваццаць год нададзена званне Героя Савецкага Саюза. Сястра яго, настаўніца Арыядна Іванаўна, стала Героем Сацыялістычнай Працы.

Гэта — дзеці толькі адной беларускай сям'і. Падобных прыкладаў з нашай ваеннай гісторыі можна было б прывесці нямала.

Разам з дарослымі ў партызанскіх атрадах — як ні трывожна, як ні балюча гучыць — змагаліся і дзеці, больш за дваццаць пяць тысяч беларускіх дзяцей *(Я. Брыль)*.

Назавіце злучнікі, што ўжыты ў тэксце.

Вызначце разрад лічэбнікаў з тэксту.

Знайдзіце фразеалагізм у тэксце і вызначце, якім членам сказа ён з'яўляецца.

Напішыце падрабязны пераказ тэксту.

**380.** Запоўніце пустыя графы табліцы. Выкарыстоўваючы табліцу, раскажыце пра агульнае сэнсавае значэнне самастойных часцін мовы. Выказванні падмацуйце прыкладамі.

| **Часціна мовы** | **Агульнае значэнне** | **Прыклады** |
|---|---|---|
| Назоўнік | прадметнасць | *лес, радасць* |
| Прыметнік | | |
| | лік, колькасць прадметаў, парадак пры лічэнні | |
| Займеннік | указвае на ..., але не называе іх | |
| Дзеяслоў | | |
| Прыслоўе | | |

**381.** Раскажыце пра марфалагічныя прыметы часцін мовы. Карыстайцеся наступным планам.

## Марфалагічныя прыметы часцін мовы

1. На якія дзве групы дзеляцца марфалагічныя прыметы часцін мовы?

2. Назавіце пастаянныя прыметы самастойных часцін мовы.

3. Якія зменныя прыметы часцін мовы вы ведаеце?

4. У якіх часцінах мовы ёсць нязменныя формы?

5. Раскажыце пра формы дзеяслова.
6. Назавіце састаўныя формы часцін мовы.
7. У чым адметнасць службовых часцін мовы?

**382.** Прачытайце. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту. У якіх радках выказана асноўная думка?

Назавіце дзеясловы, ужытыя ў тэксце, дайце ім марфалагічную характарыстыку, вызначце іх сэнсава-стылістычную ролю.

ДЗЕЯСЛОЎ

Дзеяслоўная рыфма —
кепская рыфма,
І абознік, і авангард
Зазубрылі:
па самых нізкіх тарыфах
Гэта рыфма ідзе — як насмешка ці жарт...
«Сеў» і «з'еў»
альбо «выпіў» і «лыпаў»... —
Тут і ўсё. І славе каюк.
І ўжо крытык
амаль што пяском засыпаў...
Плача верш, як пабіты шчанюк...
Толькі што гэта — гляньце! — рабы
Гнёту выпрасталі гарбы!
Нехта плача, нехта смяецца,
Нехта ў вечным каханні канае,
Нехта ў пошуках ісціны б'ецца,
Нехта ў полымі бітвы згарае... —
Гэта ён, гэта ён — дзеяслоў
Патрасае свет да асноў!
Спапяляе словы кляцьбы,
Прарастае слова сяўбы.
Дык хіба ж дзеяслоў вінаваты ў тандэце*?!
Тут ні кроплі яго віны.
Рыфмаплётаў, што словы кідаюць на вецер, —
Іх судзіце. Паглумцы[сл] — яны.
Майстар слову дае аздобу
І каштоўнасць высокае пробы.

Помніць варта: Купалам і Пушкіным
На Парнас гэта рыфма дапушчана!
Дзеяслоў — дзея слова:
падзея, надзея, —
І душа маладзее, і голас цвярдзее.
Гэта кліч,
што паходняй у цемры ўспыхнуў.
Дзеяслоўная рыфма — выдатная рыфма!

*В. Зуёнак.*

Растлумачце лексічнае значэнне слоў: *абознікі, авангард, ісціна, паглумцы, тандэт, каюк.* Да якой групы лексікі паводле паходжання і ўжывання яны адносяцца?

Прачытайце радкі верша, дзе аўтар выкарыстоўвае гукапіс.

**383.** Раскажыце пра сінтаксічную ролю часцін мовы, карыстаючыся планам.

## Сінтаксічная роля часцін мовы

1. Якія часціны мовы з'яўляюцца членамі сказа, а якія не з'яўляюцца?
2. Якія часціны мовы могуць быць усімі членамі сказа?
3. Якую сінтаксічную ролю выконваюць службовыя часціны мовы?

**384.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Абгрунтуйце падзел тэксту на абзацы.

### ПАЎНОЧНАЕ ЗЗЯННЕ

Неяк увечары прыйшоў тата і сказаў:

— Хутчэй апранайцеся, і пойдзем глядзець паўночнае ззянне. Сёння яно вельмі яркае.

Мы выйшлі з дому. Усё неба палала агнямі. Мне здавалася, што мы трапілі ў чароўную казку. Неба было зусім нізка над намі і такое яркае, прыгожае. На ім звіваліся вялізныя агністыя змеі. Дзівосныя волаты-птахі луналі над зямлёй, узмахваючы сваімі пурпуровымі крыламі. І якіх

тут толькі не было агнёў! Зялёныя, аранжавыя, ружовыя, жоўтыя, блакітныя — ды ўсіх і не пералічыш. То ўсе яны збіраліся ў каляровы букет, то адзін з іх вырываўся і з канца ў канец перасякаў усё неба, то ўсе разам яны раскрывалі над намі свой шматкаляровы агністы парасон, то ўтваралі раптам гіганцкую заслону, якая злёгку[ф] калыхалася.

А навокал ляжалі белыя снегавыя прасторы, па якіх палахліва прабягалі фантастычныя цені. І так было ціха-ціха, нібы ўся зямля раптам заснула.

Мы, як зачараваныя, не маглі адарваць вачэй ад расквечанага жывымі фарбамі неба *(Я. Бяганская)*.

Выпішыце з тэксту прыслоўі і падбярыце да іх сінонімы. Якую сэнсава-стылістычную ролю выконваюць яны ў тэксце? Назавіце службовыя часціны мовы, ужытыя ў тэксце.

**385.** Прачытайце, вызначце тып, стыль і жанр тэксту.

### БАНАНАВЫ ГАЙ

Машына спынілася каля бананавага гаю. Мы ідзём па вузкай сцежцы. Сярод вялізных, нібы падраных лістоў вісяць над намі цяжкія гронкі жоўта-зялёных пладоў.

Адны называюць участак, дзе мы знаходзімся, гаем, другія — лесам, а трэція — плантацыяй. Апошняя назва здаецца найбольш правільнай, бо тут растуць не дзікія, а культурныя бананы, пасаджаныя і вырашчаныя чалавекам.

Апрача таго, банан зусім не дрэва, а... трава. Хоць банан з выгляду і падобны на дрэва, але ў сапраўднасці з'яўляецца, паводле ўсіх вызначэнняў батанікі, «шматгадовай травападобнай раслінай з тоўстымі караняплодамі».

Першапачатковая радзіма банана — Паўднёва-Заходняя Азія, а цяпер ён распаўсюджаны ва ўсіх трапічных краінах свету. На плантацыі, па якой ідзём мы, бананы растуць густымі радамі. На адзін гектар зямлі прыпадае каля дзвюх тысяч раслін. Вялізныя лісты банана, па тры-чатыры метры даўжынёй, унізе так пераплецены між сабой, што нагадваюць ствол вышынёй да дзесяці метраў.

Мучністы банан займае нароўні з рысам вельмі значнае месца ў харчаванні насельніцтва Заходняй Афрыкі. Яго ядуць і вараным, і смажаным, як у нас бульбу. Фруктовы банан, больш салодкі і араматны, ідзе галоўным чынам на экспарт* *(В. Вольскі)*.

Назавіце агульнаўжывальныя словы, тэрміналагічную лексіку, запазычаныя словы.

Назавіце лічэбнікі, ужытыя ў тэксце, дайце ім характарыстыку. Як выражаецца прыблізная колькасць?

Выпішыце злучнікі, дайце ім характарыстыку.

Запішыце адзін з абзацаў і падкрэсліце ўсе словы як члены сказа.

**386.** Прачытайце. Да якога тыпу і стылю можна аднесці гэты тэкст? Вызначце яго жанр.

Выпішыце словы, у якіх: а) вымаўленне не адпавядае напісанню; б) не супадае колькасць гукаў і літар.

КУРГАН КАЛЯ ЗАСЛАЎЯ

Каля Заслаўя цячэ невялічкая рэчка, якая да гэтага часу завецца Княгінькаю. Народ кажа, што над рэчкаю быў замак, у якім жыла нейкая княгіня.[сн] Яна любіла гуляць па беразе ў глыбокую поўнач. Мела княгіня дзвюх дачок. Старэйшая — прыгажуня, а малодшая — брыдкая. Раз праязджаў праз Заслаўе мінскі князь і, пазнаёміўшыся з князёўнамі, пакахаў малодшую і прасіў яе рукі. Незадаволеная была старэйшая князёўна-прыгажуня такім выбарам князя, бо ёй адразу спадабаўся князь, і пачала рабіць усё, каб разладзіць шлюб сястры. Але не здолела нічога перайначыць і папрасіла помачы ў чараўніцы, якая жыла над ракою. Атрымаўшы ад чараўніцы нейкае зелле, паспяшыла дадому. Ажно, ідучы праз лес, спалохалася прывіду і з перапуду кінулася ў раку.

Сястра пахавала яе каля замка і насыпала курган. Як і рака, з тых часоў ён носіць назву Курган Княгіні.

Раскажыце, якія помнікі гісторыі ёсць у вашай мясцовасці. Ці чулі вы якія-небудзь паданні, звязаныя з імі?

**387.** Прачытайце. Вызначце тэму і асноўную думку, тып і стыль тэксту.

Растлумачце правапіс уласных назваў. Якую сінтаксічную ролю выконваюць злучнікі ў тэксце? Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў адным з абзацаў тэксту (на выбар).

СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ

Сёння яны ўпрыгожваюць самыя вядомыя музеі Лондана і Парыжа, Варшавы і Кіева, Масквы і Нью-Ёрка. Вельмі багаты і каштоўны збор гэтых дзівосных вырабаў захоўваўся таксама ў Мінску, але ў гады Другой сусветнай вайны рабаўнікі вывезлі яго за межы Беларусі. Таму ў нашай краіне засталіся толькі чатыры поўныя слуцкія паясы: два знаходзяцца ў Музеі старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, па адным — у Дзяржаўным музеі гісторыі і культуры і Мінскім абласным краязнаўчым музеі. Глядзіш на іх, і міжволі згадваецца ранішні расяны луг, што пад першымі сонечнымі промнямі ажно зіхаціць, пераліваецца ўсімі колерамі вясёлкі. А на памяць адразу прыходзяць радкі з цудоўнага верша Максіма Багдановіча «Слуцкія ткачыхі»:

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя ўзяты
Ткаць залатыя паясы.

З сівой даўніны і на працягу доўгіх стагоддзяў ткацкі станок надзейна служыў людзям. З пакалення ў пакаленне перадаваліся таямніцы ткацкага майстэрства, і ўрэшце нялёгкая праца ператварылася ў высокае мастацтва. Сведчанне таму — створаныя пад сялянскімі стрэхамі і ўпрыгожаныя спрадвечнымі ўзорамі-замовамі, абрусы, дываны, ручнікі і, вядома ж, паясы, якія нашы продкі лічылі ці не галоўнаю аздобаю ў вопратцы. Сяляне, праўда, насілі ваўняныя ці льняныя апаяскі, а магнаты і заможная шляхта падпярэзваліся паясамі з залатою ці срэбнаю асноваю, прывезенымі з далёкіх усходніх краін.

Каб задаволіць патрэбы пакупнікоў, князі Радзівілы заснавалі ў 1736 годзе ў Слуцку мануфактуру, якая дасягнула росквіту толькі праз дваццаць гадоў.

На самай справе ткалі славутыя слуцкія паясы не дзявочыя, як напісаў паэт, а дужыя мужчынскія рукі. Бо гэты занятак, акрамя цярплівасці, вымагаў і нямала сілы. Дарэчы, спрактыкаваны майстар за год мог выканаць каля дзесяці паясоў. У шырыню яны мелі да сарака сантыметраў, а ў даўжыню — ажно за два метры. Асабліва каштоўным было тое, што на вырабах амаль не сустракалася падобных узораў.

У сярэдзіне XIX стагоддзя Слуцкая персіярня перастала існаваць, пакінуўшы нам, нашчадкам, казачныя паясы-вясёлкі *(Паводле У. Ягоўдзіка)*.

Падрыхтуйцеся да вуснага пераказу тэксту. Дапоўніце выказванне новымі звесткамі.

**388.** Прачытайце. Вызначце адрасата і асноўную думку верша. Якія часціны мовы ўжыты ў тэксце? Вызначце іх сэнсава-стылістычную ролю.

СЫНАМ

Пераймiце
Працавітасць дзедаву,
Сілу прадзеда,
Умельства прадзеда,
Мудрасць і паэзію бабулі
І яе святую дабрыню.
Бацькаву ашчаднасць
І пяшчоту…
Але дзе, калі,
на чым, скажыце, —
На вячэрніх зорах
ці… на жыце
Згаварыць прабабчыну замову:
Родныя, аддана беражыце
Край — жыцця і вернасці аснову;
Зберажыце вечнасці крыніцу —
Нашу,
беларускую,
мову.

*Н. Загорская.*

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

**Абелі́ск,** -а, *м.* Помнік у гонар якой-н. падзеі або на ўшанаванне чыёй-н. памяці ў выглядзе высокага слупа, звужанага ўверсе.

**Алеба́рда,** -ы, *ж.* Старажытная зброя — сякера на доўгім дрэўку, якое заканчваецца кап’ём.

**Але́я,** -і, *ж.* Дарога, абсаджаная з абодвух бакоў дрэвамі або кустамі, дарожка ў садзе ці парку; прысады.

**Амальга́ма,** -ы, *ж.* Сплаў некаторых металаў (золата, срэбра і інш.), а таксама раствор металу ў ртуці.

**Апаге́й,** -я, *м.* 1. Пункт арбіты Месяца ці штучнага спадарожніка Зямлі, найбольш аддалены ад цэнтра Зямлі. 2. *Перан.* Вышэйшая ступень, найвышэйшы росквіт чаго-н.

**Апла́тка,** -і, *ж.* Аладачка з прэснага цеста, якая выкарыстоўваецца католікамі і пратэстантамі пры прычасці (ад лац. *oblata* — прынашэнне).

**Арыгіна́льны,** -ая, -ае. 1. Які з’яўляецца прадметам узнаўлення, капіравання, спісвання. 2. Які з’яўляецца непадобным да іншых (пра чалавека).

**Аскірза́цца**. Тое, што і **агрызацца**.

**Астэро́іды,** -аў. Малыя планеты, якія абарачаюцца вакол Сонца, галоўным чынам паміж арбітамі Марса і Юпітэра.

**Бажні́ца,** -ы, *ж.* 1. Паліца з абразамі. 2. Памяшканне для рэлігійных сходаў і малення.

**Бала́нс,** -у, *м.* Раўнавага, ураўнаважанне.

**Бо́ндар,** -а, *м.* Майстар па вырабе драўлянай пасуды (бочак, дзежак, цэбраў і пад.).

**Бо́рзда**. Хутка, жвава.

**Бо́ртнік,** -а, *м.* Чалавек, які збірае мёд лясных пчол.

**Бра́мка,** -і, *ж.* Прахадныя варотцы (звычайна пры браме або вялікіх варотах); фортка, веснічкі.

**Брук,** -у, *м.* Укладзеная каменем праезная частка вуліцы, дарогі, плошчы.

**Бры́фінг,** -а, *м.* Інфармацыйная гутарка для журналістаў.

**Бры́чка,** -і, *ж.* Лёгкі выязны вазок.

**Вар’і́раваць,** -рую, -руе, -руюць. Відазмяняць, даваць новыя варыянты, перайначваць.

**Варшта́т,** -а, *м*. Спецыяльна абсталяваны стол для ручной сталярнай, слясарнай і іншай работы.

**Вая́рскі.** *Уст.* Воінскі.

**Вегетарыя́нец.** Той, хто спажывае толькі раслінную і малочную ежу.

**Ве́рсія,** -і, *ж.* Адзін з варыянтаў тлумачэння якіх-н. падзей, фактаў.

**Ві́льчык,** -а, *м.* Верхні стык даху, страхі; канёк.

**Вітра́ж,** -а, *м.* Узор у вокнах, дзвярах са шкла рознага колеру.

**Во́кладка,** -і, *ж.* Покрыўка кнігі, сшытка і пад.

**Во́льсы,** *мн. л. (абл.).* Зарослыя травой, хмызняком нізіны; забалочаныя месцы.

**Вы́рай,** -ю, *м.* Тут: нашы продкі верылі ў рай, што называўся Выраем.

**Высмы́кваць,** -аю, -ае, -аюць. Вырываць, выцягваць.

**Вы́чварны,** -ая, -ае. Мудрагелісты, напышлівы.

**Гермеры́чна.** Наглуха закрыта, не прапускае вадкасці і газу.

**Гірля́нда,** -ы, *ж.* 1. Кветкі і зеляніна, сплеценыя ў выглядзе шырокай істужкі. 2. Доўгі рад, ланцуг чаго-н.

**Гра́фіка,** -і, *ж.* Від выяўленчага мастацтва, заснаваны на стварэнні малюнка лініямі, штрыхамі.

**Графо́лаг,** -а, *м.* Чалавек, які займаецца графалогіяй — вывучэннем почырку з мэтай выяўлення ў ім характару чалавека.

**Губерна́тар,** -а, *м.* 1. Начальнік губерні ў дарэвалюцыйнай Расіі. 2. Вышэйшая службовая асоба штата, дэпартамента ў сучасных дзяржавах.

**Гуж,** -а, м. Скураная ці вераўчаная пятля, пры дапамозе якой хамут злучаюць з дугой і аглоблямі.

**Дакляро́ўваць,** -аю, -аеш, -аюць. 1. Даць абяцанне зрабіць што-н., аднесціся пэўным чынам да каго-н., чаго-н. 2. Падаваць якія-н. надзеі, абнадзейваць.

**Дасве́цце,** -я, *н. (разм.).* Тое, што і **досвітак.**

**Даўбёнка,** -і, *ж.* Пасудзіна, лодка і пад., зробленая з суцэльнага куска драўніны.

**Дзёрзка.** Непачціва, груба, нахабна.

**Дзірва́н,** -у, *м.* 1. Верхні слой глебы, густа пераплецены карэннем травы. 2. Нявораная зямля, густа парослая травой.

**Дзядзі́нец,** -нца, *м.* 1. Агароджаны пляц, двор пры якой-н. пабудове. 2. Цэнтральная ўмацаваная частка горада.

**До́гма,** -ы, *ж.* 1. Палажэнне, якое прымаецца за бясспрэчную ісціну, нязменную для ўсіх часоў і гістарычных умоў. 2. Асноўныя палажэнні якога-н. вучэння.

**Дыяме́нт,** -а, *м.* Алмаз, брыльянт.

**Жамяры́ца,** -ы, *ж.* Агульная назва насякомых (жукі, мухі, мятлікі, павукі і інш.). Падрабязней прачытайце ў «Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку» В. Ластоўскага (с. 358).

**Жыві́ца,** -ы, *ж.* Празрыстая смала, што выцякае са сталоў дрэў у месцах іх пашкоджання.

**За́мчышча,** -а, *н.* Месца, дзе стаяў замак.

**Зніч,** -а, *м.* Паганскі бог пахавальнага агню. Ён прымаў нябожчыкава цела, а таксама неабходныя рэчы і ператвараў у попел.

**Зо́лак,** -лку, *м.* Пачатак світання.

**Імпанава́ць,** -нуе, -нуеш, -нуюць. Адпавядаць чым-н. патрабаванням, густам, настроям; выклікаць павагу, давер’е; падабацца.

**Імша́нік,** -а, *м.* Уцепленае памяшканне для зімоўкі пчол.

**Інтэле́кт,** -у, *м.* Розум, здольнасць чалавека мысліць, разважаць.

**Камізэ́лька,** -і, *ж.* Кароткая адзежына без рукавоў і каўняра.

**Канто́н**, -а, *м.* Федэральная адзінка ў Швейцарыі.

**Капо́т,** -а, *м.* 1. *Уст.* Жаночае хатняе плацце шырокага пакрою з рукавамі і разрэзам спераду. 2. Доўгі кафтан. 3. Адкідная металічная накрыўка ў машынах, якая ахоўвае іх ад пылу, вільгаці.

**Ка́рак,** -рка, *м. (разм.).* Задняя частка шыі ў жывёлы і чалавека.

**Катастро́фа,** -ы, *ж.* 1. Раптоўнае вялікае бедства, падзея з трагічнымі вынікамі. 2. Значная змена, якая выклікае за сабой рэзкі пералом у грамадскім або асабістым жыцці.

**Кудзе́ля,** -і, *ж.* Валакно лёну, канапель, апрацаванае для прыгатавання пражы.

**Куцця́,** -і, *ж.* 1. Урачыстая вячэра напярэдадні Каляд. 2. Каша з ячных або іншых круп як традыцыйная абрадавая яда.

**Літо́ўская вёска.** Літвою У. Сыракомля, як і наогул яго сучаснікі ў XIX стагоддзі, называў Беларусь.

**Ло́каць,** -кця, *м.* Старадаўняя мера даўжыні, роўная прыблізна 0,5 м.

**Лука́**, -і, *ж.* Дугападобны паварот ракі, а таксама мыс, які абгінаецца ракой.

**Ля́да,** -ы, *ж.* 1. Дзялянка высечанага лесу, хмызняку; высечка. 2. Расчышчанае месца ў лесе пад пасеў або сенажаць.

**Ляме́ш** (лемяшы, лемяхі), -а, *м.* Частка плуга, якая падразае пласт зямлі знізу і адвальвае яго.

**Мальбе́рт,** -а, *м.* Падстаўка, на якую кладзецца падрамнік з палатном або папера для працы мастака над карцінай.

**Манеке́н,** -а, *м.* Чалавечая фігура, лялька з дрэва або іншага матэрыялу, якая служыць для паказу адзення.

**Мігры́раваць,** -рую, -руеш, -руюць. Пераязджаць, перасяляцца.

**На́мітка,** -і, *ж.* 1. Даўні галаўны ўбор замужніх жанчын. 2. Доўгі вузкі кусок кужэльнага палатна з каймой або вышыўкай.

**Нара́да,** -ы, *ж.* Сумеснае абмеркаванне якога-небудзь пытання.

**Наро́г,** -а, *м.* Частка плуга, якая падразае пласт зямлі знізу і перадае яго на адвал.

**Насе́вак,** -сеўку, *м. (разм.).* Тое, што прызначана для сяўбы.

**Негаблява́ны,** -ая, -ае. Не апрацаваны гэблем, рубанкам; нягладкі, нястру́ганы.

**Несамаві́тасць,** -і, ж. Непрывабнасць з выгляду.

**Нюа́нс,** -у, *м.* Адценне, нязначны пераход (колеру, гукаў).

**Павало́ка,** -і, *ж.* 1. Лёгкая дымка, якая зацягвае, пакрывае што-н. 2. Плёнка на вачах, памутненне.

**Паку́лле,** -я, *н.* 1. Кароткае грубае валакно, непрыгоднае для пражы, якое адходзіць пры апрацоўцы льну або канапель. 2. Пучок пянькі або кудзелі для ўшчыльвання або заканапачвання чаго-н.

**Пал,** -у, *м. (разм.).* Тое, што і **запал.**

**Палео́граф,** -а, *м.* Спецыяліст па палеаграфіі; даследчык старажытных рукапісаў.

**Палі́ца,** -ы, *ж.* Дошка або некалькі дошак, прымацаваных да сцяны або ўнутры шафы для размяшчэння кніг, посуду і інш.

**Папа́р,** -у, *м.* Поле, пакінутае на адно лета незасеяным з мэтай паляпшэння глебы пад сяўбу азімых.

**Па́сак,** -ска, *м.* 1. Вузкі доўгі кавалак чаго-н. (тканіны і г. д.). 2. Вузкая рыска, лінія чаго-н.

**По́куць,** -і, *ж.* Вугал, кут у хаце, дзе віселі абразы і стаяў стол, за які садзілі паважаных людзей.

**Прадве́сне,** -я, *н.* Час, які папярэднічае вясне.

**Прасця́г,** -у, *м.* Свабодны вялікі прастор, шыр.

**Пры́печак,** -чка, *м.* 1. Месца, пляцоўка перад чалеснікамі печы. 2. Выступ печы або дашчаны насціл каля печы, на якім можна сядзець або ставіць што-н.; прымурак. 3. *Абл.* Выемка для вугалля, попелу ў печы.

**Прэсты́ж,** -у, *м. (кніжн.).* Аўтарытэт, перавага, якімі карыстаецца хто-н., што-н.

**Псо́та,** -ы, *ж. (абл.).* Шкода, свавольства.

**Пыхлі́васць,** -і, ж. Фанабэрыстасць, празмерная ганарлівасць.

**Разло́га,** -і, *ж.* Абшар, адкрытая прастора.

**Раз'я́траны,** -ая, -ае. Той, які раз'ятрыўся; раз'юшаны.

**Рэда́ктар,** -а, *м.* Чалавек, які рэдагуе тэкст.

**Рэлі́квія,** -і, *ж.* 1. Прадмет рэлігійнага пакланення. 2. Прадмет, які беражліва захоўваецца як памяць аб мінулым.

**Рэма́рка,** -і, *ж.* 1. Заўвага, памета на палях (рукапісу, кнігі). 2. Тлумачэнне аўтара да тэксту п'есы (звычайна ў дужках), у якім даецца дадатковая характарыстыка абставін дзеяння, знешняга выгляду або паводзін персанажа.

**Са́жань,** -жня, *м.* Старая руская і беларуская мера даўжыні, роўная 3 аршынам (2,13 м).

**Саркасты́чна.** З'едліва, злосна, з насмешкай.

**Саркафа́г,** -а, *м.* У старажытных народаў: грабніца ў выглядзе труны (звычайна з каменю).

**Сафа́ры,** *нязм., н.* 1. Спецыяльны запаведнік у Афрыцы, у якім дазволена паляванне на дзікіх жывёл. 2. Паляванне ў такім запаведніку; час палявання. 3. Адзенне (куртка, жакет і інш.) у стылі традыцыйнага трапічнага касцюма — накладныя карманы, пагоны, строчка. 4. Пра спаборніцтвы, гонкі ў Афрыцы з мэтай выпрабавання хадавых і лётных якасцей машын.

**Се́лішча,** -а, *м.* Зямельны ўчастак, заняты будынкамі, садамі.

**Семіна́рыя,** -і, *ж.* Назва некаторых спецыяльных сярэдніх навучальных устаноў.

**Серп,** -а, *м.* Сельскагаспадарчая ручная прылада ў выглядзе вельмі выгнутага дробна назубленага нажа для зрэзвання злакаў з кораня.

**Спіча́к,** -а, *м.* 1. Верхняя завостраная частка чаго-н. 2. Вузкая высокая надбудова пірамідальнай або канічнай формы на будынку; шпіль.

**Спо́нсар,** -а, *м.* Асоба або арганізацыя, якая фінансуе што-н.

**Сці́рта**, -ы, ж. Куча прадметаў, пакладзеных адзін на адзін.

**Талака́,** -і, *ж. (разм.).* 1. Калектыўная дапамога. 2. *Перан.* Група людзей.

**Талісма́н,** -а, *м.* Паводле забабонных уяўленняў — прадмет, які прыносіць яго ўладальніку шчасце, удачу.

**Тандэ́т,** -у, *м. (разм.).* Танная, недабраякасна зробленая рэч.

**Тракт,** -у, *м.* Шырокая праезная дарога.

**Трысцё,** -я, *н. зб.* Тое, што і **трыснёг**. Вадзяная ці балотная шматгадовая расліна сямейства злакаў з каленчатым цвёрдым сцяблом і раскідзістай мяцёлкай.

**Уві́шна**. Жвава, спрытна.

**Фальва́рак,** -рка, *м.* Невялікая панская сядзіба, хутар.

**Філасо́фія,** -і, *ж.* Навука аб найбольш агульных законах развіцця прыроды, грамадства і мыслення.

**Фо́рзац,** -а, *м.* Двайны ліст, які злучае вокладку з самой кнігай.

**Чэ́рава,** -а, *н. (разм.).* Жывот.

**Шрот,** -у, *м.* Дробныя свінцовыя шарыкі, якія разам з порахам служаць зарадам для паляўнічых стрэльбаў.

**Шу́рка,** -і, *ж. (уст.).* Мера дроў, роўная 2 $м^3$.

**Шэдэ́ўр,** -а, *м.* Узорны, выдатны твор мастацтва; майстэрства.

**Экспана́т,** -а, *м.* Прадмет, які выстаўляецца ў музеі або на выстаўцы для агляду.

**Э́кспарт,** -у, *м.* 1. Вываз тавараў за мяжу. 2. Вывезены тавар.

**Элева́тар,** -а, *м.* Збудаванне для захоўвання збожжа.

**Элі́тны,** -ая, -ае. Які з'яўляецца элітай; лепшы, адборны (лепшыя прадстаўнікі грамадства).

**Эпі́граф,** -а, *м.* Выслоўе, кароткая цытата, якая змяшчаецца ў пачатку твора ці асобнага раздзела і з'яўляецца аўтарскім тлумачэннем асноўнай ідэі твора.

**Этало́н,** -а, *м.* Узор, стандарт для параўнання чаго-н.

**Яла́нь,** -і, *ж.* Паляна сярод лесу.

**Яр,** -а, *м.* Роў, лагчына.

# АКЦЭНТАЛАГІЧНЫ ДАВЕДНІК

### А

аба́пал
аб’і́нелы
аб’і́нець
абкапа́ны
аблама́ны
аблягчы́ць
абу́тнік
абшарпа́ны
аге́нт
агрэ́ст
адасла́ны
адваява́ны
адзіна́ццаць
адкапа́ны
аднаразо́вы
аднасаста́ўны
ае́р
азбе́ст
аку́нь
алфаві́т
ампе́р
ана́лаг
апо́страф
аржаны́
а́ркуш
а́тлас (зборнік карт)
атла́с (тканіна)
атэстава́ны
аштрафава́ны

### Б

бальні́ца
белару́с, *мн. л.* белару́сы
ба́рмен
ба́цька, *мн. л.* ба́цькі
бацькі́ (бацька і маці)
бляша́ны
браву́рна
бру́дзіць
бры́дкі
буйны́ (вялікіх памераў)
бу́йны (вельмі ўзбуджаны)
бульбяны́

### В

вага́
вадзяны́
валавы́ (даход)
васьмісо́ты
велікасве́цкі
веснавы́
вітамінізава́ць
во́семдзесят
ву́сы
вы́падак
вярба́, *мн. л.* ве́рбы

### Г

галіна́ (дзейнасць), *мн. л.* галіны́
галі́на (дрэва), *мн. л.* галі́ны
гліня́ны
грош, гро́ша, *мн. л.* гро́шы
грамадзя́нін
гру́бы (нетактоўны, нявыхаваны)
грубы́ (тоўсты, масіўны)
гу́капіс
гу́рба

### Д

дабрая́касны
дагаво́р
дакуме́нт
дале́й
да́рма і дарма́ (бясплатна)
дарма́ і да́рма (марна)
дасле́даванне
даччы́н, даччына́, даччыно́
двуко́ссе
двукро́п’е
двухаста́ўны
дзе́яч, *мн. л.* дзе́ячы
дыспансе́р
дэфі́с
дэцыме́тр

### Е

е́лка
ерэты́к
ерэты́чны
Еўра́зія
ёлка (навагодняя)
ёмісты

### Ж

жа́ласлівы
жа́льба
жалюзі́
жардзі́на
жаўна́
жаўцізна́
жніво́
жураве́ль
жыха́р
жыха́рства
жыццяпі́с

### З

загаво́р (замова)
за́гадзя
заі́нец
за́кід
запамята́ць (запомніць)
заро́бак
за́сцежка
засцяро́га
за́ячы і зае́чы
за́ячына і зае́чына
збажына́
звы́чай
здаўна́
знаха́р

### І

і́канапіс
ільняны́
іме́нны
імя́
імянны́ (спіс)
іна́чай
інду́стрыя
і́снасць
гістэры́я

### К

каліграфі́я
камба́йнер
каме́нны
касцяны́
катало́г
каўчу́к
ка́шляць
каштары́с
кварта́л
кіламе́тр
кля́штар
ко́клюш
ко́сы (з нахілам)
крапіва́
крупяны́
крыху́
кулі́нарыя і кулінары́я
ку́хар
кухо́нны

## Л

лакірава́ны
ле́тапіс
ле́тнік
летуце́нны
ліставы́
лі́сцевы
ліфт, *мн. л.* лі́фты
лі́чбавы
ло́пух

## М

ма́быць
магазі́н
Мазы́р
ма́клер
маладо́сць
мале́нькі
малы́
маля́р
ма́рмур
медзяны́
ме́зенец
металу́ргія
ме́шалка
мі́ласцівы
мовазна́ўства
му́зыка (мелодыя, рытм)
музы́ка (музыкант)
му́ляр
мурава́ны
мы́сленне

## Н

навіна́
надзвы́чай
нажні́цы
назва́ны
на́зіркам
на́нава
насці́л
наспе́х
небуйны́ (невялікі)
недагле́дзець (дзіцяці)
некта́р
непісьме́ннасць
неразві́ты (сказ)
неразвіты́ (чалавек)
неразга́данасць
ні́бы
ніку́ды
но́здра
няна́вісць
Нясві́ж

## П

паве́даміць
пажылы́
пайме́нна
па-прыя́цельску
пара́ліч
паро́ўну
парта́л
партфе́ль
партэ́р
па́сквіль
паслане́ц
пасяджэ́нне
пахму́рна
пе́равязь
пе́рапіс
пе́ршынец
першынство́
пі́сьменнасць (сукупнасць пісьмовых помнікаў)
пісьме́ннасць (уменне чытаць і пісаць)
пла́ціна (метал)
плаці́на (на рацэ)
по́дпіс
по́крыва
пра́вапіс
праме́нь
пры́від (здань)

прыня́та
прыня́ць
прыя́знасць
прэзе́нт
прэміірава́ць
пуло́вер
пу́рпур
пяцьдзяся́т

**Р**

разбуры́ць
разві́ты (сказ)
развіты́ (чалавек)
разнаста́йны
разная́касны
раку́шка
ра́курс
раме́ньчык
рассячы́
расхіну́ты
расчыні́ць (акно)
расшчапі́ць (палена)
рашчыні́ць (цеста)
ро̀знабако́вы
ро̀знагало́сы
ро́спіс
ро́стань
рубе́ль
ру́капіс
рэкру́цкі
рэ́мень

**С**

садаві́на
сакаві́к
сантыме́тр
састаўны́
се́мдзесят
серві́з
се́рвіс (абслугоўванне)
сівізна́
сівы́
сінанімі́я
Скары́на
ско́рапіс
слабы́
смаляны́
спі́на
сталя́р
стары́
ста́тут
ста́туя
су́павы

**Т**

табу́
тавары́скі
тава́рыш, *мн. л.* тава́рышы
тастаме́нт
тваро́г, тварагу́
та́лент
то́ўсты
тра́ктар, *мн. л.* трактары́
тэ́фтэлі і тэфтэ́лі

**У**

уваскрэ́сенне
уваччу́
уве́сну
уда́лы
удаўжкі́
украі́нец
уначы́ і ўно́чы
ушыркі́

**Ф**

фармулява́ць
фарсі́раваць
фарту́х
фарфо́р
фено́мен
фінішава́ць
фо́льга
фо́рзац

фо́ртэль
фунда́мент
фу́рман
фурма́нка

### Х

ха́бар
хао́с (беспарадак)
хлусі́ць
хрысція́нін
хто-не́будзь
хутарскі́

### Ц

цагля́ны
цвілы́
ценявы́
цеплыня́
ці́хенечка
цыга́н
цы́трусавы
цэме́нт
цэ́хавы
цяжа́р

### Ч

чаго-не́будзь
чарнабро́вы
чарні́ліца
часо́піс
чатырна́ццаць
чацвёрты
чу́тна і чутно́

### Ш

шафёр
шкада́ (ад шкадава́ць)
шко́да (нашко́дзіць)
шасна́ццаць
шту́рхацца
шчаслі́вы
шэсцьдзяся́т

### Э

экспе́рт
эмалірава́ны

### Я

я́лавічына
ялі́на
ярына́

# ЗМЕСТ

## ВАЛОДАННЕ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВАЙ — АСНОЎНЫ ПАКАЗЧЫК КУЛЬТУРЫ ЧАЛАВЕКА

§ 1. Нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Маўленчы этыкет .......... 3

## ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА Ў V—VI КЛАСАХ

§ 2. Тэкст, стылі і тыпы маўлення .......... 8
§ 3. Назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў як часціны мовы, іх граматычныя прыметы .......... 14
§ 4. Будова слова. Словаўтварэнне вывучаных часцін мовы 21

# МАРФАЛОГІЯ І АРФАГРАФІЯ

## ДЗЕЕПРЫМЕТНІК

§ 5. Дзеепрыметнік як асобая форма дзеяслова .......... 24
§ 6. Скланенне дзеепрыметнікаў .......... 29
§ 7. Дзеепрыметнікавы зварот, знакі прыпынку .......... 32
§ 8. Дзеепрыметнікі незалежнага і залежнага стану, іх утварэнне і ўжыванне .......... 38
§ 9. Правапіс суфіксаў дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу ***-н-, -ен-, -ан-, -т-*** .......... 42
§ 10. Поўная і кароткая формы дзеепрыметніка .......... 47
§ 11. Асаблівасці ўжывання дзеепрыметнікаў цяперашняга часу 51
§ 12. Правапіс ***не (ня)*** з дзеепрыметнікамі .......... 55
§ 13. Мастацкае апісанне знешнасці чалавека .......... 58
*Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага* .......... 61

## ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ

§ 14. Дзеепрыслоўе як асобая форма дзеяслова .......... 67
§ 15. Правапіс ***не*** з дзеепрыслоўямі .......... 71
§ 16. Дзеепрыслоўны зварот, знакі прыпынку .......... 73

§ 17. Дзеепрыслоўі незакончанага трывання, іх утварэнне і правапіс ........ 79
§ 18. Дзеепрыслоўі закончанага трывання, іх утварэнне і правапіс 82
§ 19. Выбарачны пераказ тэксту ........ 86
*Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага* ........ 88

## ПРЫСЛОЎЕ

§ 20. Прыслоўе як часціна мовы ........ 92
§ 21. Разрады прыслоўяў па значэнні ........ 99
§ 22. Ступені параўнання прыслоўяў ........ 109
§ 23. Утварэнне прыслоўяў ........ 118
§ 24. Суфіксальны спосаб утварэння прыслоўяў ........ 123
§ 25. Прыставачны спосаб утварэння прыслоўяў ........ 126
§ 26. Правапіс ***не (ня), ні*** з прыслоўямі ........ 128
§ 27. Прыставачна-суфіксальны спосаб утварэння прыслоўяў 131
§ 28. Правапіс прыслоўяў праз дэфіс ........ 135
§ 29. Правапіс прыслоўяў разам ........ 137
§ 30. Правапіс спалучэнняў слоў, блізкіх да прыслоўяў ........ 141
§ 31. Сачыненне-апісанне вёскі (горада) ........ 144
*Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага* ........ 148

# СЛУЖБОВЫЯ ЧАСЦІНЫ МОВЫ

§ 32. Граматычныя асаблівасці службовых часцін мовы ........ 153

## ПРЫНАЗОЎНІК

§ 33. Прыназоўнік як службовая часціна мовы ........ 157
§ 34. Разрады прыназоўнікаў па значэнні ........ 161
§ 35. Невытворныя і вытворныя прыназоўнікі ........ 164
§ 36. Прыназоўнікі простыя, складаныя і састаўныя, іх правапіс 167
§ 37. Разважанне як тып тэксту ........ 176

## ЗЛУЧНІК

§ 38. Злучнік як часціна мовы ........ 181
§ 39. Злучнікі простыя і састаўныя; адзіночныя, паўторныя і парныя ........ 185
§ 40. Злучальныя і падпарадкавальныя злучнікі ........ 191
§ 41. Злучальныя злучнікі ........ 194
§ 42. Падпарадкавальныя злучнікі ........ 200
*Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага* ........ 207

## ЧАСЦІЦА

§ 43. Часціца як службовая часціна мовы ........................... 212
§ 44. Асноўныя значэнні часціц (знаёмства) ........................ 216
§ 45. Правапіс часціц ................................................... 220
§ 46. Часціцы ***не*** і ***ні***, іх адрозненне ................................ 224
§ 47. Правапіс ***не (ня), ні*** з рознымі часцінамі мовы (паўтарэнне) ................................................................... 229
§ 48. Падрабязны, сціслы і выбарачны пераказ аднаго і таго ж тэксту ................................................................... 234
*Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага* ........... 236

## ВЫКЛІЧНІК

§ 49. Выклічнік як часціна мовы. Выклічнік і маўленчы этыкет ................................................................... 238
§ 50. Знакі прыпынку пры выклічніках. Дэфіс у выклічніках 242
§ 51. Пераход слоў з адной часціны мовы ў іншую .............. 243

## ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА ЗА ГОД

Беларуская мова і раздзелы навукі пра яе .................. 246
Марфалогія ........................................................... 249

Тлумачальны слоўнік .............................................. 257
Акцэнталагічны даведнік ......................................... 263

Вучэбнае выданне

**Валочка** Ганна Міхайлаўна
**Язерская** Святлана Анатольеўна

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

Вучэбны дапаможнік для 7 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

2-е выданне, перапрацаванае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Мастак *Ю. Д. Бяспалава*
Мастацкі рэдактар *Н. У. Кузьмянкова*
Вокладка мастака *М. Я. Шкурпіт*
Камп'ютарная вёрстка *А. М. Кісялёва*
Карэктары *Д. Р. Лосік, К. В. Шобік, Л. Г. Ганчарэнка*

Падпісана ў друк 25.11.2015. Фармат 60×90 1/16. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 17,0. Ул.-выд. арк. 12,5.
Тыраж 118 000 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/263 ад 02.04.2014.
Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |